

# БЕЛАРУСКІ РЭЗЫСТАНС

## ЧАСОПІС НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ

**№ 1(12)/2012**

Заснаваны ў 2004 г.
у Менску.

**Галоўны рэдактар:**
Сяргей Ёрш.
**Намесьнік галоўнага рэдактара:**
Андрэй Барткевіч.



ЗЬМЕСТ:

# МАЎЧАНЬНЕ ГРЫБОЎСКАГА

*Grzybowski Jerzy. Pogoń między Orlem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956. — Warszawa, 2011, 908 s.*




У 2011 годзе зьявілася другая значная праца гісторыка з Варшавы, ураджэнца Валожыншчыны Юрыя Грыбоўскага (Ежы Гжыбоўскага).* Ад папярэдняй яе адрозьнівае ўдвая большы аб'ём ды прэтэнзіі на напісаньне гісторыі "беларускага незалежніцкага руху" ад 1939-га да 1956 году. Ня думайце, што гэта гісторыя беларускага нацыянальнага Супраціву ў акрэсьлены перыяд. Зусім не. Аўтар апісвае пераважна дзейнасьць легальнага нацыянальнага руху на Бацькаўшчыне і на эміграцыі ды яго мары/пляны/спробы здабыцьця незалежнасьці беларускай дзяржавы. У лік удзельнікаў "незалежніцкага руху" патрапілі і дзеячы, якія вялі перамовы з польскім падзем'ем, і байцы 13-га батальёну пры СД. Усё зьмяшалася ў адзін клубок… Але аб усім па парадку.

Ю. Грыбоўскі арыгінальна апісаў гісторыю Беларускай Народнай Рэспублікі нават не згадаўшы пра Слуцкі Збройны Чын 1920 году. Спахапіўся пазьней, пішучы пра Язэпа Лагіновіча (б. 67). Пра "Зялёны Дуб" ён прыгадаў толькі тады, калі трэба было ўспомніць пра "палянафіла" В. Адамовіча-"Дзергача" (б. 68-69). Ю. Грыбоўскі піша, што справы канспірацыйных беларускіх антысавецкіх арганізацый былі выдуманыя ГПУ-НКВД. Атрымліваецца, што акрамя "лістападаўцаў" і не было ніякага супраціўленьня ў БССР у другой палове 1920-х — 1930-х гадах. Вельмі спрэчнае сьцьверджаньне. Мог бы зазірнуць у працы Ніны Стужынскай, Міхаіла Гудава, Івана Раманоўскага ды іншых. Ні слова не было сказана пра антыпольскі партызанскі рух у Заходняй Беларусі ў пачатку 1920-х. Але гэта права аўтара.

Ю. Грыбоўскі пачынае рабіць недарэчныя памылкі яшчэ распавядаючы пра беларускі рух 1930-х у Заходняй Беларусі. Проста фантастычным выглядае сьверджаньне, што ў групу Гадлеўскага яшчэ ў 1936-м увайшоў… Адольф Клімовіч (б. 61)! Цікава, адкуль аўтар узяў такі сенсацыйны факт? Возьмем кнігу Міхася Казлоўска-

---

*Першая — Grzybowski J. Białorusini w polskich regularnych formacjach wojskowych w latach 1918-1945. — Warszawa, 2006.

га, прысьвечаную А. Клімовічу.* Там чытаем: *"Адольф Клімовіч быў адным з тых, хто заўсёды і ва ўсім падтрымліваў ксяндза Адама* [Станкевіча], *лічачы яго адзіным і бясспрэчным лідэрам усяго беларускага незалежніцкага руху"*.** Там жа знаходзім інфармацыю, што на зьезьдзе БХД у лістападзе 1936 г. Адольф Клімовіч увайшоў у кіраўніцтва Беларускага Народнага Аб'яднаньня.*** Такім чынам, А. Клімовіч з БХД/БНА нікуды не сыходзіў, да В. Гадлеўскага ў другой палове 1930-х не далучаўся.

Ю. Грыбоўскі піша, што праграма Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі была апублікаваная ў 1935 годзе (б. 76). Але гэта ня так, насамрэч гэта адбылося ў 1936-м.****

На жаль, мусім канстатаваць, што памылак, абдруковак у кнізе вельмі шмат. Яны кідаюцца ў вочы, яны сьведчаць, як пра сьпешку Юрыя Грыбоўскага, так і пра павярхоўнае вывучэньне ім некаторых аспэктаў тэмы. Тут мы згадваем памылкі не для таго, каб лішні раз тузануць аўтара, але каб ён не паўтараў іх у наступным выданьні.

Нам давядзецца прывесьці шмат правак, таму набярыцеся цярпеньня.

Беларускі дзеяч Адам Дасюкевіч, расстраляны нацыстамі, у кнізе Грыбоўскага стаў **"Адамам Ясюкевічам"** (б. 70). У іншым месцы адкрываецца характэрная для Ю. Грыбоўскага рыса: ён робіць выгляд, што некаторых вядомых фактаў… ня ведае. Вось і пра сьмерць Дасюкевіча піша, што той загінуў "ад рук невядомых выканаўцаў" (б. 499). Усім вядома, але Грыбоўскаму — не.

Гісторык Юрый Грыбоўскі піша пра арышты савецкімі спэцслужбамі беларускіх дзеячоў у Вільні ўвосень 1939 году. Дзіўна, але ён сьцьвярджае, што тады былі арыштаваныя **"Антон Трэпка"** і **"Антон Неканда-Трэпка"** (б. 95). Сьпяшым расчараваць аўтара: гэта ня розныя людзі, а адзін чалавек, дарэчы, даволі вядомы беларускі дзеяч. Разам зь ім, як піша Грыбоўскі, схапілі **"Макара Краўцэвіча"** (!). Зразумела, што гаворка насамрэч ідзе пра Макара Краўцова (Касьцевіча), аўтара гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Не было тады такога чалавека, як **"Вінцэнт Жук-Грышкевіч"** (б. 95), а быў проста Вінцэнт Грышкевіч. Жук-Грышкевічам ён стаў на эміграцыі. Шкада, што і гэта гісторыку невядома.

Паводле Ю. Грыбоўскага, у БНК у Вільні падчас нямецкай акупацыі ўваходзіў **Тадэвуш Жэлігоўскі** (б. 250). Аднак, у Беларускім навуковым

---

*Казлоўскі М. Нашчадак слаўных крывічоў. Эцюд да партрэта Адольфа Клімовіча, чалавека і грамадзяніна. — Мінск: "Кнігазбор", 2008.

**Тамсама, б. 93-94.

***Тамсама, б. 96.

****Новы шлях (Вільня), 1936, № 1(16), 20 студзеня.

таварыстве прысутнічае ўжо Тадэвуш Шалігоўскі (б. 252). На шчасьце, у іменны паказальнік патрапіў сапраўдны варыянт прозьвішча — “Шалігоўскі” (б. 835).

Ад’ютантам кіраўніка БНС Яна Ермачэнкі быў Ігар Аўчыньнікаў (б. 309, 314). Аднак Ю. Грыбоўскі “прыдумаў” яшчэ адзін варыянт яго прозьвішча — **“Аўсяньнікаў”** (б. 264). У іменны паказчык патрапілі абодва (!), рэальны Аўчыньнікаў, і выдуманы “Аўсяньнікаў” (б. 829).

Афіцэр БКА Віталь Мікула раптоўна стаў **“Вітальдам”** (б. 334). Заблытаўся Ю. Грыбоўскі ў варыянтах імя кіраўніка арганізацыі “Беларускі Вызвольны Рух” Людвіка Галубовіча (Зарэчнага). Двойчы (на б. 560 і 566) ён называе яго **“Лявонам”**. Неспадзявана ў Вялікабрытаніі зьявіўся беларускі дзеяч Аляксандар… **Лукашук** (б. 566). Можна меркаваць, што насамрэч, меўся на ўвазе Лашук. На эміграцыі актыўны ў БЦР быў Віталь Цярпіцкі. На б. 731 у кнізе Грыбоўскага ён “Віталь”, а на б. 568 — ужо **“Васіль”.** У Швецыі ў паваенны час лідарам нешматлікіх беларускіх эмігрантаў быў Васіль Лукашык. У Ю. Грыбоўскага ён чамусьці **Лукашук** (б. 569). У БНС і БКА быў такі дзеяч Аляксей Васіленя. У Ю. Грыбоўскага ён **“Анатоль”** (б. 580).

Дзяўчатамі ў СБМ кіравала Надзея Абрамава. Дзіўна, што Грыбоўскі называе яе **“Натальляй”** і ў тэксьце (б. 485, 588), і ў сьпісе прозьвішчаў. Там яна ў яго яшчэ і **“Натальля** Тэадаровіч” (б. 813).

Начальнікам Менскага раёну падчас нямецкай акупацыі быў Контаўт, у Грыбоўскага ён **“Коўтаўт”** (б. 499). Быў беларускі дзеяч Уладзімер Набагез, але ў Грыбоўскага ён стаў **“Нагабезам”** (б. 663)! Датай сьмерці Янкі Філістовіча Грыбоўскі называе **5 сакавіка 1953-га** (б. 800)! Ды ўжо ўсе ведаюць, што суд над Філістовічам быў у лістападзе 1953-га, у сакавіку яго не маглі расстраляць. Чаму ж гэта невядома гісторыку Грыбоўскаму, таямніца. У яго кнізе можна, дарэчы, пабачыць такое цікавае выданьне як **“Спрадчына”** (б. 789). Вёску Гавенавічы (Падгорная) ў цяперашнім Баранавіцкім раёне Ю. Грыбоўскі называе **“Гавіньчыцы”** (б. 314).

Грыбоўскі выдумаў дэсант “Дальвіца” *“ў ноч з 16 на 17 лістапада каля Дзятлава”* (б. 375). Абсалютны міт! Можна здагадацца, што дасьледчык у чарговы раз пераблытаў назву месяца — трэба было напісаць “верасьня”. Але Грыбоўскаму, відаць, невядома, што з верасьнёўскага дэсанту каля Дзятлава прызямліўся толькі адзін чалавек — Андрэй Вайтовіч. Іншыя — каля Смаргоні і Вільні. Але аўтар так упэўнена піша, што “да канца 1944 года” ўсіх удзельнікаў дэсанту схапілі (б. 375). Ю. Грыбоўскі нічога ня ведае пра дэсантніка Бяневіча, які ня быў арыштаваны, а сыйшоў за лінію фронту. Грыбоўскі ня ведае, што не была затрыманая і радыстка Тамара Чэрамшагіна (376).

Дэсантніка Талако ён чамусьці называе **"Талачко"** (б. 376). Грыбоўскі паўтарае памылку А. Салаўёва, калі піша, што Міхась Зуй ачольваў роту "Поўдзень" "Дальвіца" (б. 374). Ну што ж, бывае. Але ўражвае колькасьць гэтых памылак і выдумак: дзясяткі і дзясяткі!

Чарговая выдумка Ю. Грыбоўскага, што Якуб Колас, Міхал Вітушка і Дзьмітрый Касмовіч былі… **сваякамі** (б. 487)! Ну адкуль, спадар Грыбоўскі, вы бярэце такія недарэчныя "факты"? Не былі яны сваякамі. Сваячкай Якуба Коласа была будучая жонка Дз. Касмовіча Надзея Міцкевіч.

Згадаем яшчэ, што эміграцыйнае выданьне "Дакуманты і факты" выходзіла не ў **Заходняй Нямеччыне** (б. 776), а ў ЗША.

Гэта такія элементарныя рэчы, якія імгненна выхоплівае вока дасьледчыка, які "ў тэме". Вядома, можна дапусьціць, што аўтар стаўся ахвярай вялізнага аб'ёму сваёй кнігі, якую ня здолеў перачытаць.

***

Адзін з найбольш важных разьдзелаў — **"Беларускае незалежніцкае падпольле пад нямецкай акупацыяй: міты ці рэчаіснасьць?"** (б. 213-226). Ю. Грыбоўскі палічыў, што ён здольны ліквідаваць "шмат мітаў", якія "нарасьлі" вакол "Партыі" беларускіх нацыяналістаў і Беларускай незалежніцкай партыі. У некалькіх абзацах аўтар досыць прымітыўна прадстаўляе нашу версію гісторыі БНП. Прычым, на б. 214 усе тры (!) спасылкі (302-304) не адпавядаюць зьместу кнігі "Вяртаньне БНП". Відавочна, Ю. Грыбоўскі пераблытаў розныя выданьні.

Ён піша, што сьцьверджаньне "некаторых дасьледчыкаў" пра датычнасьць БНП да няўдалага замаху на Рамана Шухевіча ў 1942 годзе ў Беларусі і на Фабіяна Акінчыца ў 1943 г. **"належыць прызнаць за экстравагантныя"** (б. 214). І пры гэтым нічым свае словы не абгрунтоўвае, як і не падае аргументы іншага боку.*

Што да замаху на Р. Шухевіча, то здарэньне адбылося летам 1942 году на Віцебшчыне, дзе ён знаходзіўся разам з 201-м украінскім паліцыйным батальёнам. Паводле версіі афіцэра адной з тагачасных беларускіх вайсковых фармацый, арганізавала яго "адна з групаў БНП" — беларусы адказалі так на ўдзел украінцаў у рэквізіцыі прадуктаў у мясцовага насельніцтва. Шухевіч, верагодна, быў толькі кантужаны. Падрыў на міне грузавога аўтамабіля, у якім ехаў Шухевіч, пацьвярджае ў сваіх камандзір 201-га батальёну палкоўнік Яўген Пабігушчы. Украінцы былі перакананыя, што дыверсія была арганізаваная савецкімі

*Падобная тактыка Ю. Грыбоўскага заўважаная намі і пры апісаньні ім іншых спрэчных падзеяў.

партызанамі.* Аднак савецкія партызаны, як ня дзіўна, датычнасьцю да замаху на будучага кіраўніка УПА нідзе не хваліліся.

Пра забойства Ф. Акінчыца напісана нямала. Першым пра вынесены яму кіраўніцтвам БНП сьмяротны прысуд напісаў у 1946 годзе Станіслаў Станкевіч.** Пра свой удзел у падрыхтоўцы ліквідацыі Ф. Акінчыца ў сваёй аўтабіяграфіі пісаў сябра БНП Антон Адамовіч: *“У 1942 г. разам зь іншымі, галоўна маладымі беларусамі, бяру ўдзел у заснаваньні нелегальнае антынямецкае “Беларускае незалежніцкае партыі”, па лініі гэтае партыі прычыняюся да падрыхтаваньня ліквідацыі нямецкага агента Акінчыца”*.***

Пакінуў сьведчаньне пра гэта і сябра БНП Антон Шукелойць: *“Калі Акінчыц выдаў немцам Гадлеўскага й таго расстралялі, то* [сябры БНП ці ЦК БНП] *правялі галасаваньне і прыгаварылі таго Акінчыца да сьмяротнае кары. Зноў жа галасаваньнем выпала выканаць гэтую місыю Алесю Матусевічу”*.****

Атрымліваецца, што для Юрыя Грыбоўскага ўсе гэтыя сьведчаньні “экстравагантныя”, альбо яму пра іх нічога невядома. Затое для Грыбоўскага дастаткова аднаго ліста Я. Станкевіча да Я. Ермачэнкі, каб сьцьвердзіць, што Гадлеўскі быў *“у “папяровай” Партыі Беларускіх Нацыяналістаў, якую з пэўнасьцю нельга прызнаць за незалежніцкае падпольле”* (б. 214). Адзін толькі ліст! І ніякіх іншых доказаў. Але сумненьняў у дасьледчыка не зьявілася. А вось дачыненьне В. Гадлеўскага да БНП Грыбоўскі бярэ пад сумнеў. Нягледзячы на тое, што пра гэта сьведчаць нават савецкія крыніцы.

У кнізе *“Война в тылу врага. О некоторых проблемах истории советского партизанского движения в годы Великой Отечественной войны”* (Масква, Палітвыдат, 1974) чытаем: “Нацыяналісты… спрабавалі ўзьдзейнічаць на беларускі народ у завуаліраванай форме. З гэтай мэтай яны стварылі “Беларускую незалежніцкую партыю” (БНП)… Узначалілі яе **“ідэоляг” беларускіх нацыяналістаў Гадлеўскі**… Родзька, Сянкевіч, Гінько ды іншыя” (б. 429).

---

*Ёрш С., Горбік С. Беларускі Супраціў. — Львоў, 2006, б. 79; СЁ. Замах на Рамана Шухевіча. Лета 1942 году // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 142; Горбік С. Знаходжаньне ўкраінскага батальёну Пабягушчага і Шухевіча ў Беларусі і іх кантакты з беларускім вызвольным рухам // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 36, 47.

**Каранеўскі Я. [С. Станкевіч]. Пад гнётам нямецкага фашызму // Ruch, 1946, № 1, красавік, б. 15.

***З архіву Антона Адамовіча // Запісы ([БІНіМ], Нью-Ёрк — Менск), 2011, № 34, б. 257.

****Запіс успамінаў зроблены ў ЗША В. Я. у студзені 2012 года. Тэкст прадастаўлены аўтару мастаком Алесем Пушкіным.

У справаздачы савецкай партызанскай разьведкі ад 1943 году пра БНП паведамляецца: “У другой палове 1942 году ў Беларусі ўзьнікла т. зв. “Беларуская незалежніцкая партыя”. Цэнтар гэтай палітычнай арганізацыі знаходзіцца ў Менску. Актыўнымі дзеячамі… БНП зьяўляюцца: **ксёндз Гадлеўскі**… ” (НАРБ, ф. 4, в. 33а, спр. 524, арк. 184-185).

У кніжцы “Белорусские буржуазные националисты”, выдадзенай КГБ СССР, чытаем: *“Арганізатарам і адным з кіраўнікоў “Беларускай незалежніцкай партыі” зьяўляўся адзін з “ідэолягаў” беларускіх буржуазных нацыяналістаў Гадлеўскі”.**

Няўжо гэтыя сьведчаньні так мала значаць, каб пра іх нават не згадаць?

“Дзеяньні і дэклярацыі гэтага дзеяча [Гадлеўскага] ніколі ня сьведчылі нават пра хвілёвыя ваганьні, што да выбару іншага саюзьніка акрамя III Райху”, — нахабна сьцьвярджае Ю. Грыбоўскі (б. 214-215). Аўтар піша, што сьмерць Гадлеўскага ніяк не зьвязаная зь яго дачыненьнем да БНП. Што мае рацыю Ю. Туронак, які лічыць, што Гадлеўскі “стаў ахвярай канфлікту паміж В. Кубэ і СС” (б. 215).

Пры гэтым ён супярэчыць самому сабе, бо ў іншым месцы кнігі прыводзіць інфармацыю з кнігі польскага гісторыка пра перамовы Гадлеўскага з прадстаўнікамі савецкай выведкі. І Грыбоўскі да яе паставіўся з даверам, не называе “мітам” (б. 498). Пра тыя ж перамовы згадвалася яшчэ раней у нашых публікацыях, але Грыбоўскі гэтага “не заўважыў”. А калі б “заўважыў”, дык, відаць, назваў бы выдумкай і мітам.

У іншым месцы Ю. Грыбоўскі не пагаджаецца з Ю. Туронкам наконт таго, што Гадлеўскі быў прыхільнікам нацыстаў і верыў у іх перамогу. Аўтар мяркуе, што гэта быў выбар “меншага зла”, што Гадлеўскі не патрапіў пад “пранямецкія ўплывы”, пра што сьведчыць *“удзел кс. Гадлеўскага ў падземнай Арганізацыі Беларускіх Нацыяналістаў”* (б. 78). Заўважым, што тут слова “падземнай” ім напісанае без двухкосься, і напісанае АБН, не “ПБН”, як ва ўсіх астатніх згадках.

Што тут скажаш? Дасьледчык Грыбоўскі, відаць, яшчэ ня вызначыўся ў “справе Гадлеўскага”, блытаецца сам і блытае іншых. А магчыма, ён проста “забыўся” выправіць наяўныя супярэчнасьці ў розных частках кнігі, напісаныя ў розны час. Але факт застаецца фактам: сваёй пісанінай ён абсалютна неапраўдана кідае цень на асобу беларускага сьвятара і палітыка, закатаванага нацыстамі.

Цікавая атрымліваецца сытуацыя. Ю. Грыбоўскі — адзін зь нямногіх дасьледчыкаў, якія працавалі ў Цэнтральным архіве КДБ Беларусі з

---

*Белорусские буржуазные националисты (Учебный материал). — Москва: Высшая школа КГБ при Совете Министров СССР, 1957, б. 19.

крымінальнай справай Усевалада Родзькі. Аднак, пішучы пра генэзу БНП, пра тое, што Вінцэнт Гадлеўскі ня меў да гэтага дачыненьня, Грыбоўскі не спасылаецца на такую важную крыніцу, як паказаньні Ўс. Родзькі ў турме НКГБ/МГБ БССР. Родзька ж быў старшынём партыі! Нават Аляксей Салаўёў у сваёй працы, прысьвечанай БЦР, прыводзіць словы Родзькі пра кансьпірацыйныя арганізацыі беларускіх нацыяналістаў і іх кіраўнікоў, у тым ліку і В. Гадлеўскага.* Ю. Грыбоўскі маўчыць. Ён проста ня мае што сказаць ды спадзяецца, што прамаўчаць іншыя. Дарма.

Ю. Грыбоўскі згадвае "некаторых аўтараў", якія пішуць пра пляны антынямецкага паўстаньня ў Менску ў чэрвені 1944-га ды абапіраюцца "на ўспаміны ананімных сяброў БНП" (б. 215). Нагадаем яму, што дзесяць гадоў таму мы давалі адказ у гэтай справе рэдактару "Архэ" В. Булгакаву.** Тады згадвалася, што, акрамя нашых публікацый (у іх былі сьведчаньні Б. Рагулі, М. Зуя, В. Сікоры), пра падрыхтоўку паўстаньня сьведчылі Барыс Рагуля***, Уладзіслаў Рыжы-Рыскі****, Сяргей Кажан***** ды іншыя. Аднак Грыбоўскі працягвае выкарыстоўваць сваю тактыку: тое, што замінае яго канцэпцыі ды выкрывае яго памылковыя высновы, ён проста ігнаруе, ня згадвае.

Юрый Грыбоўскі піша, што лічыць малаверагодным выкрыцьцё нямецкімі спэцслужбамі на пераломе 1942-1943 гг. беларускага падзем'я і прымусу яго кіраўніцтва да супрацоўніцтва. Яго дзівіць "паблажлівасьць немцаў", якія ў той час не шкадавалі тых жа "бандэраўцаў" ва Ўкраіне (б. 215).

Вельмі дзіўна, што гэты дасьледчык не знаёмы з грунтоўнай працай Эдмунда Ярмусіка, прысьвечанай Каталіцкаму Касьцёлу ў нашай краіне падчас Другой сусьветнай вайны.****** У гэтай кнізе чытаем якраз пра перапом 1942-1943 гадоў:

*"Сталі назірацца рознагалосьсі паміж некаторымі групоўкамі беларускіх дзеячоў і нямецкімі ўладамі. Хтосьці расчароўваўся ў палітыцы гітлераўцаў, стаў выношваць тайныя пляны вызваленьня Беларусі ад нямецкага панаваньня, а таксама яе ўдзелу ў "блоку дзяржаваў", накіраваным як супраць Нямеччыны, так і супраць Расеі. У данясеньні аднаго з афіцэраў СС, які асабіста займаўся гэтай*

---

*Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995, б. 91.

** Ёрш С. Чытач сам разьбярэцца, хто мае рацыю // Архэ, 2002, № 3; http://arche.bymedia.net/2002-3/palem302.html

*** Нагнібяда В. Сем капеек за кулю // Наша ніва, 1997, № 23-24 (88), 30 чэрвеня.

**** Незалежная Беларусь (Заходняя Нямеччына), 1953. № 5 (11), чэрвень.

*****Кажан С. "У БНП я з жніўня 1944-га…" // Наша ніва, 1998, 28 верасня, № 18.

****** Ярмусик Э. Католический Костёл в Белоруссии в годы второй мировой войны. — Гродно: ГрГУ, 2002.

*праблемай, гаварылася:* ***“СД даведалася пра такія пляны і была непрыемна агаломшана, бо гэтая “зарэгістраваная група” складалася менавіта з тых людзей, якія зьяўляліся яе пратэжэ, і яна адгаварыла ўжываць супраць іх паліцыйныя меры. Такога роду меры аказалі б фатальны ўплыў на “новы курс” у Беларусі. Задаволіліся тым, што гэтым асобам далі зразумець, што іх пляны вядомыя немцам”***.*

Як бачым, гэты дакумэнт проста абрынуў усю “канцэпцыю” Ю. Грыбоўскага ў справе беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціву.** Дык чаму ён “не заўважыў” кнігу Ярмусіка? Таямніца. У сваім дасьледаваньні Грыбоўскі згадвае толькі артыкул гэтага аўтара, які зьявіўся ў польскім выданьні “Przeglad Wschodni” (б. 780).

Мусім канстатаваць, што, на жаль, Ю. Грыбоўскі не адшукаў дакумэнтаў СД, якія датычаць дзейнасьці БНП, В. Гадлеўскага. Яны б зьнялі шмат пытаньняў. А так Грыбоўскі ўпарта піша, што БНП ад пачатку была інсьпіраваная немцамі (падтрымлівае ў гэтым Васіля Раманоўскага***), што беларускія дзеячы, завэрбаваныя абверам, не маглі праводзіць антынямецкую дзейнасьць (б. 216, 217). Што да апошняга, дык раім перачытаць цытату з кнігі Э. Ярмусіка, зьмешчаную вышэй. Аказваецца, маглі. Што да “інсьпіраванай ад пачатку БНП”, дык у гэтай справе апублікаванае сьведчаньне старшыні партыі Ўсевалада Родзькі (Грыбоўскі яго “не заўважыў”): *“…з моманту раскрыцьця мною складу ЦК БНП і санкцый на яе працу нямецкай выведкі, уся арганізацыя стала правакацыйнай і на справе перайшла пад нямецкі кантроль…”*.**** Калі б нямецкія спэцслужбы ініцыявалі стварэньне БНП, яны б адразу сфармавалі яе кіраўніцтва і Родзьку ня трэба было б “раскрываць” яго, як і атрымліваць санкцыі на працу. Няўжо гэта не відавочна?

“Гісторыя ня ведае ніякіх антынямецкіх акцый БНП”, — піша Ю. Грыбоўскі (б. 216). Дык мы ўвогуле вельмі мала ведаем пра гэтую партыю і яе дзейнасьць! Ці можна назваць “антынямецкімі акцыямі” ратаваньне з менскага гета габрэйскіх дзяцей? Альбо стварэньне беларускіх нацыянальных партызанскіх атрадаў, выпуск антынямецкіх улётак? Верагодна былі і збройныя акцыі, пра якія мы пакуль нічога ня

---

*Ярмусик Э. Католический Костёл в Белоруссии в годы второй мировой войны. — Гродно: ГрГУ, 2002, б. 126. Э. Ярмусік спасылаецца на дакумэнт, які захоўваецца ў НАРБ (ф. 510, воп. 1, спр. 119, арк. 8-10).

**Безумоўна, выяўлены Э. Ярмусікам дакумэнт трэба апублікаваць цалкам. Спадзяемся, што ім зацікавіцца і Ю. Грыбоўскі.

***Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. — Мінск: “Беларусь”, 1964, б. 187.

****Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск: Навука і тэхніка, 1995, б. 90-91.

ведаем. Тут мы зноў жа вяртаемся да крымінальнай справы Ўсевалада Родзькі, дзе гэтыя пытаньні мусілі б быць асьветленыя.

Пішучы пра генэзу БНП і ролю В. Гадлеўскага, Ю. Грыбоўскі зусім ня згадвае нашай кнігі, якая зьявілася яшчэ ў 2004 годзе і цалкам прысьвечаная гэтай праблеме.* Нібыта, яе і не было. У чарговы раз адзначаем, што гэта вельмі зручная тактыка.

Павярхоўнасьць азнаямленьня з тэмай дасьледаваньня ў кнізе Грыбоўскага праяўляецца неаднаразова. Пішучы пра часы нямецкай акупацыі, ён цытуе праграму БНП, напісаную ў… 1953 годзе (б. 218)! Мы публікавалі яе ў кнізе “Вяртаньне БНП”.** Цяжка зразумець, чаму аўтар не зьвярнуў увагі на праграмныя дакумэнты, якія зьявіліся ў першым нумары “Бюлетэня БНП”. Ён перадрукоўваўся ў часопісе “Беларускі Рэзыстанс” і публікацыя гэтая Грыбоўскаму вядомая.***

Ю. Грыбоўскі бярэ пад сумнеў тое, што “Бюлетэнь БНП” быў нелегальным выданьнем. Ён зусім ня згадвае, што некаторыя асобнікі пэрыёдыка пазначаныя 1940 і 1941 гадамі.**** І нам зразумела чаму ён гэта замаўчаў — ня ўпісваецца ў яго канцэпцыю.

У сваёй кнізе Ю. Грыбоўскі працягвае разьвіваць сваю версію пра “фантом” — “ПБН” (“Партыю беларускіх нацыяналістаў”). Упершыню матэрыялы пра яе ўвёў у навуковы ўжытак у сваіх працах Ю. Туронак. Ён сьцьвярджаў, што толькі “ПБН” была праўдзівай канспіратыйнай арганізацыяй, у адрозьненьне ад той жа БНП. А лідары “ПБН” (Янка Станкевіч, Вацлаў Іваноўскі) і многія сябры ўжо ў 1940 годзе былі “у апазыцыі” да палітыкі М. Шчорса і В. Гадлеўскага.***** У кнізе “Рыцар Свабоды”, якую ігнаруе Ю. Грыбоўскі, мы выклалі аргументы наконт таго, што ніякай “апазыцыі” не было, а была супольная дзейнасьць.****** І вось тое самае заяўляе і Ю. Грыбоўскі: Туронак у гэтым ня меў рацыі. Каб прыйсьці да такой высновы яму аказалася дастаткова выяўленага ў маскоўскім архіве ліста Янкі Станкевіча да Яна Ермачэнкі. У выніку, Грыбоўскі бярэ пад сумненьне інфармацыі польскай выведкі пра “ПБН”, яе структуру і дзейнасьць. Ён лічыць, што бела-

---

*Ёрш С. Рыцар Свабоды (ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі як ідэоляг і арганізатар беларускага нацыянальнага антынацыскага Супраціву). — Менск: “Беларускі Рэзыстанс”, 2004. Дарэчы, гэтую кнігу лёгка знайсьці ў Сеціве.

**Ёрш С. Вяртаньне БНП. Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. — Менск — Слонім, 1998, б. 111-126.

***Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2), б. 63-67.

****Ёрш С. Падпольны беларускі друк падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2), б. 60-61.

*****Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Мінск: “Беларусь”, 1993, б. 36.

******Рыцар Свабоды, б. 17.

рускія дзеячы дэзынфармавалі палякаў, бо былі зацікаўленыя, каб тыя паверылі ў яе сілу. Ю. Грыбоўскі лічыць, што "партыя Станкевіча-Іваноўскага" "ніколі не існавала як арганізацыйная структура" (б. 221). Праўда, у іншым месцы Ю. Грыбоўскі адзначае, што "выяўлены матэрыял толькі нязначна наблізіў нас да разьвязаньня праблемы, чым насамрэч была Партыя Беларускіх Нацыяналістаў" (б. 108).

Проста дзіўным падаецца тое, што Ю. Грыбоўскі ня згадвае іншую вядомую назву "ПБН" — "АБН", "Арганізацыя беларускіх нацыяналістаў".* Менавіта гэтую назву называе ў сваіх паказаньнях у турме савецкай дзяржбясьпекі Ўсевалад Родзька**, толькі яе выкарыстоўвае ў сваім матэрыяле Анатоль Бадулін.*** Дык чаму Ю. Грыбоўскі яе замоўчвае? Нейкая таямніца. Тым больш, што на гэта зьвярталася наша ўвага ў адной з публікацый "БР", якую ня мог ня бачыць Грыбоўскі.****

Грыбоўскі блытае стварэньне летам 1943-га (як пісаў Ю. Туронак) з "ПБН" і іншых груп "Беларускага нацыянальна-дэмакратычнага аб'яднаньня", і спробу стварэньня ў 1942 годзе "Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай партыі" (пра гэта ў сваіх паказаньнях у турме савецкай дзяржбясьпекі распавёў К. Езавітаў*****). (б. 223) У выніку, Грыбоўскім "запісваюцца" ў сябры "ПБН" удзельнікі арганізацыйнага паседжаньня "БНДП" — Езавітаў, Кіпель, Антон Адамовіч. Да іх ён чамусьці далучае і Ф. Аляхновіча (б. 470).

Ня можам ня выказацца і на тэму неапублікаваных важных дакумэнтальных крыніц па гісторыі беларускага нацыянальнага Супраціву. Ні Туронак, ні Грыбоўскі дагэтуль не апублікавалі мэмарандум "Беларускага нацыянальна-дэмакратычнага аб'яднаньня" ад 1943 году да прэзыдэнта ЗША і ўраду Вялікабрытаніі. Яны толькі згадваюць пра яго (б. 477). Такая ж гісторыя і з праграмнымі дакумэнтамі "ПБН". Такая ж гісторыя і з тэкстамі Віктара Ярмалковіча пра польскія злачынствы супраць беларускага насельніцтва падчас нямецкай акупацыі. Юрый Туронак мае арыгіналы наступных тэкстаў Ярмалковіча: **"Сьпіс забітых т. зв. белымі польскімі партызанамі ў паднёманскіх**

---

*Адзіная згадка пра АБН, відаць, атрымалася ў Грыбоўскага выпадкова: згаданы вышэй "удзел кс. Гадлеўскага ў падземнай Арганізацыі Беларускіх Нацыяналістаў" (б. 78).

**Соловьёв А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск, 1995, б. 91.

***Бадулин А. Националист — это человек, сделавший уверенный шаг к фашизму // Советская Белоруссия, 1996, № 115, 20 чэрвеня.

****Ёрш С. Нечаканы паварот у справе Арганізацыі беларускіх нацыяналістаў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2 (7), б. 111-112.

*****Езовитов К. Воспоминания // Нёман, 1993, № 3, б. 150.

**сельсаветах”** (б. 775) і “Шчучынскі павет падчас нямецкай акупацыі 1941-1944” (б. 775). А копіі мае Ю. Грыбоўскі.

Дарэчы, Грыбоўскі дастаткова арыгінальна піша пра забойствы палякамі беларусаў. Ён дапускае, што сярод ахвяраў могуць быць сімпатыкі савецкіх партызанаў, былыя працаўнікі савецкай адміністрацыі 1939-1941 гг., супрацоўнікі нямецкіх установаў (б. 415-416). Гэта гучыць як апраўданьне злачынстваў.

У іншым месцы ён піша, што “ў беларускай гістарыяграфіі да сёньня пануе погляд, што Армія Краёва падчас нямецкай акупацыі ўчыніла шматлікія забойствы нявіннага беларускага цывільнага насельніцтва” (б. 18). Грыбоўскі наракае, што сучасная беларуская гістарыяграфія пазычыла ў савецкай “шмат мітаў”, а сярод іх і гэты. Аўтар так відавочна хоча паказаць сваё імкненьне апраўдаць акоўцаў, што, відаць, адрасат гэта ацаніў ці яшчэ ацэніць. У падобных сытуацыях польскія, украінскія, летувіскія, расейскія гісторыкі дзейнічаюць ня так: яны ня стануць апраўдваць забойцаў свайго народу.

Спыняецца Ю. Грыбоўскі і на тэме існаваньня падчас нямецкай акупацыі беларускага нацыянальнага партызанскага руху. Ён зьвязвае “партызанку БНП” з Уладзімерам Шавелем, хаця гэта супярэчыць яго (Грыбоўскага) перакананьням, што БНП была створаная восеньню 1942-га (б. 224). Бо Шавель сыйшоў у лес раней — у пачатку 1942 году.* Ю. Грыбоўскі спасылаецца на дакумэнт польскага падзем’я і сьцьвярджае, што насамрэч акцыя Шавеля — гэта спэцаперацыя нямецкіх спэцслужбаў, накіраваная на барацьбу з савецкім партызанскім рухам (б. 225). І гэта падобна на праўду, хаця і патрабуе адмысловгаа дасьледаваньня.**

Разам з тым нельга пагадзіцца з высновай Ю. Грыбоўскага пасьля разгляду “партызанкі Шавеля”: “*…гэта адказ на пытаньне існаваньня ці неіснаваньня партызанкі БНП”* (б. 225). Вось так! Спачатку ён зьвязаў акцыю Шавеля з БНП, якой, паводле Грыбоўскага, яшчэ не існавала, а пасьля сьцьвярджае, што ніякай “партызанкі БНП” не было, а гэта правакацыя нямецкіх спэцслужбаў.

Дзіўна такое чуць ад гісторыка. Адна згадка пра Шавеля ў польскай крыніцы — і партызанскага руху БНП няма! Адзін ліст — і “ПБН” — “папяровая”! І Грыбоўскі не абцяжарвае сябе пошукам дакумэнтаў, пацьверджаньняў такіх высноваў. Ён чамусьці ігнаруе інфармацыю

---

*Найдзюк Я., Касяк І. Беларусь учора і сяньня. — Менск: “Навука і тэхніка”, 1993, б. 291-292; Антонава Т. У землякоў за акіянам. — Мінск: “Голас Радзімы”, 1992, б. 80.

**Самсонаў К. Да пытаньня дзейнасьці ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. “ілжэпартызанскіх” атрадаў // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 39-41.

гісторыка Ўладзімера Гуленкі пра існаваньне толькі на Палесьсі аж 12 партызанскіх груп, створаных БНП.*

Далей Ю. Грыбоўскі зьвяртае ўвагу на т. зв. “Беларускую народную партызанку” (незалежны ад савецкага кіраўніцтва беларускі партызанскі рух пераважна на тэрыторыі заходнебеларускага Палесься). І тут пачынаюцца фантазіі гісторыка з Варшавы. Невядома, адкуль ён узяў, што “ў 1927 годзе некаторыя дзеячы Грамады былі вымушаны пайсьці ў падпольле” (б. 225). І яны, нібыта, дзейнічалі канспірацыйна да пачатку Другой сусьветнай вайны! Грыбоўскі дае і іх сьпіс! У ім — Харэўскі, а ён жа ад 1925-га да 1937-га жыў у БССР!** У сьпісе Іван Тарасюк, але ж ён з 1923-га да 1932 году жыў у СССР, а ў другой палове 1930-х сядзеў у польскай турме!*** Грыбоўскі згадвае там і “Шанько”, які ў той перыяд ну ніяк ня мог апынуцца ў Заходняй Беларусі!****

Рызыкнуўшы пісаць на малазнаёмую тэму, Ю. Грыбоўскі робіць гэтыя і іншыя кур’ёзныя памылкі. Ён піша, што згаданыя вышэй людзі падчас нямецкай акупацыі стварылі “Беларускую народную партызанку”, у якой галоўную ролю адыгрываў Харэўскі, а ролю Шанька неяк зьмяншае. А ў сярэдзіне 1943 году гэты партызанскі рух быў ліквідаваны савецкімі партызанамі і… АУН-Бандэры (б. 225). Гэта так “дакладна” Ю. Грыбоўскі пераказвае нашы і іншыя публікацыі. Ён падкрэсьлівае, што “Беларуская народная партызанка” — гэта “міт”, бо, паводле яго словаў, “у расейскіх, нямецкіх і польскіх архівах няма найменшага сьледу аб існаваньні гэтай партызанкі” (б. 225). Ю. Грыбоўскі нічога не знайшоў, але знайшлі іншыя.

Дасьледчык дзейнасьці СД у Баранавічах Гартмут Рус піша: *“У выніку палітыкі эксплуатацыі й зьнішчэньня, якая выходзіла далёка за межы ўсяго, што можна вытрымаць, з сярэдзіны 1942 г. першапачатковая пазыцыя суіснаваньня ў адносінах беларускага насельніцтва да акупантаў пачала ператварацца ў пазыцыю актыўнага супраціўленьня, якая ўсё больш узмацнялася. Увесну 1943 г. у партызанскіх атрадах Баранавіцкай вобласьці налічвалася больш за 5000 узброеных людзей. Па ўсёй яе тэрыторыі СД даводзілася мець справу з рознымі партызанскімі групоўкамі, некаторыя з якіх знаходзіліся ў варожых узаемаадносінах паміж сабой (камуністычныя,* ***нацыяналістычныя беларускія****, польскія, літоўскія і яўрэйскія);*

*Гуленка Ул. Беларуская незалежніцкая партыя // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, Т. 1. — Мінск: “Беларуская Энцыклапедыя”, 1993, б. 393.

**Хмара С. Партызанскімі сьцежкамі // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 180.

***Ласкович В. Из племени непокоренных. — Брест, 1999, б. 350.

****Шэраг матэрыялаў пра камандзіра беларускіх партызанаў на Палесьсі Шанько гл. у “БР”, № 2(11) ад 2011 г.

*напачатку барацьба вялася з усімі бяз разбору”*.*

А яшчэ згадаем нядаўнюю публікацыю паваеннага апытаньня ўдзельніка беларускага нацыянальнага партызанскага аддзела з амэрыканскага архіву,** ды публікацыю дакумэнтаў пра дзейнасьць Рыгора Шанька з архіву ФСБ Расеі.***

Атрымліваецца, што пастаўленую задачу Ю. Грыбоўскі ня выканаў: “міты” аказаліся не разьбітыя (ды, як высьвятляецца, у сваёй кнізе ён стварыў нямала мітаў), а ягоны метад ігнараваньня важных крыніц становіцца відавочным.

***

“Выкрыцьцём” “чарговых мітаў” Ю. Грыбоўскі займаецца і ў іншых разьдзелах. Напрыклад, ён згадвае пра праект абвяшчэньня ў Пінску ў верасьні 1939-га “беларускай незалежніцкай партызанкай” “Заходнебеларускай Рэспублікі”, пра які пішуць “некаторыя дасьледчыкі”. Гэта “яшчэ адзін міт”, — сьцьвярджае Ю. Грыбоўскі, бо ён не знайшоў пацьверджаньня ў польскіх і савецкіх (!) архівах (б. 88). Дзіўна, бо іншыя знаходзяць.

Пра ЗБР-“буферную рэспубліку” згадвае гісторык, выкладчык гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы Ўладзімер Ягорычаў.**** Пра праект стварэньня “буфернай беларускай дзяржавы”, якім немцы шантажавалі Маскву, у 2009-м згадваў дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі Аляксандар Каваленя.*****

Але Юрый Грыбоўскі зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў.

***

Перакручваньне гісторыі, сьвядомае заціраньне нешматлікіх вядомых нам гераічных (ці хаця б станоўчых) фактаў — гэта таксама і пра кнігу Юрыя Грыбоўскага. Ён досыць арыгінальна піша пра беластоцкі батальён Яна Гелды. Спачатку згадвае пра арышт немцамі ў сакавіку

---

*Рус Г. СД у Баранавічах (1941-1943) у кантэксьце лякальнага акупацыйнага рэжыму // Беларускі гістарычны агляд (Менск), т.5, сш.1 (8), 1998, чэрвень, б. 80-81.

**Беларускі нацыянальныя партызаны насілі спецыяльны сімвал на фуражках бел-чырвона-белага колеру // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 104-116.

***Самсонаў К. Партызанская барацьба падпалкоўніка Рыгора Шанько. Новыя дадзеныя пра кіраўніка беларускага партызанскага руху на Палесьсі ў 1942-43 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 38-45.

****Дакументальный фільм СТВ “Жаркая осень 1939-го”. Прэм’ера — 16 верасьня 2009 году; Новыя тэндэнцыі ў асьвятленьні падзеяў восені 1939-га // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 4.

*****Крыжовы шлях нацыянальнага Уз’яднання // Звязда, 2009, 17 верасьня, № 175.

1944-га* каля 25 чалавек разам з Гелдам. Але “неўзабаве” яны былі выпушчаны, піша Грыбоўскі. Як жа “неўзабаве”, калі Гелда і іншыя выйшлі на волю толькі ў канцы чэрвеня — у пачатку ліпеня 1944 году? Далей яшчэ цікавей: *“У ліпені 1944 году частка жаўнераў батальёну паддалася паніцы перад аблічам савецкага наступленьня і разьбеглася”* (б. 332). Пра тое, што выпадкі дэзерцірства былі вясной, пасьля праведзеных гестапа арыштаў, Ю. Грыбоўскі ня піша, хаця і спасылаецца на ўспаміны М. Белямука.** Ён проста пераносіць іх у часе — на пачатак ліпеня! Да таго ж Ю. Грыбоўскі ня згадвае, што перад адступленьнем немцаў частка байцоў беластоцкага батальёну арганізавана пайшлі партызаніць супраць бальшавікоў у Белавежскую пушчу, адна група паехала ў Дальвіц. У Грыбоўскага пра гэта ні слова! Можна зразумець, што такія факты ня ўпісваюцца ў канцэпцыю Грыбоўскага, таму ён іх проста замаўчаў ды прыкрыў “дэзэртырствам”.*** Чытаюць маладыя беларусы кнігу дасьледчыка Юрыя Грыбоўскага і што бачаць? Што беларускія вайскоўцы не пайшлі ў лес змагацца за Беларусь, а дэзэртыравалі, разьбегліся па хатах.

Іншы падобны выпадак з кнігі Грыбоўскага проста абуральны. Ён піша: *“…дайшло да канфлікту паміж нямецкімі камандзірамі і нешматлікімі беларускімі афіцэрамі і падафіцэрамі, каторыя арганізавалі ўцёкі ў лес у ваколіцах Стаўбцоў зьвязу (камандзір Слонімскі) з 2 роты. Пазьней гэты зьвяз перайшоў да савецкай партызанкі (партызанскі атрад імя Канстанціна Каліноўскага)”* (б. 307). І спасылаецца на ўспаміны Ф. Кушаля, хаця пісаў пра гэта Я. Сажыч! Але ж падача факту цалкам перакручаная! Працытуем далейшыя словы Грыбоўскага: *“Такая версія не знаходзіць ніякага пацьверджаньня ў савецкіх крыніцах, якія датычаць згаданага партызанскага аддзелу”* (б. 307). І спасылаецца гэты дасьледчык на кнігу **“Памяць. Гродзенскі раён…”!!!** Цікава, якое дачыненьне мае выпадак, які здарыўся ў “ваколіцах Стаўбцоў” да Гродзенскага раёну? Гэта відавочная фальсіфікацыя.

Нагадаем, Язэп Сажыч у час вайны быў афіцэрам чыгуначнага батальёну (таго самага, зь якога сыйшоў згаданы зьвяз). Ён успамінаў, што зьвяз Слонімскага пайшоў у лес са станцыі Выгода паміж Баранавічамі і Менскам****, а не пад Гроднам. Дзіўна, што Грыбоўскі

---

*Насамрэч, у траўні 1944-га. Гл.: Вяртаньне БНП, б. 56.

**Нашыя публікацыі, у якіх упершыню было расказана пра арышт у беластоцкім батальёне і якія зьявіліся яшчэ ў 1990-я, ён ня згадвае.

***У артыкуле Ю. Грыбоўскага пра паліцыю ў час нямецкай акупацыі, што ў 2010-м годзе зьявіўся ў часопісе “Архэ”, упрост гаворка ідзе пра “дэзэртырства”. Гл.: Грыбоўскі Ю. Мясцовая дапаможная паліцыя ў акупаванай Беларусі і імкненне беларускіх нацыяналістаў да ўтварэння на яе аснове нацыянальнай арміі (1941-1944 гг.) // Архэ, 2010, № 7-8, б. 675.

****Успамін Язэпа Сажыча пра гэты факт быў надрукаваны ў спэцвыпуску часопіса “Архэ”: Юрэвіч Л. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. — Менск, 1999, б. 245.

гартаў у пошуках таго атраду кнігу “Памяць” Гродзенскага раёну. Там жа атрадам імя Каліноўскага (савецкім) камандаваў у 1944-м А. Карпюк. Атрад жа Слонімскага быў за сотні кіламетраў ад яго. Няўжо гісторык гэтага не разумее? Да таго ж, Слонімскі з байцамі заснаваў беларускі нацыянальны атрад імя Каліноўскага, а не далучыўся да нейкага савецкага з такой назвай, як цьвердзіць Грыбоўскі. Яны ж, як у Сажыча, пасьля патрапілі пад савецкае кіраўніцтва ды, напэўна, ваявалі далей супроць немцаў.

У кнізе ёсьць яшчэ адзін яскравы прыклад “заціраньня” гераічных эпізодаў. Ю. Грыбоўскі піша: “У дакумэнтах польскага падзем’я можна натрапіць на згадкі пра дзейнасьць на тэрыторыі былога беластоцкага ваяводзтва **нелегальных груп беларускай моладзі**, гатовай да супрацоўніцтва з Польшчай і якая **ствярае нават тайныя беларускія вайсковыя аддзелы**” (б. 248). Ён дае спасылку на польскі архіў, а далей піша: “Інфармацыя гэтая не знаходзіць аднак пацьверджаньня ў дакумэнтах беларускіх альбо нямецкіх” (б. 248). Вось так! Польскім дакумэнтам у дадзеным выпадку Юрый Грыбоўскі не давярае. Цікава, а як ён шукаў “пацьверджаньня”?

***

Безумоўна, бібліяграфія ў кнізе ўражвае. Ю. Грыбоўскі пабываў у архівах Беларусі, Польшчы, Летувы, Расеі, Нямеччыны і Вялікабрытаніі. З гонарам ён запісаў: *“Цэнтральны архіў Камітэта дзяржаўнай бясьпекі Рэспублікі Беларусь… Асабістая справа Ўсевалада Родзькі”* (б. 769). Нагадаем, з кнігі Ю. Грыбоўскага вынікае, што альбо яму далі паглядзець толькі некаторыя аркушы справы, альбо ён замаўчаў усё тое, што там пабачыў на тэму беларускага Супраціву.

Між іншым, Грыбоўскі зьмясьціў ў “Бібліяграфію” каля двух дзясяткаў публікацый з “Беларускага Рэзыстансу” 2004-2010 гадоў. Сярод іх ёсьць і паведамленьне Канстанціна Самсонава “Удзел беларускага нацыянальнага Супраціву ў ратаваньні габрэяў зь менскага гета ў 1941-1942 гадах”.* Цікава, што ў тэксьце самой кнігі Ю. Грыбоўскі не згадаў гэтай публікацыі і нічога не напісаў пра акцыю беларускага Супраціву.

Па ўсёй кнізе Ю. Грыбоўскі піша пра кніжку **“Яна Кавыля”**, якую, верагодна, і ня бачыў.** Паводле аўтара, у ёй, як мінімум, **218**(!) бачын (б. 266). А гэта няпраўда. У гэтай брашурцы **38** бачынак! І аўтар яе не “Кавыль” (б. 220, 266, 280), а Каваль. “Кавыль”, дарэчы, патрапіў і ў “Бібліяграфію” (б. 791)…

---

*Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6).

**Каваль Я. Генэрал вызвольнага фронту. — Менск, “Голас Краю”, 2002.

Часам здараюцца недарэчнасьці ў Грыбоўскага і са спасылкамі на архіўныя крыніцы. Напрыклад, у адной са справаў НАРБ, як мінімум, 6162 аркушы! (б. 296).

***

Шмат памылак у подпісах пад здымкамі, якіх нямала зьмешчана ў кнізе — аж 135. Праўда, большасьць — вядомыя і ўжо друкаваліся. Некаторыя здымкі так і пераскочылі з памылковымі подпісамі з часопіса “Архэ” ў кнігу Ю. Грыбоўскага. Возьмем, напрыклад, фота № 50 (б. 871), якое падпісана наступным чынам: **“Функцыянеры 13 батальёну дапамаговай паліцыі СД разам з цывільнымі асобамі. 1943** [год]” (б. 903). Якія функцыянеры 13-га батальёну СД? Які 1943 год? Няўжо Грыбоўскі ня бачыў уніформаў байцоў 13-га? Насамрэч, на здымку **лета-восені 1942-га бачым групу слонімскіх дзеячоў і камандзіраў мясцовай брыгады Беларускай Самааховы.** Трэці справа — Язэп Дакіневіч. На б. 866 яго бачым на фота № 40 і там подпіс правільны.

Тое самае і з фотаздымкам № 58 (б. 873). Ю. Грыбоўскі ўпарта піша, што на ім мы бачым байцоў **13-га батальёну дапамаговай паліцыі СД** (б. 903). І зноў няпраўда. На фота — **група слонімскіх самаахоўцаў, 1942 год.** Яны стаяць у тагачасным парку ў цэнтры Слоніма, каля праваслаўнай званьніцы і сабору.

Подпіс да фота № 48 (б. 870) няпоўны. У ім сьцьвярджаецца, што мы бачым ушанаваньне памяці загінулых жаўнераў Беларускай Самааховы. Ад сябе дадамо, што гэта Ружанскія могілкі ў Слоніме, жнівень 1942 году. Фрагмент гэтага здымка друкаваўся ў “БР” (2011, № 1 (10), б. 100).

Сапраўдны “шэдэўр” бачым на б. 872. Там зьмешчанае фота № 53, на якім Язэп Сажыч і Барыс Рагуля падчас нямецкай акупацыі. На левай руцэ ў кожнага павязка са свастыкай. У подпісе Ю. Грыбоўскі піша, што *“савецкая прапаганда зрабіла фотамантаж, зьмясьціўшы замест герба “Пагоня”* [на павязкі] *свастыку”* (б. 903). Памылачка выйшла, спадар Грыбоўскі, там не было ніякага фотамантажу! Дзіўна, што ён фактычна паўтарыў памылковы подпіс пад гэтым здымкам, які зрабіў два гады таму часопіс “Архэ”.* Гэта яшчэ больш дзіўна, бо ў тым жа 2010 годзе мы зьмяшчалі матэрыял на гэтую тэму.** Ня бачыць яго Грыбоўскі ня мог. У кнізе ён спасылаецца на дзьве іншыя публікацыі з

---

*Архэ, № 5(92) ад траўня 2010 года, б. 487.

**Ёрш С. Гісторыя яшчэ адной фальсіфікацыі // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 161-162.

***К. Самсонава — “Падрыхтоўка беларускага нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1939 году і нямецкія спэцслужбы” і С. Ярша — “Замежны сэктар Беларускай Незалежніцкай Партыі. 1945-1955 гг.”.



гэтага нумару "БР".***

Нагадаем, што падчас наведваньня Вільні ў ліпені 1997 года ў прысутнасьці шматлікіх сьведкаў Барыс Рагуля мусіў адказаць на пытаньне аднаго з былых сваіх жаўнераў пра гэты здымак. І Рагуля пацьвердзіў, што фота сапраўднае, рабілася для нейкай нямецкай установы.* Дарэчы, з павязкай са свастыкай беларускія дзеячы фатаграфаваліся ня толькі ў Наваградку. Гадоў дзесяць таму аўтар гэтых радкоў атрымаў ад сьв. пам. Барыса Данілюка з ЗША здымак "слонімскага актыву" 1943 году, на якім такую ж павязку, як у Рагулі, мае Язэп Дакіневіч.

Ня зьдзівімся, калі і ў беларускамоўным выданьні сваёй кнігі Ю. Грыбоўскі будзе працягваць уводзіць у зман чытачоў, распавядаючы, што не свастыка была на павязцы ў Рагулі, а "Пагоня". Калісьці фотамантаж зрабіў беларускі дзеяч Аляксей Анішчык (Андрэй Чэмер), які на свастыку наклаў герб "Пагоня" і ў такім выглядзе апублікаваў фота Барыса Рагулі ў сваёй кнізе.** Як бачым, у Анішчыка знайшліся пасьлядоўнікі.

Пытаньні выклікаюць і фотаздымкі № 80 і 81 (б. 881). На першым, паводле Грыбоўскага, **"казармы спецыяльнага батальёну Дальвіц, Усходняя Прусія"**, на другім — **"камандасы спэцыяльнага батальёну Дальвіц у нямецкіх мундзірах"** (б. 905). Ю. Грыбоўскі не паведамляе, дзе ўзяў тыя здымкі. Верагодна, ён ня бачыў кнігі *"Щит и меч Отечества"* (Мінск, 2006), дзе яны былі ўпершыню апублікаваныя (на б. 175 і 176). Інакш бы ведаў, што "казармы" на здымку знаходзіліся далёка **ад "Усходняй Прусіі"** — у **г. Траўтэнаў у Чэхіі**. А на здымку камандасаў — Васіль Конюх і Тамара Чэрамшагіна.

І гэта яшчэ ня ўсё. На б. 899 зьмешчанае фота № 133. У подпісе Грыбоўскі зноў уводзіць у зман чытачоў: "Магіла Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова **ў Васілішках, сучасны выгляд"** (б. 907). Дасьледчык, які ўзяўся напісаць "гісторыю беларускага незалежніцкага руху", ня ведае, што Саковіча і Маракова **пахавалі не ў Васілішках, а ў Лідзе.** І гэта **не "сучасны выгляд" магілы**. Некалькі гадоў таму дачка

*Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 162.

**Чэмер А. [Аляксей Анішчык] Наваградзкая беларуская гімназія. — Вільнюс, 1997, б. 67.

Юльяна Саковіча **ўсталявала на магіле новы помнік.**

Хіба гэтага дастаткова, каб пабачыць глыбіню ведаў аўтара па тэме дасьледаваньня.

***

Пішучы пра БНП, Ю. Грыбоўскі адзначае, што гэтая партыя ня мела кантактаў з АУН-Б альбо яны "сумнеўныя" (б. 203). Пры гэтым ён згадвае другасныя публікацыі па тэме, і замоўчае найважнейшыя. Напрыклад, аўтар не згадаў інтэрвію з апошнім камандзірам УПА Васілём Кукам, якое ў 2006 годзе зьявілася на бачынах "Беларускага Рэзыстансу". А Кук жа якраз згадваў ці не першы кантакт зь нейкай беларускай канспірацыйнай арганізацыяй ды нават дапамогу ў друкаваньні падпольнага выданьня.

Ю. Грыбоўскі згадвае пра прысуд сьмерці, вынесены Станіславу Грынкевічу (старэйшаму). Пры гэтым дасьледчык з Варшавы спасылаецца на кнігу Вольгі Коваль* (б. 511). Грыбоўскі лічыць, што гэта найлепшая крыніца, калі гаворка ідзе пра Грынкевіча. Ад сябе дадамо: крыніца вельмі "арыгінальная". Працытуем гэтую кнігу:

*"Неабходна адзначыць, што біяграфія С. Грынкевіча для гісторыкаў складаная для вывучэння (!), бо яшчэ адзін беларускі калабарант меў абсалютна такое ж імя і прозвішча. Архіўна-крымінальная справа чалавека з прозвішчам Грынкевіч знаходзіцца ў архіве КДБ…*

*На допытах С. Грынкевіч распавядае таксама і пра выданне газеты "Раніца": "…газету ўзначаліў Грынкевіч Станіслаў (мой аднафамілец)"*.** І як дасьледчыца В. Коваль гэта камэнтуе? Яна піша: "Не выключэнне, што чалавек за кратамі мог прыдумаць сабе аднафамільца (!), каб адвесці ад сябе хоць частку віны".*** Брэд, ці ня праўда? Няўжо Грыбоўскі яго не заўважыў? Адзначым, што вось такія дасьледчыцы і дасьледчыкі атрымліваюць сёньня доступ да матэрыялаў архіву КДБ.

Ю. Грыбоўскі лічыць даказаным факт расстрэлу Ўсевалада Родзькі ў 1946 годзе (б. 511, 806). Ці грунтуецца яго гэтая ўпэўненасьць на матэрыялах архіву КДБ, ён не ўдакладняе. Магчыма, проста выдае жаданае за сапраўднае. Нагадаем, існуе нямала фактаў, якія сьведчаць за тое, што Родзька расстраляны ня быў.

Таксама ўпэўнена Ю. Грыбоўскі піша пра тое, што Мікола Шкялёнак быў у 1945 годзе арыштаваны ў Польшчы, а ў 1946-м расстраляны. І дадае: "За перабольшанае трэба прызнаць цьверджаньне некаторых

---

*Коваль В. Перыядычныя выданні беларускай дыяспары як гістарычная крыніца (1939-1960 гг.). Мінск: РІВШ, 2008.

**Тамсама, б. 36.

***Тамсама, б. 36-37.

гісторыкаў пра ўдзел Шкялёнка ў паваенным беларускім збройным антыкамуністычным руху супраціву на тэрыторыі БССР” (б. 511). Ну добра, няхай пакуль удзел Шкялёнка ў “Чорным Каце” і яго гібель у баю дакумэнтальна не даказаныя. Але ж ёсьць апублікаваная яшчэ ў 2003 годзе заява тагачаснага супрацоўніка Цэнтральнага архіву КДБ Беларусі Ігара Валахановіча, у якой ён гаворыць: *“…наколькі мне вядома, Шкялёнак ня быў арыштаваны ворганамі дзяржбясьпекі”.** Ю. Грыбоўскаму гэтая публікацыя невядомая? Ці можа ён ня верыць Валахановічу?

А вось у расстрэл Канстанціна Езавітава ў 1946-м у Менску Грыбоўскі ня верыць. Ён прытрымліваецца афіцыйнай версіі, паводле якой генэрал памёр у турме (б. 511).

Ю. Грыбоўскі згадвае працу Вацлава Пануцэвіча, прысьвечаную БАПЦ (б. 32), але праігнараваў яго працу пра ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, якая друкавалася ў “Беларускай царкве” і была перадрукаваная часопісам “Спадчына”. І як вы думаеце, чаму? Таму што Пануцэвіч піша пра дачыненьне Гадлеўскага да БНП. Такіх выпадкаў ігнараваньня крыніц Грыбоўскім мы налічылі ў яго кнізе некалькі дзясяткаў!

Дарэчы, Ю. Грыбоўскі ігнаруе існаваньне ў паваеннай Беларусі падпольля Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, зьвязанага з беларускім Супраціvам.

Прайшоўся Юрый Грыбоўскі і па часопісе “Беларускі Рэзыстанс”. Ён адзначае, што, аказваецца, на нашых бачынах зьяўляюцца каштоўныя і цікавыя артыкулы і дакумэнты. Аднак адначасова піша, што аўтары “БР” “не да канца аб’ектыўныя”. У іх Грыбоўскі заўважыў “выразную схільнасьць” да стварэньня “мітаў”. Але галоўнае — “высновы тых аўтараў адносна існаваньня беларускага незалежніцкага падзем’я падчас нямецкай акупацыі не знаходзяць пацьверджаньня ў дакумэнтах” (б. 32). Нават камэнтаваць гэтага ня хочацца.

***

Юрый Грыбоўскі адзначае, што дзякуючы фінансавай дапамозе фундацый з Польшчы і Вялікабрытаніі ён “мог праводзіць дасьледчую працу ў замежных архівах”. Але мусім канстатаваць: вынікі гэтай дасьледчай працы ў справе гісторыі беларускага нацыянальнага Супраціву расчароўваюць. Грыбоўскі так і ня змог патрапіць у архіў ФСБ Расеі (мы ня ведаем, ці хоць рабіў ён такія спробы). А якраз там захоўваецца трохтомная справа ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага.**

---

*Валахановіч І. Тэрактаў як у Нью-Ёрку ў нас не было (інтэрвію) // Наша ніва, 2003, 25 красавіка, № 16.

**Цэнтральны архіў ФСБ Расеі. Справа № 3498-б Гадлеўскага Вінцэнта Іванавіча. Т. 1-3. Адзін дакумэнт з трэцяга тома друкаваўся ў “БР” (2009, № 1(6).

Менавіта ў гэтым архіве трэба шукаць і матэрыялы па беларускім паваенным Супрацiве.

Яшчэ адным “шэдэўрам” у кнізе Грыбоўскага зьяўляецца разьдзел **“Легенда “Чорнага Ката”** (б. 515-540). Ён піша, што нейкая “група гісторыкаў” лічыць, што Міхал Вітушка “зарганізаваў масавы антысавецкі рух супраціву” (б. 517). Шкада, што аўтар не паведаміў, хто гэтыя людзі. Як вядома, мы пісалі і пішам пра тое, што ён кіраваў адной арганізацыяй (канспірацыяй і партызанскімі аддзеламі), а не “масавым рухам”. Гэтае і шэраг іншых нічым неабгрунтаваных сьцьверджаньняў, часта ўзятых Грыбоўскім “з галавы”, паказваюць, як ён арыентуецца ў тэме.

Фантазіі гісторыка з Варшавы часам бачым на кожнай (!) бачыне. Напрыклад, на б. 518 Юрый Грыбоўскі сьцьвярджае, што “гібель Вітушкі ў студзені 1945 году” пацьвердзіў у сваіх паказаньнях… **Міхал Ганько!** Грыбоўскі нават называе яго ўдзельнікам дэсанту Вітушкі! Спадар Грыбоўскі, які Ганько, якія паказаньні, які дэсант? Навошта вы ствараеце міты? Вашу ж працу будуць выкарыстоўваць замежныя гісторыкі і міты патрапяць у іх працы.

Пры гэтым ён спасылаецца на кнігі Я. Сямашкі (а там няма ніякага “Міхала Ганько”) і І. Валахановіча. У апошнім варыянце дасьледчык Ю. Грыбоўскі дае фантастычную спасылку — б. 217! Спадар Грыбоўскі, у кнізе Валахановіча толькі 146 бачын! Сумна, што гэта вам невядома.

Ю. Грыбоўскі піша, што афіцыйная версія лёсу М. Вітушкі атрымала “пэўную мадыфікацыю”. Ён згадвае публікацыю Ўл. Сяўрука пра арышт “Вітушкі” ў лютым 1945-га і пакараньне яго сьмерцю.* Грыбоўскі так камэнтуе: “Гэтая версія не зьмяняе аднак факту, што галоўны герой загінуў яшчэ на пачатку 1945 году і ня змог арганізаваць беларускую партызанку” (б. 518). Вось так! Якая розьніца, што аднаго забілі ў студзені, а другога — у лютым. Арыгінальна, сп. Грыбоўскі! Менавіта так палічылі і ў НКГБ СССР, дзе вясной 1945-га расьсьледавалі гэтую сытуацыю. Пра гэта мы пісалі яшчэ ў 2007 годзе, падавалі спасылку на архіўную справу Цэнтральнага архіву ФСБ Расеі.** Аднак Грыбоўскі публікацыі ў “Нашай ніве” проста “не заўважыў”.

Спасылкі на крыніцы ў Ю. Грыбоўскага і далей няпраўдзівыя. Піша, што ў эмігрантаў былі розныя версіі лёсу Вітушкі і дае спасылку на кнігу Ю. Віцьбіча (б. 519), дзе пра гэта ні слова! Грыбоўскі сьцьвярджае, што “паводле версіі беларускіх эмігрантаў — штаб Вітушкі меў месьціцца ў ваколіцах Варшавы” (б. 519). Але ж беларускія эмігранты

---

*Севрук В. Гейне по имени Макс // Рэспубліка, 2002, № 10, 16 студзеня.

**Ёрш С. Стагодзьдзе Міхала Вітушкі // Наша ніва, 2007, 5 лістапада; http://pda.nn.by/artykul/12802.html

такога ў сваёй пэрыёдыцы не пісалі!

Дарэчы, у біяграме Міхала Вітушкі Ю. Грыбоўскі падае наступныя яго даты жыцьця: **“1915 — 1945”** (б. 811)! Усім вядома, што Міхал Вітушка нарадзіўся ў 1907 годзе, але гэтага ня ведае дасьледчык Грыбоўскі. Верагодна, гэтую фальшывую дату нараджэньня ён узяў з кнігі Аляксея Салаўёва.* Толькі там Салаўёў хаця б пытальнік ставіць пасьля 1915 года і ня піша пра гібель Міхала Вітушкі ў 1945 годзе.** А для Грыбоўскага ўжо ўсё зразумела, ніякіх пытальнікаў! У адным выпадку ён піша: “В. Вітушка” (б. 540). Відаць, яшчэ адна “легендзіраваная” асоба… Вось такія “спецыялісты” пішуць сёньня гісторыю “беларускага незалежніцкага руху”.

Грыбоўскі выкарыстоўвае ўжо вядомую нам тактыку некаторых аўтараў часопіса “Архэ”. Паводле яго, аўтары кнігі “Беларускі Супраціў” сьцьвярджалі, што ў Наваградку ў сакавіку 1948 году загінула каля 300 чалавек і дадае да лічбы клічнік. Ён ня піша, што мы падаем у кнізе розныя версіі. Версія пра “300 забітых” — з кнігі “Памяць. Навагрудскі раён” (Мінск, 1996, б. 537).

Далей Ю. Грыбоўскі сьцьвярджае, што мы пісалі пра падпарадкаваньне М. Вітушку партызанскага руху Літвы і Латвіі (б. 520, 523). Гэта абсурд. Ізноў Ю. Грыбоўскі “ўроіў” сабе ў галаву. Такі ж самы абсурд і выдумка Грыбоўскага, што, нібыта, мы сьцьвярджалі, што беларускі антыкамуністычны збройны супраціў быў найлепш зарганізаваны і самы эфектыўны ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе (б. 31)! Як можна параўнаць адну антысавецкую арганізацыю (няхай і добра арганізаваную і закансьпіраваную) з сапраўды масавымі антыкамуністычнымі рухамі ў Польшчы, Летуве і Ўкраіне?!

Прыпісваючы нам такія абсурдныя сьцьверджаньні, Ю. Грыбоўскі спрабуе скампраметаваць нас найперш у вачах гісторыкаў суседніх краін.

Наступная выдумка Грыбоўскага, што беларускія партызаны нападалі на… Пінск (б. 523)! Зноў аўтар “уроіў” сабе. Як і атаку атрадаў Перагуда і Харэўскага на Гайнаўку*** (б. 524). Як бачым, Ю. Грыбоўскі вельмі лёгка прыдумляе даты, падзеі, прозьвішчы і называе гэты працэс “выкрыцьцём легендаў і мітаў”. Цікава, праўда?

А вось налёт на Наваградак — гэта “міт”, сьцьвярджае Грыбоўскі

---

*Белорусская центральная рада…

**Тамсама, б. 149.

***Пра налёт на мястэчка згадвае ўдзельнік “Чорнага Ката”, які трапіў на Захад. Паводле яго ўспамінаў, у акцыі ў сакавіку 1949-га ўдзельнічала “аб’яднаная група беларускіх і ўкраінскіх партызанаў”, але ніяк не Перагуда і Харэўскага. Гл.: Вольнае слова, 1950, № 1(10), студзень-люты, б. 3. Зь іншых крыніц пра акцыю нічога невядома.

і спасылаецца на… пашкваль Пачобута (б. 523). Ён нават не згадаў, што існуе згадка пра гэтую акцыю ў выданьні КГБ СССР, пра што мы неаднаразова пісалі. У "вядомых дакумэнтах" Ю. Грыбоўскі пра яе нічога не знайшоў. Спачуваем. І яшчэ раз нагадваем, што арганізацыя "Чорны Кот" была зьвязаная з заходнімі спэцслужбамі, таму барацьба супраць яе найперш была змаганьнем супраць "сеткі амэрыканскай выведкі ў БССР і Польшчы". Дакумэнты дагэтуль засакрэчаныя ня толькі ў Расеі, але і на Захадзе.

Ю. Грыбоўскі піша, што няма ў дакумэнтах згадак пра кантакты польскай і беларускай канспірацыі (б. 523). Трэба шукаць далей, спадар Грыбоўскі. Былыя беларускія партызаны сьцьвярджаюць, што беларускія групы з арганізацыі Вітушкі ў Польшчы выступалі як "польская канспірацыя". Збройныя атрады і групы на Беласточчыне існавалі толькі ў першыя паваенныя гады, далей — толькі збройнае падпольле. Пераважная большасьць людзей былі легалізаваныя, жылі пад іншымі прозьвішчамі (у тым ліку і Міхал Вітушка).

"Слушна заўважае Рафал Унук, што ў гадах 1946-1956 нелегальны пераход мяжы польска-савецкай, польска-нямецкай і нямецка-нямецкай межаваў з цудам", — піша даверлівы Ю. Грыбоўскі (б. 523). Ну якім "цудам"? Так, пераходзіць тую ж мяжу з Польшчай было цяжка, але яе пераходзілі. Рознымі спосабамі. У тым ліку з дапамогай хабару, які давалі памежнікам.* З Польшчы ў 1948 годзе нелегальна сыйшоў у Заходні Бэрлін Міхась Зуй, у 1952-м уцяклі на Захад Петраш і Завадзкі. І гэта не адзінкавыя выпадкі. Дык які "цуд", спадар Грыбоўскі?

Наступная выдумка Грыбоўскага, што мы, нібыта, пісалі пра дапамогу польскага падпольля беларускім партызанам у сыходзе на Захад (б. 523). Насамрэч, мы пісалі пра польскую дапамогу ў легалізацыі ў Польшчы. Заўважаеце розьніцу?

Украінскія крыніцы маўчаць пра дапамогу партызанам Вітушкі ў сыходзе на Захад, сьцьвярджае Ю. Грыбоўскі (б. 523). Па-першае, адносіны беларускіх партызанаў з "бандэраўскай" УПА былі складанымі. Па-другое, шлях быў нязручны, прасьцей было перабрацца на Захад праз Польшчу і Заходні Бэрлін, чым праз Карпаты і Чэхаславаччыну. Аднак вядомыя выпадкі, калі ўкраінцы дапамагалі беларусам, якія ішлі з Захаду ў Беларусь. І пра гэта згадвае ўкраінскі гісторык **Ігар Федзік**. Яшчэ ў 1996 годзе ён надрукаваў артыкул "Ці заўжды маўчалі беларусы?" у лёнданскай газэце "Українська Думка" (1996, 25 студзеня), які перадрукаваў бюлетэнь беларускіх вэтэранаў "Зважай" (1996, № 4(85), чэрвень):

---

*Савецкія памежнікі прапусьцілі нелегалаў у Польшчу за хромавыя боты // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6), б. 160-162.

*“Адзін з беларускіх аддзелаў, што прарваўся з Нямеччыны акружным шляхам, апынуўся ў Карпатах. І тут украінскія паўстанцы дапамаглі беларусам, чым маглі, а пасьля праз Галічыну і Валынь перапраўілі іх у родныя лясы”.*

Пра іншыя падобныя выпадкі мы пісалі на бачынах “БР”*, але Ю. Грыбоўскі гэты артыкул ня згадвае. І мы ўжо ведаем чаму.

Што да сыходу беларускіх партызанаў праз Латвію і Балтыку, у чым таксама сумняецца Ю. Грыбоўскі, дык параім яму пачытаць кнігу расейскіх дасьледчыкаў М. Літвінава і А. Сядунова, напісаную паводле раней сакрэтных дакумэнтаў архіваў ФСБ.** У ёй, між іншым, згадваюцца атрады латышоў, падрыхтаваныя нямецкімі спэцслужбамі, якія пасьля вайны мелі сувязь з амэрыканскай вайсковай выведкай, а пасьля — з ЦРУ. На тэрыторыі Пскоўскай вобласьці Расеі яны існавалі да 1965 (!) году. Паколькі “Чорны Кот” меў такія ж кантакты з амэрыканцамі, дык ня дзіўна, што некаторых беларусаў выводзілі на яўкі ў Латвіі для сыходу на Захад морам.

У адным з інтэрвію Аляксандар Сядуноў гаворыць важныя і актуальныя рэчы, проста спэцыяльна для Ю. Грыбоўскага:

*“Гаварыць, што барацьба ішла з пяцю партызанамі, вядома, няправільна. Гэта былі вялікія злучэньні, якія мелі сваю інфраструктуру, коды сувязі, шыфры. Касьцяк складалі людзі, якія прайшлі адпаведную падрыхтоўку, добра навучаныя нямецкімі спэцслужбамі і спэцыяльна пакінутыя для дэзарганізацыі савецкіх тылоў… Рыхтавалі іх у Абверы, СД, яны ўдзельнічалі ў спэцапэрацыях СС. Пасьля гэтых агентаў спэцыяльна пакінулі тут, а некаторыя былі ўжо закінутыя… Каб весьці падпольную вайну, яны мелі адладжаную структуру, добрую арганізацыю, набор спэцыяльных сродкаў”.****

Аднак, як высьвятляецца, Грыбоўскі перакананы, што змагаліся з “пяцю партызанамі”. Каб зьменшыць значэньне беларускага партызанскага атрада Яна Раманчука, ён піша, што гэта была “3-асабовая група” (б. 539)! Яшчэ летась мы зьвярталі ўвагу на тое, што гэта няпраўда, што ў атрадзе Раманчука за гады дзейнасьці былі некалькі дзясяткаў чалавек.**** Тыя ж чэкісты пішуць, што атрад неаднаразова

---

*Ёрш С. Рэйд праз Карпаты. Пра беларускія атрады, якія з Чэхіі ішлі партызаніць на Радзіму // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9), б. 70-78.

**Литвинов М., Седунов А. Шпионы и диверсанты: Борьба с прибалтийским шпионажем и националистическими бандформированиями на Северо-Западе России. — Псков, 2005.

***Александр Седунов: “Вставать в позу обиженного уже непозволительно” // 2005, 4 ліпеня; http://informpskov.ru/interviews

****Ёрш С. Іван Раманчук — беларускі партызанскі камандзір і кіраўнік “Саюзу змаганьня за незалежнасьць Беларусі” // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 8.

разьбівалі, забівалі ці бралі ў палон партызанаў. А ў 1949 годзе судзілі трох чалавек, уключна з Раманчуком. Але гэта ня значыць, што ў атрадзе было толькі тры чалавекі. Гэта, відавочна, разумее і Грыбоўскі, але для яго важна паказаць мізэрнасьць антысавецкай дзейнасьці беларускіх незалежнікаў.

Юрый Грыбоўскі піша, што група Раманчука за час сваёй дзейнасьці "ліквідавала 7 савецкіх функцыянераў (шэсьць цывільных і аднаго вайсковага)" (б. 539). І спасылаецца ён на кнігу І. Валахановіча. Глядзім тую манаграфію і што бачым? Валахановіч піша, што Раманчук і яго партызаны забілі 2 супрацоўнікаў МГБ (не агентаў, афіцэраў!), 1 байца зьнішчальнай групы, 1 старшыню сельсавета, 1 сакратара сельсавета, 1 дэпутата сельсавета, 1 агента па нарыхтоўках.* Атрымліваецца 7 чалавек, але "шэсьць цывільных" ніяк не выходзіць. Выходзіць, што Ю. Грыбоўскі ўмее "працаваць з лічбамі", а папросту фальсіфікаваць іх. І зноў жа не на карысьць беларусаў.

"Спецыяліст па паваенным супраціве" адзначае, што "вакол Раманчука і яго аддзелу дагэтуль існуе шмат неяснасьцяў" (б. 539). Галоўная неяснасьць, спадар Грыбоўскі, гэта тое, якую ж мэту вы перад сабой паставілі. Для яго зусім зразумела, што гісторыя "Чорнага Ката" — "міт". Але "нельга адмаўляць існаваньня беларускіх антысавецкіх збройных аддзелаў у паваеннай Беларусі" (б. 538). Праўда, піша далей Грыбоўскі, былі яны нешматлікія, нікому не падпарадкоўваліся, ня мелі сувязі з замежнымі беларускімі палітычнымі асяродкамі (б. 539). А беларускія эмігранты былі зацікаўленыя ў падтрыманьні міту пра тое, што мелі такія кантакты (б. 526). Цікава, Юрый Грыбоўскі вывучаў у архівах крымінальныя справы ўдзельнікаў гэтых атрадаў, што робіць такое сьцьверджаньне? Вядома, не. Для яго галоўнае — проста заявіць, галаслоўна, а далей — падхопіць пэўная публіка, якая гэтую лухту будзе тыражаваць. Такая вось схема.

У бібліяграфіі ў сваёй кнізе Ю. Грыбоўскі згадвае публікацыю вядомага беларускага гісторыка Ўладзімера Снапкоўскага** (б. 796), але ў кнізе на яе нідзе не спасылаецца. Гэта ня дзіўна. У той публікацыі чытаем:

*"БНР, як і БЦР, прэтэндавала на падтрыманне эфектыўных кантактаў з падпольнымі групамі на Беларусі, якія працягвалі супраціўленне савецкай уладзе да сярэдзіны 50-х гадоў".****

Неяк сарамліва Ю. Грыбоўскі згадвае пра тое, што ў лютым 1948-га польскія спэцслужбы атрымалі інфармацыю пра дваіх беларускіх

---

*Антисоветское подполье…, б. 39.

**Снапкоўскі Ўл. Беларуская палітычная эміграцыя (1945-1990 гг.) // Полымя, 1997, № 2, б.201-239.

***Тамсама, б. 209.

эмігрантаў-амэрыканскіх агентаў, якія з Заходняй Нямеччыны ішлі праз Польшчу ў БССР, каб дабрацца да “бандаў “Арла” і “Вітушкі” (б. 538). Факт, вядома, у канцэпцыю Грыбоўскага ня ўпісваецца.

Дарэчы, Ю. Грыбоўскі ня згадвае ў сваёй кнізе артыкул дасьледчыцы з Горадні Натальлі Рыбак **“Беларускае антысавецкае падпольле ў заходніх абласьцях БССР у пасляваенныя гады”** (Заходні рэгіён Беларусі вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў: зборнік навук. артыкулаў. — Гродна: ГрДУ, 2006, б. 131-135). Чаму? Таму што Н. Рыбак піша паводле дакумэнтаў з архіву КДБ пра “беларускае нацыяналістычнае падпольле” і тое, што мясцовыя аддзелы МГБ павінны былі дакладаць пра яго дзейнасьць “пазачарговымі паведамленьнямі”. Атрымліваецца, што артыкул ня ўпісваецца ў канцэпцыю Грыбоўскага і ён пра яго маўчыць.

Маўчаньне Ю. Грыбоўскага распаўсюджваецца і на зборнік публікацый, дакумэнтаў, які быў выдадзены у 2009 годзе **сталічным упраўленьнем КДБ.*** А ён якраз распавядае пра барацьбу савецкай дзяржбясьпекі з паваенным “бандытызмам” на тэрыторыі Мінскай вобласьці. Публікацыя зьмяшчае раней невядомыя факты, дакумэнты, якія сьведчаць пра існаваньне беларускага антысавецкага падпольнага і партызанскага руху. Прычым, не стыхійнага, там гаворка ідзе найперш пра арганізаваныя структуры. Пра гэты зборнік Ю. Грыбоўскі ня мог ня ведаць, бо спасылаецца на іншыя публікацыі з нумару “БР”, дзе была зьмешчаная рэцэнзія.** Але Грыбоўскі прамаўчаў і гэта нас ужо даўно не зьдзіўляе. Затое ён усё наракае, што ня можа знайсьці сьлядоў таго ж “Чорнага Ката”. Дык зазірніце, дасьледчык, у гэтае выданьне, яно ж даступнае ў інтэрнэце!

Адзначым яшчэ шэраг хібаў. Ю. Грыбоўскі згадвае выданьне беларускіх партызанаў “Воля” і спасылаецца на кнігу “Беларускі Супраціў” (б. 527). Але там пішацца пра часопіс “За волю”. Ён піша пра Сымона Міхальчука і называе яго… маёрам (б. 533). Прычым, спасылаецца на газэту “Незалежная Беларусь” (1953, № 8). Гэта яшчэ адно сьведчаньне таго, як “своеасабліва” Грыбоўскі працуе з крыніцамі. Згаданы нумар “Незалежнай Беларусі” ён, відаць, ня бачыў. Інакш бы ведаў, што Міхальчук на час сваёй гібелі ў сакавіку 1953-га быў старшым лейтэнантам. Пра гэта дакладна напісана ў нэкралёгу, які мы тут зьмяшчаем.

Камічная сытуацыя. Гаворачы зь недаверам пра дэсанты з Захаду ў Беларусь і Польшчу ў 1949 і 1951 гадах, Юрый Грыбоўскі дае

---

*Погибли на боевом посту (по публикациям пресс-группы. управления КГБ по г. Минску и Минской области) // minsk.gov.by/ru/org/7310/attach/8cf18c8/izd_1.doc

**Ёрш С. “Чэкісты сутыкнуліся з добра арганізаванай вайсковай сілай…” // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 2(9), б. 120-126.



Старшы лейтэнант партызанскіх аддзелаў сябра БВР і ЗБП

**Сьв. Памяці Сымон МІХАЛЬЧУК**

загінуў гэраічнай сьмерцю у барацьбе з бальшавіцкім акупантам Беларусі дня 28. сакавіка 1953 году у лясох каля Запрудаў у раёне Кобрына, у веку 38 гадоў, аб чым з глыбокім сумам і вялікім жалем паведамляем усяму беларускаму грамадзтву, усім сябрам БВР і ЗБП. Няхай яму будзе лёгкай свая родная зямелька...

**Галоўны Штаб БВР**
**Галоўна Управа ЗБП**

спасылку не на кнігу “Беларускі Супраціў”, дзе ўпершыню пра гэта было напісана, а на публікацыю паляка Ўнука ў часопісе “Архэ” (б. 533). Прызнаем, што Ўнук тут ні ў чым невінаваты і Грыбоўскі незаслужана на яго “наехаў”.

Грыбоўскі бярэ пад сумнеў апублікаваны Лявонам Юрэвічам дакумэнт пра “пасланца Вітушкі”, які ў 1954 годзе зьявіўся ў ЗША да беларускага дзеяча Янкі Чарапука-Змагара. Лічыць, што гэта быў савецкі агент (б. 529). Тое, што савецкіх агентаў пасылалі пад выглядам “партызанаў” на Захад, гэта вядома. Але ж не ўсе ўцекачы за “жалезную заслону” былі агентамі. Тым больш, у ЗША патрапіць было няпроста. Грыбоўскі традыцыйна свае высновы нічым неабгрунтоўвае. Разумееце, яму падаецца, што той чалавек быў агентам і ён пра гэта піша. Іншыя перадрукуюць як правераны факт і ўжо спашлюцца на Грыбоўскага.

Яшчэ адзін закід Грыбоўскага ў наш бок: у кнізе “Беларускі супраціў” мы не прыводзім спасылак на архіўныя дакумэнты, калі пішам пра арганізацыю М. Вітушкі, а спасылаемся на ўспаміны былых удзельнікаў “Чорнага Ката”, якія жывуць у Заходняй Эўропе і не называем іх прозьвішчы (б. 521, 522). Гэта так. На жаль, для дасьледчыкаў гэтыя архіўныя матэрыялы недаступныя і ў заходніх архівах (гаворка ідзе пра дзейнасьць заходніх спэцслужбаў і іх агентаў за “жалезнай заслонай”). Тыя ананімныя нашы інфарматары мелі доступ да гэтых матэрыялаў і свае ўспаміны-паведамленьні пісалі на іх аснове. Мы ўсьведамляем, што нашу працу нельга лічыць навуковай. Але час усё расставіць на свае месцы: некалі адкрыюцца архівы і можна будзе спраўдзіць, мелі мы рацыю ці не.

***

Верагодна, Юрый Грыбоўскі пісаў кнігу ў вялікай сьпешцы, пра што сьведчыць шмат недарэчных, а часам і камічных памылак. Ці ж можна без усьмешкі чытаць у кнізе Грыбоўскага пра тое, што палкоўнік абвера Эрвін Штольцэ ў траўні 1945 году патрапіў у… нямецкі палон (б. 83)! Альбо тое, што Янка Жамойцін ачоліў СБМ у Наваградзкай акрузе ў… жніўні 1944 году (б. 161), калі там ужо былі савецкія ўлады!

Пры ўсіх вострых ацэнках з нашага боку некаторых сьцьверджаньняў і інтэрпрэтацыяў аўтара кнігі, замоўчваньня ім важных крыніц і публікацый, выказваем спадзяваньне, што Грыбоўскі ня будзе сьпяшацца




ipn.gov.pl

***Група польскіх гісторыкаў. Ежы Гжыбоўскі сьціпла сядзіць крайні зьлева***

зь яе выданьнем на беларускай мове, а зоймецца дапрацоўкай.* Калі ж яна выйдзе ў Менску ў тым жа выглядзе, што і ў Варшаве — гэта будзе ганьба як для аўтара, так і для выдаўцоў.

У “Заканчэньні” Ю. Грыбоўскі сьціпла піша, што вы, шаноўныя чытачы, можаце палічыць “яго выклад… занадта ідэалістычным”. Але ён стараўся, адрынуў усе “беларускія нацыянальныя міты” (б. 766). Ну вядома, усе “стараньні” відавочныя. І беларускі народ не забудзе тытанічных высілкаў гісторыка Ю. Грыбоўскага.

А яшчэ хочацца спадзявацца, што аўтар цаглiны ў 900 бачын ня будзе надалей пісаць пра беларусаў, як пра туземцаў зь нейкай далёкай краіны, за беды і няшчасьці якіх яму не баліць сэрца. Туземцаў хапае ў іншых кропках сьвету. А пра беларусаў часам няблага пішуць некаторыя польскія гісторыкі: і аб’ектыўна, і не замоўчваюць “нязручных” крыніц.

**Сяргей Ёрш**

---

*Як даведаўся “БР”, цяпер ідзе сьпешны пераклад кнігі Ю. Грыбоўскага на беларускую мову (ён, відаць, ужо піша выключна па-польску).

# КАЦЯРЫНА СТАЎБУНІК — БЕЛАРУСКАЯ ДЗЕЯЧКА З ПРУЖАНШЧЫНЫ

*Трэцяе дзесяцігодзьдзе незалежнасьці Беларусі ўжо ідзе, а мы працягваем адкрываць імёны беларускіх патрыётаў, што дзейнічалі ў 1920-1950-х гадах мінулага стагодзьдзя. Не шараговых, а актывістаў рэгіянальнага маштабу! Ва Ўкраіне, краінах Балтыі такія адкрыцьці — рэдкасьць. У нас жа адбываюцца рэгулярна і будуць адбывацца ў бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі.*

Асобай **Кацярыны Стаўбунік** я зацікавіўся ў пачатку вясны 2011 году. Здаецца, усё пачалося з перачытваньня ўспамінаў-згадак Раісы Жук-Грышкевіч. Пра Стаўбунік яна неаднаразова ў іх пісала. А пасьля ў архіве я сустрэў згадку верагодна пра яе дачку.

Пракансультаваўся наконт асобы Кацярыны Стаўбунік у вядомага краязнаўцы з Маладзечна **Міхася Казлоўскага**. Ён сказаў, што ніхто пра яе адмыслова не пісаў, акрамя Раісы Жук-Грышкевіч. Тады вырашыў скантактавацца з пружанскімі краязнаўцамі: яны ж павінны памятаць пра зямлячку.

27 сакавіка 2011-га патэлефанаваў у Пружаны былому кіраўніку раённага ТБМ **Івану Юльянавічу Здановічу**. Ён аўтар даведніка "Рупліўцы беларускага нацыянальнага адраджэння і яго прыхільнікі з Пружаншчыны".* У інтэрнэце даступная "Кніжка 2-я" гэтага выданьня і там пра Кацярыну Стаўбунік амаль нічога няма...

На жаль, пра Стаўбунік Іван Здановіч практычна нічога ня ведаў. Таму і ў сваёй кніжцы пра яе асобна не пісаў.** Сказаў толькі, што яна пасьля вайны, нібыта, была ў турме. А пра дачку яе ён нічога ня чуў.

Такім чынам, пружанскія краязнаўцы пра Кацярыну Стаўбунік чулі, але яе біяграфічных зьвестак ня ведаюць, матэрыялы пра яе не зьбіралі…

Між іншым, толькі са згадак у розных артыкулах **Раісы Жук-Грышкевіч** можна накідаць біяграму-партрэт беларускай дзеячкі. Было б толькі жаданьне.

На жаль, маючы ліставаньне з Р. Жук-Грышкевіч у 1990-я гады, я

---

*Здановіч І. Рупліўцы беларускага нацыянальнага адраджэння і яго прыхільнікі з Пружаншчыны. Кніжка 2-я. Грамадска-літаратурны даведнік. — Пружаны, 2007, 167 б. Першае выданьне выйшла ў 2003 годзе, у ім было 144 бачыны.

**У кнізе шмат зацемак пра цяперашніх актывістаў-рупліўцаў. Няхай яны не крыўдуюць, але ніхто зь іх ня можа параўнацца з асобай Кацярыны Стаўбунік. І якая несправядлівасьць, што пра яе там толькі кароткая згадка на 54-й бачыне.

нічога ня ведаў пра Кацярыну Стаўбунік, таму і не папрасіў падзяліцца ўспамінамі пра яе. А спадарыня Жук-Грышкевіч нешта даслала пра яе ў рэдакцыю “Нашай нівы” яшчэ ў 1999 годзе. Бо ў рубрыцы “Паштовая скрынка” чытаем: **“Раісе Ж.-Г.** з Бэры. *Ці не маглі б Вы даслаць яшчэ фота спн. Стаўбунік і яе родных?”.** Але ніякай публікацыі адшукаць не ўдалося, магчыма, нешта засталося ў рэдакцыйным архіве?**

Праз год у той жа “НН” у рубрыцы “Пошта рэдакцыі” быў апублікаваны праўдападобна іншы ліст Раісы Жук-Грышкевіч. У ім яна піша пра тое, як называлі ў Пружанах жанчын па прозьвішчу: *“У Пружанах была беларуская дзяячка Кацярына Стаўбунік, якую абсалютна ўсе называлі Стаўбуніха”.****

Яшчэ раней Р. Жук-Грышкевіч сказала колькі цёплых словаў пра К. Стаўбунік у некалькіх кнігах. “Стаўбуніха” прыходзілася ёй “далёкай цёткай”. Сваячкай яна была і для вядомага беларускага дзеяча, паэта Хведара Ільляшэвіча. Вось што ўспамінала Раіса Жук-Грышкевіч: *“Ён наведваў у Пружане цётку Кацярыну Стаўбунік, беларускую дзеячку, якая была рассаднікам беларускай сьведамасьці ў Пружаншчыне, у якой можна было атрымаць усю важнейшую беларускую папулярную літаратуру, што выдавалася ў 20-х і 30-х гадох у Вільні: беларускія календары, розныя часапісы й газэты”.*****

Барыс Рагуля так пераказвае словы Р. Жук-Грышкевіч: *“У Пружанах жыла далёкая цётка, выдатная беларуская дзеячка Кацярына Стаўбунік. Яна была правадніком беларускай нацыянальнай сьведамасьці ў Пружаншчыне ды наагул на Палесьсі”*.*****

Раіса Жук-Грышкевіч і надалей у некаторых сваіх артыкулах/успамінах/інтэрвію згадвала пра Кацярыну Стаўбунік. Але ўсе яны былі прысьвечаныя іншым асобам ці падзеям. Таму мяне зацікавіў тэкст, апублікаваны ў лістападзе 2009-га на сайце zbsb.org і падпісаны **Лідзіяй Савік**. У ім згадваецца, што Р. Жук-Грышкевіч напісала *“ўспаміны пра родную цётку, настаўніцу Кацярыну Стаўбунік”*.****** 28 сакавіка 2011-га тэлефаную Лідзіі Сымонаўне Савік, каб даведацца,

---

*http://www.nn.by/1999/27/22.htm

**Ад шэф-рэдактара “НН” Андрэя Дынька даведаўся, што ўвесь архіў газэты за 1999 год быў перададзены ў Архіў найноўшай гісторыі ды параіў зьвязацца зь яго захавальнікамі. Апошнія паабяцалі пашукаць той ліст (ці лісты).

***http://www.nn.by/2000/46/18.htm

****Жук-Грышкевіч Р. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. — Таронта: Выдавецкі Фонд Успамінаў зь Беларускага Жыцьця, 1993, б. 171.

*****Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. — Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996, б. 154.

******http://zbsb.org/index.php?option=com_content&view=article&catid=21%3A2004&id=2148%3A2009-11-16-13-56-10&Itemid=94



158

Кацярына Стаўбунік

Біяграфічных звестак пра грамадска-культурную і палітычную беларускую дзеячку К.Стаўбунік вядома няшмат. Паводле успамінаў Р.Жук-Грышкевіч, дзяцінства якой было звязана з асобай К.Стаўбунік, гэтая жанчына, у мінулым эсэрка, настаўнічала на Пружаншчыне ў 1920 — 1930-я гады. "Рассаднік беларушчыны" у в. Шакі і Пакуны Пружанскага р-на, яна актыўна распаўсюджвала беларускія часопісы і кнігі, арганізоўвала тэатральныя пастаноўкі з удзелам вядомых артыстаў. "Цётка Стаўбуніха", як яе называлі дзеці, змагалася з польскімі уладамі за тое, каб адчыніць у Пружанах беларускую школу. Кіравала зборам подпісаў пад лістом з патрабаваннем весці царкоўныя службы ў Брэсце на беларускай мове. Высілкі К.Стаўбунік не заўсёды прыносілі плён, бо з-за палітычных поглядаў настаўніцу часта праследвалі. У даваеннай Польшчы яе арыштоўвалі, трымалі ў зняволенні. Між тым шматлікія беларускія школьнікі Пружаншчыны, выхаванцы "цёткі Стаўбунікі", дзякуючы добрай падрыхтоўцы вучыліся у Віленскай беларускай гімназіі, потым — ва універсітэце. Жне-

што гэта за ўспаміны і ці былі яны апублікаваныя. На жаль, яна дакладна ўжо пра гэта не памятала. Параіла пашукаць сваякоў Кацярыны Стаўбунік.

Якраз у тыя дні, пераглядаючы ў сваім архіве папку пра падзеі 1939 году, неспадзявана натрапіў на артыкул пра… Кацярыну Стаўбунік. Ён быў апублікаваны яшчэ ў сакавіку 1997-га ў газэце “Наша слова”!* Але тады на яго я асаблівай увагі не зьвярнуў, зрабіў выразку, паклаў у папку, а з часам і падзабыў пра яе. Аўтаркай той публікацыі была **Сьвятлана Сачанка**. Яна таксама спасылалася на ўспаміны Раісы Жук-Грышкевіч. Паколькі ў артыкуле было шмат дэталяў, якіх не было ў вядомых мне публікацыях Р. Жук-Грышкевіч, можна было б падумаць, што пісаўся ён паводле тых успамінаў, пра якія згадвала Л. Савік.

Да Сьвятланы Сачанкі, хатні нумар якой я атрымаў ад Лідзіі Сымонаўны Савік, удалося датэлефанавацца 3 красавіка 2011 году. Яна прыгадала, што ў 1990-я, калі працавала ў Скарынаўскім цэнтры ў Мінску, рыхтаваўся даведнік пра эмігрантаў. І яна тады пісала пра Стаўбунік, але паводле якіх матэрыялаў, ужо не памятала. Абяцала паглядзець свае папкі.

Да Сьвятланы Сачанкі другі раз я датэлефанаваўся толькі 14 траўня 2011-га. Аказваецца, яна апынулася ў цяжкім матэрыяльным становішчы, накапілася вялікая запазычанасць за “камуналку”, таму яна проста не адказвала на тэлефанаваньні… Папку яна яшчэ не знайшла, але абяцала паглядзець і паведаміць. 27-га траўня Сьвятлана Сачанка патэлефанавала. Яна знайшла два аркушы тэксту, якія пісала для даведніка, што рыхтаваў Адам Мальдзіс. Але чамусьці думала, што пісала яго паводле кнігі “Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча”, а гэта відавочна ня так.

30 траўня мы спаткаліся каля яе дома на вуліцы Пуліхава. Сьвят-

*Сачанка С. Кацярына Стаўбунік — патрыётка Беларусі // Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.

лана Сачанка перадала мне тыя аркушы, зьмест якіх, як аказалася, амаль цалкам адпавядае артыкулу ў "Нашым слове". Крыніцы там пазначаныя не былі, а сама яна іх не памятала. Дапускала, што мог быць ліст Раісы Жук-Грышкевіч з успамінамі пра Кацярыну Стаўбунік. Таксама параіла пашукаць яе сваякоў на Пружаншчыне ("А раптам нашчадкі-сваякі засталіся?").

Тады я ня мог ведаць, што праз два тыдні Сьвятланы Сачанкі (паэткі Сьвятланы Явар) ня стане. Яна памерла 15 чэрвеня 2011 году* на 43-м годзе жыцьця… А падчас той размовы Сьвятлана дзялілася сваімі плянамі. Хацела прадаць кватэру, знайсьці працу, магчыма, нават за мяжой, марыла пра абарону і навуковую ступень… Але атрымалася інакш, так рана абарвалася яе жыцьцё. Сьветлая памяць!

…Працягваючы шукаць сьляды ўспамінаў Раісы Жук-Грышкевіч, 4 чэрвеня 2011 году патэлефанаваў прафэсару **Адаму Мальдзісу**. Ён пацьвердзіў, што той даведнік, для якога пісаўся артыкул Сьвятланай Сачанка, ня быў выдадзены ("не хапіла сілаў на падрыхтоўку"). Адам Іосіфавіч выказаў меркаваньне, што ўспаміны пра Стаўбунік Раіса Жук-Грышкевіч магла даслаць у лісьце. Дзе ж яны цяпер? Трэба шукаць у адным з архіваў, куды было перададзенае ліставаньне. Пры нагодзе паспрабуем гэта зрабіць. Хаця, як казала С. Сачанка, яна пры напісаньні артыкула мусіла выкарыстаць усю наяўную інфармацыю.

Падчас далейшых пошукаў удалося натрапіць на польскамоўны артыкул дасьледчыка Аляксандра Ільіна, прысьвечаны беларускаму дзеячу з Пружаншчыны Піліпу Засіму. У ім згадваецца і Кацярына Стаўбунік, падаюцца даты яе нараджэньня і сьмерці, некаторыя біяграфічныя дадзеныя, рапарт польскай паліцыі пра яе дзейнасьць.** Згадваецца яна і яе супрацоўніцтва з Рыгорам Шырмам і ў яшчэ адной нядаўняй публікацыі.***

Такім чынам, маем дастаткова матэрыялу, каб напісаць пра жыцьцёвы шлях незаслужана забытай беларускай дзеячкі.

***

Кацярына Стаўбунік нарадзілася ў 1886 годзе.**** Месца яе нараджэньня пакуль невядомае. Яна была ўдавой афіцэра царскага войска, мела траіх дзяцей — Ларысу, Тацьцяну і Вячаслава.***** Можна

---

*Памерла паэтка Сьвятлана Явар // Радыё Свабода, 2011, 15 чэрвеня; http://www.svaboda.org/content/article/24237265.html

**Iljin A. Filip Zasim // Echa Polesia, 2006, № 4 (12), s. 46.

***Днепровский Е. Красный псаломщик // Гістарычная брама, 2010, № 1 (25); http://brama.brestregion.com/nomer25/artic16.shtml

****Echa Polesia, 2006, № 4 (12), s. 46.

*****Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.

дапусьціць, што муж К. Стаўбунік загінуў падчас Першай сусьветнай вайны. Ці знаходзілася яна з дзецьмі ў бежанстве ў Расеі, невядома. Паводле адукацыі Кацярына Стаўбунік была настаўніцай і працавала па спэцыяльнасьці яшчэ пры царскіх уладах.*

Падчас Першай сусьветнай вайны ў 1915-1918 гг. пад нямецкай акупацыяй на Пружаншчыне не было створана беларускіх школаў. Хаця ў паўночных і паўночна-заходніх раёнах генэральнай акругі "Беласток — Горадня" яны існавалі. Не было іх створана ў Пружанах і навакольлі і ў наступныя гады — аж да 1939-га.** Але гэта ня значыць, што іх адкрыцьця не дамагаліся мясцовыя актывісты. Як піша паводле ўспамінаў Р. Жук-Грышкевіч Сьвятлана Сачанка, Стаўбунік "змагалася з польскімі ўладамі за тое, каб адкрыць у Пружанах беларускую школу".***

Не была беларуская дзеячка ў баку і ад палітычнай дзейнасьці. Яна, нібыта, належала да партыі эсэраў.**** Найхутчэй гаворка ідзе пра Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, а не пра расійскую. І калі ў 1920-1922 гадах Кацярына Стаўбунік жыла на Пружаншчыне, то яна магла мець дачыненьне да антыпольскай кансьпірацыі, створанай найперш эсэрамі. Але наўрад ці яна адыгрывала значную ролю — на яе руках былі трое малых дзетак.

Кацярына Стаўбунік працавала настаўніцай у польскай школе.***** Верагодна, непрацяглы час. За беларускую дзейнасьць яе неаднаразова арыштоўвалі, трымалі ў зьняволеньні.****** Такі "нелаяльны" да польскай ўлады чалавек ня меў шанцаў навучаць дзяцей. Добры знаёмы К. Стаўбунік Рыгор Шырма вярнуўся на Пружаншчыну ў 1922 годзе, адмовіўся запісацца палякам і яму забаранілі займацца настаўніцкай працай. Шырме ўдалося ўладкавацца рэгентам хору пружанскага Аляксандра-Неўскага сабору, а праз некалькі гадоў пераехаць у Вільню.*******

Як сьведчыць Р. Жук-Грышкевіч, *"настаўніца жыла сьціпла", "сям'я кармілася пераважна з агарода, што быў каля вясковай хаты"*.******** Дарэчы, вядомы дакладны яе адрас на 1929 год: **вуліца Будкевіча, 16**.********* Пружанскія краязнаўцы маглі б даведацца, ці захаваўся

*Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.
**Ляхоўскі Ул. Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі (1915 — 1918 г.). — Вільня: Інстытут беларусістыкі, Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2010, б. 134.
***Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.
****Тамсама.
*****Echa Polesia, 2006, № 4 (12), s. 46.
******Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.
*******20 студзеня — 120 год з дня нараджэння Рыгора Шырмы // http://pruzhany.net/2012/01/20/20-studzenya-120-god-z-dnya-naradzhyennya-rygora-shyrmy.html
********Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.
*********Гістарычная брама, 2010, № 1 (25); http://brama.brestregion.com/nomer25/artic16.shtml

той дом ды пашукаць старажылаў, якія памятаюць сваю суседку.

Мы ўжо прыводзілі ўспаміны Раісы Жук-Грышкевіч пра тое, што Кацярына Стаўбунік была распаўсюдніцай беларускай віленскай прэсы і літаратуры ня толькі на Пружаншчыне, але і ў іншых раёнах (на Кобрыншчыне і Піншчыне).* Значэньне гэтай працы ў той час было вялізнае. За адсутнасьцю беларускіх школаў моладзь магла толькі па гэтых выданьнях навучацца літаратурнай беларускай мове. Як успамінаў Аляксандар Засім, *“за першае паўгоддзе па беларускай мове* [ў Віленскай беларускай гімназіі ён] *меў двойку*”.** Раіса Жук-Грышкевіч прыгадвала: *“Бацька ня меў асьветы, але разумеў ейнае значэньне і стараўся за ўсякую цану даць яе дзецям. Беларуская нацыянальная сьведамасьць прыйшла ў сям’ю празь Вільню… Асабліва беларускія календары былі для мяне ўнівэрсытэтам беларушчыны, а прафэсарам гэтага ўнівэрсытэту быў мой тата Мікола, які чытаў нам уголас усе календары — кніжкі й насьценныя адрыўныя — ад дошкі да дошкі. Мы, дзеці, хадзілі ў польскія школы, і я не магла чытаць кірыліцай. Верш Янкі Купалы „Ворагам беларушчыны” мне так падабаўся, што я захацела вывучыць яго напамяць, і па ім стала вучыцца чытаць кірыліцай”*.***

Верагодна, распаўсюд беларускай прэсы прыносіў Кацярыне Стаўбунік нямала праблемаў. І гэта нягледзячы на тое, што прэса была легальная! Вядома, што толькі за падпіску на віленскі маладзёжны часопіс “Шлях моладзі” паліцыя складала пратакол.****

Кацярына Стаўбунік ня толькі распаўсюджвала беларускія газэты, часопісы, кнігі, самае галоўнае — яна думала пра будучыню. А таму агітавала сялянаў адпраўляць сваіх дзяцей у беларускія гімназіі, спачатку ў Клецк і Вільню, а пасьля закрыцьця першай толькі ў Віленскую

---

*Жук-Грышкевіч Р. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. — Таронта: Выдавецкі Фонд Успамінаў зь Беларускага Жыцьця, 1993, б. 171; Рагуля Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. — Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996, б. 154; Жук-Грышкевіч Р. Слоўнік, зроблены на энтузіязме. На 90-я ўгодкі ад нараджэньня і 2-я ад сьмерці Валянтыны Жукоўскай-Пашкевіч (1916 — 2004) // Беларус, 2008, № 542, сакавік.

**Гетман І. “Школа як школа”: віленская беларуская гімназія вачыма сваіх вучняў // Восень 1939 года ў гістарычным лёсе Беларусі: матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 24 верасня 2009 г.). — Мінск: Беларуская навука, 2010, б. 90.

*** Беларускае студэнцтва на чужыне, б. 154.

****Крывуць В. Нацыянальныя маладзёжныя арганізацыі і польскія ўлады на тэрыторыі Заходняй Беларусі (1926 — 1939 гг.) // Восень 1939 года ў гістарычным лёсе Беларусі: матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 24 верасня 2009 г.). — Мінск: Беларуская навука, 2010, б. 131.

беларускую гімназію (нагадаем, што на Пружаншчыне беларускіх школаў не было).

Аляксандар Ільін цытуе рапарт польскай паліцыі ад лютага 1938 году. У ім адзначаецца роля Кацярыны Стаўбунік у пашырэньні сярод сялян Пружанскай і суседніх гмінаў беларускай нацыянальнай сьведамасьці. Яна разам з Рыгорам Шырмам мелі *"вельмі шырокія сувязі з жыхарамі навакольных вёсак, якія знаходзіліся пад іх уплывам, рэкамэндавалі навучаньне дзяцей у беларускай гімназіі ў Вільні"*. Польская паліцыя меркавала, што менавіта актыўная дзейнасьць Кацярыны Стаўбунік была прычынай *"адносна вялікай колькасьці дзяцей з тых ваколіц, якія навучаліся ў беларускай гімназіі ў Вільні"*.*

Нам вядомыя ўспаміны двох былых гімназістаў-вяскоўцаў з Пружаншчыны Аляксандра Засіма і Мікалая Шопіка. На жаль, пра К. Стаўбунік яны не ўспамінаюць. Першы адзначае ролю Р. Шырмы, які яго з'агітаваў, дапамог падрыхтавацца да паступленьня, а пасьля ў 1927 годзе забраў з сабой у Вільню. Другі адзначае ролю знаёмых хлопцаў з Пружаншчыны, якія ўжо вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі і прапанавалі яму: "Слухай, едзь да нас у Вільню!". І ён паехаў, удала здаў іспыты.**

Раіса Жук-Грышкевіч сьведчыць, што падрыхтоўкай моладзі да паступленьня ў Віленскую беларускую гімназію займалася і Кацярына Стаўбунік. Яна называе гэтых хлопцаў і дзяўчат "выхаванцамі "цёткі Стаўбуніхі".***

Польскія ўлады з трывогай назіралі за "беларусізацыяй" Пружаншчыны. Дырэктар адной са школаў пісаў пружанскаму школьнаму інспэктару, што мясцовая моладзь, якая вучыцца ў Вільні, прывозіць адтуль беларускія "нацыяналістычна-камуністычныя" газэты і часопісы (найбольш папулярным быў беларускі маладзёжны часопіс "Шлях моладзі"): *"Гэтая прэса пападае ў рукі старэйшай моладзі, што перашкаджае правядзеньню выхаваўчай і навучальнай працы ў школе"*. Ён папярэджвае пра небясьпеку, што *"мясцовая тэрыторыя, якая ніколі не была беларускай, а мусіць і павінна стаць польскай, "збеларусізуецца"*.****

Можна дзівіцца энэргіі Кацярыны Стаўбунік. Яе дзейнасьць была разнастайнай. Ёсьць зьвесткі, што Стаўбунік арганізоўвала на Пру-

---

*Echa Polesia, 2006, № 4 (12), s. 46.
**"Школа як школа": віленская беларуская гімназія вачыма сваіх вучняў..., б. 90.
***Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.
****Нацыянальныя маладзёжныя арганізацыі і польскія ўлады на тэрыторыі Заходняй Беларусі (1926 — 1939 гг.)..., б. 131.

жаншчыне тэатральныя пастаноўкі *“з удзелам вядомых артыстаў”*.* Таксама яна зьбірала подпісы пад лістом з патрабаваньнем весьці праваслаўныя царкоўныя службы ў Берасьці на беларускай мове.** Безумоўна, у гэтым пытаньні бяз удзелу Рыгора Шырмы не абышлося.

Вядома, што К. Стаўбунік мела шырокія сувязі. Яе ведалі ў Вільні ў рэдакцыях беларускіх пэрыёдыкаў, у беларускай гімназіі, у беларускіх арганізацыях. Польская паліцыя адзначала яе гэтыя сталыя сувязі, кантакты з беларускімі пасламі польскага Сейму.*** За хатай Стаўбунік і яе гасьцямі сачылі паліцыйныя агенты.

У сьнежні 1929 году ў Пружаны зь Вільні прыехаў Рыгор Шырма. Прыехаў разам з дачкой Кацярыны Стаўбунік, верагодна, з Ларысай. Стаўбунік сустрэла іх на аўтобуснай станцыі і яны разам пайшлі ў яе хату. А за імі пільна сачылі паліцыйныя агенты. Праз некалькі гадзінаў Шырма пайшоў у сваю вёску Шакуны, дзе жыла сям’я. А паліцыянты тым часам занатавалі прозьвішчы ўсіх, хто заходзіў да К. Стаўбунік у час знаходжаньня ў яе госьця зь Вільні. Аднаго зь іх пасьля выхаду з дома нават затрымалі і абшукалі, але нічога падазронага не знайшлі.****

Усе дзеці Кацярыны Стаўбунік навучаліся ў Віленскай беларускай гімназіі (“выяўлялі здольнасці да навукі”).****** Ларыса і Вячаслаў пасьля яе заканчэньня засталіся ў Вільні, паступілі ва унівэрсытэт імя С. Батуры. А вось пра Тацьцяну ніякіх зьвестак няма. Пра сына Кацярыны Стаўбунік ужо на эміграцыі ўспамінаў беларускі дзеяч Аляксей Васіленя. Ён згадваў як у канцы 1920-х дырэктар Віленскай беларускай гімназіі Р. Астроўскі выдаваў польскай паліцыі вучняў-камсамольцаў: *“сярод іх быў 14-гадовы худзенькі Стаўбунік. Той Стаўбунік, сын хворае ўдавы з Пружан, які з адчаем крыкнуў у вочы Астроўскаму: “Вы… пане дырэктар, здраднік!”* Думаю, што пан Астроўскі памятае Стаўбуніка!?”******

Верагодна, тады Вячаслаў Стаўбунік быў выключаны з гімназіі. Бо скончыў ён яе (аднаўляўся ці здаваў іспыты экстэрнам) толькі ў 1937 годзе, ужо пры іншым дырэктары. Пра гэта сьведчыць фотаздымак “Віленская беларуская гімназія. Матура X. Год 1936-37”. Лёс Вячаслава Стаўбуніка быў трагічны. Ён памёр у 1938 годзе і быў пахаваны на

---

*Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.
**Тамсама.
***Echa Polesia, 2006, № 4 (12), s. 46.
****Гістарычная брама, 2010, № 1 (25); http://brama.brestregion.com/nomer25/artic16.shtml
*****Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.
******Васіленя А. Ліст у Рэдакцыю // Бацькаўшчына (Мюнхэн), 1960, № 43, 30 кастрычніка.




Еўфрасіньнеўскіх могілках у Вільні. У той час Вячаслаў быў студэнтам, але на якім факультэце навучаўся, невядома.*

У верасьні 1939-га выбухнула Другая сусьветная вайна. На Пружаншчыну рваліся немцы, а ў выніку яе занялі бальшавікі. Раіса Жук-Грышкевіч сьведчыць, што жыхары Пружанаў сустракалі Чырвоную Армію з чырвонымі і бела-чырвона-белымі сьцягамі. І што адбылося гэта дзякуючы Кацярыне Стаўбунік і яе шматгадовай культурна-асьветніцкай працы.** Пра гэта ж сьведчыць яшчэ адна крыніца. І. Гетман піша, што сьцягі былі ў галаве калоны пружанцаў. Прычым, бела-чырвона-белы сьцяг несьлі вучні польскай гімназіі імя Адама Міцкевіча.***

Кацярына Стаўбунік, як самая вядомая беларуская дзеячка ў Пружанах, якая цярпела перасьлед з боку польскіх уладаў, на кароткі час ачоліла пры савецкай вайсковай уладзе мясцовы “камітэт”.****

*Савицкий Л. Православное кладбище гор. Вильно. — Вильно, 1938; http://forum.vgd.ru/347/25495/10.htm; http://www.vilnius.skynet.lt/S.html

**Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.

***“Школа як школа”: віленская беларуская гімназія вачыма сваіх вучняў..., б. 93-94.

****Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.

Падобныя органы часовай улады ўзьнікалі ў верасьні 1939-га ў многіх раёнах Заходняй Беларусі і дзейнічалі аж пакуль не прыяжджалі партыйцы і чыноўнікі з БССР ды не ўтваралі савецкую адміністрацыю. Раіса Жук-Грышкевіч сьведчыць, што Кацярына Стаўбунік была таленавітай прамоўцай. Яе зьбіраліся вылучыць дэлегатам на зьезд Заходняй Беларусі ў Беластоку. Аднак у апошні момант НКГБ раскапала "эсэраўскае" мінулае Стаўбунік і яе кандыдатуру зьнялі, на зьезд паехаў іншы чалавек.*

У такой сытуацыі адзінае, на што яна магла спадзявацца — гэта на атрыманьне дазволу працаваць настаўніцай у беларускіх школах, што восеньню 1939-га ствараліся на Пружаншчыне. Але яшчэ раней, у верасьні 1939-га, Кацярына Стаўбунік у чарговы раз прадэманстравала свае здольнасьці добрага арганізатара і прадбачлівага палітыка. У час безуладзьдзя, калі зьнікла польская ўлада, а савецкая толькі пачала арганізоўвацца, Стаўбунік кінула ўсе сілы на арганізацыю беларускага школьніцтва. Для гэтага быў спрыяльны час. Іншай беларускай дзейнасьці не дазволілі б бальшавікі, а гэта тады было можна.

Вось што ўспаміная Раіса Жук-Грышкевіч: "*…Увосень* [1939-га], *калі беларускім студэнтам прыйшоў час ехаць ва ўнівэрсытэт на навуку, Кацярына Стаўбунік… сабрала нас усіх беларускіх студэнтаў з Пружаншчыны і сказала: "Дзеці, цяпер ня час на навуку. Усім вам трэба ісьці ў школы выкладаць беларускую мову. Інакш, у школах Пружаншчыны беларускае мовы ня будзе". І так па адным беларускім студэнце зь Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні Кацярына Стаўбунік паслала ў школы Пружаншчыны выкладаць беларускую мову. Валентыну Жукоўскую, як найвыдатнейшую, накіравалі ў былую польскую гімназію імя Адама Міцкевіча. Так ёй давялося выкладаць беларускую мову ў гімназіі, у якой раней вучылася…"*.**

У іншай публікацыі Р. Жук-Грышкевіч дадае: *"І так Вялянціне Жукоўскай давялося быць выкладчыцай беларускай мовы й літаратуры ў гімназіі, дзе яна раней сама вучылася. Апрача працы ў сярэдняй школе яна была выкладчыцай беларускае мовы й на курсе для настаўнікаў — колішніх сваіх прафэсароў. І тут яна пераканалася, як бясцэннымі аказаліся ёй студыі на філялягічным факультэце грэкі й лаціны"*.***

У адным з інтэрв'ю пра гэты важны эпізод Р. Жук-Грышкевіч распавядала так: "Кацярына Стаўбунік, беларуская дзяячка, сабрала ўсіх нас і кажа: *"Дзеці, цяпер не час на навуку. Кожны з вас павінен ісьці ў*

---

*Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.

**Беларус, 2008, № 542, сакавік.

***Жук-Грышкевіч Р. Сьв. Памяці Валянціна Пашкевіч (05.02.1916 — 25.03.2004) // Беларус, 2004, № 496, травень.

*школы і выкладаць беларускую мову, інакш у школах Пружаншчыны беларускай мовы не будзе. І мы усе пайшлі.*

*Маю сястру яна паслала ў гімназію, а мяне ў пачатковую школу, пасьля мяне перавялі ў Смаляніцу. Туды была накіраваная і Ніна Ляўковіч, пазьней — жонка Міколы Абрамчыка — прэзыдэнта БНР.*

*І ў нас была пэрфэктная беларуская школа. Праз год ці два прыслалі новага дырэктара зь Менску і той пачаў па-расейску".**

А вось што дадае да тых падзеяў Барыс Рагуля: *"Раіса працавала спачатку ў пачатковай школе вёскі Дзярэчына, а пасьля — Смаляніцы. Туды накіравалі і Ніну Ляўковіч, беларускую віленскую студэнтку зь вёскі Шанёў. Удваёх вялі школу, якая была сапраўднай беларускай. Толькі як прадмет выкладалася ў ёй расейская мова. Праз год прыслалі зь Менску кіраўніка школы, які гаварыў толькі па-расейску, панавыпісваў расейскіх часапісаў (маладыя настаўніцы выпісвалі толькі беларускія). Вучні-ж і іхнія бацькі і надалей гаварылі толькі па-беларуску".***

Дзе была і што рабіла Кацярына Стаўбунік падчас нямецкай акупацыі? На жаль, дакладнай інфармацыі на гэты конт няма. Адзіная згадка — успаміны пісьменьніка Масея Сяднёва. Ад кастрычніка 1943 году ён жыў у Беластоку, супрацоўнічаў з беларускай газэтай "Новая дарога", пасябраваў з паэтам і беларускім дзеячом Хведарам Ільляшэвічам. Апошні яго і пазнаёміў зь нейкай Ляляй Стаўбунік. Вось што піша Сяднёў: *"Прадуктаў на маю польскую харчкартку давалі мала, а да нямецкай не заслужыўся. Толькі перад самым канцом, калі я мусіў пакідаць Беласток* [летам 1944-га], ***Ляля Стаўбунік***, *высокаадукаваная, інтэлігентная асоба, што працавала недзе ў "вышэйшых" немцаў, дамаглася для мяне, "партызана", нямецкай карткі. Ейны "шэф", казала яна, дзівіўся, як гэта Weissruthenische Dichter сядзеў дасюль на польскай картцы. […] У Лялі Стаўбунік мне з Ільляшэвічам давялося пабываць у гасцях. Жыла яна адна з маці у нейкай маленькай, цеснай кватэры. Расказвала мне пра Максіма Танка, творчасць якога высока цаніла. Паказвала ягоны зборнік "На этапах" са слядамі польскай цэнзуры".****

Вельмі вялікая верагоднасьць, што гаворка ідзе пра Ларысу Стаўбунік (Стаўбунічанку), якая ў 1930-х вучылася ў Віленскім унівэрсытэце. У сакавіку 1933 году яна стала сяброўкай "Таварыства прыяцеляў беларусаведы"****, якое, між іншым, ладзіла і сустрэчы з беларускімі

---

*Сурмач Г. Да юбілею вядомай беларускай дзяячкі на эміграцыі Раісы Жук-Грышкевіч // Радыё Свабода, 2004, 28 кастрычніка; http://www.svaboda.org/content/article/788065.html

**Беларускае студэнцтва на чужыне, б. 154-155.

***Сяднёў М. Масеева кніга: Успаміны, старонкі дзённіка, эсэ. — Мінск: "Мастацкая літаратура", 1994, б. 284-285.

****Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 3, в. 1, спр. 25, арк. 32.


“Ніва” (Беласток)

***Хор пры “Беларускім аб’яднаньні” ў Беластоку. Магчыма, сярод яго ўдзельніц ёсьць і Ларыса Стаўбунік?***

паэтамі. Падчас адной зь іх Ларыса і магла пазнаёміцца з М. Танкам.

Для нас важная згадка пра маці “Лялі” (Ларысы) Стаўбунік, якая жыла разам зь ёй у Беластоку ў 1943-1944 гг. Калі яны маглі туды пераехаць з Пружанаў? Найхутчэй яшчэ на пачатку нямецкай акупацыі — у канцы 1941-га ці ў пачатку 1942 году. І выцягнуў іх туды верагодна Хв. Ільляшэвіч, дзеяч “Беларускага аб’яднаньня”. Яму былі патрэбныя надзейныя “беларускія кадры”. А ў Пружанах працы не было (а беспрацоўную моладзь вывозілі ў Нямеччыну, як гэта здарылася з Раісай і Валянцінай Жукоўскімі) — беларуская школа адчынілася толькі ўвосені 1943-га, а Пружанскі аддзел “Беларускага аб’яднаньня” арганізаваўся летам таго году. Нікога са Стаўбунікаў у ліку яго сяброў не было.*

Ларыса Стаўбунік летам 1944-га верагодна выехала ў Нямеччыну. Бо М. Сяднёў піша: *“…Ляля Стаўбунік, паводле чутак, загінула недзе ў Нямеччыне пад час бамбардзіроўкі”*.** Няма ніякіх зьвестак, ці магла выехаць у Нямеччыну 58-гадовая Кацярына Стаўбунік. Магчыма, яна засталася на месцы ды вярнулася ў Пружаны. Неўзабаве яе арыштавалі савецкія карныя органы. К. Стаўбунік была асуджаная, ці за свой “беларускі нацыяналізм”, ці за “супрацоўніцтва зь нямецкімі акупантамі”. Колькі яна знаходзілася ў зьняволеньні, пакуль нам невядома. Пасьля вызваленьня яна ўжо нядоўга пражыла. Паводле зьвестак Р. Жук-Грышкевіч, а таксама А. Ільіна, Кацярына Стаўбунік памерла ў 1957 годзе.***

---

*Жывіца Ю. Маё паходжаньне // http://kamunikat.fontel.net/www/knizki/historia/jurevicz/memuarystyka/13.htm

**Масеева кніга…, б. 290. Ад сябе заўважым, што падобныя чуткі ў канцы вайны часам запускалі сярод беларусаў тыя дзеячы, якія рыхтаваліся да канспірацыйнага вяртаньня на Бацькаўшчыну ў структуры беларускага антысавецкага Супраціву. Будзем спадзявацца, што ў будучыні ўдасца адшукаць больш пэўныя дадзеныя пра лёс Ларысы.

***Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча, б. 171; Echa Polesia, 2006, № 4 (12), s. 48.

Нават ня трэба сумнявацца, што ў будучыні імя Кацярыны Стаўбунік будзе належным чынам ушанаванае ў Пружанах і на Пружаншчыне. Яе імя будуць насіць вуліцы і школы. А 1 верасьня першакласьнікам настаўнікі распавядуць пра легендарную Стаўбуніху, пра яе ахвярную працу дзеля Беларусі, дзеля будучыні беларускага народу.

**Сяргей Ёрш**

***

Для складальнікаў разнастайных даведнікаў ды для пружанскіх краязнаўцаў прапануем наступную біяграму:

**Кацярына СТАЎБУНІК** (1886 — 1957) — беларуская грамадзка-культурніцкая дзеячка, настаўніца. Жыхарка горада Пружаны. Працавала настаўніцай яшчэ пры царскай уладзе, а пасьля — пры польскай. Удава вайскоўца рускай арміі. Верагодна была ў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У 1920-1930-я гады — актывістка беларускіх грамадзка-палітычных і асьветніцкіх арганізацый на Пружаншчыне. Распаўсюджвала беларускую прэсу і кнігі, дамагалася ад польскіх уладаў дазволу на стварэньне беларускай школы ў Пружанах, агітавала моладзь паступаць у беларускія гімназіі. Неаднаразова арыштоўвалася за сваю асьветніцкую дзейнасьць, была пад сталым наглядам польскай паліцыі. У верасьні 1939 году ачоліла на кароткі час у Пружанах пры савецкай вайсковай уладе мясцовы “камітэт”, арганізоўвала беларускае школьніцтва. Падчас нямецкай акупацыі жыла ў Беластоку. У 1944-1945 гг. рэпрэсаваная савецкімі ўладамі. Пасьля адбыцьця тэрміну зьняволеньня вярнулася на Пружаншчыну, дзе неўзабаве і памерла.

# КАЦЯРЫНА СТАЎБУНІК — ПАТРЫЁТКА БЕЛАРУСІ

Біяграфічных звестак пра грамадска-культурную і палітычную беларускую дзяячку К. Стаўбунік вядома няшмат. Паводле ўспамінаў Р. Жук-Грышкевіч, дзяцінства якой было звязанае з асобай К. Стаўбунік, гэтая жанчына, у мінулым эсэрка, настаўнічала на Пружаншчыне ў 1920-1930-я гады. “Рассаднік беларушчыны” ў в. Шані і Шакуны Пружынскага р-на, яна актыўна распаўсюджвала беларускія часопісы і кнігі, арганізоўвала тэатральныя пастаноўкі з удзелам вядомых артыстаў. “Цётка Стаўбуніха”, як яе называлі дзеці, змагалася з польскімі ўладамі за тое, каб адкрыць у Пружанах беларускую школу. Кіравала зборам подпісаў пад лістом з патрабаваннем весці царкоў-



Згадкі

**Кацярына Стаўбунік — патрыётка Беларусі**

Біяграфічных звестак пра грамадска-культурную і палітычную беларускую дзяячку К.Стаўбунік вядома няшмат. Паводле ўспамінаў Р.Жук-Грышкевіч, дзяцінства якой было звязанае з асобай К.Стаўбунік, гэтая жанчына, у мінулым эсэрка, настаўнічала на Пружаншчыне ў 1920 — 1930-я гады. "Расаднік беларушчыны" ў в.Шакі і Шакуны Пружанскага р-на, яна актыўна распаўсюджвала беларускія часопісы і кнігі, арганізо-

ныя службы ў Бярэсці на беларускай мове. Высілкі К. Стаўбунік не заўсёды прыносілі плён, бо з-за палітычных поглядаў настаўніцу перарасследавалі. У даваеннай Польшчы яе арыштоўвалі, трымалі ў зняволенні. Між тым, шматлікія беларускія школьнікі Пружаншчыны, выхаванцы “цёткі Стаўбуніхі” дзякуючы добрай падрыхтоўцы вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі, потым — ва універсітэце. Некаторыя з іх уступілі ў Вільні ў Беларускі студэнцкі саюз.

Пасля з’яднання Заходняй Беларусі з Беларуссю савецкай К. Стаўбунік працягвала як культурна-асветніцкую, так і грамадска-палітычную дзейнасць, па-ранейшаму абуджаючы нацыянальную самасвядомасць свайго народа. Дзякуючы настаўніцы мясцовыя жыхары сустракалі Чырвоную Армію з гістарычнымі бел-чырвона-белымі сцягамі. Калі ў Пружанах пасля прыходу бальшавікоў усталявалася часовая вайсковая ўлада, К. Стаўбунік узначаліла мясцовы камітэт (адміністрацыйную адзінку). Як таленавітая прамоўца была вылучаная дэлегатам на з’езд прадстаўнікоў Заходняй Беларусі, які вырашаў пытанне аб добраахвотным далучэнні да БССР. Аднак з-за ранейшай належнасці К. Стаўбунік да партыі эсэраў кандыдатуру ў апошні момант знялі: на з’езд паехаў іншы чалавек. Пры савецкай уладзе настаўніца была незаконна рэпрэсаваная, пасля Вялікай Айчыннай вайны некалькі гадоў правяла ў турме. У 1957 г. К. Стаўбунік памерла.

У час працы на Пружаншчыне, паводле сведчання Р. Жук-Грышкевіч, настаўніца жыла сціпла. Удава афіцэра царскага войска, яна мела траіх дзяцей: Ларысу, Таццяну, Вячаслава. Сям’я кармілася пераважна з агарода, што быў каля вясковай хаты К. Стаўбунік. Дзеці выяўлялі здольнасці да навукі, усе вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі. Прыязджаючы ў родныя Пружаны на летнія канікулы, яны сустракаліся з Р. Жук-Грышкевіч, яе сястрой Валянцінай (будучай аўтаркай англамоўнага падручніка “Беларуская мова” В. Пашкевіч). Са знаёмства, праз прыезджых, з беларускай літаратурай (зборнікам М. Танка “На этапах”, паэмай Я. Купалы “Курган”) пачалася цікавасць сям’і, у якой гадавалася Р. Жук-Грышкевіч, да нацыянальнай дзейнасці. Пад значным уплывам К. Стаўбунік Р. Жук-Грышкевіч, што разам з сястрой Валянцінай скончыла Віленскі універсітэт, пэўны час таксама настаўнічала на Пружаншчыне. Родныя, сваякі Р. Жук-Грышкевіч гэтак жа, як і блізкія К. Стаўбунік, пры саветах поўнай мерай зведалі ўціск

таталітарнай сістэмы. У выніку рэпрэсій Р. Жук-Грышкевіч страціла роднага брата і двух дзядзькоў.

Былыя вучні К. Стаўбунік назаўсёды захаваюць удзячнасць да сваёй незвычайнай настаўніцы — патрыёткі, барацьбіта.

**Святлана Сачанка**

*Наша слова, 1997, 20-26 сакавіка, № 12.*

# КАНСТАНЦІН ЮХНЕВІЧ

Летам 2012-га зьявіўся цікавы артыкул пра беларускага дзяяча **Канстанціна Юхневіча** (1896 — 1971).* Ён быў паслом у польскім Сейме, актывістам шэрагу палітычных арганізацый у Заходняй Беларусі. І дзіўна, што дагэтуль на яго асобу не зьярталі ўвагі дасьледчыкі. А калі і згадвалі пра яго, дык з памылкамі.**




У іншых можна пабачыць інфармацыю, што Юхневіч пасьля савецкіх канцлягераў жыў у Слоніме.***

Гэта пасьля падхапілі некаторыя беларускія дасьледчыкі.

Упершыню пра Канстанціна Юхневіча давялося прачытаць у пачатку 1992 году. Тады артыкул напісаў мастак Алесь Мемус****, які на браслаўскіх могілках натрапіў на магілу Юхневіча і быў уражаны беларускамоўным надпісам. Але публікацыя гэтая хутка забылася. Таму ня дзіўна, калі гісторык Аляксандар Пашкевіч у часопісе “Архэ”, шэрагу кніг неаднаразова ў камэнтарах да розных матэрыялаў пісаў, што Канстанцін Юхневіч пасьля савецкіх канцлягераў жыў у Слоніме.*****

---

*Лескець Сяргей. Забытая постаць Кастуся Юхневіча // 2012, 31 ліпеня; http://kraj.by/belarus/blog/leskiec/zabitaya-postats-kastusya-yuhnevicha/

**Найперш гэта датычыць згадак пра К. Юхневіча ў польскіх крыніцах. У адных сьцьярджаецца, што ён памёр у канцлягеры ў Рэспубліцы Комі і нават называецца дакладная дата — 17 верасьня 1941 году. Гл.: http://pl.wikipedia.org/wiki/Konstanty_Juchniewicz

***http://pl.wikipedia.org/wiki/Kastu%C5%9B_Juchniewicz

****Мемус А. Ці прымае зямля беларуса? // Наша слова, 1992, 26 лютага, № 8.

*****Апошняя згадка пра гэта зьявілася ў наступным выданьні: Стагановіч А. Успаміны пасла. — Мінск: “Лімарыус”, 2011, б. 194. Безумоўна, трэба яшчэ высьветліць, ці жыў К. Юхневіч пасьля вяртаньня з канцлягераў на Браслаўшчыне, ці ў іншым раёне, а ў Браславе быў толькі пахаваны, каля магілы жонкі і дачкі.




У гэтым нумары “БР” мы зьмяшчаем некалькі публікацый пра Канстанціна Юхневіча. Спадзяемся, далейшыя архіўныя пошукі дапамогуць напісаць яго грунтоўную біяграфію, даведацца абставіны гібелі, а таксама адшукаць ягоных нашчадкаў. Але пачнем з біяграмы, падрыхтаванай паводле даступных нам крыніц:

**ЮХНЕВІЧ Канстанцін**, сын Аляксандра. Нарадзіўся 15 сьнежня 1896 году ў вёсцы Пушкарышкі на Браслаўшчыне ў сялянскай сям’і. У 1913 г. скончыў школу ў недалёкім Дзьвінску (цяпер — Даўгаўпілс, Латвія), паступіў у сельскагаспадарчую школу ў Шаўлях, але скончыць яе не пасьпеў — пачалася Першая сусьветная вайна. У расейскае войска быў мабілізаваны верагодна ў 1915 г. У 1917-м служыў у Першым корпусе польскіх войскаў. У канцы 1917-га, верагодна пасьля бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе, вяртаецца на Браслаўшчыну. Там ён распачынае беларускую асьветную дзейнасьць, “заклікае беларусаў пачаць змаганьне за сваю долю”. У 1918-1919 гадах працуе ў сваёй гаспадарцы, а ў 1920 г. пераяжджае ў Браслаў. Пасьля ўсталяваньня польскай улады “працуе ў самаўрадах” (“атрымоўвае становішча ўрадоўца адміністрацыйнага”), займаецца каапэрацыяй, у 1925-м стварыў каапэратыў узаемадапамогі. У 1926 годзе з арганізацыяй асьветніцкай арганізацыі “Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры” К. Юхневіч становіцца актыўным яе ўдзельнікам. Яго выбіраюць у кіраўнічыя ворганы, таксама ён ачольвае філію арганізацыі на Браслаўшчыне. У 1926-м Юхневіч сыходзіць з дзяржаўнай службы, адчыняе ў Браславе бюро заяваў і праўных парадаў. У тым жа годзе ўваходзіць у кіраўніцтва партыі “Беларускі сялянскі саюз” (з 1927 г. — намесьнік старшыні ЦК БСС), выступае з публіцыстычнымі артыкуламі ў партыйнай газэце “Сялянская ніва”, у “Беларускай крыніцы” і іншых віленскіх пэрыёдыках. У 1928 годзе балатаваўся ў польскі Сейм ад “Блёку нацыянальных мяньшынь” (беларусаў, украінцаў, габрэяў, немцаў). Падчас перадвыбарчай кампаніі быў арыштаваны польскай паліцыяй у Браславе, два месяцы правёў за кратамі ў Лукішскай турме

ў Вільні. На выбарах у сакавіку 1928 г. абраны паслом у польскі Сейм, а таму вызвалены. У Сейме ён “шчыра бараніў інтарэсы беларускіх сялян і работнікаў”. Паслом ён быў да 1930 году. Неўзабаве К. Юхневіч, пратэстуючы супраць бязьдзейнасьці партыйных паплечнікаў, выходзіць са складу БСС. Разам з былым паслом Сейму Альбінам Стэповічам засноўвае групу “Беларускія нацыянальныя радыкалы” (іншы варыянт назвы — “Беларускія незалежныя радыкалы”). У сьнежні 1936 г. Юхневіч са сваімі паплечнікамі далучаецца да аргкамітэта “Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі”, выконвае абавязкі сакратара, скарбніка проваду (кіраўніцтва) БНСП. Публікаваўся ў партыйнай газэце “Новы шлях”. Восеньню 1939 г. арыштаваны савецкімі спэцслужбамі. Верагодна, тэрмін зьняволеньня адбываў у Комі АССР. У Беларусь вярнуўся ў сярэдзіне 1950-х. Загінуў у аўтамабільнай катастрофе 14 жніўня 1971 году. Пахаваны ў Браславе.

***

**КАНСТАНТЫ ЮХНЕВІЧ** — скарбнік проваду [Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі].

Сын селяніна. Радзіўся ў 1896 г. у в. Пушкарышкі Браслаўскага пав. Па сканчэньні гарадзкой школы ў Дзьвінску паступіў у Сельскагаспадарчую школу ў Шаўлях, каторую ня скончыў з прычыны вайны, на якую быў змабілізаваны расейцамі. У канцы 1917 г. вяртаецца на бацькаўшчыну ў Браслаўскі павет. Разносіць тут весткі аб барацьбе за волю народаў, паняволеных Расеяй і заклікае беларусаў пачаць змаганьне за сваю долю. Ад часу прыходу польскіх уладаў працуе ў самаўрадах і ў кірунку распаўсюджваньня коэпірацыі на нашых землях. Па зарганізаваньню Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, выбіраецца сябром цэнтральнага ўраду гэтай установы. Арганізуе і становіцца на чале Браслаўскага Гуртка Інстытуту, ладзець рэфераты і лекцыі на абшары ўсяго павету. У 1926 г. разам з іншымі дзеячамі партыі “Беларускі Сялянскі Саюз” і на партыйным зьезьдзе ў Вільні выбіраецца віцэ-старшынём ЦК партыі. Працуе як публіцыст у партыйным часапісе “Сялянская Ніва”. Прыймае дзейны ўдзел у выбарчай кампаніі ў 1927-28 гг. Становіцца старшынёй павятовага выбарчага камітэту ў Браславе і адначасна старшынёй акружнога камітэту на округ Беластоцкі. (можа Браслаўскі? — “БР”) Пад час прадвыбарчай кампаніі Блоку Нацыянальных Меншасьцяў у Вільні кіруе кангрэсам як саршыня. Пры выбарчай працы быў арыштаваны ў Браславе і адасланы ў Лукішскую турму ў Вільню, дзе па 2-х месяцах звольнены, будучы выбраным у паслы у польскі Сойм, атрымаўшы каля 19 тыс. галасоў. У Сойме шчыра бараніў інтарэсы беларускіх сялян і работнікаў.

Бачачы нячоганяробства дэцыдуючых кіраўнікоў “Сялянскага Саюзу” і дзякуючы сваім больш радыкальным поглядам — пакідае

гэтую партыю і разам з б[ылым] паслом сь[вятой] п[амяці] Альбінам Стэповічам арганізуе новую, больш радыкальную групу: “Беларускія Нацыянальныя Радыкалы” і ў 1936 г. на чале гэтай групы ўліваецца ў Б.Н.С.П., прынімаючы яе праграму.

Ад 15.XII.1937 г.* да гэтага часу быў сакратаром Б.Н.С.П.

*Новы шлях (Вільня), 1937, 15 чэрвеня, № 2 (23).*

## ЦІ ПРЫМАЕ ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСА?

Калі здараецца трапіць на могілкі ў тым ці іншым беларускім месцы, кожны раз, гледзячы на старыя ці новыя надмагіллі з расійскімі ці польскімі надпісамі, робіцца неяк балюча-сорамна за беларуса, які і жыве і нават на той свет сыходзіць, так і не ўсвядоміўшы сваю адметнасць, сваю непаўторнасць тут, на сваёй жа зямлі.

А мо ён несмяротны — беларус? Бо дзе ні кінеш вокам па старых кладах, нідзе ні каменя, ні крыжа, які б сказаў-пасведчыў: “Тут пахаваны беларус, сын зямлі беларускай”. І сказаў на яго ж беларускай спрадвечнай мове, а не на якой іншай.

Нехта запярэчыць: бывае, сам бачыў надпісы па-беларуску на надмагільных камянях пісьменнікаў ці ганаровых дзеячаў культуры Беларусі. Бачыў у Менску. А мо дзе здаралася такое ў іншым вялікім горадзе. Але ж то ўнікальныя выпадкі!

Так думалася і мне, калі ў Браславе зусім нечакана, блукаючы па старых могілках цёплым летнім вечарам, натрапіў я на дзіўныя два абеліскі. На іх пад выявамі высакародных твараў на чыстай беларускай мове былі выбіты імёны і прозвішчы пахаваных тут беларусаў. Толькі два сярод безлічы расійска-польскіх надмагілляў. Хто яны, тыя двое — ён і яна, муж і жонка, што пацвердзілі насуперак мяшчанскай завядзёнцы сваю беларускасць і пасля скону?

Перад ад’ездам з Браслава я пайшоў на могілкі яшчэ раз, каб сфатаграфаваць тыя дзіўныя абеліскі. Каля суседніх магілаў заўважыў жанчын, старую і маладую, ад якіх даведаўся пра пахаваных беларусаў.

Але спачатку пра тое, аб чым расказалі самі надмагіллі. Адразу было зразумела, што абеліск на магіле жонкі Стэфаніі Міхайлаўны, якая памерла ў 1957 годзе ва ўзросце 55 год, паставіў сам Юхневіч Канстанцін Аляксандравіч. Выбіты ніжэй надпіс паведамляе і пра тое,

*Памылковая дата. Магчыма, мусіць быць 1936 год, альбо нейкі іншы месяц, не пазьнейшы за чэрвень 1937-га. — “БР”.



*Меркаванні*

**Ці прымае зямля беларуса?**

Алесь МЕМУС,
мастак з Віцебска.

што раней тут была пахавана дачка Юхневічаў Алёдзія-Анна, якая памерла ў 1934 годзе ва ўзросце 9 год.*

Сам Канстанцін Аляксандравіч пахаваны побач з магілаю дачкі і жонкі ў 1971 годзе ва ўзросце 75 год. Абеліск на яго магіле зроблены ў стылі папярэдняга, але тэхніка яго выканання менш дасканалая, і без крыжа (іншы час, а мо і сродкі). Але надпіс на ім таксама выбіты па-беларуску. Гэта ўжо знак павагі да волі памёршага, якую ён выказаў у адносінах да памяці жонкі і дачкі. Дзякуй тым, хто гэта зразумеў.

На выяву самога Юхневіча на абеліску глядзелася з асаблівай павагай, бо выказаць сваю нацыянальную годнасць у той час і там, дзе было “не прынята”, мог толькі чалавек падкрэсленай самасвядомасці і грамадзянскай мужнасці (мо пра яе ў першую чаргу і ўвесь мой ліст у рэдакцыю “Нашага слова”).

А вось тое нямногае, што сказалі пра Канстанціна Юхневіча дзве кабеты каля суседняй магілы;

Быў ён, па няпэўных звестках, варшаўскім паслом у Вільні, але родам з Браслава, дзе і пахаваў дачку і жонку. Сам жа ў 1971 годзе загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

Асаблівай увагі заслугоўвае каталіцкі крыж на магіле дачкі і жонкі Юхневіча і тое, што пахаваны яны сярод магіл з польскімі надпісамі (сярод сваіх адзінаверцаў). Тут яшчэ адна нагода паразважаць аб польскасці многіх беларускіх “палякаў” у кантэксце ўрока самасвядомасці, дадзенага нам Канстанцінам Юхневічам. Мір ягонай душы!

**Алесь МЕМУС,**
**мастак з Віцебска.**

*Наша слова, 1992, 26 лютага, № 8.*

## ЗАБЫТАЯ ПОСТАЦЬ КАСТУСЯ ЮХНЕВІЧА

Імя Кастуся Юхневіча (Канстанціна Аляксандравіча Юхневіча) — беларускага культурнага дзеяча, патрыёта, палітыка, пасла польскага сейма і публіцыста — сёння мала вядомае жыхарам Браслаўш-

*Насамрэч, ва ўзросьце няпоўных пяці месяцаў. — “БР”.

чыны. За савецкім часам яго імя стараліся не згадваць, бо чалавек гэты вызнаваў сябе беларускім патрыётам, быў рэпрэсаваны. Віной Юхневіча было толькі тое, што ён усё сваё свядомае жыццё прысвяціў служэнню роднай зямлі, свайму краю.

Нарадзіўся Кастусь у вёсцы Пушкарышкі Новааляксандраўскага павета Ковенскай губерні (цяпер Браслаўскі раён Віцебскай вобласці) 15 снежня 1896 года.

Далей мне хочацца прыкласці надрукаваны ў віленскай "Беларускай крыніцы" ў 1928 годзе прадвыбарны тэкст з яго біяграфіяй, напісаны ўласна са слоў Юхневіча:

*"Канстанты Юхневіч радзіўся ў 1896 годзе ў небагатай беларускай сялянскай сям'і ў вёсцы Пушкарышкі, Браслаўскай гміны і павету. Па сканчэнні мясцовай школы ў 1913 годзе, уступае ў сялянска-гаспадарскую школу ў Шаўлях (Літва). З прычыны [Першай] сусветнай вайны ўлады школу зліквідавалі. Вясною 1915 году як экстэрн атрымоўвае адукацыю 4-х класаў Вышэйшай Пачаткавай Школы ў Дзьвінску. У 1918 і 1919 гадах па звальненні з арміі працуе на гаспадарцы. У 1920 годзе пераязджае на жыццё ў Браслаў, дзе перш атрымоўвае становішча ўрадоўца адміністрацыйнага. У 1925 годзе прыймае ўчасьце ў арганізацыі Супалкавай Касы ў Браслаўі, уваходзе ў склад сяброў управы, абыймаючы адначасна функцыю бугальтара (стварыў сялянскі каапператыў узаемадапамогі — С. Л.). У 1926 годзе пакідае службу і адкрывае ўласнае бюро заяваў і праўных парадаў, а таксама-ж арганізуе гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Браслаўі, у склад каторага ўваходзіць як старшыня ўраду. Будучы яшчэ ўрадоўцам прыймае ўчасце ў беларускім руху і супольна са сваімі аднадумцамі распаўсюджвае пасярод сялянства беларускую літаратуру. У 1926 годзе ўступае ў беларускую сялянскую палітычную партыю "Беларускі Сялянскі Саюз" і з 1927 года займае становішча віцэ-старшыні Цэнтральнага Камітэту Беларускага Сялянскага Саюзу. На днях гр. Юхневіч арыштаваны на тэрыторыі свайго павету".*

Блізу двух месяцаў Кастусь Юхневіч быў арыштаваны польскімі ўладамі і знаходзіўся ў віленскай турме на Лукішках. Пасля перамогі на выбарах і атрымання дэпутацкай недатыкальнасці быў вызвалены. Друкаваўся на старонках "Сялянскай нівы", "Новага шляху", "Glos Wilenski", "Kurjer Wilenski", "Беларускай крыніцы". З пачатку стварэння Партыі Беларускіх Народных Сацыялістаў з'яўляўся яе актыўным удзельнікам, у 1937-1939 гадах* — сакратар арганізацыі.

У 1939 годзе за актыўную нацыянальную дзейнасць быў рэпрэ-

*Насамрэч, гэта быў аргкамітэт "Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі". Правесьці ўстаноўчы зьезд польскія ўлады не дазволілі, а ў 1937 г. забаранілі дзейнасьць беларускіх нацыянал-сацыялістаў, спынілася і выданьне "Новага шляху". — "БР".

саваны савецкімі ўладамі і сасланы ў лагер. Пасля вяртання жыў у Браславе. Загінуў у аўтамабільнай катастрофе 14 жніўня 1971 года. Пахаваны на старых браслаўскіх могілках побач з жонкай і дачкой.

Да цяперашняга часу бытуе памылковае меркаванне, што Юхневіч памёр у лагеры ў Рэспубліцы Комі альбо што па вяртанні жыў у Слоніме. Верагодна, гэтае меркаванне прыйшло з польскіх крыніц. Помнік Юхневічу на старых могілках у Браславе – добрае таму абвяржэнне. Як стала вядома, сям'я Юхневічаў мела нашчадкаў, але слядоў іх знайсці не ўдалося. Будзем спадзявацца, што гэтая невялікая згадка дапаможа вярнуць пачэснае імя беларускага патрыёта.

**Сяргей Лескець**

*http://kraj.by/belarus/blog/leskiec/zabitaya-postats-kastusya-yuhnevicha/31-07-2012/*

# ПРА “СЛОНІМСКУЮ ПАГОНЮ” І СЬЦЯГІ СЛУЦКІХ ПАЎСТАНЦАЎ

Сёлета ў газэце “Наша слова”, а пасьля і на сайце Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны зьявіўся артыкул мастака Алеся Цыркунова, прысьвечаны выяве Пагоні на сьцягу слуцкіх паўстанцаў 1920 году.* Цыркуноў высунуў нечаканую версію, паводле якой, “Пагоня”, якую захоўваў паэт Сяргей Новік-Пяюн, зьяўляецца цэнтральнай часткай… сьцягу случчакоў. Нібыта, “з мэтай захавання” яе са сьцягу “выдалілі” і перадалі “усё- і ўсіхведнаму спадару Новіку-Пяюну”. Праўда, у канцы артыкула А. Цыркуноў згадвае пра ўспаміны былога камандзіра Слуцкай брыгады стральцоў БНР Антона Сокал Кутылоўскага, паводле якіх сьцяг у яго канфіскавала польская паліцыя ў 1931 годзе. “Урэшце,… рабіце высновы самастойна! Слова за дасціпнымі даследчыкамі”, — заканчвае свой артыкул Алесь Цыркуноў.

На гэтую публікацыю можна было б і не зьвяртаць увагі. Бо ўважлівы чытач, параўноўваючы выявы згаданых гербоў, якія ствараліся, безумоўна, паводле аднаго арыгінала, заўважыць, што яны маюць адрозьненьні. Таму версія Цыркунова памылковая. Аднак узьнятая ім тэма паходжаньня ды лёсу гэтых дарагіх нацыянальных памятак — добрая нагода, каб больш падрабязна спыніцца на гісторыі пытаньня. Спачатку зьвернемся да сьцягу “Першага Слуцкага палка стральцоў Беларускай Народнай Рэспублікі”.

Першы Слуцкі полк войскаў Беларускай Народнай Рэспублікі, які ваяваў супраць Чырвонай Арміі, атрымаў свой палкавы сьцяг у канцы сьнежня 1920 году, калі паўстаньне ўжо затухала. Яго ўдзельнік **Юрка Лістапад** сьведчыў, што падчас падрыхтоўкі пераходу на тэрыторыю Беларусі, якую кантралявалі польскія войскі, “першы Слуцкі полк атрымаў палкавы сьцяг (знамя), які каштаваў 156 000 польскіх марак”.** Паводле ўспамінаў паўстанца **Аляксея Кабычкіна**, “беларускія жанчыны Горадзеншчыны ахвяравалі паўстанцам надта прыгожы сьцяг з надпісам: “Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына”.*** Адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну Васіль Русак пісаў: “Беларускія жаноцкія арганізацыі прыслалі 1-му Слуцкаму палку палкавы

---

*Цыркуноў А. Загадка “Пагоні” Слуцкага збройнага чыну // Наша слова, 2012, 4 красавіка, № 14; перадрук — http://tbm-mova.by/interesting2.html

**Лістапад Ю. Узьбіліся на свой шлях // Наша думка, 1921, 18 сакавіка; Перадрук — Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск:”Медысонт”, 2006, б. 164.

***А[ляксей] К[абычкін]. Слуцкае паўстаньне (З успамінаў удзельніка) // Бацькаўшчына, 1953, 7 студзеня; Перадрук — Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск: ”Медысонт”, 2006, б. 204.

сьцяг нацыянальны з Пагоняй, вышытымі на ім словамі прысьвячэньня: “Тым, якія першымі паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!”.* Кабычкін аднак аспрэчыў гэтае сьцьверджаньне: “Не адпавядае праўдзе, што маткі й сёстры паўстанцаў дарылі ім сьцяга з на[д]пісам: “Тым, што першыя паўсталі… і г. д.”.**

Калі Васіль Русак мог памыліцца (гады сьціраюць, скажаюць дэталі), дык наўрад ці памылілася гарадзенская газэта “Беларускае слова”, якая па гарачых сьлядах пісала 3 студзеня 1921-га (звычайна, публікацыя навінаў спазьнялася на 5-10 дзён): *“На беларускі фронт прыбыла дэлегацыя беларускіх кабет, якая прывязла штандар для Першага беларускага палку-стральцоў. На штандары напісаны: “Тым, якія першымі паўсталі і пайшлі ўміраць, каб жыла Бацькаўшчына”.* Другі падобны штандар высланы ўжо для другога палку”.***

На вядомым здымку сьцягу не відаць надпісу, згаданага Кабычкіным, але ён мог быць з адваротнага боку.**** Важная згадка пра другі сьцяг, але, як пішуць укладальнікі зборніка пра Слуцкі Збройны Чын, “факт перадачы ў дар случакам 2-х палкавых штандараў не пацьвярджаецца іншымі крыніцамі”.***** Яны ж удакладняюць, што самі кабеты не прыяжджалі на Случчыну, а перадалі сьцяг з афіцэрамі Беларускай вайсковай камісіі, якія з Горадні ехалі да паўстанцаў.******

Камандзір 1-й Слуцкай брыгады **Антон Сокал-Кутылоўскі** успамінаў, што сьцяг, які атрымаў першы полк, “надзвычай мастацкага выкананьня”, выраблены “беларускімі жанчынамі патрыёткамі”. *“Сьцяг быў залацістага колеру, 2 мэтры ўдаўжкі і 1 мэтар ушыркі,* — пісаў у 1944-м Сокал-Кутылоўскі. — *Пасярэдзіне выкананая ў нацыянальных фарбах “Пагоня” каля 45 см у дыямэтры, а навокал надпіс: “1-шы Слуцкі полк [стральцоў] Беларускай Народнай Рэспублікі”.******** Пра іншы надпіс на сьцягу Антон Сокал-Кутылоўскі ня піша.

Паводле Аляксея Кабычкіна, у міжваенны час сьцяг слуцкіх

---

*Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск:”Медысонт”, 2006, б. 173.

**А. К-ін. Словы-ўспаміны пра Слуцкае паўстаньне // Бацькаўшчына, 1955, 11 сьнежня; Перадрук — Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск:”Медысонт”, 2006, б. 207.

***Цытуецца паводле наступнай публікацыі: Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск:”Медысонт”, 2006, б. 84.

****Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах, б. 336.

*****Тамсама, б. 336.

******Тамсама.

*******Сокал-Кутылоўскі А. Мае ўспаміны аб слуцкім збройным змаганьні з бальшавікамі ў 1920 годзе // Зважай (Таронта), 1989, лістапад; передрук — Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск:”Медысонт”, 2006, б. 188.

паўстанцаў "перахоўваўся ў ваднэй царкве на Палесьсі" (у заходняй Беларусі) і пра яго далейшы лёс ён нічога ня ведаў.*

Найхутчэй ён мае на ўвазе сьцяг 1-га палка, які заставаўся ў Сокал-Кутылоўскага. Апошні сьведчыць, што сьцяг паўстанцы перахоўваліся ў лягеры для інтэрнаваных у Дарагуску, дзе знаходзіліся ў 1921 годзе. Пасьля выхаду на волю яго ўзяў Сокал-Кутылоўскі, але пакідаць у сябе не зьбіраўся. Летам 1921-га ён зьвярнуўся да праваслаўнага наваградзкага япіскапа Панцеляймона (Ражноўскага) "з просьбаю прыняць у Наваградскі Сабор на перахаваньне сьцяга 1 Слуцкага палка".** Аднак той прадказальна адмовіў — акрамя нежаданьня здабыць праблемы ад польскіх уладаў, галоўным тут была абыякавасьць (калі не варожасьць) япіскапа-расейца да беларускага нацыянальнага руху. Таму сьцяг застаўся ў Антона Сокал-Кутылоўскага, які стаў праваслаўным сьвятаром ды, мяняючы прыходы, вазіў з сабой і сьцяг случчакоў. Аднак у 1931 годзе падчасператрусу польская паліцыя знайшла яго і канфіскавала.*** Пра далейшы лёс сьцягу Сокал-Кутылоўскі нічога ня ведаў. Не было ніякіх зьвестак і пра лёс другога сьцягу, пра які пісала "Беларускае слова".

Гісторыя за сьцягам слуцкіх паўстанцаў, аднак, мае працяг. У ліпені 1997-га ў Вільні, падчас сэсіі Эўрапейскага сэктару Рады БНР, спаткаў тагачаснага супрацоўніка Радыё "Свабода" **Сяргея Сокалава-Воюша**. На эміграцыі ў пачатку 1990-х ён зьбіраў зьвесткі пра пасьляваенны беларускі супраціў і нават знайшоў яго жывых удзельнікаў. Зь нейкіх прычынаў падрыхтаваныя ім праграмы гэтай тэматыкі так і не былі дапушчаныя ў эфір. Дык вось, па зьвестках Сокалава-Воюша, *"сьцяг слуцкіх паўстанцаў быў у партызанаў Вітушкі".*

Карыстаючыся нагодай, у 2006-м пацікавіўся гэтым у былога камандзіра партызанскага атрада "Белавежа". На базе яго атрада ў верасьні 1945-га прайшла канферэнцыя беларускіх партызанскіх камандзіраў з удзелам Міхала Вітушкі. Таму, калі б сьцяг слуцкіх паўстанцаў у яго быў, Вітушка мог яго прадэманстраваць сваім падначаленым якраз тады. Аднак гэтага не зрабіў, тады быў асьвечаны япіскапам канспірацыйнай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Германам іншы сьцяг — бела-чырвона-белы.

"Белавежа" прыгадвае са слоў кіраўніка БНП Усевалада Родзькі, што летам 1941-га немцы захапілі ў Менску "музэй НКВД БССР", дзе былі "дакумэнты і рэчы, якія мелі дачыненьне да Слуцкага паўстаньня", у тым ліку і "адзін са сьцягоў паўстанцаў". У канцы 1941-га немцы вывезьлі ўсе экспанаты музэю ў Бэрлін, але беларусы рабілі захады,

* А. К-ін. Словы-ўспаміны пра Слуцкае паўстаньне // Бацькаўшчына, 1955, 11 сьнежня; Перадрук — Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск:"Медысонт", 2006, б. 207.
** Зважай (Таронта), 1989, лістапад; перадрук — Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск:"Медысонт", 2006, б. 188-189.
***Тамсама.



БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Палітычная, літэратурная і эканамічная газэта.

№ 56. Горадня, Серада 8 студзеня 1920 г. Год выданьня I

ГРАМАДЗЯНЕ!

Насіце ахвяры рэчамі і грашмі! Складайце ахвяры у „Гуртку беларускіх кабет“ ці у Беларускія Нацыянальныя Камітэты для перасылкі іх беларускаму паўстанцу—жаўнеру на Случчыне! Наша многапакутная Маці-Беларусь вымагае гэтага ад вас!

***Гарадзенская газэта “Беларуская слова” рэгулярна асьвятляла змаганьне 1-й Слуцкай брыгады стральцоў БНР***

каб вярнуць нацыянальныя памяткі. І, магчыма, у 1944-м Міхалу Вітушку гэта ўдалося.*



***Антон Сокал-Кутылоўскі***

Што да “музэю НКВД”, дык, праўдападобна, маецца на ўвазе музэй рэвалюцыі БССР, які быў адчынены ў Менску ў 1926-м і знаходзіўся на вуліцы Ўрыцкага (цяпер — Гарадзкі Вал). Афіцыйна не прызнаецца, што музэй дастаўся немцам, сьцьвярджаецца, што ён згарэў у выніку нямецкіх бамбардзіровак у чэрвені 1941 году “разам з экспанатамі”.**

Дзіўная гісторыя адбылася і з адзіным здымкам сьцягу случчакоў. Ва ўсіх публікацыях на працягу 1990-х пазначалася, што каля яго знаходзяцца Лявон Вітан-Дубейкаўскі і Антон Сокал-Кутылоўскі. Толькі ў 2002 годзе высьветлілася, што на здымку насамрэч не Сокал-Кутылоўскі, а капітан Антон Борык, былы начальнік штабу 1-й Слуцкай брыгады войскаў БНР.

*Ёрш С., Горбік С. Беларускі супрацiў. — Львоў, 2006, б. 188-189.
**Исайчук Д. Дата в истории: 86 лет назад в Минске появился музей истории // Минск-Новости, 2012, 2 траўня; http://minsknews.by/2012/05/02/57456




***Сьцяг Першага Слуцкага палка, Вільня, 1921 г. Зьлева-направа: Лявон Вітан-Дубейкаўскі, невядомая (ці не адна з тых гарадзенак, што вырабілі сьцяг?), штабс-капітан Антон Борык.***

Паводле некаторых зьвестак, КГБ БССР яшчэ ў пачатку 1970-х гадоў шукаў нейкі беларускі сьцяг. Яго, нібыта, хаваў хтосьці зь менскіх інтэлігентаў. Па адной з версій, сьцяг прывезьлі з сабой беларускія дэсантнікі, перакінутыя праз мяжу амэрыканцамі. Але зусім магчыма, што ён паходзіў зь Вільні, ад часу апошняй вайны перахоўваўся мясцовымі беларусамі і быў перададзены ў Менск.*

***

“Слонімскую Пагоню” я пабачыў толькі ў 1998 годзе, на вокладцы часопіса “Спадчына”. Яе ўладальнік, паэт Сяргей Новік-Пяюн (1906 — 1994) на той час ужо памёр. На жаль, я не пасьпеў зь ім пазнаёміцца, таму не бываў у яго менскай кватэры і ня бачыў там Пагоні…

У згаданай публікацыі ў “Спадчыне” паведамлялася: *“Герб Пагоня. Вышыты ў 1937-1938 гг. Кацярынай Пышко, сястрой паэта і вязьня ГУЛАГу Сяргея Новіка-Пеюна. Захоўваўся на Слонімшчыне, потым — у менскай кватэры паэта. Экспануецца ў Дзяржаўным музэі гісторыі беларускай літаратуры”.***

*Ёрш С. Сьцягі беларускага руху. Пад імі беларусы йшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына // Новы час (Менск), 2003, № 24, сьнежань.

**Спадчына, 1998, № 1(127).

У пачатку 1999-га, рыхтуючы матэрыял да ўгодкаў Дня Волі, я адмыслова прыехаў са Слоніму ў Менск, дзе наведаў згаданы музэй. Спадзяваўся ўбачыць "Слонімскую Пагоню" ў экспазыцыі, але… Адна з супрацоўніц распавяла мне, што нейкі ўплывовы чыноўнік "настойліва папрасіў прыбраць яе з экспазыцыі". Таму Пагоня патрапіла ў запасьнікі музэю.*

У маім архіве захавалася даведка **"Герб "Пагоня" з калекцыі С. Новіка-Пеюна** (КП 13012)". Зь яе вынікае, што "Слонімскую Пагоню" Дзяржаўны музэй гісторыі беларускай літаратуры набыў у жніўні 1996 году, ужо пасьля травеньскага рэферэндума 1995-га, калі была зьмененая дзяржаўная сымболіка. І яшчэ на кароткі час герб пасьпеў патрапіць у экспазыцыю. У даведцы паведамляецца:

*"1. Набыта ў Сувойдзь-Зубовіч Вольгі Мікалаеўны праж[ываючай] па адрасу г. Мінск, вул. К. Лібкнехта […]*

*Акт прыёму 27. 08. 96 г.*

*2. Вышыўка "Пагоня" — вышыта ў 1937-1938 годзе. Вышыта рознакаляровымі шаўковымі ніткамі на сукне вішнёвага колеру. У драўлянай раме пад шклом.*

*3. Вышыўка зроблена на сукне гладдзю.*

*4. Памеры 33,6 х 48,5 см*

*65,3 х 80,8 см".*

Тады ж вырашыў больш даведацца пра гісторыю стварэньня "Слонімскай Пагоні". Аказалася, што пра яе пісала тая ж "Спадчына" ў 1992 годзе. Уладзімер Панада запісаў і апублікаваў кароткія ўспаміны Сяргея Новіка-Пеюна, праілюстраваныя той самай Пагоняй (меў у бібліятэцы той нумар часопіса і адразу не зьвярнуў увагі на публікацыю). У іх, між іншым, ёсьць і такія радкі: *"…у 1938 г*[одзе], *пад час другой сваёй ссылкі, купіў у Слоніме плакат з надрукаванай на ім выяваю Пагоні — такія плакаты выдавалі і распаўсюджвалі літоўцы, якія жылі ў Польшчы. Паводле гэтага ўзору мая сястра вышыла на чырвонай тканіне сваю Пагоню, якая доўгія гады вісела ў нашай сялянскай хаце* [на вуліцы Агароднай (цяпер — Багушэвіча)]".**

Версія С. Новіка-Пеюна праўдападобная. У міжваеннай Летуве не было прынята эталону дзяржаўнага гербу, дзяржаўныя ўстановы выкарыстоўвалі разнастайныя яго выявы. "Слонімская Пагоня" найбольш нагадвае "Пагоню", намаляваную Антанасам Жмуйдзінавічусам (1876 — 1966). Верагодна, яе і распаўсюджвалі ў Польшчы.

---

*Ёрш С. Слонімская Пагоня // Газета Слонімская, 1999, № 13(94), 25-31 сакавіка.

**Новік-Пяюн С. Мой шчаслівы дзень // Спадчына, 1992, № 2, б. 2-3.

Новік-Пяюн распавёў і пра далейшы лёс герба: *“Дык вось, тая Пагоня, якую вышыла сястра, захавалася і ў часе вайны, і пасля, дзякуючы таму, што знаходзілася ў Слонімскім раённым гістарычна-краязнаўчым музеі. Стваральнікам музея быў Іосіф Стаброўскі.* Да самай вайны Пагоня была выстаўленая для агляду як гістарычны экспанат.** У час вайны, калі музей быў знішчаны і разрабаваны, той самы Стаброўскі, ратуючы экспанаты, сярод іншых захаваў і яе”. ****

Сястра Новіка-Пеюна Кацярына Пышко, якая вышыла “Слонімскую Пагоню”, на час маіх пошукаў (1999 год) ужо памерла. Удалося пагаварыць зь яе сынам, Міхаілам Пышко, які жыў у Слоніме. Ён паведаміў, што яго маці доўгі час хавала Пагоню ў сваёй хаце (вул. Замкавая (цяпер — Камсамольская), 70): *“Пагоню хавала, пакуль не вярнуўся з лягеру. Сяргей тады забраў яе”*.****

Зразумела, яна вельмі моцна рызыкавала. Калі б “Пагоню” знайшлі супрацоўнікі савецкай дзяржбясьпекі, рэпрэсаваць маглі ня толькі Кацярыну, але і ўсю сям’ю. Пра Кацярыну Пышко вядома, што яна была беларускай патрыёткай, працавала бібліятэкарам, працягвала вышываць.

Цікава, што сам С. Новік-Пяюн ня згадвае, што “Пагоню” хавала яго сястра: *“Пасля вайны, калі я, рэабілітаваны, вярнуўся з чарговага зняволення — на гэты раз з Калымы, мы зноў сустрэліся са Стаброўскім. Зноў Пагоня апынулася ў мяне і да апошняга часу вісела на сцяне ў маёй кватэры. Час для беларушчыны быў не надта спрыяльны, і таму мала хто яе бачыў”*.***** На наш погляд, “Слонімская Пагоня” была ў Стаброўскага толькі кароткі час пасьля арышту Сяргея Новіка-Пеюна НКГБ у сьнежні 1944 году. У музэі ён яе захоўваць ня мог, паколькі быў там шараговым супрацоўнікам, да таго ж савецкія ўлады маглі яго і зусім адтуль выгнаць. Таксама Язэпа Стаброўскага (былога палкоўніка рускай арміі) неаднаразова “трывожыла” дзярж-

---

*Ул. Панада памылкова напісаў у расшыфроўцы запісу “Стаўроўскі”.

**Дакладна вядома, што “Слонімская Пагоня” выстаўлялася ў музэі падчас нямецкай акупацыі. Вось што пісаў часопіс “Новы шлях” у артыкуле “Слонімскі музэй”: “Асабліва заслугоўвае на ўвагу вышыты шоўкам на чырвоным сукне герб Пагоня праз сястру дырэктара музею Кацярыну Навічанку…” (Новы шлях (Рыга), 1943, № 19, кастрычнік).

***Спадчына, 1992, № 2, б. 4.

****Паведамленьне аўтару Міхаіла Пышко ад сакавіка 1999 г.

*****Спадчына, 1992, № 2, б. 4. Пра тое, што Пагоню “змог захаваць для яго сябар Стаброўскі”, С. Новік-Пяюн пазьней распавёў у гутарцы з карэспандэнткай газэты “Звязда”. Гл.: Антонава Т. “Шматпаважаны Сяргей Міхайлавіч, вы ні ў чым не вінаваты…” // Звязда, 1993, 27 сакавіка.

бясьпека.* Таму Стаброўскі, перад пагрозай арышту, мог перадаць вышыўку Кацярыне Пышко.

Вяртацца ў Беларусь з Расеі Сяргей Новік-Пяюн не хацеў да таго часу, пакуль не атрымае рэабілітацыі. Яе ён атрымаў у канцы 1958 году, а 27 красавіка 1959-га прыехаў у Слонім.** Ад таго часу "Слонімская Пагоня" ўжо знаходзілася ў яго. А ў 1991 годзе яна нават патрапіла на выставу ў Вярхоўны Савет Беларусі. Вось што ўспамінаў С. Новік-Пяюн: *"І вось калі пачалося абмеркаванне новага герба Рэспублікі, да мяне звярнуўся мастак Аляксей Марачкін, сказаў, што ў Вярхоўным Савеце будзе выстава праектаў Пагоні, і спытаў, ці не згадзіўся б я даць на выставу сваю.*

*…тое, што выява Пагоні, якую вышыла беларуская дзяўчына ў далёкім трыццаць восьмым годзе, цяпер вісела ў зале нашага парламенту, толькі падкрэсліла: наш рух не спыніўся"*.***

Памёр Сяргей Новік-Пяюн 26 жніўня 1994 году ў Менску.

**Сяргей Ёрш**

*Вядома, што яго дапытвалі 12 сьнежня 1944 г., за два дні да арышту С. Новіка-Пеюна. Гл.: К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941 — 1944 гг.). — Мінск, 2008, б. 112. У 1947 годзе Язэпа Стаброўскага дапытвалі па справе выкрытай беларускай падпольнай арганізацыі "Чайка" (Паведамленьне аўтару кіраўніка "Чайкі" Васіля Супруна ад 22 чэрвеня 1997 г.).
** Чыгрын С. Мастак Антон Карніцкі. Гісторыка-краязнаўчы і мастацтвазнаўчы нарыс. — Мінск: "Кнігазбор", 2009, б. 16, 24.
***Спадчына, 1992, № 2, б. 4.









***Менская кватэра С. Новіка-Пеюна. На сьцяне вісіць “Слонімская Пагоня”***




***Сяргей Новік-Пяюн за сталом у сваёй менскай кватэры***



***Здымак з вясельля Кацярыны Новік (Пышко). Яна сядзіць трэцяя зьлева. Справа ад яе — муж, зьлева — брат. Другая справа сядзіць Людміла Новік, жонка С. Новіка-Пеюна. Фота з архіву сям'і Лойкаў. Дагэтуль публікаваліся толькі яго фрагмэнты***



***Адзін з варыянтаў гербу Летувы, 1920 год***





**Герб Пагоня.**
Вышыты ў 1937–1938 гг. Кацярынай Пышко,
сястрой паэта і вязьня ГУЛАГу Сяргея Новіка–Пеюна
Захоўваўся на Слонімшчыне,
потым – у менскай кватэры паэта.
Экспануецца ў Дзяржаўным музэі
гісторыі беларускай літаратуры.

***Выява “Слонімскай Пагоні” публікавалася ў часопісе “Спадчына”***

# БЕЛАРУСЫ Ў КІРАЎНІЦТВЕ РУСКАЙ ВЫЗВОЛЬНАЙ АРМІІ ПАДЧАС ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Нямала беларусаў-афіцэраў Чырвонай Арміі, якія трапілі ў нямецкі палон у 1941-1943 гг., уступалі добраахвотнікамі ў Рускую вызвольную армію (*Русская освободительная армия — РОА*). У той час, калі ў Беларускай Краёвай Абароне не хапала прафесійных вайскоўцаў у рангах ад капітана і вышэй, у РОА былі нават генэралы беларускага паходжаньня. Восеньню 1944 году ў Нямеччыне кіраўнікамі БЦР тармазілася справа стварэньня беларускай брыгады/дывізіі*, што выклікала незадавальненьне ў патрыятычна настроенага афіцэрства. Вынікам гэтай сытуацыі стаў сыход у РОА і ўласаўскі Камітэт вызваленьня народаў Расеі шэрагу афіцэраў БКА і дзеячоў БЦР, а таксама зьяўленьне ліста-ультыматума афіцэраў “Дальвіца”. Афіцэры-камандасы прапанавалі “Вайсковаму аддзелу БЦР” “навязаць лучнасьць з рухам генэрала Власава”, увесьці беларускіх прадстаўнікоў у склад “Камітэта вызваленьня народаў Расіі” і падпарадкаваных яму арганізацый, а беларускіх афіцэраў адправіць у “вайсковы штаб ген. Власава”. Таксама яны прапаноўвалі “стварыць у межах вызвольнае арміі самастойныя беларускія фармацыі пад камандаваньнем беларускіх афіцэраў і пад палітычным кіраўніцтвам адпаведных беларускіх дзейнікаў”. Прэзыдэнт БЦР Р. Астроўскі і кіраўнік вайсковых спраў БЦР К. Езавітаў з цяжкасьцю здолелі пераканаць камандасаў, што супрацоўніцтва з генэралам Уласавым “передчаснае”.**

Пра беларускіх вайскоўцаў, якія патрапілі ў склад “уласаўскіх” аддзелаў, пакінуў успаміны Яўхім Кіпель: *“Маніфэст Уласава быў з выгляду вельмі прывабны і таму вялікая колькасьць беларусаў выявіла жаданьне быць ва ўласаўскіх войсках. Запісвалася ва ўласаўскія арміі шмат беларусаў з былых “остаўцаў” і палонных. Ясна, што патрэбна было ісьці туды і арганізоўваць тых беларусаў. З другога боку, зь беларускіх нацыянальных дзеячоў ніхто маніфэсту*

---

*Прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі, разумеючы “бескарыснасьць і бяссэнсавасьць удзелу ў абароне Рэйху”, сабатаваў прапанаванае немцамі стварэньне “беларускага легіёну”, адмаўляўся ад супрацоўніцтва з Уласавым. Як слушна адзначае Ю. Туронак, апошняе “магло б пасьля вайны ўскладніць і нават зусім перакрэсьліць яго палітычную працу ў эміграцыі”. Гл.: Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Мінск: “Беларусь”, 1993, б. 197.

**Падрабязна пра дыскусіі на гэтую тэму гл. у наступным выданьні: Ёрш С. Дэсант у няпэўнасць. Беларускі парашутны батальён “Дальвіц”. 1944-1945 гг. — Мінск, 2012, б. 109-116.

*не падпісваў. Маніфэст ад беларусаў падпісаў былы чырвонаармеец, лейтэнант [Дубавец], які перад тым быў палонным".**

Паводле Я. Кіпеля, беларускую групу ачоліў "русафіл" Мікалай Будзіловіч. У яе таксама ўваходзілі маёр Міхал Пугачоў (былы акруговы начальнік БКА ў Менскай акрузе), падпалкоўнік Мікалай Падлазьнік (яны адказвалі за "арганізацыю беларускіх вайсковых аддзелаў"), лейтэнант Уладзімер Гуцька (Дудзіцкі, адказваў за прапаганду), Дземчанка (адказваў за вярбоўку людзей) ды іншыя. Аднак яны да капітуляцыі Нямеччыны ня здолелі стварыць нават заплянаваны "першы беларускі батальён".**

Аднак акрамя згаданай групы беларускіх дзеячоў і вайскоўцаў, якія перайшлі да "ўласаўцаў" восеньню 1944-га, там ужо была група вайскоўцаў-ураджэнцаў Беларусі. Біяграмы гэтых людзей былі зьмешчаныя ў адным з дасьледаваньняў, прысьвечаных арміі генэрала Ўласава.***



**Аляксандар Яфімавіч Будыха** — генэрал-маёр Чырвонай Арміі, а пасьля — РОА (ва Ўзброеных Сілах Камітэту вызваленьня народаў Расеі ён не служыў, але меў рангу генэрал-маёра РОА). Нарадзіўся 12 жніўня 1893 году ў Вяліжы Віцебскай губэрні (цяпер — Смаленская вобласьць Расеі) ў рабочай сям'і. Беларус. У 1915 годзе скончыў экстэрнам Смаленскую гарадзкую вучэльню, цесьляр. У 1914 г. добраахвотнікам запісаўся ў рускую армію, ваяваў супраць нямецкіх войскаў. У 1916 годзе скончыў 5-ю Кіеўскую школу прапаршчыкаў і 2-ю афіцэрскую паўночную школу грэнадзёраў пры Асобай арміі. За адвагу у баях атрымаў рангу падпаручыка. У 1917 г. — паручык, камандзір роты 519-га пяхотнага Кізьлярскага палка. У кампартыі з 1919 году. У красавіку 1918 году ўступіў у Чырвоную Армію, ваяваў супраць войскаў Калчака, Врангеля, польскай арміі, быў паранены. У 1924 годзе ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сьцягу. У лютым 1919-га быў ужо камандзірам палка. З лютага 1921 году

---

*Кіпель Я. Эпізоды. — Нью-Ёрк: Выдавецтва газэты "Беларус", 1998, б. 239.
**Эпізоды, б. 233-242.
***Александров К. М. Офицерский корпус армии генерал-лейтенанта А. А. Власова 1944—1945. — Санкт-Петербург, 2001; http://lib.rus.ec/b/287597/read

служыў у войсках ВЧК ва Ўкраіне. У жніўні 1921 г. вярнуўся на радзіму, камандаваў Вяліжскай ротай частак асаблівага прызначэньня, у 1922 г. — Полацкай ротай ЧОН, у 1923 г. стаў памочнікам камандзіра, а пасьля і камандзірам 770-га асобнага батальёну ЧОН. Ваяваў супраць антыбальшавіцкіх партызанаў. Са сьнежня 1923-га яго вярнулі ў Чырвоную Армію на пасаду памочніка камандзіра 13-га стралковага палка 5-й стралковай дывізіі. У лістападзе 1926 году ачоліў мабілізацыйны аддзел штаба Беларускай вайсковай акругі. У 1931-1938 гг. быў ваенруком у шэрагу маскоўскіх вышэйшых навучальных установаў. У сьнежні 1935 г. атрымаў рангу палкоўніка. У кастрычніку 1938 году прызначаны на пасаду памочніка камандзіра 38-й стралковай дывізіі. Са жніўня 1939 году быў камандзірам 171-й стралковай дівізіі. У 1940 годзе атрымаў рангу генэрал-маёра. У 1941 г. скончыў курсы ўдасканаленьня вышэйшага складу пры Вайсковай Акадэміі Чырвонай Арміі імя Фрунзэ. Трапіў у палон у верасьні 1941 году. Вясной 1942 году разам з групай былых афіцэраў Чырвонай Арміі пачаў фармаваць “Палітычны Цэнтар барацьбы з бальшавізмам”, мэтай якога была “арганізацыя масіраванага дэсанту для разгортваньня антысталінскай паўстанцкай дзейнасьці” ў раёнах разьмяшчэньня папраўча-працоўных лягероў НКВД СССР на Паўночнай Дзьвіне. З канца лета 1942 году быў начальнікам аддзела ўнутранай выведкі Цэнтру, сярод 200 сяброў арганізацыі выявіў 10-12 “ненадзейных”. У траўні 1943 году СД вырашыла ліквідаваць Цэнтар, а шэраг яго кіраўнікоў арыштавала. Пасьля гэтага Аляксандар Будыха перавёўся ў РОА. У верасьні 1943-га прызначаны штаб-афіцэрам па навучаньні і падрыхтоўцы “ўсходніх войскаў” пры 710-м усходнім палку ў 16-й арміі Вэрмахту групы армій “Поўнач”. Уначы 13 кастрычніка 1943 г. разам з ардынарцам сыйшоў у лес, здаўся партызанам 4-й Ленінградзкай партызанскай брыгады. 7 лістапда 1943 году быў прывезены самалётам у Маскву. Абвінавачаны ў “здрадзе Радзіме”. 15 красавіка 1950 г. асуджаны на сьмерць Вайсковай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР, 19 красавіка расстраляны. У 1982 г. Галоўная вайсковая пракуратура палічыла абвінавачаньне даказаным і адмовіла ў рэабілітацыі. Яго пераход да партызанаў разглядаўся як вынік “расчараваньня ў нямецкай усходняй палітыцы”, а “факт антысавецкіх настрояў быў зусім даказаны”.

**Мірон Іванавіч Панкевіч** — падпалкоўнік Чырвонай Арміі, пазьней — Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. Нарадзіўся 6 жніўня 1905 г. у вёсцы Бранчыцы на Старобіншчыне (цяпер — Салігорскі раён Мінскай вобласьці) у сялянскай сям’і. Беларус. У кампартыю ўступіў у 1927 годзе. З 1928-га — у Чырвонай Арміі, служыў у Беларускай вайсковай акрузе. Неўзабаве стаў камандзірам узвода артылерыйскай батарэі, з 1933-га — камандзір асобнай супрацьтан-

кавай батарэі 27-й стралковай дывізіі. У 1934 г. прайшоў спецкурсы каманднага складу Марскіх сілаў Чырвонай Арміі ў Ленінградскай вайсковай акрузе. З лютага 1935-га — памочнік начальніка штабу 27-га артылерыйскага палка 27-й стралковай дывізіі Беларускай вайсковай акругі, пазьней — памочнік камандзіра дывізіёна. У 1936 годзе атрымаў рангу старэйшага лейтэнанта, у 1939 г. — капітана. У 1939-1940 гадах знаходзіўся ў складзе савецкай вайсковай місіі ў Кітаі, дзе пазнаёміўся з палкоўнікам А. Власавым (будучым генэралам). 15 сакавіка 1941 г. быў прызначаны камандзірам дывізіёна 622-га гаўбічна-артылерыйскага палка. У 1941 годзе атрымаў рангу маёра, у ліпені 1942-га — падпалкоўніка. З лютага 1942 году служыў начальнікам штабу артылерыі 357-й стралковай дывізіі 39-й арміі. У ліпені дывізія была разьбітая нямецкімі войскамі. У нямецкі палон трапіў летам 1942 году. У лягерах ваеннапалонных знаходзіўся да восені 1943-га. “Пад уплывам власаўскіх прапагандыстаў і асабістага знаёмства з Власавым напісаў заяву аб уступленьні ў РОА”, — піша К. Аляксандраў. З пачатку 1944 г. — начальнік штабу інспектарату генэрал-маёра РОА Благавешчанскага. З кастрычніка 1944 году — памочнік начальніка артылерыйскага аддзелу штабу Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. У пачатку 1945 г. прызначаны начальнікам 4-га аддзяленьня (артылерыйскія кадры) каманднага аддзела штабу Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. У красавіку 1945 году знаходзіўся ў складзе Паўднёвай групы генэрал-маёра Трухіна. 9 траўня ў раёне Капліцэ-Крумаў здаўся разам са штабам амэрыканскім войскам. Утрымліваўся ў лягерах ваеннапалонных. З лягера Ганакер уцёк, быў злоўлены і выдадзены савецкім прадстаўнікам. У СССР быў асуджаны. Вызваліўся па амністыі ў верасьні 1955 году. Праўдападобна, вярнуўся ў родную вёску. Далейшы лёс невядомы.

**Арцём Ціханавіч Макеёнак** — падпалкоўнік Чырвонай Арміі, пазьней — Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. Нарадзіўся 30 студзеня 1901 году ў вёсцы Канчаны на Асьвейшчыне (цяпер — Верхнядзьвінскі раён Віцебскай вобласьці) ў сялянскай сям’і. Беларус. У 1913 годзе скончыў 4-класную вучэльню. Падчас грамадзянскай вайны ў Расеі ваяваў у складзе Чырвонай Арміі (з красавіка 1918-га, у 4-м Пскоўскім палку), супраць нямецкіх і польскіх войскаў, летам 1919-га быў паранены. У кампартыі з 1925 году. Пасьля заканчэньня курсаў у Полацку і Менску ў сакавіку 1923-га прызначаны камандзірам узвода, а пасьля заканчэньня ў 1927 г. Беларускай аб’яднанай пяхотнай школы — выконваючым абавязкі камандзіра роты ў 88-м стралковым палку. З красавіка 1931 году служыў ва Ўкраінскай вайсковай акрузе, камандзір роты, начальнік штаба батальёну. Са студзеня

1935 г. — камандзір стралковай роты ў Кіеўскай аб’яднанай школе, з лютага 1936 г. — кіраўнік тактыкі і часовы камандзір роты ў Адэскай пяхотнай вучэльні. У 1939 г. скончыў Вышэйшыя стралкова-тактычныя курсы ўдасканаленьня камандзіраў пяхоты “Стрэл”, пакінуты выкладчыкам. З лістапада 1941-га — камандзір 1330-га стралковага палка 2-й стралковай дывізіі, маёр, з лютага-сакавіка 1942-га — камандзір 381-га стралковага палка 109-й стралковай дывізіі, падпалкоўнік. Удзельнічаў у абароне Севастопаля. Пасьля разгрома палка патрапіў у палон. Утрымліваўся ва Ўладзіміра-Валынскім лягеры ваеннапалонных, зьяўляўся начальнікам лягернай паліцыі. У ліпені 1943-га падаў заяву аб уступленьні ў РОА, скончыў Дабендорфскую школу РОА, працаваў прапагандыстам. У лістападзе 1944 году быў прызначаны выкладчыкам і начальнікам вучэбнага аддзела афіцэрскай школы Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. У сакавіку 1945-га быў абвінавачаны власаўскай контрвыведкай ў “прасавецкіх настроях” і арыштаваны, але хутка вызвалены. 9 траўня 1945 г. у складзе Паўднёвай групы Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі генэрал-маёра Трухіна ў раёне Капліцэ-Крумаў здаўся амэрыканцам. Да жніўня 1945-га ўтрымліваўся ў розных лягерах ваеннапалонных, 19 жніўня быў перададзены ў савецкую зону акупацыі Нямеччыны. 15 лістапада 1945 г. вайсковым трубуналам быў асуджаны на 10 гадоў пазбаўленьня волі. Далейшы лёс невядомы.

**Павел Паўлавіч Іваноў** — маёр Чырвонай Арміі, пазьней — Узброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. Нарадзіўся 5 сакавіка 1903 году ў вёсцы Гальшаны Віленскай губэрні (цяпер — Ашмянскі раён Гарадзенскай вобласьці) ў сям’і служачых. Беларус. Верагодна, з пачаткам Першай сусьветнай вайны сям’я выехала ў бежанства. У 1917 годзе скончыў 4-класную гімназію, працаваў у Курску ў транспартным аддзеле губернскага харчовага камітэту. У траўні 1919 году добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, ваяваў супраць войскаў Калчака, паўстанцаў у раёне Наварасійска, грузінскіх войскаў у 1921-м. У кампартыі з 1919 году. У 1920 г. скончыў Тульскія савецкія пяхотныя камандзірскія курсы, быў прызначаны камандзірам узвода 253-га стралковага палка 25-й стралковай дывізіі Паўднёвага фронту. З траўня 1921 г. — камандзір узвода 191-га стралковага палка 22-й стралковай дывізіі ў Сочы. З 1922 г. служыў у частках асаблівага прызначэньня ў Курску. З ліпеня 1924 году служыў памочнікам камандзіра роты 18-га стралковага палка 6-й стралковай дывізіі ў Курску. У 1927 г. скончыў Разанскую пяхотную школы, быў прызначаны памочнікам камандзіра роты 19-га стралковага палка 7-й стралковай дывізіі Украінскай вайсковай акругі. У наступныя гады займаў пасады камандзіра роты стралковага палка, начальніка штаба батальёну, памочніка каманд-

зіра стралковага палка. У 1938 г. атрымаў рангу маёра. У 1940 г. быў камандзірам запаснога палка, пасьля — 395-га стралковага палка 127-й стралковай дывізіі. Летам 1941 году дывізія была разьбітая, патрапіў у палон. Патрапіў у лягер ваеннапалонных у Нямеччыне. У 1942 г. вызвалены, працаваў у ТОДТ, займаўся аховай (у Беларусі, Расеі, Нямеччыне), кіраваў будаўнічымі працамі па стварэньні ўмацаваных раёнаў. У лістападзе 1944 году быў прызначаны камандзірам запаснога батальёну 1-й пяхотнай дывізіі Узброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі палкоўніка Бунячэнкі. У сакавіку 1945 году ваяваў на ўсходнім фронце, а 5-8 траўня 1945-га ўдзельнічаў у вызваленьні Прагі. Знаходзіўся ў дывізіі да часу яе роспуску 12 траўня 1945 году. Якім чынам трапіў у рукі СМЕРШу, невядома. Быў асуджаны на 20 гадоў пазбаўленьня волі. У кастрычніку 1952-га тэрмін быў зьніжаны да 10 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

**Арсень Пятровіч Дэмбскі** — маёр Чырвонай Арміі, падпалкоўнік Узброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. Нарадзіўся 1 красавіка 1902 году ў вёсцы Папіна Драгічынскага раёну цяперашняй Берасьцейскай вобласьці ў сялянскай сям'і. Беларус. У 1914 г. скончыў 4 клясы вясковай школы. Падчас грамадзянскай вайны ў Расеі ваяваў (з ліпеня 1919-га, калі добраахвотнікам уступіў у 1-ы Чарнігаўскі запасны стралковы полк) у складзе Чырвонай Арміі на Паўднёвым фронце. Ад сьнежня 1919 г. да верасьня 1920 г. знаходзіўся ў палоне. У 1922 годзе ўступіў у камуністычную партыю. У лютым 1923 году скончыў камандзірскія курсы і быў прызначаны памочнікам камандзіра ўзвода 11-га стралковага палка 37-й стралковай дывізіі Паўночнакаўказскай вайсковай акругі. Неўзабаве вырас да камандзіра ўвзода палкавой школы, кватэрмайстэра палка. З кастрычніка 1925 г. служыў у 109-м стралковым палку 37-й стралковай дывізіі Беларускай вайсковай акругі, са сьнежня 1930 г. — камандзір роты 191-га стралковага палка 64-й стралковай дывізіі, адначасова быў палітруком роты. У чэрвені 1932-га прызначаны камандзірам палкавой школы. У 1936 г. навучаўся на Вышэйшых стралкова-тактычных курсах удасканаленьня камандзіраў пяхоты “Стрэл”, атрымаў рангу капітана. З чэрвеня 1938 году — начальнік штаба 190-га стралковага палка 64-й стралковай дывізіі Беларускай вайсковай акругі. Вясной 1939 г. пераведзены ў Маскоўскую вайсковую акругу. Служыў памочнікам камандзіра 29-га стралковага палка па шыхтавой частцы, пасьля — 785-га стралковага палка. З красавіка 1940 году — маёр. 25 сакавіка 1941 г. прызначаны камандзірам 773-га стралковага палка. У ліпені 1941-га трапіў у палон, утрымліваўся ў лягерах ваеннапалонных. З пачатку 1943 году — камандзір рускага рэгулярнага 605-га батальёну Вэрмахта. У кастрычніку 1944 г. з Усходняга фронту пераведзены ў афіцэрскі

рэзерв штабу Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. Ачольваў кваліфікацыйную камісію па вызначэньню і ўстанаўленьню вайсковых рангаў для былых камандзіраў Чырвонай Арміі. У красавіку 1945 г. прызначаны намесьнікам начальніка каманднага аддзела штабу палкоўніка Пазьнякова, атрымаў рангу падпалкоўніка. Знаходзіўся ў Паўднёвай групе Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі генэрал-маёра Трухіна. 9 траўня 1945 году здаўся амэрыканскім вайскоўцам у раёне Капліцэ-Крумаў. Утрымліваўся ў амэрыканскіх лягерах ваеннапалонных. Пазьбег выдачы ў савецкую зону акупацыі Нямеччыны. У паваенны час быў актыўны ва ўласаўскіх палітычных эміграцкіх арганізацыях. Далейшы лёс невядомы.

Таксама ў сьпісе афіцэраў РОА ёсьць **Пятро Мікалаевіч Кучынскі**, капітан Чырвонай Арміі і Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. Ён нарадзіўся 22 сьнежня 1904 году ў вёсцы Доўгае на Старобіншчыне (цяпер — Салігорскі раён) у сялянскай сям’і, аднак праходзіць у дакумэнтах як “рускі”. Беспартыйны. У Чырвонай Арміі служыў з 1924 г., скончыў Мінскую вайсковую школу. Служыў у Беларускай вайсковай акрузе — камандзірам стралковага ўзвода, начальнікам гаспадарчай часткі палка, дывізіёна бронецягнікоў. У 1932 г. быў звольнены ў запас, арыштаваны. Асуджаны за “парушэньне сацыялістычнай законнасьці” на 2,5 гады зьняволеньня, вызвалены датэрмінова. Верагодна, жыў у Маскве. У 1938 годзе атрымаў рангу старэйшага лейтэнанта. У верасьні 1939-га прызваны ў Чырвоную Армію. З ліпеня 1941 году — камандзір батальёну забесьпячэньня Паўднёва-Заходняга фронту, капітан. Трапіў у акружэньне пад Кіевам, 48 дзён з рэшткамі батальёну прабіваўся на ўсход. 7 лістапада 1941 г. у Нарафамінскім раёне быў узяты ў палон. Спачатку знаходзіўся ў лягерах ваеннапалонных у Расеі, пасьля — у Беларусі (Крычаў, Магілёў, Полацк). 22 лістапада 1942 г. даў згоду на ўступленьне ў РОА. У 1943-1944 гг. служыў у аддзелах у Беларусі, Францыі, Бельгіі і Галандыі. У канцы жніўня 1944 году зьбіў вайскоўца Вэрмахту, з-за чаго быў адхілены ад пасады і накіраваны ў афіцэрскі рэзерв для рускіх афіцэраў у раён Штэцына. З канца 1944-га — у дывізіі Бунячэнкі, ад’ютант камандзіра батальёну. У красавіку 1945-га браў удзел у баях на ўсходнім фронце. 5-8 траўня 1945 г. удзельнічаў у разгроме ласаўскімі войскамі нямецкага гарнізона Прагі. 12 траўня здаўся ў палон савецкім войскам і прапанаваў дапамогу ў апазнаньні камандаваньня 1-й пяхотнай дывізіі Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. У той жа дзень у аўтакалоне, якая ехала ў амэрыканскую зону, апазнаў генэрал-лейтэнанта Власава. З 13 траўня 1945 году праходзіў праверку ў СМЕРШы 2-га Ўкраінскага фронту. 19 чэрвеня 1945 г. указам прэзідыюма Вярхоўнага Савету СССР “за

пасьпяховае выкананьне асаблівага заданьня камандаваньня на фронце” быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. У верасьні накіраваны ў запасны полк 12-й запасной стралковай дывізіі для прахаджэньня далейшай службы. Аднак у канцы 1945 г. быў арыштаваны і адпраўлены ў СМЕРШ у Маскву. Да вясны 1946-га знаходзіўся ў Падольскім канцлягеры, пасьля — у Тульскай вобласьці. Далешы лёс невядомы.

У сьпісе прысутнічае яшчэ адзін “рускі”-ураджэнец Беларусі. Гэта — падпалкоўнік Чырвонай Арміі, пазьней — палкоўнік Узброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі **Ўладзімер Дзянісавіч Карбукоў**. Ён нарадзіўся 25 сакавіка 1900 году ў Дзьвінску Віцебскай губэрні (цяпер — Даўгаўпілс, Латвія). Паводле дакумэнтаў — з сялян. У 1911 г. скончыў 3-класную пачатковую школу. У траўні 1919 году ўступіў у Чырвоную Армію, ваяваў супраць польскіх войскаў. З кастрычніка 1920-га — малодшы камандзір. У 1921 г. падаўляў антысавецкія паўстаньні, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі. У кампартыі з 1925 году. У верасьні 1924 г. прызначаны камандзірам узвода, у 1925 г. — памочнікам камандзіра роты. У 1926 годзе скончыў Ленінградзкую школу сувязі. Служыў начальнікам сувязі ў бабруйскім артылерыйскім палку (1928-1929 гг.), камандзірам роты сувязі ў 4-й дывізіі (1930-1931 гг.), начальнік сувязі 23-га стралковага палка 8-й дывізіі (1931 г.). У 1932 г. скончыў стралкова-тактычныя курсы ўдасканаленьня каманднага складу “Стрэл”, а ў 1934 г. — Кіеўскую вайсковую службу сувязі. З красавіка 1933-га — камандзір батальёну сувязі 2-й стралковай дывізіі. У 1936 годзе атрымаў рангу маёра, у 1940 г. — падпалкоўніка. Са жніўня 1941 г. — памочнік начальніка аддзела сувязі штаба 11-й арміі Паўночна-Заходняга фронту. З красавіка 1942-га — старшы памочнік начальніка сувязі штаба 2-й Ударнай арміі на Волхаўскім фронце. Трапіў у акружэньне, хаваўся да кастрычніка 1942-га. Утрымліваўся ў лягерах ваеннапалонных да жніўня 1943-га. Пасьля ўступленьня ў РОА, скончыў Дабендорфскую школу, быў залічаны ў афіцэрскі рэзерв. У пачатку студзеня 1944 году пераведзены ў інспэктарат генэрал-маёра РОА Благавешчанскага. З канца сьнежня 1944 г. быў начальнікам аддзела сувязі штаба Ўзброеных Сілаў Камітэту вызваленьня народаў Расеі. У лютым 1945-га атрымаў рангу палкоўніка. 9 траўня 1945 г. разам з Паўднёвай групай генэрал-маёра Трухіна здаўся амэрыканскім войскам. Утрымліваўся ў лягерах ваеннапалонных, а ў верасьні 1945 году выдадзены СМЕРШу. У кастрычніку 1945 г. быў перавезены ў Маскву. Быў асуджаны на сьмяротнае пакараньне, павешаны ў ноч на 1 жніўня 1946 году ў двары Бутырскай турмы ў Маскве.

Публікацыя **Васіля Сушко**

# У КРАСАВІКУ 1945-ГА Ў БЕЛАРУСКІМ ГОРАДЗЕ НКВДЫСТА ЗАБІЛА ЦЯГНІКОМ

## ТРАГІЧНЫЯ ЗДАРЭННІ З ВАЙСКОЎЦАМІ НКВД, ЯКІЯ АХОЎВАЛІ ЧЫГУНКУ Ў ПАВАЕННАЙ БЕЛАРУСІ

Чыгунка, масты былі ўзятыя пад ахову савецкімі войскамі адразу пасьля выгнаньня нямецкіх акупантаў. Да капітуляцыі Нямеччыны іх ахоўвалі найперш ад дывэрсантаў абвера, пазьней — ад “лясных братоў” і дывэрсантаў, закінутых у БССР заходнімі спэцслужбамі. Функцыі гэтыя выконвалі войскі НКВД/МВД СССР па ахове чыгунак.

У працах дасьледчыка з Калінінграда Юрыя Ржэўцава натрапіў на шэраг трагічных здарэньняў з вайскоўцамі НКВД/МВД, якія здарыліся на тэрыторыі БССР.* Хацелася б зьвярнуць увагу чытачоў на тое, адкуль паходзілі загінулыя байцы войскаў НКВД/МВД — **Расея, Азербайджан, Арменія, Узбекістан.** Можа прыкладна ўявіць нацыянальны склад падразьдзяленьняў, якія ня толькі выконвалі ахоўныя функцыі, але і змагаліся з “ляснымі братамі” ў Беларусі.

23 красавіка 1946 году ў навакольлі Баранавічаў загінуў “пры затрыманьні дэзертыраў” сяржант **Васіль Савілаў, 1910 г. н., ураджэнец Тамбоўскай вобласьці Расеі**. Ён быў камандзірам адзьдзяленьня 213-га стралковага палка 14-й стралковай дывізіі войскаў МВД СССР па ахове чыгункі. Яго пахавалі на могілках на паўднёва-ўсходняй ускраіне Баранавічаў. На цяперашні момант ён афіцыйна лічыцца пахаваным у брацкай магіле № 1 вайсковага мэмарыялу на вуліцы Загародняя ў Баранавічах, але там пазначана, што загінуў… у 1941 годзе, а не ў 1946-м. Незразумела, гэта памылка ці фальсіфікацыя.

У той жа брацкай магіле № 1 у Баранавічах верагодна пахаваны і шараговец 212-га стралковага палка 14-й стралковай дывізіі войскаў МВД СССР па ахове чыгункі **20-гадовы ўраджэнец Мардовіі Іван Крываротаў**. Ён раптоўна памёр ад хваробы (“кровазьліцьцё ў страўніку”) 12 чэрвеня 1946 году. Пахавалі байца на могілках на паўднёва-ўсходняй ускраіне Баранавічаў, а пасьля перанесьлі парэшткі ў брацкую магілу. Прычым, яго прозьвішча там не пазначанае, ён пахаваны як невядомы жаўнер.

12 чэрвеня 1946 году ў Ясельдзе “падчас купаньня” патануў **24-гадовы ўраджэнец Азербайджана Гасам Карымаў**, “стралок гарнізона па ахове чыгуначнага маста” 212-га стралковага палка 14-й стралковай дывізіі войскаў МВД СССР. Яго пахавалі каля месца гібелі

*http://www.angrapa.ru/forum/lofiversion/index.php?t219-1300.html

на Берасьцейшчыне.

У Горадні 22 траўня 1945 году трагічна загінуў **21-гадовы ўраджэнец Узбекістану Шадман Прымкулаў**, стралок 5-га стралковага батальёну 213-га стралковага палка 14-й стралковай дывізіі войскаў НКВД СССР па ахове чыгункі. На станцыі Ласосна баец Люкаў "з-за няўмелага абыходжаньня з аўтаматам ППШ, зьдзейсьніў стрэл, якім забіў чырвонаармейца". Куля патрапіла ў жывот Прымкулаву і ён памёр на месцы. Пахаваньне адбылося на "Нёманскіх могілках".

10 красавіка 1945 году на станцыі Выжга пад Ковелем патрапіў пад цягнік **41-гадовы ўраджэнец Навасібірскай вобласьці Расеі Мікалай Буцерын**, сяржант, камандзір адзьдзяленьня 4-га стралковага батальёну 212-га стралковага палка 14-й стралковай дывізіі войскаў НКВД СССР па ахове чыгункі. Ён прыехаў у Берасьце ў штаб 4-га батальёну "для адкамандзіраваньня яго ў рэзервовую роту". Аднак забыўся сваю характарыстыку і мусіў вярнуцца назад. Каля станцыі Выжга ён не дачакаўся спыненьня цягніка Берасьце — Ковель. Саскочыў і "выпадкова патрапіў пад цягнік, у выніку чаго адрэзала абедзьве нагі ніжэй каленяў". Параненага спачатку завезьлі ў Ковель, дзе аказалі медычную дапамогу, а пасьля, той жа ноччу — ў шпіталь у Берасьце, дзе ён і памёр 11 красавіка "ад вялікай страты крыві". Буцерына пахавалі на могілках у вёсцы Лышчыца Берасьцейскага раёну.

24 красавіка 1945 году на станцыі Ліда быў зьбіты цягнікам і загінуў **36-гадовы ўраджэнец Арменіі Ашот Нікалян**, сяржант, дзяжурны прыёмшчык вагонаў гарнізона па ахове грузаў станцыі Ліда 213-га стралковага палка 14-й стралковай дывізіі войскаў НКВД СССР па ахове чыгункі. Нікалян пераходзіў чыгунку і ўпаў, у гэты момант на яго наехаў паравоз. Яго пахавалі ў Лідзе. На цяперашні момант лічыцца пахаваным у брацкай вайсковай магіле на гарадзкіх могілках па вуліцы Савецкай. Датай сьмерці памылкова пазначанае 25 красавіка.

Са станцыяй Ліда зьвязанае і яшчэ адно трагічнае здарэньне. 12 студзеня 1945 году на станцыю ў Вільні з боку Ліды прыйшоў цягнік, у якім не працавалі тармазы. Цягнік ішоў на вялікай хуткасьці, а машыніст бясконца падаваў трывожныя гукавыя сігналы, каб на станцыі яму вызвалілі шлях. Зроблена гэта не было і ён сутыкнуўся з іншым цягнікам, у выніку чаго адбыўся моцны выбух. Узарваліся "выбуховыя рэчывы", якія знаходзіліся ў адным з цягнікоў, была разбураная электрастанцыя. Кантузію атрымаў яфрэйтар 3-й стралковай роты 1-га стралковага батальёну 211-га стралковага палка 14-й стралковай дывізіі войскаў НКВД ССР па ахове чыгункі **Іван Сіцявін, 1920 г. н.**, **ураджэнец Ульянаўскай вобласьці Расеі**, які ахоўваў электрастанцыю. Пасьля лячэньня ён зноў вярнуўся ў сваю частку, знаходзіўся ў гарнізоне па ахове маста на рацэ Нёман і загінуў 29 сакавіка 1945-га ад паражэньня электрычным токам. Яго пахавалі ў Каўнасе.

**Васіль Сушко**

# СПРАВА ПАПЛЕЧНІКА АТАМАНА ДЗЕРГАЧА НІКАДЗІМА КОСТАЧКІ, 1946 ГОД

Сярод версій зьнікненьня Вячаслава Адамовіча-сына (атамана Дзергача) найбольш пашыраная — арышт яго дзесьці ў 1939 годзе савецкімі спэцслужбамі (яе прытрымліваецца дасьледчыца яго біяграфіі Ніна Стужынская). Дакумэнтальна яна ніяк не пацьверджаная. Хіба толькі ў крымінальных справах яго паплечнікаў ёсьць пазнакі “У справу Дзергача”.




***Фота з кнігі “Щит и меч Отечества”***

Ёсьць і іншая версія, на наш погляд, больш верагодная.

Але спачатку нагадаем, што ў міжваенны час кіраўнік беларускай антыбальшавіцкай арганізацыі “Зялёны Дуб” атаман Дзяргач жыў у Данцыгу (цяпер — Гданьск), служыў псаломшчыкам у праваслаўнай царкве. Два гады таму “БР” пісаў пра скандал, які здарыўся з Дзергачом у 1930-х і які мог паўплываць на лёс.* Паводле ўспамінаў афіцэра абвера Оскара Райле, “царкоўны стараста” з Данцыга альбо “старшыня данцыгскай філіі “Зялёнага дуба” ў другой палове 1930-х супрацоўнічаў зь нямецкай выведкай, забясьпечваў немцаў дэзынфармацыяй пра сытуацыю ў СССР. Абверам гэта было выкрыта. Але якія наступствы гэта мела для Дзергача, Райле ня піша.

Рэдакцыя “БР” тады высунула версію, што “зьнікненьне Вячаслава Адамовіча-малодшага ў 1939-м магло быць арганізаванае нямецкімі спэцслужбамі, як акцыя помсты”.** Справа Нікадзіма Костачкі, паплечніка Дзергача, ускосна гэта пацьвярджае. Кароткую інфармацыю пра яе апублікаваў дасьледчык з Калінінграда Юрый Ржэўцаў.***

11 лютага 1946 году Гумбіненскай аператыўнай групай апарату ўпаўнаважанага НКВД-НКГБ СССР па Ўсходняй Прусіі падчас праверкі дакумэнтаў быў затрыманы беларус Нікадзім Пятровіч Костачка, 1902 году нараджэньня, ураджэнец вёскі Дубна Гарадзенскай вобласьці,

---

*Гл.: Райле О. Як атаман Дзяргач ашукаў нямецкую выведку // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 128-130.

**Тамсама, б. 128.

*http://www.angrapa.ru/forum/lofiversion/index.php?t219-50.html

“чалавек без грамадзянства”, сталяр паводле адукацыі. У крымінальнай справе яго называюць “агентам польскай выведкі і гэстапа”.

У абвінаваўчым заключэньні адзначалася:

“…праведзеным па справе расьсьледаваньнем устаноўлена, што КОСТАЧКА жывучы ў горадзе Данцыг, у 1927 годзе быў завербаваны рэзыдэнтам 2-га аддзела польскага генштаба АДАМОВІЧАМ у якасьці тайнага агента і быў зьвязаны зь ім па выведчай працы да 1938 году…

Будучы агентам польскай выведкі і дасканала валодаючы польскай, нямецкай, беларускай і рускай мовамі КОСТАЧКА на заданьне рэзыдэнта АДАМОВІЧ працаваў па назіраньні за замежнікамі, якія прыяжджаюць у горад Данцыг і аб усіх здабытых зьвестках і матэрыялах у вуснай форме паведамляў рэзыдэнту АДАМОВІЧ…

Знаходзячыся на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі гор. Данцыг, у красавіку 1942 году КОСТАЧКА быў арыштаваны гэстапа па падазрэньні ў прыналежнасьці да польскай выведкі. На допытах у гэстапа КОСТАЧКА прызнаўся, што ён меў сувязь з польскай выведкай і назваў шэраг асобаў, якія таксама зьяўляліся агентамі польскай выведкі. Пасьля гэтага КОСТАЧКА было прапанавана тайнае супрацоўніцтва з гестапа, на што ён даў сваю згоду. Вярбоўка была аформленая адпаведнай падпіскай…

Працуючы на макароннай фабрыцы ў горадзе Данцыг і знаходзіўся на сувязі з рэзыдэнтам гэстапа БУХГОЛЬЦ, КОСТАЧКА паведаміў яму пра восем рабочых макароннай фабрыкі, аб іх антыфашыстоўскіх настроях і падазраваных ім у псаваньні абсталяваньня, пасьля чаго яны патрапілі пад допыты, аднак арыштаваныя не былі…

Будучы дапытаны ў якасьці абвінавачанага КОСТАЧКА па сутнасьці выстаўленага абвінавачаньня, вінаватым сябе цалкам прызнаў…”.

Прысуд Нікадзіму Костачцы быў вынесены не раней за 3 сьнежня 1946 году Асобай нарадай пры МВД СССР па артыкуле 58 пункт 4 Крымінальнага кодэксу — восем гадоў папраўча-працоўных лягероў.

**Мікола Шыбіцкі**

# АПОШНІЯ ПУБЛІКАЦЫІ НА ТЭМУ ПАСЬЛЯВАЕННАГА АНТЫБАЛЬШАВІЦКАГА СУПРАЦІЎЛЕНЬНЯ Ў БЕЛАРУСІ

На жаль, на працягу апошняга году вартых увагі публікацый, прысьвечаных паваеннаму Супраціву ў Беларусі, зьявілася вельмі мала. Сярод гэтых адзінкавых артыкулаў, якія практычна нічога новага не адкрываюць, ёсьць цікавая публікацыя Ірыны Палавіковай, прысьвечаная атраду "лясных братоў" Аляксандра Аношкі.* Яна цалкам перадрукоўваецца ў гэтым нумары ў рубрыцы "Дайджэст" з нашай прадмовай.

У ліпені 2011 году ў інтэрнэце была ўдаступнена кніга *"Белорусские буржуазные националисты. Учебный материал"* (Москва: Высшая школа КГБ СССР, 1957), на якую мы неаднойчы спасылаліся ў сваіх публікацыях. Кнігу апублікаваў архіў СБУ.** Аўтар рэгіянальнага партала "Свіслач" слушна адзначае: "Па ўзброенай барацьбе беларусаў супраць СССР  і супрацьдзеяннях НКВД-МГБ-КДБ быў напісаны асобны падручнік, які, на жаль, пакуль яшчэ засакрэчаны". Будзем спадзявацца, што і падручнік *"Белорусские буржуазные националисты"* ў бліжэйшыя гады стане даступны дасьледчыкам.

У жніўні 2011-га "вядомы вайсковы гісторык прафесар Акадэміі МУС Беларусі" Анатоль Шаркоў у саўмінаўскай газэце "Рэспубліка" апублікаваў у форме інтэрвію нейкі "эрзац" пра пасьляваеннае супраціўленьне.*** Дагэтуль Шаркоў спэцыялізаваўся на дасьледаваньні знаходжаньня нямецкіх ваеннапалонных на тэрыторыі Беларусі. Цяпер жа ён выступіў у якасьці спэцыяліста па "лясных братах". І што ж ён нам распавёў? Пачнем з прадмовы:

*"Завершившаяся в мае 1945 года война против нацистской Германии позволила населению Советского Союза перевести дух, пересчитать еще не оплаканные потери своих родных и близких, начать восстанавливать разрушенное хозяйство. Однако освобожденная*

---

*Половикова И. Без срока давности. Больше трех лет бандиты держали в страхе жителей десятков деревень // Могилёвская правда, 2011, 16 снежня; http://mogpravda.by/ru/issues?art_id=1412

**Таемнае стае яўным — сакрэтны дакумант КДБ вывесілі ў Google // svislac.belarda.org/index.php?mod=news&id=1105

***Беcтвицкий Ю. Ликвидация // Рэспубліка, 2011, 27 жніўня, № 163; http://respublika.info/5326/history/article49466/print/

*от немецких оккупантов Беларусь буквально с первых мирных дней стала ареной новых боевых действий — националистические прозападные круги, мечтавшие о реванше, совершили очередную агрессию. Проще говоря, развязанный нацистами в июне 1941 года военный бандитизм стал перемещаться в леса и на глухие хутора западных областей Беларуси. Основная миссия по уничтожению бандформирований и антибелорусского подполья была возложена на чекистов и людей в милицейских погонах, прикрывавших тылы Красной армии. Оперативные сводки Министерства внутренних дел БССР об операциях по ликвидации "лесных братьев" были не менее тревожными, нежели с фронтов".*

Аднак такая шматабзацальная прадмова не адпавядае самому інтэрвію. А. Шаркоў агучвае даўно вядомыя лічбы пра падпольле і атрады польскай АК, УПА, АУН, згадвае нямецкую агентуру, пакінутую ў савецкім тыле. Большая частка тэксту пра ліквідаваныя атрады прысьвечаная "бандам" **Антона Васілеўскага і Яна Геруса**. Пра гэтую спэцаперацыю напісана нямала, на тэлеканале АНТ пару гадоў таму быў прадэманстраваны дакумэнтальны фільм. Шаркоў жа нічога новага не паведаміў, пераказаўшы вядомыя факты.

У інтэрвію вартая ўвагі хіба толькі наступная цытата:

*"Во втором полугодии 1944 года в белорусских лесах было выявлено более 32 тысяч немецких солдат и офицеров, оставшихся в тылу, около 3 тысяч из которых не сложили оружие и были убиты. Ликвидированные банд-группы исчислялись сотнями, почти три тысячи их участников, а также 642 бандита-одиночки были уничтожены. Интересная статистика: в ходе ликвидации бандподполья на территории Беларуси было выявлено 13 тысяч 228 бойцов, дезертировавших из Красной армии, 46 тысяч 818 уклонистов от призыва на службу, более 22 тысяч из числа которых были впоследствии легализованы. Были арестованы агенты немецкой разведки, счет выявленным изменникам Родины, служившим в полиции и немецких учреждениях, измывавшимся над своими соотечественниками в период оккупации, шел на сотни".*

Ну і нельга не адзначыць сьцьверджаньня прафэсара наконт таго, што *"подавляющее большинство главарей бандформирований на территории Западной Белоруссии не были стихийными борцами с властью, а завербованы по линии иностранных разведок…".*

***

Ня будзем спыняцца на "папсовых" артыкулах Ігара Мельнікава, якія зьяўляюцца ў самых нечаканых выданьнях.* Нічога новага ён не

адкрывае, перапісвае даступныя яму крыніцы (у тым ліку артыкулы гісторыка Ўладзімера Гуленкі, якія зьявіліся гадоў 20 таму), прычым ня вельмі талкова. Блытаецца сам і заблытвае чытачоў (недастаткова глыбока вывучыў тэму, каб патлумачыць, куды ж дзеліся "бульбаўскія" ці "мельнікаўскія" атрады ў канцы вайны). У артыкул пра ўкраінскі партызанскі рух ён "украпіў" эпізод з гібельлю летам 1945-га падпалкоўніка НКВД Шпакава. Відаць, Мельнікаву невядома, што мястэчка Новая Мыш не на Палесьсі знаходзіцца, а пад Баранавічамі. Да таго ж, загінуў Шпакаў падчас ліквідацыі польскага (ці польска-беларускага) атрада **Баляслава Зяленскага**, а ніяк не ўкраінскага.**

Добра, што беларускія навукоўцы намагаюцца сур'ёзна дасьледаваць праблему дзейнасьці ў БССР украінскіх антысавецкіх партызанскіх атрадаў і арганізацый. У верасьні 2011 году ў Менску выйшаў зборнік дакумэнтаў **"ОУН-УПА в Беларуси. 1939—1953 гг.: Документы и материалы"**. Яго матэрыялы ўжо выкарыстоўваліся намі ў папярэднім нумары, а рэцэнзія зьявіцца ў наступным.

***

Што да тэкста Аляксандра Ярмаца, які зьявіўся на сайце часопіса "Архэ"***, дык ён павярхоўны. Нават нягледзячы на тое, што аўтар працаваў з архіўнымі дакумэнтамі. Ярмац нават не пабачыў розьніцы паміж умовамі, у якіх праходзілі выбары 1946 і 1947 гадоў: у яго ўсё зьмяшанае ў адну кучу. Ну і, зразумела, супраць савецкіх уладаў у БССР, паводле гэтага аўтара, змагаліся толькі польскі і ўкраінскія рухі супраціву. Пра беларускі — ні слова. А. Ярмац мог бы хаця б пазнаёміцца з публікацыяй Натальлі Рыбак****, калі ўжо піша на тэму

---

*Мельнікаў І. Невядомая вайна ў беларускім Палессі // 2012, 31 жніўня; http://www.novychas.org/timelinks/D0%BD%D0%B5%D0%B2%D1%8F%D0%B4%D0%BE%D0%BC%D0%B0%D1%8F-%D0%B2%D0%B0%D0%B9%D0%BD%D0%B0-%D1%9E-%D0%B1%D0%B5%D0%BB%D0%B0%D1%80%D1%83%D1%81%D0%BA%D1%96%D0%BC-%D0%BF%D0%B0%D0%BB%D0%B5%D1%81%D1%81%D1%96

Мельников И. Неизвестная война в беларуском Полесье // Секретные исследования (Минск), 2012, № 17, верасень.

**Падрабязна пра гэта гл.: Аператыўныя зводкі Галоўнага ўпраўленьня па барацьбе з бандытызмам НКВД-МВД СССР. 1944-1945 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), 81-82.

***Ярмац А. Актывізацыя антысавецкага падполля на тэрыторыі Беларусі падчас падрыхтоўкі і правядзення выбараў у Вярхоўныя Саветы ў 1946-1947 гг. // 2012, 20 лютага; http://www.arche.by/by/page/science/8705

****Рыбак Н. Беларускае антысавецкае падпольле ў заходніх абласьцях БССР у пасляваенныя гады // Заходні рэгіён Беларусі вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў: зборнік навук. артыкулаў. — Гродна: ГрДУ, 2006, б. 131-135.

паваеннага супраціву.

Яшчэ адзін аўтар, нехта **Генэк**, у сваім нарысе пра паваенны супраціў* піша, што дакумэнты па тэме дагэтуль засакрэчаны, а партызанаў называюць “бандытамі”. Цікава, што паваенны супраціў ён акрэсьлівае як “антысавецкае польска-беларускае супраціўленьне”. Аўтар сьцьвярджае, што ў лясах былі бандыты і былыя калябарацыяністы, але “большасьць нацыянальных партызанаў — гэта людзі, якія змагаліся з савецкай уладай па ідэйных меркаваньнях”.

Ён сьцьвярджае, што ў польскіх партызанаў пасьля студзеня 1945-га (роспуску Арміі Краёвай) і ў “беларускіх нацыянальных партызанаў” не было “адзінага кіроўнага цэнтру”, а “мэты барацьбы ў іх былі розныя” — адныя ваявалі за аднаўленьне незалежнай польскай дзяржавы, іншыя — за незалежную Беларусь. Але “лясных братоў” аб’ядноўвала “нянавісьць да крывавага сталінскага камуністычнага рэжыму”.

На жаль, большасьць прыведзеных фактаў — перапісваньне старых артыкулаў. Згадка пра расстрэл мабілізаваных каля Солаў ці пра вынікі барацьбы з “ляснымі братамі” ў 1944-1946 гг. — гэта выпіскі з архіўных дакумэнтаў, апублікаваныя намі яшчэ ў 1994-1995 гадах.

Але і ў іх аўтар блытаецца. Паводле яго, у першым паўгодзьдзі 1946-га ў БССР было ліквідавана 97 атрадаў і падпольных арганізіцый. Насамрэч, гаворка ідзе менавіта пра беларускія атрады і арганізацыі, але ліквідаваныя ў 1944-1946 гадах.

Цытата з успамінаў Васіля Струпаўца апублікаваная намі ў “Нашай ніве” гадоў 15 таму. І зноў жа спасылкі на першую публікацыю няма.

У яго БНП — народная партыя, а яна ж незалежніцкая! Ужо гадоў 10 вядома, што Жыхар загінуў у студзені 1955-га, а не ў жніўні... Шкада, што столькі хібаў, бо артыкул перадрукоўваўся і шырока пайшоў. І зноў у дзяржвыданьнях пачнуць са зьдзекам згадваць пра “штурмы” Кобрына, “атакі” Гайнаўкі — а гэта ж былі дробныя, кропкавыя акцыі, перабольшаныя эміграцыйнымі выданьнямі. Тое ж і з Наваградкам. Напалі на будынак, вызвалілі зьняволеных і хутка сыйшлі...

А вось успаміны сьведкаў, удзельнікаў, якія аўтар ці не ўпершыню публікуе — гэта самае каштоўнае ў артыкуле. Напрыклад, былы савецкі вайсковец Мікалай Ізотаў, які ў 1947-1950 гадах служыў у Паставах, успамінае пра “бандэраўцаў”, якія “змагаліся за самастойную Беларусь”. Дагэтуль не даводзілася чуць, каб беларускіх нацыянальных партызанаў называлі “бандэраўцамі”. Гэта можа сьведчыць пра тое,

*Gienek. Антисоветское партизанское движение на Поставщине и в других районах Белоруссии в 1944-1956 г. // 2012, 6 студзеня; http://westki.info/blogs/12591/antisovietskoie-partizanskoie-dvizieniie-na-postavshchinie-i-v-druhich-rayonach Перадрук: Правда о партизанском движении, которую десятилетиями скрывали коммунисты // Белорусский партизан, 2012, 14 лютага; http://www.belaruspartisan.org/bp-forte/?page=100&backPage=13&news=122556&newsPage=0

што для савецкіх жаўнераў, якіх перакідвалі з адной "гарачай кропкі" ў другую, сытуацыя ў Беларусі нагадвала вайну ў Заходняй Украіне. Той жа Ізотаў сьведчыць, што ў адным з баёў з "ляснымі братамі" загінулі каля 70 салдат з яго часьці і 50 міліцыянтаў.

Як плюс яму можна залічыць і выкарыстаньне матэрыялаў часопіса, падрыхтаванага Мінскім упраўленьнем КДБ.* Нават некаторыя "паважаныя" гісторыкі ігнаруюць гэтыя дакумэнты, якія сьведчаць пра арганізаванасьць беларускага супраціву, пра яго рэальны маштаб.

Вясной 2012-га пра легендарнага беларускага партызанскага камандзіра **Аўгена Жыхара** апублікаваў аж два варыянты артыкула Ўладзімер Скрабатун.** Ці не самае цікавае ў іх — сьведчаньне 80-гадовага Івана Адамовіча (у 1951-м ён быў асуджаны "па справе Жыхара"). Ён наўпрост кажа, што партызанскі камандзір "быў шпіёнам" і меў сувязь з заходнімі выведкамі (у 1950 г., нібыта, з Захаду да яго прылятаў самалёт).

Нагадаем, што афіцыйна гэта не прызнаецца. Бо калі прызнаць, што Аўген Жыхар меў сувязь з Захадам, давядзецца сказаць і праз каго — праз арганізацыю Міхала Вітушкі. А яе існаваньне афіцыйна называецца "мітам" ці "апэратыўнай гульнёй савецкіх спэцслужбаў".

Скрабатун відавочна памыляецца, калі піша, што сёньня Жыхара назвалі б "элітай спецназу", што ён "быў адмыслоўцам найвышэйшага кшталту". Ня быў ён "элітай", батальён "Дальвіц" рыхтаваў шараговых камандасаў, а сапраўдная эліта беларускіх спэцназаўцаў трапляла ў арганізацыю "Чорны Кот". Але Аўген Жыхар быў добрым партызанам, адважным, зь якім доўгі час была ўдача.

Ул. Скрабатун сьцьвярджае, што "не знайшоў хоць аднаго талковага артыкула пра яго [Жыхара]".*** Ну добра, няхай наш артыкул у яго газэце ён лічыць "безталковым".**** Але ж чаму за столькі гадоў сам нічога вартага не напісаў? Затое друкаваў вось такія арыгінальныя рэчы: Касцень А. Жыхара не забілі і **быў ён энкавэдыст** // Вольнае Глыбокае, 2003, 29 траўня — 4 чэрвеня, № 22.

Як даведаліся, у 2012 годзе ў родных месцах Аўгена Жыхара пра яго здымаўся дакумэнтальны фільм.

---

*Погибли на боевом посту (по публикациям пресс-группы. управления КГБ по г. Минску и Минской области) // minsk.gov.by/ru/org/7310/attach/8cf18c8/izd_1.doc

**Скрабатун Ул. Жыхар быў вялікім прахадзімцам // Наша ніва, 2012, 6 траўня; http://nn.by/?c=ar&i=72444 Перадрук: Скрабатун Ул. Няма на іх Жыхара // http://westki.info/artykuly/13183/niama-na-ich-zychara

Аўтарскі варыянт гэтага артыкула [без правак рэдактара "НН"]: Скрабатун Ул. "Іван Адамовіч: Жыхар быў вялікім прахадзімцам!" // 2012, 6 траўня; http://westki.info/blogs/13186/ivan-adamovic-zychar-byu-vialikim-prachadzimcam Перадрук: http://arche.by/by/page/talks/10152

***http://westki.info/blogs/13186/ivan-adamovic-zychar-byu-vialikim-prachadzimcam

****Ёрш С. Жыхар быў беларускім партызанам-незалежнікам // Вольнае Глыбокае, 2003, 19-25 чэрвеня, № 25.

***

У кастрычніку 2011-га ў інтэрвію газэце “Гродзенская праўда”* начальнік Гарадзенскага ўпраўленьня КДБ генэрал-маёр Іван Корж, між іншым, згадаў паваенную барацьбу з бандытызмам. Ён нагадаў, што “апошняя банда” ў вобласьці была ліквідаваная 18 траўня 1952 году ў лесе каля вёскі Рыбніца Гарадзенскага раёну. Паводле словаў Каржа, агулам на Гарадзеншчыне пасьля вайны былі разгромленыя “некалькі соцень нацыяналістычных бандыцкіх групаў”, ахвярамі якіх сталі больш за тысячу мірных жыхароў.

Нямала цікавых згадак зьяўляецца на мясцовых сайтах на Берасьцейшчыне. Яны прысутнічаюць у нарысах пра ветэранаў, альбо пра гісторыі раённых аддзелаў унутраных справаў. 86-гадовы жыхар Кобрыншчыны Павел Карэнчук успамінаў як ён, камсамолец, пасьля выгнаньня немцаў быў накіраваны на аднаўленьне разбураных шлюзаў Днепра-Бугскага канала. Пасьля яго адправілі ў Пінск ў школу малодшых камандзіраў, дзе “рыхтавалі кадры для аховы шлюзаў”. Далей ён служыў на Днепра-Бугскім канале, быў намесьнікам камандзіра ўзвода па палітчасьці. Калі для шахтаў Данбаса спатрэбіліся драўляныя стойкі, то ён арганізаваў іх нарыхтоўку ў лесе. Як піша “Кобрынскі веснік”**, “працавалі цэлыя суткі, загружалі па 20-25 вагонаў. А тут яшчэ банда Юшчыка спрабавала перашкодзіць працы”. Карэнчук знаходзіўся на ахове шлюзаў да таго часу, пакуль зь Нямеччыны не вярнуліся вайсковыя часьці, якія ўзялі на сябе ахоўныя функцыі.

Тым часам на сайце Лунінецкага раённага выканаўчага камітэту зьявіўся гістарычны нарыс пра мясцовую міліцыю.*** Матэрыял багаты на малавядомыя і зусім невядомыя факты. Сьцяпан Варэніч успамінае, як зь іншымі супрацоўнікамі лунінецкага НКВД летам 1941-га адступаў на ўсход: **“У ноч з 5 на 6 ліпеня 1941 г.** у раёне **в. Пясчанка,** Гаўрыльчыцкага с/савета ўзброеная банда з засады адкрыла агонь па нас з Жалезным. Пада мной быў забіты конь. Мы заляглі і пачалі весьці агонь па бандзе. Адзін з бандытаў быў забіты, а астатнія зьбеглі”. Варэніч і Жалезны пешшу дайшлі да Гомеля, дзе ў другой палове ліпеня 1941-га былі залічаныя ў асобны полк НКВД.

Ён, дарэчы, не выкарыстоўваўся пры напісаньні агляду падобных матэрыялаў на сайтах аддзелаў міліцыі, які зьявіўся на бачынах “БР” у 2010 годзе. Гл.: Пірог В. “Аператыўная сытуацыя была цяжкай аж да 1958 году” // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 96-100. У яшчэ ад-

---

*Гаврицкий И. Дело чести // Гродзенская праўда, 2011, 17 кастрычніка; http://www.grodnonews.by/ru/0/9282/news
**Сацук А. Рождённый Октябрём // Кобрынскі веснік, 2010, 9 лістапада; http://www.vkobrine.by/?p=1377#more-1377
***История [лунинецкой милиции] // http://luninets.brest.by/rovd/54/

ным матэрыяле згадвалася толькі пра надпіс на будынку Лунінецкага РАУС з прозьвішчамі загінулых у 1944-1949 гг. “пры абароне савецкай дзяржавы” міліцыянтаў. Гл.: Панасеня В. Загінулі пры абароне савецкай дзяржавы // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 103.

У “Гісторыі лунінецкай міліцыі” адзначаецца, што немцы, уцякаючы, “пакінулі шмат саўдзельнікаў, якія арганізавалі крымінальныя і палітычныя банды”. А іх накіроўвалі і “падагравалі” “варожая агентура і нацыяналістычнае падпольле”. Распавядаецца пра гібель у канцы 1944 году начальніка раённага аддзела НКВД капітана **Міхаіла Трошына**. Ён у складзе апэратыўнай групы з 5 чалавек выяжджаў на пошук “банды”, якая разграміла Бастынскі сельсавет ды загінуў у няроўным начным баі, які працягваўся каля 10 (!) гадзінаў. Яго імя занесенае ў раённую “Кнігу народнай славы”.

Пішучы пра міліцыянта Міхаіла Велесюка, аўтар нарыса адзначае: **“Служба ў міліцыі ў той час амаль нічым не адрозьнівалася ад партызанскага пэрыяду яго жыцьця**: барацьба з бандытамі, дэзэртырамі, рабаўнікамі патрабавала высокай апэратыўнай гатоўнасьці і мужнасьці”. **У 1947 годзе** ён быў узнагароджаны медалём “За баявыя заслугі”.

**У 1948 годзе** шмат клопатаў лунінецкім міліцыянтам прынесла “банда” **Мірона Ярахановіча**, якая дзейнічала на тэрыторыі некалькіх сельсаветаў. Людзі Ярахановіча, якія дзейнічалі невялікімі групамі, нападалі на савецкія ўстановы, зьнішчалі дакумэнты, забіралі грошы, тэрарызавалі савецкіх актывістаў. Для ліквідацыі “банды” Ярахановіча і іншых груп былі створаныя некалькі апэратыўных групаў міліцыянтаў. У баю каля **вёскі Вулька-2** адна з групаў “лясных братоў” у складзе 5 чалавек была зьнішчаная, сярод іх быў і Мірон Ярахановіч.

Былы міліцыянт-апэратыўнік Салаўёў успамнае пра “рабаўніцка-тэрарыстычную банду”, якой камандаваў **“Штурхала”**. У 1947 годзе яна складалася з 11 чалавек і дзейнічала на тэрыторыі Лунінецкага, былых Давід-Гарадоцкага і Ленінскага раёнаў (у апошнім дзейнічалі і “банды” **“Цубы”** ды **“Музыкі”**). Узброеныя аўтаматамі, стрэльбамі і гранатамі, “лясныя браты” рабавалі крамы, калгасныя касы, нападалі на сельсаветы, забівалі актывістаў. **Вясной 1949-га** “лясныя браты” “Штурхала” працягвалі дзейнічаць. На Вялікдзень (24 красавіка) міліцыянты атрымалі інфармацыю пра “бандытаў”, якія прыйшлі на Намокраўскія хутары. Туды выехаў **начальнік Ленінскага раённага адзела міліцыі маёр Васіль Гразноўскі** і яшчэ некалькі чалавек. Яны забілі аднаго нелегала, а другога захапілі і дапыталі. Ад яго даведаліся, што “банда” знаходзіцца на хутары Чарабасава. Атрымаўшы падмацаваньне, Гразноўскі вырашыў яе ліквідаваць. У баю былі забітыя 4 “лясных браты”, загінуў і маёр Васіль Гразноўскі.

**С. Ё.**

# АДОЗВА “УСЕБЕЛАРУСКАГА АНТЫКАМУНІСТЫЧНАГА ФРОНТУ”

У 1920-1930-я гады ў Заходняй Беларусі нараджалася і незаўважна памірала нямала карлікавых беларускіх партый і арганізацый. Але былі і выключна віртуальныя праекты, якія існавалі толькі на паперы. Яскравы прыклад — **“Усебеларускі антыкамуністычны фронт”**. Ад яго захавалася хіба толькі адна машынапісная адозва, выканая на беларускай лацінцы і пазначаная студзенем 1936 году. Пры азнаямленьні з тэкстам кідаецца ў вочы жахлівая непісьменнасьць аўтара…

Адозва зьявілася з нагоды нейкіх “рэвалюцыйных” падзеяў “на Далёкім Усходзе”. Верагодна, маюцца на ўвазе шматлікія правакацыі, якія адбываліся ў той час на мяжы акупаванай японскімі войскамі Манчжурыі з Манголіяй і Савецкім Саюзам. У 1935 годзе Японія адмовілася падпісаць з Масквой пакт аб ненападзе, таму пэўнае чаканьне магчымай вайны было. Аднак невядомы нам аўтар адозвы відавочна перабольшвае значэньне тых падзеяў. Яго спадзяваньні, што вайсковы канфлікт Японіі і СССР “збурыць кровавую коммуністычную дзіктатуру” былі ілюзорнымі. Тым не менш, у адозьве зьмешчаны заклік рыхтавацца да вайны, змагацца супраць камуністаў у Заходняй Беларусі і быць гатовымі вызваліць ад бальшавікоў савецкую Беларусь.

Што да асобы аўтара (аўтараў), які, як відаць, належаў да беларускага антыкамуністычнага лягеру, дык мы прапануем дзьве версіі. Першая (менш верагодная) — гэта быў нейкі стары беларускі дзеяч, удзельнік беларускіх палянафільскіх партый/арганізацый пачатку 1920-х (напрыклад, **Вячаслаў Адамовіч**-бацька, які жыў у той час у Вільні). Другая (больш верагодная) — адозву напісаў хтосьці з беларускіх нацыянал-сацыялістаў (напрыклад, той жа іх лідар **Фабіян Акінчыц**). На карысьць апошняга сьведчыць і згадка беларускіх нацыянал-сацыялістаў першымі ў шэрагу іншых партый. Як і заклік да іх спыніць гульні ў “тэарэтычные разважанні” — уся актыўнасьць беларускіх нацыянал-сацыялістаў на той час зводзілася толькі да выданьня малапапулярнага пэрыёдыка “Новы шлях”, Акінчыц жа спрабаваў зьмяніць сытуацыю, рыхтаваў на восень 1936-га партыйны зьезд.*

Дзякуючы паказаньням былога прэм’ера БНР **Антона Луцкевіча**, дадзеных у 1939 годзе ў турме НКВД, мы даведваемся больш пра абставіны зьяўленьня адозвы, пра яе распаўсюд і рэакцыю на яе віленскіх беларускіх дзеячоў (а таксама пра тое, што да адозвы верагодна

---

*Таксама варта адзначыць, што якраз у студзені 1936-га была апублікаваная праграма Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі. Гл.: Новы шлях (Вільня), 1936, № 1(16), 20 студзеня.

прыкладаўся ліст з “інструкцыяй”). Адзінае, што заблытвае справу — гэта неаднаразовае сьцьверджаньне А. Луцкевіча, што адозву ён атрымаў не ў 1936-м, а ў 1937 годзе. І памылка тут малаверагодная, бо ня так шмат часу прайшло ад той падзеі.

Антон Луцкевіч сьведчыў: *“Польскі ўрад вырашыў часова пакінуць музей* у спакоі, чакаючы адпаведнага моманту, каб яго захапіць. Але такога моманту не дачакаліся. Хаця я зусім адыйшоў за апошнія гады ад палітычнай дзейнасьці, маё імя было даволі шырака вядомае па старой палітычнай працы ў пэрыяд Беларускай Народнай Рэспублікі. Відавочна, у сувязі з гэтым у пачатку 1937 г. я апынуўся ў ліку асобаў, якім былі разасланыя ананімныя лісты наступнага зьместу, аддрукаваныя на машынцы на беларускай мове. У гэтых лістах пазначалася, што на Далёкім Усходзе сьпее непазьбежны ўзброены канфлікт паміж Японіяй і Савецкім Саюзам. Японія вельмі прыхільна адносіцца да беларусаў і хацела б ім дапамагчы ў іх імкненьні да незалежнасьці. Як у 1904 годзе пасьля перамогі Японіі над Расіяй беларусы атрымалі нацыянальныя правы ў сувязі з выбухам рэвалюцыі, так і цяпер, калі пераможа Японія, беларусы атрымаюць незалежнасьць. Беларускія дзеячы павінны толькі прапагандаваць у беларускіх масах сімпатыі да Японіі. З гэтай мэтай японцы дадуць беларусам магчымасьць выданьня вялікай беларускай газэты. Калі я пажадаю ўзяцца за такую працу, то я мушу альбо надрукаваць дзесьці артыкул у праяпонскім духу, альбо прачытаць на гэтую тэму публічную лекцыю, тады да мяне зьяўляецца адказная асоба для асабістых перамоваў. Я на гэты ліст зусім не адрэагаваў, лічыў, што гэта ёсьць ня больш і ня менш як спроба выкарыстаць беларускія сілы для арганізацыі на мяжы з Савецкім Саюзам шпіёнска-сабатажнай акцыі. Такую акцыю, як я разумеў, японцы вялі ў Латвіі пры дапамозе рускіх белагвардзейцаў таксама, як і на Далёкім Усходзе.*

*Лічыў падобную працу ганебнай і агіднай ды ня думаў садзейнічаць японцам у іх меркаванай барацьбе з Савецкім Саюзам, я і ня думаў заводзіць якія-колечы сувязі з японцамі. Восеньню таго ж 1937 г. у Вільню прыехаў вайсковы аташэ японскай амбасады ў Рызе, які хацеў пабачыць мяне і шэраг іншых беларускіх дзеячоў. Мяне тады ў Вільні не было, бо я выехаў на тыдзень на адпачынак да аднаго з маіх сяброў у вёску. Японскі дэлегат сустрэўся ва ўсіх беларусаў, якіх наведваў, з больш чым халодным прыёмам. Пасьля майго вяртаньня ў Вільню я напісаў артыкул з нагоды японскіх прапановаў, засьцерагаючы беларусаў перад пасткай, якая мела на мэце выкарыстаць беларускія сілы супраць Савецкага Саюзу. Артыкул гэты зьявіўся ў польскім дэмакратычным воргане ў самым пачатку 1938 г., бо па*

*Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

*сваім зьмесьце ня мог раней адшукаць ворган, які б пагадзіўся яго надрукаваць. Нумар газэты быў пасланы ў японскую амбасаду ў Рызе як мой адказ, што выключае магчымасьць якіх-небудзь размоваў на гэтую тэму з японскай амбасадай.*

*[…]*

*Дадаючы мае апошнія паказаньні пра спробы японскай вайсковай выведкі наладзіць сувязь з беларусамі і, у прыватнасьці, са мной, ад чаго я рашуча адмовіўся і апублікаваў у пачатку 1938 г. артыкул, папярэджваючы беларусаў пра жаданьне японцаў выкарыстаць беларускія нацыянальныя элемэнты для барацьбы з Савецкім Саюзам, заяўляю, што ў пачатку 30-х гадоў, калі быў у Рызе і чытаў там лекцыі па беларускай літаратуры, адзін з выбітных беларускіх дзеячоў Пігулеўскі, былы сябра польскага сейма* (с.-д.), неяк у размове сказаў мне, што пры японскай амбасадзе ў Рызе маецца чалавек 20 японскіх афіцэраў генэральнага штабу. Такая значная колькасьць сама па сабе сьведчыць, што яны тут маюць спэцыяльныя заданьні, накіраваныя несумненна супраць Савецкага Саюзу. Пацьвярджаецца гэта і тым, што, па зьвестках Пігулеўскага, японскія афіцэры не жывуць стала на месцы, а раскіданыя ўздоўж савецкай мяжы. Пігулеўскі перакананы, што яны, карыстаючыся паслугамі рускіх белагвардзейцаў, вядуць падрыўную працу супраць Савецкага Саюзу. Зь іншага боку, агульнавядомы факт, што і на Далёкім Усходзе японцы для тых жа мэтаў шырака карыстаюцца паслугамі рускіх белагвардзейцаў. Усё гэта я пазначыў у сваім артыкуле, востра скрытыкаваў такую дзейнасьць рускіх белагвардзейцаў і засьцерагаючы беларусаў ад удзелу ў падобнай ганебнай працы, для падрыхтоўкі якой на польска-савецкай мяжы японцам неабходная прапаганда ў прэсе ў беларускіх масах на іх карысьць”.***

Ніжэй перадрукоўваем адозву паводле асобніка з калекцыі матэрыялаў Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры і мастацтва ў Менску. Найхутчэй менавіта гэты асобнік атрымаў па пошце Антон Луцкевіч.

**БЕЛАРУСЫ,**

Полымя рэвалюцыі разгараецца на Далёкім Усходзе, дрыжыць Маскоўская коммуністычная дыктатура. У найбліжэйшые дні войска

---

*Насамрэч латвійскага сейму.

**Антон Луцкевіч. Да гісторыі беларускага руху. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2010, б. 261.

Краіны усходзячэго слонца можа ўступіць на тэрыторыю дзяржавы чырвонага імпэр'ялізму — С. С. С. Р. Апонска-руская вайна 1904 году дала Беларусам свабоду слова і часткова свабоду дзеяньня. Вынікам гэтага было арганізаваньне нашай беларускай сувэрэннай Дзержавы, што і зроблено было 25 марта 1918 года. Аднак маскоўскі чырвоны імпэр'ялізм ня дазволіў нашэму народу жыць і развівацца у сваей дзержаві. Набліжаюшчаяся апонска-большэвісцкая вайна збурыць крывавую коммуністычную дзіктатуру і дасьць поўную свабоду прыгнынбленым народам С. С. С. Р., у тым ліку і народу беларускаму.

За выпадкамі на Усходзе і у Совецакай Беларусі мусім …ро [нечытэльнае слова] сачыць і быць на усё готовымі. Дзеяцельнасьць сваю пачнём ад ачысткі нашага грамадзянства з уселякага коммуністычнаго мусару. Даволі інэртна глядзець на падпольную работу КПЗБ, якая, кіраваная варожай рукой, сее толькі вр..ны [нечытэльнае слова] фермэнт сярод беларускіх масаў і прыгатаўляе поч[ву? — нечытэльна] для чырвонай дзіктатуры.

Беларусскіе політычные партыі і культурна-прасветные організаціі Заходняй Беларусі. На вас ляжыць адказнасьць за лёс нашых прыгныбленых братоў у Советах. Дружно усе станце пад бел-чырвона-белым сцягам супроць крывавага коммуністычнаго тэррору. Перэстанце беларускіе Нац'янал-Соц'ялісты гуляць у тэорэтычные разважанні а дружно павядзіце процікоммуністычную акцію. Сябры БНА. Дружна выступце проці душэння беларускага адраджэнчэскага руху у Советах. Сябры Сялянскаго Саюза, праявіце сваю дзеяцельнасьць у змаганні з найвелікшым ворагом селян — коммуністамі. ТБШ, БІГіК, беларускае студэнцтво, інтэлігэнц'я, безпартыйные беларускіе селяне і рабочые, усведамляйце себе важнасць для нас падзей на Далёкім Усходзе, змагайцеся і на далей будзьце гатовымі змагацса з коммуністычным тэррором да поўнаго вызваленьня нашэй дарагой і гаротнай Бацькаўшчыны Беларусі.

Дык дружно усе на адзіны Усебеларускі Процікоммуністычны Фронт.

**Актыў Усебеларускаго Антыкоммуністычнаго Фронту.**

Вільня, Студзень 1936.

*Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва, ф. 3, воп. 1, спр. 44, арк. 35.*

31
9188

B I E Ł A R U S Y ,

Pałymja rewalucii razharajecca na Daljokim Uschodzie, dryży
Maskoŭskaja kommunistycznaja dyktatura. U najbliżejszyje dn
wojska Krainy uschodziaczeho słonca moża ŭstupic na teryto-
ryju dzierżawy czyrwonoha imperjalizmu - S.S.S.R. Aponska -
ruskaja wajna 1904 hodu dała Biełarusam swabodu słowa i cza-
stkowa swabodu dziejannia. Wynikam hetaha było arhanizawan-
nie naszaj biełaruskoj suwerennoj Dzierżawy, szto i zroble-
no było 25 marta 1918 hoda. Ałnak maskoŭski czyrwony imperja
lism nia dazwoliŭ naszemu narodu żyć i razwiwacca u swajej
dzierżawi. Nabliżajuszczajasia aponska - bolszewicskaja waj-
na zburyc krowawuju kommunistycznuju dziktaturu i daść poŭ-
nuju swabodu pryhnyblenym narodam S.S.S.R., u tym liku i na-
rodu biełaruskamu.

Za wypadkami na Uschodzie i u Sowieckaj Biełarusi musim ...
ro saczyć i być na usio hotowymi. Dziejacielnaść swaju pacz-
niom ad aczystki naszaha hramadzianstwa z usieljakaha kommu
nistycznaho musaru. Dawoli inertna hladzieć na padpolnuju r-
botu KPZB, jakaja,kirawanaja warożaj rukoj, sieje tolki wr..
ny fierment sierod biełaruskich masaŭ i pryhataŭlaje po..
dla czyrwonaj dziktatury.

Biełarusskije politycznyje partyi i kulturna-praswietnyje or
ganizacii Zachodniaj Biełarusi. Na was łażyć adkaznaść za l..
naszych pryhnyblenych bratoŭ u Sowjetach. Drużno usie sta..
cie pad bieł-czyrwona-biełymściaham suproć krowawaho komm..
nistycznaho terroru. Pierestancie biełaruskije Nacjanał-So..
alisty hulać u teoretycznyje razważanni a drużno pawiadzic..
procikommunistycznuju akciju. Siabry BNA. Drużna wystupcie
proci duszennia ~~xxxx~~ biełaruskaha adradżenczeskaha ruchu u
Sowietach. Siabry Sialanskaho Sajuza, prajawicie swaju dzie-
jacielnaść u zmahanni z najwielikszym worahom sielan -kommu
nistami. TBŠ, BIHiK, biełaruskaje studenctwo, inteligencja,
biezpartyjnyje biełaruskije sielanie i raboczy-
je, uswiedamlajcie siebie waznaść dla nas padziej na Daljoki
Uschodzie, zmahajciesia i na dalej budźcie hatowymi zmahacs-
z kommunistycznym terrorom da poŭnoho wyzwaleńnia naszej do-
rahoj i harotnoj Baćkaŭszczyny Biełarusi.

Dyk drużno usie na adziny ~~xxxx~~ Usiebiełaruski Procikommuni-
styczny Front.

Aktyŭ Usiebiełaruskaho Antykommunistycznaho ...

Wilnia, Studzień 1936.

***Адозва Актыву Ўсебеларускага Антыкамуністычнага Фронту, 1936 г. Друкуецца ўпершыню***

# ПАД ЛІДАЙ МАШЫНА БЫЛА АБСТРАЛЯНАЯ БАНДАЙ…

Дагэтуль няма дасьледаваньняў збройнага антысавецкага супраціўленьня ў БССР летам 1941-га, калі групы і атрады антысаветчыкаў рабілі напады на адступаючыя часткі Чырвонай Арміі і аддзелы НКВД*, перашкаджалі зьнішчэньню прадпрыемстваў, складоў, мастоў, вызвалялі палітычных вязьняў. Згадкі пра такія выпадкі можна сустрэць у дакумэнтах, успамінах, яны пераважна адносяцца да Палесься (напрыклад, ужо ў канцы чэрвеня 1941-га атрад на чале зь нейкім "польскім памешчыкам" дзейнічаў на тэрыторыі цяперашняй Гомельскай вобласьці). Сёлета ў маскоўскай газэце *"Совершенно секретно"* быў апублікаваны дакумэнт пра выпадак, які адбыўся на Лідчыне.

**З аператыўнай зводкі № 2 штабу пункта Супрацьпаветранай абароны горада Ліда, 7.00 22 чэрвеня 1941 г.:**

"…4. Палітычна-маральны стан дывізіёна здаровы. 22.6.41 г. выкінутае НП 1-й батарэі ў колькасьці 10 чалавек ў вёс[ку] Дакудава [15 кіламетраў на паўднёвы-ўсход ад Ліды]; да гэтага часу зьвестак няма. Вечарам старшына 1-й батарэі вёз для іх вячэру, **яго машына была абстраляная бандай** не даяжджаючы Дакудава…

Начальнік пункта СПА гор. Ліда… капітан Сумараў. Начальнік штабу лейтэнант Арцем'еў".

*Цэнтральны архіў Міністэрства абароны Расейскай Федэрацыі, ф. 20054 а, воп. 1, спр. 1, арк. 18. Перадрукоўваецца ў перакладзе на беларускую мову паводле наступнай публікацыі: "Превосходство в воздухе на стороне противника…" Из боевых донесений штаба 11-й смешанной авиадивизии 22 июня 1941 года // Совершенно секретно, 2012, № 6, б. 19.*

# МАНІФЭСТ БВР

Беларуская паваенная палітычная эміграцыя пакінула няшмат дакумэнтаў, падобных да **"Маніфэсту БВР"**. У бязсэнсоўных спрэчках эміграцыйныя цэнтры марнавалі час і энэргію, іх актыўныя ўдзельнікі

---

*У гэтым нумары "БР" на гэтую тэму гл. таксама: Апошнія публікацыі на тэму пасьляваеннага антыбальшавіцкага Супраціўленьня ў Беларусі, б.80

дзялілі "міністэрскія" пасады, пісалі пашквілі на сваіх палітычных апанэнтаў. Дык неяк і не было часу задумацца пра антысавецкую барацьбу, ужо не гаворачы пра тое, каб рэальна нешта арганізаваць. Адной зь нямногіх дзейных арганізацый быў **"Беларускі Вызвольны Рух"**, які арганізацыйна аформіўся ў пачатку 1952 году. Удзельнікамі БВР былі пераважна былыя вайскоўцы, якім давялося паслужыць у беларускім, польскім, савецкім ці нямецкім войсках. У той час яшчэ захоўвалася надзея на вайсковы канфлікт паміж Захадам і СССР, а значыць і на вяртаньне эмігрантаў на Радзіму. Тысячы зь іх былі гатовыя ваяваць супраць бальшавікоў, дзейнічаць, а не сядзець і чакаць.

Як піша Натальля Гардзіенка, асноўнай ідэяй стваральніка БВР Людвіка Зарэчнага "было ня проста гуртаваньне былых вайскоўцаў дзеля дапамогі адзін аднаму і захаваньня вайсковых ведаў і навыкаў на выпадак магчымай вайны, а таксама актыўная "вызвольна-рэвалюцыйная" барацьба, удзел у стварэньні і дзейная падтрымка антысавецкага падпольля на тэрыторыі Польшчы і Беларусі".*

Адзначым, што ў 1952-1954 гг. БВР пры дапамозе заходніх спэцслужбаў засылаў сваіх людзей за "жалезную заслону". Некаторыя вярнуліся, выканаўшы заданьні, некаторыя дэсантнікі загінулі. Натхнёныя першымі посьпехамі, сябры БВР разьвівалі арганізацыю, пашыралі яе, вырасталі з вайсковай групы з вузкімі мэтамі ў палітычнавайсковую структуру. Але ў 1954 годзе адбыўся раскол у арганізацыі. Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Р. Астроўскі, спрабуючы ўтрымаць арганізацыю пад кантролем, вызваліў Л. Зарэчнага ад пасады яе кіраўніка, але той адмовіўся падпарадкавацца загаду. У выніку, частка БЦРаўцаў стварыла "свой", малалікі БВР, які неўзабаве стаў "Беларускім Вызвольным Фронтам".

БВР Зарэчнага існаваў надалей як незалежная структура. 29 жніўня 1954 году ў Манчэстары быў праведзены першы Ўсеэміграцыйны зьезд БВР, на якім прынялі статут, выбралі кіруючыяворганы арганізацыі. Генэральным сакратаром БВР быў абраны Сяргей Шчэрба, а старшынём ЦК БВР — Л. Зарэчны. Менавіта на гэтым зьезьдзе быў прыняты Маніфэст Беларускага Вызвольнага Руху. С. Шчэрба пісаў: *"Маніфэст гэты мы перакінем усякімі шляхамі на родныя нашыя землі, каб падняць наш Народ на духу, а калі прыйдзе адпаведны час — да рэвалюцыі…"*.**

"Маніфэст БВР" — гэта і палітычная платформа, і ідэалягічнае абгрунтаваньне неабходнасьці барацьбы з савецкім рэжымам, і

---

*Гардзіенка Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі. — Мінск: Медысонт, 2010, б. 285.

**Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944-1956 / Даведнік. — Менск: Архіў Найноўшай Гісторыі, 1999, б. 122.

практычны дапаможнік для дзеяньня. Верагодна, яго сапраўды перапраўлялі ў Беларусь. Калісьці можна будзе дакладна даведацца, ці зафіксавалі савецкія спэцслужбы пранікненьне прапаганды БВР у БССР, ці быў нейкі эфект ад яе. Пакуль жа канстатуем, што тэкст гэтага дакумэнту, напісаны простай і даступнай мовай, мог знайсьці водгукі ў сэрцах неабыякавых, думаючых беларусаў. Часам для таго, каб стаць на шлях барацьбы за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, было дастаткова невялікага штуршка — прачытанай улёткі, пачутай праграмы заходняй радыёстанцыі, альбо нават і ўчынка кагосьці з землякоў, які не пабаяўся супраціўляцца бальшавіцкаму рэжыму.

МАНІФЭСТ
БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА
РУХУ




МАНЧЭСТЭР 1960
ВЫДАВЕЦТВА Б.В.Р.

## М А Н І Ф Э С Т

## БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА РУХУ

Манчэстэр, 1960. Выдавецтва Б.В.Р.

## M A N I F E S T O
## O F
## T H E B Y E L A R U S S I A N
## L I B E R A T I O N M O V E M E N T

Published by
BYELARUSSIAN LIBERATION MOVEMENT
66, Heywood Street, Cheetham Hill, Manchester 8, ENGLAND.

Суродзічы! Браты і Сёстры!

Прайшлі цэлыя дзесяцігодзьдзі ад таго сумнага мамэнту, калі народ наш страціў сваю дзяржаўную незалежнасьць і вольнасьць — сваё законнае права быць Гаспадаром Беларускай Зямлі і эканамічных багацьцяў свайго роднага Краю;

Мінулі дзесяцігодзьдзі, калі нашы сяляне, працоўныя і інтэлігенцыя ў выніку ўтраты дзяржаўнасьці і вольнасьці змушаны былі стацца парабкамі або польскае шляхты, або расейска-царскага дваранства ці, нарэшце, былі змушаны стацца і бяспраўнымі нявольнікамі савецка-бальшавіцкае імпэрыі, якая так няміласэрна апустошвае эканамічныя багацьці нашага Краю і якая так бязлітасна вынішчае найлепшых сыноў і дачок нашае слаўнае Нацыі.

Але народ наш ніколі не пагаджаўся з фактам акупацыі Беларусі, з фактам адабраньня ў яго дзяржаўнасьці і вальносьці, і ён за сваё, Богам дадзенае права жыць вольна і незалежна на Зямлі сваіх продкаў, правёў цэлыя дзесяцігодзьдзі ў барацьбе супроць акупантаў і добра даў сябе адчуць кожнаму, хто толькі імкнуўся панаваць над нашым Краем ды багацець за кошт працы і крывавага мазаля нашага селяніна, працоўнага і інтэлігента, за кошт горкай нявolі і сьлёз матак і дзяцей Беларускага Народу.

У праведзенай бязупыннай барацьбе за свае правы вольна жыць, вольна працаваць і вольна карыстацца пладамі сваёй працы, наш Народ злажыў нязлічоныя ахвяры на аўтар сваей Бацькаўшчыны і даказаў сваю няпрымірымасць да акупантаў. Кроўю і ахвярамі ён даказаў сваю гатоўнасьць скінуць ярмо чужацкае эксплёатацыі ды

адзначыў гісторыю сваей вызвольнай барацьбы шматлікімі бунтамі, паўстаньнямі і партызанскімі выступленьнямі, у ходзе каторых ужо знайшлі сабе магілу расейска-царскае дваранства і польскія паны, ды ў ход[з]е каторых знойдуць сабе магілу і савецка-бальшавіцкія сатрапы, якія імкнуліся і надалей імкнуцца, гвалтам і тэрорам утрымаць сваё паразітарнае панаваньне над нашым Краем, над нашым сялянствам, над нашымі працоўнымі і інтэлігенцыяй.

**Беларускі Народ у барацьбе за БНР**

Наш народ, змагаючыся ў 1917 годзе за сваю вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць, рашуча выступае супроць згнілога і пракажанага расейска-царскага самадзяржавія і ягонага рабоўласьніцкага ладу, забірае ініцыятыву ў свае рукі ды на Першым Усебеларускім Кангрэсе ў Менску і актам 25 Сакавіка 1918 году абвяшчае Беларусь Народнай Рэспублікай, заяўляючы ўсяму сьвету аб тым, што ад гэтага мамэнту Беларусь зьяўляецца незалежнай дзяржавай, а Яе Народ зьяўляецца поўнапраўным гаспадаром свае Зямлі, культур[н]ых і эканамічных багацтваў свайго роднага Краю.

Бальшавіцка-расейскія заправілы аднак, заступіўшы ў Маскве расейскага цара, не пагаджаюцца з тым законным і векапомным фактам, ажыцьцяўлёнfamous воляю Беларускага Народу і яны, у саюзе з панскай Польшчай, абвяшчаюць вайну маладой і яшчэ не акрэпшай Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Зноў льецца кроў беларускага народу, зноў гараць вёскі, сёлы і гарады Беларускае Дзяржавы, зноў дзікія горды польскіх магнатаў і расейска-бальшавіцкіх імпэрыялістых працягваюць свае брудныя бандыцкія лапы на дабро беларускага народу, на ягоную вольнасьць і незалежнасьць, ды сілаю зброі яны топяць у крыві Беларускую Народную Рэспубліку, а з вольнага беларускага народу робяць польскіх парабкоў і нявольнікаў расейска-бальшавіцкае імпэрыі.

Але разьдзёртая на часткі рыжскім трактатам цела Беларускай Народнай Рэспублікі прадаўжае быць непераможным. Беларусь жыве, а беларускі народ прадаўжае барацьбу за сваё чалавечае і народнае права, стараючыся зноў скінуць з плячэй сваіх ярмо чужацкае нявол і, накінутае польскімі магнатамі і расейска-бальшавіцкімі заправіламі. Распачынаюцца адно за другім нацыяналістычныя паўстаньні, хваля партызанскага руху ахоплівае Беларусь — народ ідзе ў лясы і прадаўжае крывавую барацьбу супроць акупантаў. На заходняй частцы Беларусі, пад панскай Польшчай, распачынаецца дзейнасьць стодваццацітысячнай Сялянскай Грамады; на ўсходзе, на тэрыторыі БССР, паняволенай савецка-бальшавіцкім рэжымам, зактывізоўваецца дзейнасьць Беларускіх нацдэмаў. Барацьба вядзецца на два франты

— супроць Польшчы і супроць СССР з мэтаю адарваць Беларусь ад Масквы і Варшавы, за аднаўленьне Беларускай Народнай Рэспублікі. Але акупанты і на гэта адказваюць жудасным тэрорам. Зноў турмы і концлягеры напаўняюцца беларускімі патрыётамі, а вуліцы вёсак, сёлаў і гарадоў напаўняюцца тысячамі бяз прытульных сіротаў, змушаных паміраць галоднай сьмерцю.

**Становішча беларускага Народу ў часе Другой Сусьветнай Вайны**

У часе другой сусьветнай вайны, калі збройныя сілы гітляроўскае Нямеччыны ў 1941 годзе абрушыліся на СССР, савецкая чырвоная армія, а пераважна сыны сялян, пабачылі ў той вайне рэальную магчымасьць вызваліцца ад ненавіснага ўсім савецка-бальшавіцкага рэжыму і яны, кіруючыся поклічам “вораг майго ворага — мой прыяцель”, пераходзяць на бок нямецкай арміі, гуртуюцца ў добраахвотныя батальёны, накіроўваюць зброю супроць савецка-бальшавіцкай сыстэмы, змагаюцца за вызваленьне Беларусі, за аднаўленьне нацыянальнай дзяржаўнасьці. У гэты-ж час сотні тысяч, а нават і цэлыя мільёны савецкіх салдатаў і афіцэраў з Беларусі, Украіны, Каўказу і Паволжжа цэлымі арміямі здаюцца ў палон, не жадаючы ваяваць за савецка-бальшавіцкую сыстэму: народ падымаецца на барацьбу за сваю волю і незалежнасьць. Сталін і ягоныя паплечнікі, бачучы сваю нямінучую гібель, бачучы сьмяротны канец савецка-бальшавіцкага рэжыму, просяць у народа ратунку. Сталін просіць дараваньня грахоў, і фальшыва прамаўляючы да народу, заяўляе, што а ні яму, а ні ягонаму палітбюро ня было вядома аб жудасным лёсе народных масаў на нізох, што ім ня было вядома аб дзікім праізволе і тэроры, які чынілі на мясцох ворганы НКВД і партыйная кліка, сілаю заганяўшы народ у калгасы, грабіўшы сялянскую маёмасьць, выганяўшы сялянства на ссылку, разлучаўшы дзяцей з бацькамі, а матак з муж’ямі. У такой сытуацыі савецка-бальшавіцкі ўрад быў няздольны ўтрымацца на вышыні свайго становішча, няздольны быў справіцца з распачатай вайной, і канец савецка-бальшавіцкай сыстэмы быў яўным, але народы ЗША і Англіі прыйшлі з дапамогай Савецкаму Саюзу і выратавалі жыцьцё савецка-бальшавіцкім сатрапам.

Беларускі-ж народ, ня гледзячы на часовае паслабленьне становішча савецка-бальшавіцкай сыстэмы, прадаўжае змагацца супраць гэтае сыстэмы ды адначасна шукае і спосабаў вызваліцца пасьля і ад гітляроўскай Нямечч[ы]ны, якая сваёю сыстэмаю мала чым розьнілася ад сыстэмы бальшавіцкае. І ў гэты час, дзякуючы заслугам салдатаў і афіцэраў беларускіх добраахвотных батальёнаў, дзякуючы стараньням актыву тагочаснага Беларускага Вызвольнага Руху, вы-

карыстоўваюцца ўсе магчымасьці, каб падняць Народ на барацьбу супроць бальшавізму, і ў зьменных падзеях ваеннага часу творыцца Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР), арганізуецца Беларуская Краёвая Абарона (БКА), склікаецца Другі Усебеларускі Кангрэс.

Але, на вялікі жаль, палітыка гітляроўскай Нямеччыны прадаўжала быць неразумнай і самазабойчай, служачай толькі інтарэсам Масквы і савецка-бальшавіцкаму рэжыму. І беларускі народ, пад ураджаньнем зьдзекаў над ім з боку гітляроўскага гестапо, і пад уплывам савецкай прапаганды ды падзеяў на фронце, пачынае хістацца: адны застаюцца на баку немцаў і прадаўжаюць барацьбу супроць савецка-бальшавіцкае сыстэмы, стараючыся адначасна рабіць уплывы на нямецкую палітыку, каб аблягчыць лёс свайму народу.

Другія — пад кіраўніцтвам актыву тагочаснага Беларускага Вызвольнага Руху — твораць нацыяналістычныя партызанскія атрады і распачынаюць збройную барацьбу на два фронты і супроць нямецкае арміі і супроць савецка-бальшавіцкіх бандаў, тэрорызуючых мясцовае насельніцтва;

Трэція — падтрымоўваюць савецка-бальшавіцкую сыстэму, ды пад поклічам “лепш вораг свой, як вораг чужаземны”, вядуць барацьбу супроць гітляроўскае Нямеччыны на карысьць СССР. У гэты-ж час, у савецкай арміі, палітрукі і паліткамісары прапаг[анд]уюць і абяцаюць па сканчэньню вайны распусьціць калгасы, перадаць сялянам зямлю ў прыватнае карыстаньне, абяцаюць ліквідаваць сыстэму концэнтрацыйных лягэраў і прымусовае працы, вызваліць вязьняў і аднавіць вольнасьць хрысьціянскае веры. І народ пачынае яшчэ раз верыць у гэтыя абяцаньні. Савецкая армія, сяляне, працоўныя і інтэлігэнцыя, апранутыя ў шэрую шынэль чырвонаармейца, распачынаюць гераічны наступ на нямецкую армію на ўсіх франтох і пры дапамозе ЗША і Англіі закончваюць вайну поўным разгромам гітляроўскае Нямеччыны.

**За што ваявала і за што ваюе савецкая армія**

Калі гітляроўская сыстэма была разгромлена і пагас пажар жудаснай другой сусьветнай вайны, якая ўнесла мільёны чалавечых жызьняў ды парадзіла мільёны калекаў; калі савецкі салдат выграўшы вайну, вяртаўся да цывільнага жыцьця — да свае роднае вёскі, сяла і гораду, то толькі тагды ён пераканаўся яшчэ раз у тым, што савецка-бальшавіцкія заправілы і іхнія паліткамісары ашукалі народ зноў, недатрымаўшы ніводнага із сваіх абяцаньняў. Калгасная сыстэма як была так і засталася; канцэнтрацыйныя лягеры распаўсюдзіліся нават там, дзе раней іх ніколі ня было; тэрор ворганаў МВД-СМЕРШ узмоцніўся; голад і холад пануе надалей, а інваліды вайны, прынёсшыя сваёю крывёю перамогі і выйграўшы вайну, змушаны цярпець

жабрацкае існаваньне, а каб не памерці галоднай сьмерцю, змушаны брадзіць па вуліцах, туляцца па рынчных пляцох, працягваць руку ды прасіць міласьці.

Вядучы вайну супроць гітлярызму, савецка-бальшавіцкія заправілы сілаю заградзіцельных атрадаў і батальёнаў МВД-СМЕРШ гналі салдат на ўбой, ды крычалі на ўвесь сьвет аб тым, што яны “нясуць вызваленьне другім народам”, што яны “вызваляюць” народы, паняволеныя гітлярызмам.

На практыцы-ж, цаною крыві савецкага салдата — цаною крыві нашага селяніна, працоўнага і інтэлігента, савецка-бальшаві[ц]кія заправілы прынесьлі разбурэньне, голад і няволю народам Латвіі, Літвы, Эстоніі, Польшчы, Румыніі, Баўгарыі, Вэнгрыі, Чэхаславаччыны, Усходняе Нямеччыны і Паўночнае Карэі. Яны паняволілі Кітай і Паўднёвы В[’]етнам ды распальваюць новыя імпэрыялістычныя войны для заваяваньня тэрыторыяў іншых народаў.

Вядучы імпэрыялістычныя войны супроць іншых народаў, савецка-бальшавіцкія заправілы прыкрываюць свае злачынныя пляны і разбойніцкія мэты поклічамі абароны вольнасьці, дэмакрацыі, культуры і цывілізацыі. Пад абаронай вольнасьці яны разумеюць заваяваньне чужых зямель і пашырэньне старое расейскае імпэрыі, апранутае цяпер у савецка-камуністычны плашчык. Пад абаронай дэмакрацыі яны разумеюць гвалтоўнае накіданьне сваёй палітычнай сыстэмы іншым народам і іх дзяржавам. Пад абаронай культуры і цывілізацыі яны разумеюць разбурэньне помнікаў культуры і цывілізацыі, створаных тысячагадовай працай іншых народаў. Пад абаронай правоў чалавека яны разумеюць нячуваны зьдзек і масавы тэрор над чалавекам, чынімы партыйнымі апаратчыкамі і ворганамі МВД. І за гэта ўсё ваявала і ваюе савецкая армія — бязвольны інструмэнт партыйнае клікі.

### Што дала народу савецка-бальшавіцкая сыстэма

За даўгія гады свайго крывавага панаваньня над нашым народам і Краем савецка-бальшавіцкая сыстэма і яе заправілы адабралі ў чалавека ягоныя права, пазбавілі яго элемэнтарных паняцьцяў вальносьці і дэмакрацыі, накінулі чалавеку жабрацкае і напаўгалоднае існаваньне, ды назвалі гэта “радасным і зажытачным” жыцьцём; яны накінулі чалавеку самую нечалавечую форму эксплёатацыі, якое ня ведала нават сярэднявечча, і назвалі гэта “вольнасьцю і дэмакрацыяй”.

Савецка-бальшавіцкая сыстэма і яе заправілы адабралі ў чалавека права на яго нацыянальную незалежнасьць і вольнасьць. Яны адабралі ў чалавека вольнасьць слова, вольнасьць пераканаўньняў, вольнасьць асобы, вольнасьць ініцыятывы, вольнасьць мейсцапражываньня, вольнасьць промыслаў і магчымасьць кажнаму чалавеку

заняць сваё мейсца ў грамадзскім жыцьці згодна са сваімі здольнасцямі. Яны замянілі гэтыя вольнасьці нячуваным тэрорам, партыйнымі правілеямі і жудасным праізволам, чынімым партыяй і дзяржавай над чалавекам.

Савецка-бальшавіцкія важакі і іх апаратчыкі адабралі ў селяніна яго собскую зямлю, права вольна працаваць на гэтай зямлі і права вольна карыстацца пладамі сваёй працы. Зьвязаўшы селяніна калгаснай сыстэмай, савецка-бальшавіцкія эксплёататарыператварылі селяніна ў такога бязпраўнага парабка і жабрака дзяржавы, якога яшчэ ня ведала ніводная сыстэма эксплёатацыі.

Савецка-бальшавіцкія заправілы адабралі ў працоўнага права вольна выбіраць прафэсыю і мейсца працы, арганізоўвацца і змагацца за лепшыя ўмовы працы і за лепшую аплату працы, ды ператварылі працоўнага ў бязплатнага нявольніка дзяржаўнага капіталізму.

Савецка-бальшавіцкія заправілы адабралі ў інтэлігенцыі права вольна тварыць на карысьць сваей нацыі ды прымусам, тэрорам і подкупам зрабілі з інтэлігенцыі бязвольны інструмэнт сваей ілжывай прапаганды.

Савецка-бальшавіцкія заправілы і іх апрычнікі пакрылі шырокія прасторы нашае землі густой сеткай турмаў і концэнтрацыйных лягэроў ды морацаь у іх мільёны нашых суродзічаў, нашых бацькоў і братоў, нашых матак і сяcьцёр. Яны пакрылі прасторы нашае зямлі безліччу магільнікаў, у каторых ляжаць мільёны растрэляных і замучаных імі патрыётаў нашае нацыі — сыны і дочкі нашага Народу, аддаўшы жыцьцё за Беларусь, за лепшую долю нашага селяніна, працоўнага і інтэлігента. Савецка-бальшавіцкія заправілы накінулі нашаму народу няволю, голад, нядолю і жабрацтва ды паставілі наш Народ на шлях фізычнага і духовага выміраньня.

Усё гэта прыкрываецца хлуснёю аб дэмакратызме, хлуснёю аб пабудове самае дэмакратычнае краіны, хлусьнёю аб пабудове “соцыялізма ў адной стране” і пабудове “самага радаснага, самага зажытачнага і культурнага жыцьця для грамадзтва СССР”.

Ніводная краіна ў сьвеце ня ведала і ня ведае такога нізкага жыцьцёвага ўзроўня пры наліччы матар’яльных рэсурсаў як гэта было і застаецца ў СССР; ніводная краіна ў сьвеце ня ведала і ня ведае такога бязпраў’я, уніжэньня чалавека як гэта было і застаецца пры савецка-бальшавіцкай сыстэме. І таму высілак Б. В. Р., высілак усіх паняволяных народаў і высілак народаў дэмакратычнага і яшчэ вольнага сьвету павінен быць скіраваны на зьнішчэньне савецка-бальшавіцкае сыстэмы, на развал савецка-рускае імпэрыі — гэтай спрадвечнай жудаснай турмы народаў. Высілак павінен быць накіраваны на вызваленьне ўсіх паняволеных народаў і прэдастаўленьне кажнаму народу права вольна вырашаць свой лёс і вольна выбіраць сыстэму сваёй

дзяржаўнасьці. Высілак павінен быць накіраваны на прэдастаўленьне кажнаму чалавеку права вольна жыць, вольна выбіраць сабе працу, вольна працаваць і вольна карыстацца пладамі сваей працы.

На аснове ўсяго вышэй зазначанага Беларускі Вызвольны Рух зьвяртаецца да ўсіх волялюбных народаў, да ўсіх каму дорага вольнасьць і дэмакрацыя, да ўсіх краінаў злучаных у Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў і просіць у гэтых народаў рэальнае дапамогі ў справе вядзеньня вызвольнае барацьбы, накіраванае супраць савецка-бальшавіцкае паразітарнае сыстэмы, супроць савецка-расейскае імпэрыі, стаўшай загрозай для ўсяго культурнага і волялюбнага чалавецтва.

### За што змагаецца Беларускі Вызвольны Рух і супроць каго накірована барацьба

Беларускі Вызвольны Рух, на аснове ўсяго вышэй зазначанага, у поўным зразуменьні сваёй адказнасьці перад Усявышнім, перад Бацькаўшчынай, перад сваім Народам і ягоным патомствам, пастанавіў прыняць за праграму дзейнасьці наступнае:

а. Беларускі Вызвольны Рух, як новую форму барацьбы за вызваленьне Беларусі і яе Народу, ператварыць ува Усенародны Рух барацьбы супроць савецка-бальшавіцкае сыстэмы.

б. Вызваліць Беларусь і Яе Народ з-пад савецка-расейскага панаваньня, вярнуць беларускаму Народу адабраныя ў яго землі былой Беларускай Дзяржавы і, згодна з Актам 25 Сакавіка 1918 году і з пастановамі Першага і Другога Усебеларускіх Кангрэсаў — стварыць на этнаграфічных беларускіх землях Вольную і Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку — дзяржаву, у той форме, якую прыме або прызнае сам Беларускі Народ.

в. Абвясьціць па-за законам як ворагаў Народу і Краю ўсіх членаў прэзыдыюму (палітбюро) Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае партыі (бальшавікоў) Беларусі; усіх апаратчыкаў ворганаў партыі і ўсіх тых работнікаў ворганаў МВД БССР, якія прымалі актыўны ўдзел у забойстве беларускага насельніцтва, якія зьдзекаваліся над нашым народам — над нашым сялянствам, працоўнымі і інтэлігенцыяй і тэрорызавалі іх. Сілы і сродкі барацьбы павінны быць накіраваны на адрыў народных масаў ад вышэй успомненае кучкі злачынцаў, на поўнае зьнішчэньне савецка-бальшавіцкае сыстэмы.

г. Ліквідаваць сыстэму канцэнтрацыйных лягэроў і прымусовае працы, і вызваліць усіх беларусаў і беларусак, пакутуючых у канцэнтрацыйных лягэрох, турмах і іншых мейсцах высылак, арганізаваных савецка-бальшавіцкай сыстэмай, ды даць ім шырокую магчымасьць і ўсямерную падтрымку для павароту на Бацькаўшчыну.

д. Ліквідаваць сыстэму калгасаў і перадаць зямлю сялянам бяз-

платна ў іх прыватнае карыстаньне.

е. Салдатам і афіцэрам савецкае арміі, часьцей войск МВД, часьцей войск пагранічнае аховы і міліцыі, ды ўсім служачым установаў БССР, якія ў адпаведным мамэнце прылучаецца да БВР і будуць супольна змагацца супроць савецка-бальшавіцкае сыстэмы, гарантаваць законам права службы ў Беларускім Войску, у дзяржаўных установах БНР у усіх галінах гаспадаркі і прамысловасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

ж. На Беларусі, пасьля зьнішчэньня савецка-бальшавіцкае сыстэмы і пасьля ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, усю ўладу перадаць у рукі самога народу і даць народу магчымасьць вольна і няпрымушана выбраць форму дзяржаўнага ладу і сацыяльна-эканамічнага жыцьця.

Пасьля зьнішчэньня савецка-бальшавіцкае сыстэмы стварыць на Беларусі сыстэму дзяржаўна-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага ладу, найбольш адпавядальную жыцьцёвым інтарэсам і спрадвечным імкненьням Беларускіх народных масаў на аснове наступных прынцыпаў:

1.У будучай Беларускай Дзяржаве ўважаецца неабходным устанавіць хрысьціянска-дэмакратычную сыстэму дзяржаўна-палітычнага ладу, аснованую на прынцыпе **“чалавек чалавеку брат”**, і згодна з гэтым прынцыпам устанавіць у дзяржаве роўнасьць правоў для ўсіх грамадзянаў, без розьніцы іх нацыянальнага паходжаньня, сацыяльнага становішча і веравызнаньня.

2.На аснове хрысьціянскага прынцыпу **“не рабі другому таго, чаго сабе не жадаеш”**, уста[на]віць на Беларусі такі сацыяльны лад, пры каторым усе інтарэсы дзяржавы былі-бы падпарадкаваныя мэтам падняцьця дабрабыту чалавека ў асаблівасьці і ўсяго народу ў цэлым.

3.На аснове прынцыпу “чалавек чалавеку брат”, імкнуцца да захаваньня міру і салідарнасьці між суседнімі народамі, ды ўсямерна разьвіваць міжнароднае супрацоўніцтва, спрыяючае культурнаму і сацыяльна-эканамічнаму працэсу нашага народу.

4.Кіруючыся прынцыпамі **“сям’я — аснова нацыі і дзяржавы”**, усямерна дапамагаць сям’і ў справе ўзмацненьня яе дабрабыту, аховы яе здароўя, а для дзяцей і моладзі даць магчымасьць бязплатна вучыцца ў школах і дзяржаўных навуковых установах. Матку разглядаець як місіянэра нацыі і царквы, а таму яна будзе знаходзіцца пад апекай дзяржавы і на старасьці гадоў забясьпечваецца спэцыяльнай пэнсіяй.

5.Ліквідаваць сыстэму прымусовае працы і забясьпечыць усім працоўным магчымасьць атрыманьня працы па спэцыяльнасьці, а заработную плату ўстанавіць у разьмерах, адпаведаючых эканамічным і культурным патрэбам працоўнага і яго сям’і.

6.Ліквідаваць сы[с]тэму калгасаў і перадаць зямлю сялянам у бязплатнае карыстаньне. Гарантаваць селянам права вольна працаваць на сваёй зямлі і вольна карыстацца пладамі сваёй працы. Ліквідаваць сыстэму прымусовых паставак сельска-гаспадарчых прадуктаў і ўсемерна дапамагаць селянству ў справе развіцьця прыватнае сельскае гаспадаркі да ўзроўня культурнай і тэхнічна-аснашчоннай прамысловай гаспадаркі, бо толькі прыватная ініцыятыва селяніна, у цесным саюзе з дзяржаўнаю дапамогай, могуць стварыць і створаць моцную эканамічную аснову адзінкі і ўсяе нацыі ў цэлым. Беларускі селянін-гаспадар павінен бачыць у асобе дзяржавы ня ворага і не ліквідатара пладоў сваёй працы, а ў асобе дзяржавы селянін павінен бачыць свайго саюзьніка, які спрыяе развіцьцю гаспадаркі ды лічыць селяніна роўнапраўным сябрам дзяржавы. **— Бяз вольнага селяніна, без культурнае і тэхнічна аснашчоннае прыватнае сельскае гаспадаркі няма і ня можа быць вольнае і эканамічна моцнай беларускай дзяржавы!**

7.Устанавіць развіваць і падтрымоўваць гандаль так нутраны, як і замежны, і даць магчымасьць кожнаму прамыслоўцу быць удзельнікам эканамічнага жыцьця і прагрэсу дзяржавы. **— Без вольнага прамыслоўца і без вольнага прыватнага гандлю няма і ня можа быць вольнай і эканамічна моцнай беларускай дзяржавы!**

9.Даць шырокую магчымасьць інтэлігенцыі вольна працаваць і няпрымушана займацца творчаствам на карысьць свайго народу і ўсямерна падтрымоўваць кожную ініцыятыву ў галіне вынаходства і мастацкага творчаства, **бо толькі вольнае творчаства інтэлігенцыі можа стварыць і створыць сапраўдную нацыянальную культуру і цывілізацыю!**

10.Гарантаваць законам права бязплатнага адпачынку для кожнага працоўнага і стварыць шырокую сетку прыватных і дзяржаўных дамоў адпачынку, курортаў, санаторыяў і шпіталяў для ўсіх працоўных. Гарантаваць законам забясьпечаньне старасьці і інваліднасьці чалавека, у разьмерах неабходных для ягонага культурнага і эканамічна-забясьпечанага жыцьця.

11.Ліквідаваць сыстэму тэрору і прымусу над воляю чалавека і ўсямерна ахоўваць традыцыі хрысьціянства, пакідаючы за кожным чалавекам права вольносьці веравызнаньняў. Праваслаўная і Каталіцкая Цэрквы павінны быць не палітычнымі падбудоўкамі іншых народаў, а як інстытуцыямі хрысьціянскае веры і Сьвятымі Дамамі духоўнага ўзгадаваньня і выхаваньня нашае Нацыі. Таму на Беларусі Праваслаўная і Каталіцкая Цэрквы павінны быць незалежнымі — Аўтакефальнымі Цэрквамі, ачоленымі Пастырствам беларускага паходжаньня. Богаслужэньня ў Цэрквах павінны адбывацца ў беларускай мове.

Усякія кашчунствы і надругацельствы над рэлігіяй і рэлігійнымі перакананьнямі чалавека разглядаць як самае цяжкае злачынства, накіраванае супроць волі чалавека.

12.Гарантаваць законам сацыяльную справядлівасьць і роўнасьць правоў грамадзяніна, не дапускаючы паразітарнай эксплёатацыі чалавека чалавекам або чалавека дзяржавай. **Вольнасьць чалавеку дадзена Усевышнім, і пасягаць на яе ня можа ніхто, у тым ліку і дзяржава!**

13.Гарантаваць чалавеку вольнасьць слова, вольнасьць сходаў, вольнасьць палітычных перакананьняў (акром фашыстоўскіх і бальшавіцка-камуністычных), гарантаваць вольнасьць прэсы і дэмонстрацыяў, вольнасьць выбару працы, вольнасьць забастовак, вольнасьць перамяшчэньня і выбару мейсца жыхарства, гарантаваць недатыкальнасьць асобы, недатыкальнасьць спакою чалавека і ягонае кватэры.

14.Вызваліць з турмаў, концэнтрацыйных лягяроў і іншых месцаў прымусовае працы або высылкі ўсіх вязьняў-ахвяраў савецка-бальшавіцкае сыстэмы прымусова вывезены за межы Беларусі і, гарантаваць дзяржаўную дапамогу тым асобам, якія пацярпелі ад савецка-бальшавіцкага рэжыму і ягонае тэрорыстычнае палітыкі.

15.Не праводзіць палітыкі помсты супроць тых элементаў, якія добраахвотна ці пад прымусам падтрымоўвалі савецка-бальшавіцкую сыстэму і ажыцьцяўлялі ейную карную палітыку і не дапусьціць праізволу (самасудаў) адзінкі над адзінкай за мінулую дзейнасьць, бо толькі Народны Суд, на аснове ўстаноўленага народам права, можа пакараць або ўнявініць таго ці іншага злачынцу, тварыўшага зьверствы над чалавекам у часы сваей працы на карысць савецка-бальшавіцкае сыстэмы.

16.Суд у дзяржаве Народны — выбарны Суд, незалежны ад Ураду і падпарадкаваны толькі закону. Права і законы ў дзяржаве ўстанаўляюцца самім народам праз выбраныя ім адпаведныя ворганы ўлады. Ніхто ня можа быць пакараны іначай як толькі па прыгавору — пастанове судовых ворганаў.

17.Войска ў дзяржаве будуецца на апартыйным прынцыпе і паклікаецца ўрадам толькі для служэньня інтарэсам народу і дзяржавы — для аховы дзяржаўных межаў і для абароны тэрыторыі Беларусі ад нападу звонкі, а не для вядзеньня нападовых і захопніцка-імпэрыялістычных войнаў супроць іншых народаў, як гэта было і ёсьць у СССР.

18. Ворган паліцыі і дзяржаўнае бяспекі павінен тварыцца ўрадам, і служаць для аховы парадку ў дзяржаве, для аховы спакою чалавека, для аховы прыватнае і дзяржаўнае маёмасьці і для выкрыцьця варожых элемэнтаў, працуючых для іншае дзяржавы, з мэтаю панявoленьня Беларусі або аслабленьня яе эканамічнае і абароннае здоль-

насьці. Ворганы паліцыі і дзяржаўнае бясьпекі Беларускай Народнай Рэспублікі павінны быць укамплектованы высока-патрыятычнымі кадрамі, а не напоў-крымінальнымі элемэнтамі, як гэта было і ёсьць у савецка-бальшавіцкай сыстэме.

Уся гэтая, вышэй зложаная, праграма дзеяньня можа быць дапоўнена або часткова зьменена толькі самім народам праз выбраныя ім ворганы ўлады, аднак БВР гэтую праграму будзе бараніць і будзе старацца яе ажыцьцяўляць, бо ўважае, што толькі такая праграма адпавядае поглядам і імкненьням шырокіх пластоў беларускага Народу, а асабліва адпавядае поглядам і перакананьням мільёнам беларускага сялянства, працоўным і інтэлігенцыі. Беларускае сялянства складае амаль 70% усяго насельніцтва Беларусі, і сыны яго служаць у войску савецка-бальшавіцкае імпэрыі. Таму нашай апорай у вызвольнай барацьбе зьяўляецца вёска і шматмільённае сялянства, якое найбольш пацярпела ад савецка-бальшавіцкае сыстэмы; якое не паддалося палітыцы дэнацыяналізацыі ды перахавала традыцыі нашых продкаў, застаючыся да канца верным сваёй роднай мове і свайму Краю.

Справа барацьбы супроць савецка-бальшавіцкае сыстэмы — сьвяты абавязак кожнага, хто любіць Вольнасьць.

Справа зьнішчэньня савецка-бальшавіцкае сыстэмы і ліквідацыі савецка-расейскае імпэрыі зьяўляецца сьвятым абавязкам і безадкладным заданьнем усіх волялюбных народаў і кожнага чалавека, любячага вольнасьць і справядлівасьць. Таму Беларускі Вызвольны Рух глыбока перакананы і верыць, што толькі агульным высілкам усяго беларускага Народу ў саюзе з народамі вольнага Сьвету мэта — зьнішчэньне савецка-бальшавіцкае сыстэмы і ліквідацыя савецка-расейскае імпэрыі — будзе асягнута!

Беларускі Вызвольны Рух зьяўляецца новай формай прадаўжэньня шматгадовае вызвольнае барацьбы Беларускага Народу, скіраванае супроць акупантаў Беларусі — за аднаўленьне сваей дзяржаўнасьці, за адваяваньне вольнасьці і правоў чалавека.

Беларускі Вызвольны Рух галоўную аснову для перамогі над савецка-бальшавіцкай сыстэмай бачыць у аб'яднаньні ўсіх сілаў беларускага Народу і падпарадкаваны адзінай мэце — зьнішчэньню савецка-бальшавіцкае сыстэмы, адваяваньня вальносьці і дзяржаўнае незалежнасьці.

Беларускі Вызвольны Рух бачыць перамогу над савецка-бальшавіцкай сыстэмай у аб'яднаньні сілаў нашага Народу з сіламі народаў паняволяных СССР і такжа ў аб'яднаньні з сіламі народаў вольнага сьвету, знаходзячыхся пад загрозай савецкае агрэсыўнае палітыкі.

Беларускі Вызвольны Рух ужо цяпер, у меру сваіх магчымасьцяў,

уключаюцца ў актыўную барацьбу супроць савецка-бальшавіцкае сыстэмы і праводзіць супроць яе вызвольна-рэвалюцыйную акцыю. Таму БВР горача вітае і падтрымоўвае кожную ініцыятыву ў справе барацьбы супраць савецка-бальшавіцкае сыстэмы, вітае дзеяньні кожнай беларускай арганізацыі, кожнага паасобнага беларуса або беларускі, якія змагаюцца за Ідэалы 25 Сакавіка. Для БВР няма сярод беларускай антыкамуністычнай грамадзкасьці варожых групаў або адзінак, бо БВР уважае, што кожная група, кожная арганізацыя і кожная адзінка маюць права і абавязаны змагацца за вызваленьня Беларусі так, як ім дазваляе сумленьне ці арганізацыйная праграма або ідэолёгічная плятформа.

У сваей вызвольнай барацьбе мы не адзінокія. З намі найлепшыя сыны і дочкі нашага Народу, якія чакаюць вызваленьня і гатовыя ў кожную хвіліну прыйсьці нам з дапамогаю. З намі мільёны беларусаў і беларусак, пакутуючых у турмах, концэнтрацыйных лягерох і мясцох прымусовае працы. З намі беларускае сялянства, працоўныя і інтэлігэнцыя, знемагаючыя ад непасільнай працы ў калгасах, на фабрыках і заводах, змушаныя служыць мэтам сусьветнае рэвалюцыі. З намі салдаты і афіцэры савецкай арміі, змушаныя сілаю зброі заваёўваць чужыя тэрыторыі, панявольваць іншыя народы ды прыносіць ім савецка-бальшавіцкі тэрор, гвалт, нішчату і разарэньне. З намі ўсе паняволеныя народы, вядучыя барацьбу супроць СССР за сваю незалежнасьць і вольнасьць. З намі надзея на лепшую будучыню, з намі Праўда і Справядлівасьць!

## АБАВЯЗКІ І ЗАДАНЬНІ ЦЯПЕР І НА ВЫПАДАК ВАЙНЫ

Суродзічы, Браты і Сёстры!

Справа зьнішчэньня савецка-бальшавіцкае сыстэмы, справа вызваленьня Беларусі і здабыцьця вальносьці і дзяржаўнае незалежнасьці, поўнасьцю знаходзіцца толькі ў Вашых руках!

Спыняйце навязанае Вам партыйнымі апаратчыкамі ненавіснае служэньне мэтам сусьветнай рэвалюцыі і камуністычнаму інтэрнацыяналізму! Спыняйце сваю дапамогу і падтрымку партыйным запраўілам, якія панявольваюць Вас і за кошт вашага крывавага мазаля і поту будуюць турмы і концлягэры, будуюць сусьветную рэвалюцыю і панявольваюць іншыя народы!

Усімі даступнымі Вам сродкамі і мэтадамі аслабляйце ўстрої савецка-бальшавіцкае ўлады, тварэце замаскіраваны супраціў савецка-бальшавіцкаму рэжыму, раскладайце адзінства радоў бальшавіцкае партыі і камсамолу!

На выпадак збройнага канфлікту або вайны тварэце ўсюды, дзе толькі магчыма, акты сабатажу; вынішчайце партыйнае кіраўніцтва, арганізоўвайце паўстанчаска-партызанскія атрады БВР і сілаю зброі дзейнічайце супроць савецкае сыстэмы і супроць партыйных заправілаў!

У часе збройнага канфлікту або вайны ў мяйсцовасьцях, дзе савецка-бальшавіцкі рэжым будзе зьнішчаны або разагнаны сіламі нацыяналістычных партызанаў БВР, або рэгулярнымі войскамі саюзных дзяржаваў, — на этнаграфічных землях Беларусі, забірайце ініцыятыву ў свае рукі і, нечакаючы пакуль нехта Вам скажа або загадае, самі тварэце органы мяйсцовае ўлады. На пераходны перыяд, пакуль незакончыцца барацьба супраць савецка-бальшавіцкае сыстэмы, часовымі органамі Народнае Ўлады будуць зьяўляцца арганізованыя Вамі:

У сельскай мясцовасьці — Сельскія Ўправы БВР;

У мястэчках і гарадох — Мястачковыя і Гарадзкія Ўправы БВР.

Для кіраўніцтва Сельскімі, Мястэчковымі і Гарадзкімі Ўправамі БВР арганізоўвайце Раённыя і Акруговыя Ўправы БВР, падпарадкаваныя Галоўнай Управе Беларускага Вызвольнага Руху. Тварэце выбраны Народны Суд і арганізоўвайце мяйсцовую самаахову.

Сельскія, Мястэчковыя, Гарадзкія, Раённыя і Акруговыя Ўправы БВР маюць за заданьне праводзіць у жыцьцё Ідэалы і Праграму, накрэсьляныя ў гэтым Маніфэсьце, ды выконваць наступнае:

а. Недапускаць да анархіі і разбою на мяйсцох;

б. Аказваць дапамогу і падтрымку нацыяналістычным паўстанчаска-партызанскім атрадам БВР і войскам саюзных дзяржаваў;

в. Недапускаць да захопу ўлады на мяйсцох і ў цэнтры Беларусі чужацкімі партыямі, групамі або адзінкамі, якія будуць імкнуцца апанаваць Беларусь, каб і надалей панявольваць яе і наш народ;

г. Арганізаваць роспуск калгасаў і правесці распадзел калгаснай маёмасьці паміж былымі калгасьнікамі ды раздаць зямлю сялянам бязплатна ў прыватнае карыстаньне;

д. Арганізаваць распадзел прадуктаў харчаваньня, каб запабегчы голаду ў гарадзкой і сельскай мяйсцовасьці;

е. Выконваць наказы і пастановы Галоўнае Ўправы Беларускага Вызвольнага Руху.

Кожны селянін, кожны працоўны, кожны служачы і інтэлігент, кожны салдат і афіцэр савецкае арміі беларускага паходжаньня маюць права, згодна з гэтым Маніфэстам, браць ініцыятыву ў свае рукі, мабілізаваць нацыянальны актыў на мясцох і тварыць вышэй названыя органы часовае ўлады; арганізаваць паўстанчаска-партызанскія атрады БВР і мясцовую самаахову.

Браты і сёстры! —
Змагайцеся за Ідэалы, накрэсьляныя ў Маніфэсьце Беларускага Вызвольнага Руху, за Вольнасьць і Справядлівасьць, за Веру сваю, за зямлю сваю родную, за Беларускую Дзяржаву бяз бальшавікоў, бяз фашыстаў, бяз Масквы!

Змагайся за сваю будучыню, за лепшую долю для саміх сябе і для сваіх дзяцей!

Змагайцеся за сваё законнае права быць гаспадарамі сваей зямлі і свайго Краю!

Няхай жыве Незалежная Беларуская Дзяржава!

Няхай жыве Беларускі Народ у барацьбе за Вольнасьць!

Няхай жыве Беларускі Вызвольны Рух!

**Эміграцыя — Галоўная Ўправа Б. В. Р.***

*У бліжэйшых нумарах "БР" працягнецца друкаваньне дакумэнтаў, якія маюць дачыненьне да дзейнасьці БВР.*

---

*На асобніку, зь якога перадрукоўваецца "Маніфэст БВР", пасьля тэксту дадрукавана на пішучай машынцы: "Старшыня [Галоўнай Управы] протапрэсьвіцер Міхаіл Іскрыцкі. Маніфэст быў прыняты на першым усеэміграцыйным зьездзе БВР 29 жніўня 1954 г. у г. Манчэстар, Англія". Рэдакцыя "БР" атрымала копію "Маніфэста БВР" ад сьв. пам. Яўгена Цумарава.

# 40 ГАДОЎ МОЛАДЗЕВАГА ПРАТЭСТУ Ў ГОРАДНІ

Споўнілася 40 гадоў з часу правядзеньня ў Горадні маладзёжнага палітычнага шэсьця, разагнанага дэсантнікамі і міліцыянтамі. З гэтай нагоды мы перадруковаем некалькі публікацый з гарадзенскай газэты “Пагоня”, прысьвечаных гэтай падзеі.




***Маладзёжная антысавецкая дэманстрацыя ў Коўне (Каўнасе), 1972 год***

Варта адзначыць, што паколькі адпаведныя архівы зачыненыя (а там могуць быць нават кіназдымкі акцыі), а многія ўдзельнікі як маўчалі, так і маўчаць, няма пэўнасьці ў датах і нават колькасьці акцый. У публікацыях у “Пагоні” гаворка ідзе толькі пра акцыю лета 1972-га.* У *“Белорусской газете”* распавялі пра акцыю жніўня 1971-га.** Магчыма, маюць рацыю ўкладальнікі даведніка “Дэмакратычная апазыцыя Беларусі”. Яны пішуць, што ў кастрычніку 1971 году ў Горадні прайшла “несанкцыянаваная дэманстрацыя… тутэйшых і прыбалтыйскіх хіпі ў падтрымку ідэі свабоды асобы”. А летам 1972 году ў Горадні прайшла яшчэ адна акцыя, у якой удзельнічалі “актывісты нонканфармісцкіх рухаў зь Менску, Украіны, Літвы, Латвіі, Расеі”. Менавіта гэтую дэманстрацыю разагналі “з выкарыстаньнем войскаў”.***

---

*Астроўскі Г. Лета 1972: разгон мірнай дэманстрацыі ў Горадні // Пагоня, 1992, № 8, 25 верасьня — 7 кастрычніка; Яго ж. Я пакідаю гэтую краіну, спадзяюся, што назаўжды // Пагоня, 1993, № 41, 24-30 сьнежня; Яго ж. Гарачае лета 72-га // Пагоня, 1994, № 12 (68), 22 красавіка — 5 траўня.

**Чернявка И. “Это не Маша, это Миша”: 32 года назад в Гродно взбунтовались хиппи // Белорусская газета, 2003, 11 жніўня, № 30 (397).

***Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956-1991/Даведнік. — Менск: Архіў найноўшай гісторыі, 1999, б. 166. Укладальнікі даведніка, дарэчы, раскрываюць сапраўднае прозьвішча аўтара публікацый у “Пагоні”: Сяргей Астраўцоў (б. 178).

# ЛЕТА 1972: РАЗГОН МІРНАЙ ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ГОРАДНІ

Пра падзеі, якія мелі месца ў Горадні летам 1972 года, не напісана амаль аніводнага радка. Тагачасныя падзеі афіцыйныя крыніцы інфармацыі назвалі “бунтам некалькіх соцень дэградаванай моладзі”. У народзе гэтую акцыю непавінавеньня брэжнеўскім уладам ахрысьцілі паўстаньнем. Што ж напраўду адбылося тады ў Горадні? Сёньня, праз дваццаць год, карэспандэнт успамінае тое, сьведкам чаго ён асабіста быў у тыя дні. І разважае ў гутарках з тымі, хто з плякатамі быў у шэрагах дэманстрантаў.

**Напярэдадні**

Тым памятным летам наша сябрына 15-гадовых хлапчукоў ахвотна хадзіла на Ласасянку ў раён вёскі Тарусічы. Непадалёку вёскі поўным ходам вялася будоўля штучнага возера, якое потым атрымала назву Юбілейнага. Нярэдка мы бывалі паблізу старога аэрадрома, дзе назіралі, як садзіліся і ўзьляталі самалёты. У гэты дзень, а была сярэдзіна тыдня, на лётным полі селі чатыры вэрталёты. Зь іх высыпалі вайскоўцы, вопратка каторых была незвычайнай: блакітная, замест “кірзачоў” жаўнеры мелі поўботы, якія шнураваліся.

За дробныя паслугі мы запрыязьніліся з жаўнерамі. Яны распавялі, што прыляцелі зь Віцебску, а іх вайсковая частка адносіцца да паветранай дэсантна-штурмавой дывізіі. Што тут, у Горадні, будуць рабіць дэсантнікі? Тыя адказалі, што прыляцелі на вучэньні. Якія гэта былі вучэньні, мы даведаліся праз некалькі дзён.

**На пляцы Савецкім**

Позьнім ранкам у сьпякотны ліпень мы з сябрамі вырашылі пайсьці ў кіно. У Горадні пасьпяхова дэманстраваўся тады індыйскі фільм “Валацуга”. Перайшоўшы мост цераз Нёман, мы ўбачылі, што пляц Савецкі запоўнены аўтафургонамі, якія ланцугом перакрылі тэрыторыю пляцу, навокал было шмат міліцыянтаў.

Далей нас ня пусьцілі, але мы знайшлі выйсьце: праз плот тонкасуконвага камбінату, а потым каля першай школы й далей дварамі мы апынуліся побач крамы “Адзеньне”. Заскочылі ў пад’езд, па лесьвіцы ўзьняліся вышэй, і ўбачылі наступнае.

Маладыя хлопцы й дзяўчаты, лікам прыкладна некалькі соцень, ішлі калёнай, трымаючы ў руках плякаты з надпісамі: “Свабода слова”, “Свабода друку”, “Свабода асобе”, быў плякат з надпісам: “Вольнае каханьне”. Наперадзе калёны ішоў на ланцугу чырвоны певень.

Дэманстранты выйшлі на асфальтавы Савецкі пляц, і раптам карэ з вайскоўцаў рушыла ім насустрач.



***Савецкія дэсантнікі маршыруюць па вуліцах Прагі, верасень 1968 году. Фота — monk.com.ua. У 1972-м яны выйдуць на вуліцы Горадні***

Жаўнеры былі з дубцамі, яны імкліва рухаліся на дэманстрантаў.

Уразіла тое, што вайскоўцаў было значна болей. З жахам мы пазналі сярод іх нашых знаёмых дэсантнікаў.

Тое, што распачалося праз некалькі сэкунд, апісаць складана. Дэсантнікі накінуліся на калёну, як ваўкі, пачалі біць дубцамі хлапцоў і дзяўчат, трушчыць плякаты. Дэманстранты ня паддаліся, яны адбіваліся як маглі, але сілы былі няроўныя. Жаўнеры вырывалі з шарэнгаў дэманстрантаў і шпурлялі іх у расчыненыя “рэфрыжэратары”. Дапамагалі ім у гэтым міліцыянты. Напоўненыя аўтафуры ад’яджалі. Хутка было ўсё скончана.

Савецкае радыё сьціпла паведаміла, што ў Горадні “хіпусы” справакавалі інцыдэнт з міліцыянтамі. Замятаньні лакалізаваны апэратыўнымі дзеяньнямі службаў аховы правапарадку. Якія гэта былі службы — я расказаў.

“Галасы”, праўда, ужо ўвечары паведамілі, што ў Горадні было паўстаньне моладзі супраць жорсткасьці брэжнеўскіх афіцыйных улад… З часам дэманстрацыя моладзі ў Горадні абрасла рознымі неверагоднасьцямі. Мне пашчасьціла, я сустрэўся з тымі, хто тады быў сярод дэманстрантаў.

Рыгора Карпіцкага мне давялося сустрэць у Маскве, дзе ён праходзіў курс рэабілітацыйных лекаў у інстытуце мікрахірургіі вока імя

С. Фёдарава. Рыгор родам зь Вільні, дзе ў адной з музычных школ ён працуе сёньня, выкладае сальфэджыа. Вельмі ветлы чалавек, стрыманы й высакародны. Даведаўшыся, што я з Горадні, пасяобраваў са мною.

Неяк поўным складам палаты мы абмяркоўвалі падзеі ў Тбілісі, нехта заўважыў, што гэта першая акцыя, у якой камуністычныя ўлады скарысталі войскі супраць уласнага народа. Я запярэчыў, і расказаў, што ведаў пра лета 1972-га. Маё апавяданьне вельмі ўзрушыла спадара Карпіцкага, і ў рэшце-рэшт Рыгор распавёў, што быў удзельнікам той акцыі пратэсту моладзі ў Горадні.

**Рыгор Карпіцкі**

У той час мне было 20 год, я скончыў два курсы музычна-педагагічнага факультэта Віленскага унівэрсітэта. Кампанаваў музычныя творы, якія сам і выконваў. Час быў ня лепшы для творчага чалавека. У памяці — яшчэ сьвежыя ўспаміны пра акупацыю Савецкімі войскамі Чэхаславаччыны. У душы гарэў сорам перад сьветам за пралітую кроў у Празе, Братыславе, Брно.

Скажу шчыра, інтэлігенцыя адгукнулася па-рознаму на факты жорсткасьці. Людзі сумленныя, як акадэмік А. Сахараў, пратэставалі, але й былі такія, хто станоўча ацаніў агрэсію. Адчуўшы апазіцыю, тагачасныя органы бясьпекі ўвялі жорсткую цэнзуру. Пісаць і сьпяваць можна было толькі тое, што было не забаронена цэнзурай. Менавіта ў гэтым афіцыйна дазволеным рэчышчы і рухаліся тыя, хто баяўся расправы, а было гэта старэйшае пакаленьне, якое ведала “выгоды” сталінскіх лягераў. Мы ж, маладыя, здрадзіць сумленьню не маглі, і мала-памалу ў нас у Вільні пачалі ствараццa незалежныя гурткі ў асяродзьдзі мастакоў, літарата[ра]ў, музыкаў. Не скажу, што былі гэта палітычныя ўтварэньні. Хутчэй клюбы аднадумцаў, дзе можна было гаварыць і рабіць тое, што думаеш…

У 1972 г. Л. Брэжнеў быў на вышэйшай ступені палітычнага посьпеху. Уявіце самі, пасьля Пражскай вясны мінула ледзьве чатары гады. Грамадзкасьць сьвету прызабыла трагэдыю чэхаў і славакаў, а прэзідэнт ЗША Р. Ніксан падпісаў з СССР першую дамоўленасьць па абмежаваньню ракэтна-ядэрных узбраеньняў. Імідж брэжнеўская каманда мела, таму й ня лічыліся яны ні з чым і ні з кім.

Напачатку віленскія групоўкі ўтвараліся спантанна, але з цягам часу ў Коўне прайшоў невялікі зьлёт, я там ня быў, але ведаю, што была прынята праграма сумесных дзеяньняў, адным зь яе пунктаў і была акцыя пратэсту ў Горадні. Чаму менавіта ў Горадні — ня ведаю, але я беларус, і мне было прыемна, што гэтая падзея адбудзецца ў Беларусі.

У Горадню зь Вільні я прыехаў разам з дэлегацыяй Летувы, усяго

нас было чалавек 25 — зь Вільні і Коўны. Была ліпеньская раніца, сонечная, цёплая. Сюды ж, на чыгуначны вакзал, прыехалі раніцой масквічы, менчукі, ленінградцы, рыжане, кіяўляне. Львавяне прыехалі раней. Усяго нас пры падліку аказалася дзьвесьце дваццаць чалавек. Мы сталі ў калёну шэрагамі па шэсьць чалавек, узьнялі плякаты і рушылі па вуліцы Ажэшкі. Наперадзе калёны на ланцугу вялі чырвонага пеўня. Чырвоны певень — сымболь Волі. Ланцуг — таксама сымболь, толькі іншага зьместу.

Прайшоўшы вуліцай Ажэшкі, дзе нас ніхто не крануў, мы рушылі па вул. Савецкай. Напружаньне мацнела з кожнай хвілінай, але пакуль было ціха. Пляц Савецкі сустрэў нас, як кажуць, “магільным холадам”, ён быў перагароджаны аўтафурамі, каля якіх з дубцамі стаялі жаўнеры ў блякітнай вайсковай вопратцы.

Наша калёна не спынялася, ішла бліжэй да жаўнерскіх шэрагаў. Адтуль выразна пачулася каманда “наперад”, і праз некалькі крокаў усё зьмяшалася. Нехта з нашых дэманстрантаў заклікаў да барацьбы, але зараз я лічу той заклік правакацыяй. Бо мы тым самым аказалі супраціўленьне, а гэта дало ўладам магчымасьць з намі расправіцца.

Я атрымаў балючы ўдар дубцом у патыліцу і страціў прытомнасьць. Калі дайшоў да памяці, зразумеў, што еду ў аўтамашыне, а побач мае сябры. Ніхто ня скардзіўся на боль, нават дзяўчаты, маўчаў і я.

Аўтамашына хутка спынілася, зноў да нас у буду скочылі жаўнеры і пачалі ўсіх выштурхоўваць. Зь іх слоў мы даведаліся, што ўсіх дэманстрантаў зьвезьлі ў пустыя кашары Іркуцка-Пінскай танкавай дывізіі, якая ў гэты час знаходзілася ў Чэхаславаччыне.

Праз некаторы час пачаліся допыты, вызвалі й мяне, сьледчы распытаў, хто я, адкуль, потым спрабаваў даведацца — хто галоўны арганізатар. Я маўчаў, тады пачаліся пагрозы: маўляў я болей ніколі не ўбачу родных, і што існуюць такія мясьціны, дзе нават белыя мядзьведзі дохнуць. Я па-ранейшаму маўчаў. Тады сьледчы пайшоў на шантаж: ён сказаў, што ў іх ёсьць усе магчымасьці скампрамэтаваць мяне шляхам падробкі майго голасу на магнітафоннай стужцы, яны дадуць паслухаць іншым вязьням. Я ўпарціўся. Пасьля гульні ў маўчанку мяне адвялі ў кашары і болей ужо не дапытвалі.

Праз 32 гадзіны мяне й яшчэ дзьвюх дзяўчат аслабанілі. Выпускалі ня болей за тры-чатыры чалавекі разам. Напрыканцы чацьвёртых сутак вызвалілі амаль усіх.

Вялікая частка нядаўніх дэманстрантаў сабралася на пэроне чыгуначнага вакзалу. Тут адбыўся кароткі мітынг, але міліцыянты разагналі мітынгуючых (добра хоць, не арыштавалі нікога).

Узьнікла ідэя ехаць у Коўню і там паспрабаваць яшчэ раз зьдзейсьніць акцыю непавінавеньня. Многія паехалі, але я адчуваў сябе кепска і таму паехаў дахаты ў Вільню.

У верасьні на факультэцкім камсамольскім сходзе мяне ўмоўна выключылі з унівэрсітэту. Усе астатнія гады я адчуваў за сабой нагляд. Пасьля таго, як я абараніў дыплём, атрымаў разьмеркаваньне ў невялічкі вясковы клюб у Віленскім раёне.

На нейкі час я зьнік зь Вільні, і гэта дазволіла мне праз пяць год з'езьдзіць нават у Польшчу на фэстываль самадзейнай песьні. Далей свае мары зрэалізаваць ня змог. Пачаў хутка траціць зрок. Лекары паставілі дыягназ: траўматычная катаракта. Гэта магло здарыцца ад моцнага ўдару па галаве. Як тут ня ўзгадаць Горадню! Дзесяць год было страчана на змаганьне з хваробай, але яна перамагла. У выніку маскоўскія лекары выдалілі Рыгору крышталікі, і зараз ён носіць акуляры. Ведаю, што ў Карпіцкага ёсьць сям'я — жонка і двое дзяцей.

Так склаўся лёс аднаго з тых, хто сьмела выступіў супраць таталітарызму. Крыху інакш атрымалася жыцьцё другога ўдзельніка падзей 1972 г. у Горадні Генадзя Шокіна.

**Успамінае Генадзь Шокін**

Я быў у той час студэнтам Маскоўскага інстытута кінаінжынераў, здымаў кароткамэтражныя стужкі, удзельнічаў у конкурсах. Балюча было назіраць за тым, хто вызначаў пераможцаў не за вартасьць стужкі, а за прысутнасьць ідэйна-палітычных вобразаў. Апальныя студэнты гуртаваліся ў асобныя групоўкі, сімпатызавалі акадэміку Андрэю Сахараву.

Але трэба быць шчырым і прызнаць, што ў прыбалтыйскіх рэспубліках студэнцкі рух быў больш мацнейшым, з'арганізаваным. У Рызе быў лідэрам Райманд Паўлс, у Коўне быў таксама свой завадатар (на жаль, прозьвішча дакладна ня ведаю). Таму й пасьля зьлёту ў Коўне плянавалася правесьці маніфэстацыю дзе-небудзь у Латвіі ці Летуве. Называліся гарады Коўня, Рыга, Калінінград, але ў апошні час вырашылі выбраць месцам гэтай акцыі Беларусь. Я думаў, што гэта будзе Менск, а пра Горадню даведаўся пазьней.

Калі пра нас кажуць, што паўсталі дэгенераты ці савецкія хіппі, гэта мана. У акцыі ў Горадні ўдзельнічала тады авангардная частка моладзі таго часу. Ад нявопытнасьці было зроблена шмат памылак: гэта й стыль вопраткі — у хлопцаў майкі і нагавіцы, а ў дзяўчат адны камбінашкі, дый плякаты ня ўсе былі, як кажуць, "на злобу дня".

І ўсё-такі тое, што адбылося ў Горадні, наяўна паказала ўладам, што ў краіне трэба рабіць рэформы. Аднак артадаксальныя цэкоўцы не зразумелі, што песьні накшталт "І Ленін такі малады" ці "За таго хлопца" не патрэбны моладзі, што ёй патрэбна сапраўднае, а ня штучнае мастацтва. Таму й акцыя гэта была лягічным вынікам такой абмежаванай палітыкі.

Нашу калёну растапталі, але гэта быў толькі пачатак, пасьля Го-

радні мы пераехалі ў Вільню, там выступілі на прывакзальным пляцы. А зь Вільні шлях ляжаў у Коўню, дзе адбылася трагэдыя. Лідэр Ковенскіх маладзёжных суполак пасьля прамовы абліў сябе газай і падпаліўся. Акт самагубства паказаў уладам, што і ў наш час за ідэі людзі самаахвярна гінуць.

Пасьля Коўні мяне выключылі зь інстытута “за амаральныя паводзіны” і прызвалі ў войска, хоць мне было ўжо тады дваццаць шэсьць гадоў. Трапіў служыць на Беларусь, у горад Баранавічы. Узнавіць вучобу ў інстытуце пасьля службы ня здолеў.

Працаваў кінамэханікам на перасоўках. І толькі праз сем гадоў я зноўку стаў студэнтам, на гэты раз пэдагагічнага інстытута. Дзе б вы думалі? Канешне, у Горадні.

Нават праз дваццаць год частка ўспамінаю сяброў па справе, сярод якіх былі рускія, латышы, літоўцы, беларусы, яўрэі. Многія зь іх даўно ад’ехалі з краіны, дзе правы чалавека — нішто ў параўнаньні зь ідэямі.

Вось што яшчэ жадаю нагадаць: дэманстрацыя ў Горадні рыхтавалася сакрэтна, але, як сьведчаць факты, КДБ даведалася пра нас. Хто ж у асяродзьдзі моладзі мог быць сэксотам, дагэтуль не магу сабе адказаць…

**Ад аўтара:** Беручыся пісаць гэтыя нататкі, я не жадаў здабыць сэнсацыю, проста сёньня неабходна ўспомніць пра тых, хто стаяў ля вытокаў нашай Волі.

**Г. Астроўскі**

*Пагоня, 1992, № 8, 25 верасьня — 7 кастрычніка.*



Жыве Беларусь!

ПАГОНЯ

Грамадзка-палітычная газэта

Заснавана ў 1920 г.

№ 8 25 верасьня — 7 кастрычніка 1992 г. Кошт 1 рубель.

+ СУДОВАЯ СПРАВА № 10/9012

++ ЛЕТА 1972: РАЗГОН МІРНАЙ ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ГОРАДНІ

+++ ДАПАМАЖЫЦЕ АЖАНІЦЦА З ЗАМЕЖНІЦАЙ!..

24—30 сьнежня 1993 года

ГРАМАДЗТВА

Я пакідаю гэтую краіну, спадзяюся, што назаўжды

***Першыя публікацыі пра дэманстрацыю 1972-га зьявіліся ў гарадзенскай газэце “Пагоня” ў 1992-1994 гг***

# Я ПАКІДАЮ ГЭТУЮ КРАІНУ, СПАДЗЯЮСЯ, ШТО НАЗАЎЖДЫ

**У № 8 газэта “Пагоня” распавяла чытачам пра разгон мірнай маладзёжнай дэманстрацыі ўладай камуністых летам 1972 г. у Горадні. Як жа склаўся лёс тых, хто пагрэбаўшы ўласнай кар’ерай сьмела выйшаў сказаць свае “не” таталітарнаму рэжыму?**

**Пра свой жыцьцёвы шлях расказвае ўдзельнік тых падзей гарадзенец Генадзь Шокін.**

Жыць было пад наглядам цяжка. Спадзявацца на рост па службовай лесьвіцы было таксама сьмешна. Таму я прымаў жыцьцё такім, як яно ёсьць. Праца кінамеханіка на перасоўцы з дыплёмам кінаінжынера — гэта канечне не манна нябесная, але на жыцьцё хапала. Марыць пра асабістае жытло было дарэмнай ілюзіяй. Радавала тое, што побач ёсьць сябры аднадумцы і што зерне, кінутае намі, узыходзіла вялікай, сакавітай нівай. Грамадзтва абуджалася. Таму не без падстаў лічу, што вялізарная апрацоўка людзкіх мазгоў у апошні перыяд праўленьня гэнсека Л. Брэжнева ідэалягічнымі службамі партыі — гэта рэакцыя правячай клікі на перамены ў грамадзтве. Існаваць, нават ня жыць, пад такім прэсам вольнаму чалавеку немагчыма. Мне прыходзілі лісты з прапановамі пакінуць гэтую краіну. Сябры абяцалі падмогу, маральную і прававую падтрымку. Ехаць у замежныя краіны я адмаўляўся, — ведаеш, была ўпэўненасьць, што нешта зможа перайначыцца. Камусьці можа маё выслоўе падацца як вера ў перабудову партыі, павер, я, прачытаўшы рэтапрынтарны варыянт кнігі Амазіка “Ці праіснуе СССР да 84 года”, у камунізм ня верыў. Проста не жадаў пакідаць Радзіму, якая з усіх бакоў была абілгана, зьняважана. Мне было сорамна перад замежнымі турыстамі, калі чуў іх кпіны з нашай рэчаіснасьці. Часам ня вытрываўшы, казаў ім, што гэта часова, што прыйдзе час і сістэма зьнішчэньня, зьнявагі асобы, народа ў цэлым зьнікне. На мяне ўсе глядзелі як на дзівака: маўляў, — ён супраць разьвітога сацыялізму і лініі партыі. Павер, я адчуваў сябе як у вакууме.

Асабліва мая адзінота адчулася, калі Горадню пакінуў адзін з удзельнікаў тых дзён Фіма Ройзман. Ён пасяліўся на зямлі абяцанай і адтуль у лістах пасьмейваўся з мяне.

Аўганская вайна на нейкі час і мяне выбіла з каляіны. Быў момант, калі я пакаваў валізкі, але нешта наноў стрымала. Перабудова і іншыя выбрыкі камуністых толькі сьмяшылі. Калі ж беларускі парлямэнт выбраў і прагаласаваў за курс на сувэрэнітэт — зьявілася надзея. На жаль, шчасьлівыя надзеі зноўку растапталі тыя, каму без імпэрыі жыцьцё не ўяўляецца магчымым. Іхнія спэкуляцыі на першасных фі-

зычных патрабаваньнях чалавека, наўмыснае нежаданьне ствараць новае, альтэрнатыўнае, давялі грамадзтва да вядомых вынікаў. Дзякуючы іхняй абыякавасьці й варожасьці я, як і многія іншыя, апынуўся без працы.

Дарэчы, мой выпадак увогуле выключны. Працуючы на перасоўках, даўно зразумеў, што Савецкае кіно з даяркамі і газавікамі Сібіры нікога не цікавіць. Каб мець плян й аўдыторыю, распачаў у нашым Гарадзенскім кінематографе новае — стварыў відэаклюб. Начальству самадзейнасьць прыйшлася не даспадобы. І праз пэўны час мяне скарацілі па прафэсійнай неадпаведнасьці. Спрачацца я не жадаў і дзесьці каля года быў без працы, зарабляючы на жыцьцё шляхам гандлёвага турызму.

Стоячы за гандлёвымі шэрагамі замежных торжышчаў многае перадумаў і аднойчы зразумеў, што ўсе навокал людзі вольныя птушкі, якія не задратавалі свае душы ў клеткі. Яны п’юць, ядуць, кахаюцца гэтак жа вольна, як і прадаюць свае тавары на рынку. Трымацца бязконца за свае ідэалы на гэтым пярэстым фоне сьмешна, і я падаўся спакусе — пачаў рыхтавацца да разьвітаньня з Радзімай. Неяк адразу мне адкрыўся сьвет, што жыцьцё адно, і пражыць яго двойчы нельга. Напісаў ліст да свайго даўняга сябра ў Амэрыку. Нядаўна атрымаў запрашэньне. Зараз фактычна падрыхтаваў усе неабходныя дакумэнты на эміграцыю. Днямі зьбіраюся ад’ехаць да Філядэльфіі. Спадзяюся, што свой шанец не змарную. Заставацца ж у краіне, дзе вярхоўная ўлада выступае супраць прынятых ёй жа законаў абсурдна і бязсэнсоўна.

**Г. Астроўскі**

*Пагоня, 1993, № 41, 24-30 сьнежня.*

# ГАРАЧАЕ ЛЕТА 72-ГА

Наша газэта неаднаразова пісала пра зарганізаваныя выступленьні моладзі супраць уладаў камуністых у Горадні. Сыстэма жорстка расправілася з вольнадумцамі. Пра лёс удзельніка тых падзей віленскага беларуса Станіслава Вайцаховіча карэспандэнту “Пагоні” распавяла сястра Станіслава Яўгенія ВАЙЦАХОВІЧ.

Адразу пасьля выступу ў Горадні ў Станіслава распачаліся непрыемнасьці ў інстытуце. Дзесьці праз паўгады брата і ўвогуле адлічылі з факультэту за непасьпяховасьць. Стась моцна сумаваў, перажываў, але ні разу ня скардзіўся, што ён зрабіў памылку ў жыцьці, далучыўшыся да альтэрнатыўнага маладзёжнага руху. Наадварот, ён нярэдка казаў, што каб не дэсантнікі, то ў Горадні хоць на адзін дзень

запанавала б сапраўдная воля.

Пра свой удзел у гэтым своеасаблівым акце пратэсту Станіслаў апавядаў так: “Я ішоў дзесьці ў сярэдзіне калёны, калі на пляцы Савецкім, ці як яго там завуць, нас спрабавалі спыніць камсамольцы-актывісты, мы лёгка зламалі іх супраціўленьне. Потым была дапамога камсамольцам у выглядзе дэсантнікаў.

Нават пасьля таго, як нас адпусьцілі з кашар, па гораду езьдзілі пераапранутыя міліцыянты й хапалі ўсіх даўгакосых. Выстрыгалі на галаве крыж і адпускалі. Гэта быў сапраўдны зьдзек над правамі асобы”.

Жыць у Вільні побач з бацькамі Станіславу было добра. Калі ж перад алімпійскімі гульнямі 1980 года ў наш горад дэпартавалі дзесьці да 20 тысячаў маскоўскіх бяздомных, мой брат гэтага не ўспрыняў. Да таго ж хутка ў Польшчы пачаліся выступы Салідарнасьці. Станіславу загарэлася паехаць туды. Як ён здабыў да Польшчы запрашэньне, не магу сказаць. У лістападзе 1980 года ён быў у Гданьску. За выступы ў падтрымку Салідарнасьці тагачасныя польскія ўлады арыштавалі яго й перадалі да амбасады СССР.

Гады чатыры пра брата наша сям’я нічога ня чула. І толькі напрыканцы 1985 года да Вільні дайшоў ліст ад Станіслава, што ён жывы й працуе на вольным пасяленьні пасьля турмы на газарадовішчах Саматлора. Разам з бацькам я езьдзіла да яго ў Заходнюю Сібір. Станіслаў сказаў, што калі скончыцца тэрмін “пасялухі”, ён будзе старацца пакінуць СССР. Больш з братам ні я, ні бацькі не сустракаліся. Летась атрымалі ліст з Кітаю, у якім Станіслаў паведамляе, што ў яго ўсё добра й калі ёсьць жаданьне ў нас ад’ехаць туды, ён здольны праз сяброў даслаць нам усім запрашэньне.

Вось фактычна і ўсё, што распавяла мне сястра Станіслава Вайцаховіча. Але, каб нашы чытачы мелі самую поўную й аб’ектыўную інфармацыю пра падзеі лета 1972 года ў Горадні, газэта й надалей будзе весьці пошук удзельнікаў тых падзей.

**Г. Астроўскі**

*Пагоня, 1994, № 12 (68), 22 красавіка-5 траўня.*

# ЛЯВОН БАРАЗНА

## 40 ГАДОЎ ТАМУ ЗАБІЛІ АДНАГО ЗЬ ЛІДАРАЎ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ




15 жніўня 1972 году ў Менску быў забіты 43-гадовы Лявон Баразна. Дагэтуль пішуць: “пры нявысьветленых абставінах”. Нібыта, кінуўся ратаваць жанчыну, а бандыты толькі гэтага і чакалі.

Да нашага сораму, мы недаацэньваем гэтай страты, не ўшаноўваем яго памяць так, як належыць… Забіты быў ня толькі мастак, мастацтвазнаўца, забілі аднаго зь лідараў беларускага нацыянальнага руху, які пасьля рэпрэсій сталіншчыны адраджаўся ў асяродках творчай інтэлігенцыі. Гэта яшчэ не была палітычная кансьпірацыя. Асобныя патрыёты, якія саматугам прыйшлі да беларушчыны, шукалі аднадумцаў, падтрымлівалі кантакты, абменьваліся забароненай літаратурай, сустракаліся з дзеячамі, якія выжылі ў савецкіх канцлягерах, паціху адзначалі нацыянальныя сьвяты, але ўжо думалі пра акцыі пратэсту. Таму забойства Баразны было папярэджаньнем іншым, яго сябрам і паплечнікам.

“Ён не даваў спаць усім, хто праспаў нацыянальную сьвядомасьць, нацыянальную памяць, хто праспаў беларушчыну”, — напісаў пра Лявона Баразну ў сваіх успамінах Рыгор Барадулін.

*А. Дзярэчка*

# КАНЕЦ АТАМАНА БАГАЛЕВІЧА

У 1921 годзе я быў палітруком батальёна 8-й стралковай дывізіі [Чырвонай Арміі]. У пачатку чэрвеня мяне выклікаў камісар палка Мікалай Арабей: "Асавецкі валасны выканаўчы камітэт просіць дапамагчы ў барацьбе з бандай Караткевіча. Для барацьбы зь ёю ствараецца аператыўны атрад пад тваім кіраўніцтвам". Мы дзейнічалі хутка, арганізавана. Падабралі паўсотню лепшых байцоў, запасьліся боепрыпасамі і харчамі.



І вось мы ў лесе, дзе, па нашых зьвестках, хаваліся бандыты. Намесьніку камандзіра ўзвода Мікалаю Зубакіну я загадаў нанесьці ўдар з тылу. Караткевіч, відаць, разгадаў наш манеўр. Бандыты пачалі адыходзіць, кідаючы нарабаваную маёмасьць. На гэты раз ім удалося вырвацца з акружэньня, але Караткевіч быў забіты.

Празь некалькі дзён мы даведаліся, што банду ўзначаліў Сава Багалевіч. Дзейнічаў ён асьцярожна, пераважна ўначы, пазьбягаў сутычак з нашым атрадам. Доўга не ўдавалася напасьці на яго сьлед. Вырашылі паслаць да Багалевіча супрацоўніка ЧК І. Лабецкага. Гэта быў чалавек гадоў 30-ці, у мінулым настаўнік.

Лабецкі ўладкаваўся настаўнікам у Асавецкай воласьці. Была пушчана чутка, быццам ён былы белы афіцэр, працаваў у ЧК і яго звольнілі адтуль, калі даведаліся пра былое. Пра гэта даведаўся Багалевіч і зацікавіўся "былым чэкістам". Адбылася сустрэча Лабецкага з Багалевічам, і той сказаў:

"Мне патрэбны смелыя, кампетэнтныя людзі. Начальнікам штаба пойдзеш? Ты служыў у Саветах, ды яшчэ ў ЧК. Ведаеш, як узьнімецца аўтарытэт майго атрада?"

Лабецкі згадзіўся. Прайшло каля месяца, як ён "служыў" у бандзе Багалевіча. Неяк позьняй ноччу ў разьмяшчэньне нашага атрада вярхом на кані прыехаў Лабецкі.

“Тэрмінова паднімайце людзей, — усхвалявана прагаварыў ён. — Багалевіч каля Ямнага, у лесе, там яго можна ўзяць...”.

У дарозе мы з Лабецкім абмеркавалі плян дзеяньня. Прабіраліся па глухіх месцах. Кругом — лес, балота. Апоўдні атрад спыніўся недалёка ад Ямнага. Лабецкі ня быў у гэтых мясьцінах, толькі прыкладна ведаў, дзе знаходзіцца замаскаваная зямлянка Багалевіча. Урэшце адшукалі яе.

Мы дагаварыліся ўвайсьці ў зямлянку з Лабецкім. Ён штурхнуў мяне ў дзьверы пад выглядам дызертыра. У зямлянцы знаходзіліся двое — жонка атамана і Рыгор Шышко, адзін з памочнікаў Багалевіча.

“Дзе ты схапіў гэтага ваяку?” — запытаў Шышко.

“У лесе хаваўся. Я сам дапытаю яго...”.

Ён сеў на чурбан, які замяняў табурэт. Я стаяў ля дзьвярэй, трымаючы ў рукаве наган.

Калі Шышко паспрабаваў падняцца з ложка, Лабецкі крыкнуў:

“Рукі ўверх!”

Бандыт выхапіў з-пад падушкі наган і стрэліў у Лабецкага. І амаль адначасова стрэліў я. Бандыт упаў. Я кінуўся да Лабецкага. Ён яшчэ дыхаў, калі я адчыніў дзьверы, падаў сігнал байцам, якія знаходзіліся ў засадзе. Яны хутка прыбеглі, пачалі дапамагаць мне перавязваць рану, але Лабецкі праз некалькі хвілін памёр. Мы ўзялі каня з калёсамі і адправілі забітага ў Нежын, дзе пахавалі героя.

Дапыталі жонку Багалевіча. Па нашых зьвестках, атаман зьбіраўся прыехаць сюды, але, магчыма, даведаўся аб “здрадзе” Лабецкага і не зьявіўся. Атрад знаходзіўся каля Ямнага каля двух сутак і ні з чым вымушаны быў вярнуцца.

З кучкай бандытаў Багалевіч недзе хаваўся. Была позьняя восень, пажаўцела і пасохла трава, наступілі халады. Бандыты ўпотай прабіраліся на хутары, каб абагрэцца, назапасіць харчоў. Мы атрымалі зьвесткі, што Багалевіч бывае на хутары Опін, але ў каго, трэба было яшчэ ўдакладніць.

Паслалі разьведгрупу на чале з Іванам Садкевічам. Байцы наблізіліся да хутара, але бандыты заўважылі іх. Чырвонаармейцы вымушаны былі ўступіць у няроўны бой. Бандыты, якія добра ведалі мясцовасьць, абышлі байцоў, адрэзалі шлях да адступленьня. Садкевіч і двое яго сяброў загінулі. Толькі Раману Кавалёву ўдалося выратавацца і дабрацца да атрада. Мы ўскочылі на коней і рушылі на хутар, але спазьніліся, банды там ужо не было.

Аднойчы да мяне зьвярнуўся чырвонаармеец Павел Дзіўнёў з просьбай адпусьціць у Барыкоў да знаёмай дзяўчыны. Я хацеў яго паўшчуваць, але баец расказаў наступную гісторыю.

“Пазнаёміўся я з дзяўчынай, Марыя яе завуць. Яна расказала пра сваю сястру Просю. У той ёсьць жаніх, абяцае жаніцца, а сам бадзяецца па лясах. Ці не прывядзе нітачка да Багалевіча?”

Мы ўхапіліся за гэтую ідэю, Дзіўнёў накіраваўся на хутар. На наступны дзень вярнуўся.

“Жаніх Просі, прозьвішча яго Плышэўскі, знаходзіцца ў бандзе Багалевіча. Быццам зьбіраецца пакінуць банду, але ўплыў атамана моцны...”.

З групай чырвонаармейцаў я накіраваўся на хутар Барыкоў. Увайшлі ў хату мы ўдваіх з Дзіўнёвым, астатнія засталіся ў засадзе. Марыя, убачыўшы Паўла, узрадавалася. Неўзабаве прыйшла і Прося.

“Здагадваюся, чаго вы прыйшлі, — сказала яна. — Яны хочуць пачаць перагаворы...”.

“Хто гэта — яны?” — запытаўся я.

“Багалевіч з Плышэўскім”.

На сустрэчу з Багалевічам мы накіраваліся з камандзірам узвода Мікалаем Зубакіным, Паўлам Дзіўнёвым і дзесяткам байцоў. Было холадна, ішоў сьнег. Па лясной сьцяжынцы Прося прывяла нас у дом лесьніка. За намі непрыкметна рухалася група чырвонаармейцаў.

“Пабудзьце тут, я хутка вярнуся”, — сказала дзяўчына.

Прося прыйшла праз гадзіну.

“Зараз прыдуць”, — кажа.

За вокнамі пачуліся крокі, на парозе вырасьлі дзьве высокія постаці. Шыракаплечы з барадой быў Багалевіч. Плышэўскі, тонкі, з невялікімі сьветлымі вусамі, стаяў за яго сьпіной.

Багалевіч і Плышэўскі падышлі да стала. Атаман, не сьпяшаючыся, разгладзіў бараду. Плышэўскі сеў у баку. Я ўважліва сачыў за кожным рухам Багалевіча.

“Не буду гаварыць аб прычынах, якія прывялі нас сюды, — пачаў Багалевіч. — Наваяваліся, хопіць. Пугай абуха не пераб’еш... Я хацеў бы ведаць, ці могуць нам захаваць жыцьцё?”

“Не мы вырашаем гэта. Усё будзе залежыць ад вас саміх”.

“Адзінае, аб чым я прашу — захаваць нам жыцьцё”, — паўтарыў Багалевіч.

Мы запыталіся, ці гатовы ён неадкладна скласьці зброю.

“Нам патрэбна некалькі дзён, каб апавясьціць нашых людзей”, — адказаў атаман.

“Добра... Усе вы са зброяй павінны зьявіцца ў Нежын. Тэрмін вызначым, але каб бяз выбрыкаў...”.

9 студзеня 1922 году банда Багалевіча здалася. Усе яе ўдзельнікі былі перададзены сьледчым органам і паўсталі перад судом. У Аса-

вецкай валасьці, як і ўсюды ў Беларусі, аднаўляліся мір і парадак...

*Перадрукоўваецца паводле наступнай публікацыі: Канец атамана (З успамінаў удзельніка грамадзянскай вайны палкоўніка ў адстаўцы А. П. Дзярэчка) // Любанщина. Сайт Любанского района Минской области; http://ljuban.by/index.php?option=com_content&view=article&id=84:--3----------&catid=2&Itemid=2*



Бандит Вишневский из шайки балаховцев.
Расстрелян по постановлению Ревтрибунала Белоруссии

# ЯК ЗАГІНУЎ КІРАЎНІК СЛОНІМСКАЙ АНТЫФАШЫСЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ Ф. З. МІСКО

Гэтае дакумэнтальнае сьведчаньне-ўспамін Івана Міско (паэта Анатоля Іверса, 1912 — 1999) было атрыманае Сяргеем Яршом ад аўтара ў сьнежні 1996 году. Друкуецца ўпершыню. Паводле гэтага тэксту 15 гадоў таму былі зьдзейсьненыя дзьве публікацыі.* Адзначым, што ў 1944 г. загінуў не адзін Феакціст Міско, было забіта нямала і іншых кіраўнікоў антыфашыстоўскага прасавецкага падпольля ў Заходняй Беларусі. Праблема патрабуе скурпулёзнага дасьледаваньня. Магчыма, савецкімі спэцслужбамі праводзіліся адмысловыя ліквідацыйныя акцыі “ненадзейных кадраў”, альбо мелі месца мясцовыя “разборкі” (у тым ліку і паміж “заходнікамі” і “ўсходнікамі”) ў барацьбе за будучыя пасады ў савецкай адміністрацыі.

Слонімская антыфашысцкая арганізацыя стварылася ў першыя месяцы пасля акупацыі раёна, у ліпені-жніўні 1941 года. За паўгода яна ахапіла амаль усе вёскі Слонімшчыны, перакінулася ў Зэльвенскі

---

*Ёрш С. Куля прайшла празь дзьверы [Сэрыя матэрыялаў “Партызанскімі сьцежкамі”] // Наша ніва, 1997, 27 студзеня, № 3-4 (78); Ёрш С. Пуля прошла сквозь дверь // Газета Слонімская, 1997, № 2 (2), 15 траўня.

раён. Налічвала звыш тысячы падпольшчыкаў.

Задачы арганізацыі ўзнікалі ў сувязі з абставінамі, якія часта мяняліся ў горшы бок. Антыфашысты дапамагалі ўладкоўвацца акружэнцам Чырвонай арміі, папярэджвалі людзей аб арыштах, моладзь — аб вывазе на катаржныя работы ў Нямеччыну. Засцерагалі сялян ад нямецкага грабежніцтва. Члены падпольных ячэек дапамагалі партызанам, хадзілі з імі на дыверсійную дзейнасць. Праводзілі агітацыйную работу супраць фашысцкіх захопнікаў. Займаліся разведкай, якая была вельмі неабходная для народных мсціўцаў і для мірнага насельніцтва.

Антыфашысцкая арганізацыя сабрала і перадала партызанам звыш 2-х тысяч вінтовак, больш за 200 кулямётаў, шмат гранатаў, вялікую колькасць патронаў.

Узначаліў антыфашысцкі рух на Слонімшчыне былы падпольшчык КПЗБ ураджэнец вёскі Чамяры Феакціст Захаравіч Міско, якога польскія ўлады засудзілі на 12 гадоў турмы і вывезлі на захад Польшчы, у горад Грудзёндз. Нямецкія фашысты ўсіх вязняў, у тым ліку і нашага земляка, прымусілі на іх працаваць. Ф. З. Міско ўцёк з лагера, начамі прабіраўся на радзіму.



***Феакціст Міско***

Неўзабаве ён зрабіў першы візіт да мяне, дзе наша сям’я на прылесным чамяроўскім хутары. У другой палове дваццатых гадоў мы вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі. Таму лёгка было дамовіцца аб падпольнай барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў.

Арганізацыя найбольш небяпечнай стала для немцаў з маім прыходам у Слонім, дзе я з красавіка 1942 года ўзначаліў гарадскі антыфашысцкі камітэт. Там нашы члены ўладкаваліся на працу ў СД і ў некаторыя іншыя карныя ўстановы ворага, выкрывалі ўсе яго мерапрыемствы. Здабытыя звесткі перапраўляліся ў лес, а партызанскія радысткі перадавалі іх туды, куды трэба было…

Па даносу аднаго здрадніка 25 лістапада 1943 года ў горадзе пачаліся арышты падпольшчыкаў. Арыштавалі членаў гаркома антыфашысцкай арганізацыі: рабочага лесазавода № 16 Мікалая Мінчука, настаўніка Леаніда Сенчыка з цяжарнай жонкай, маю жонку. Бацька схапілі крыху пазней. Некаторыя антыфашысты, у тым ліку і я, ухіліліся ад арыштаў, накіраваліся ў партызаны. Феакціст Міско, які часта наведваў маю кватэру, таксама прыбыў у лес, бо ўсе, хто заходзіў да мяне, былі ў немцаў на ўліку.

У кнізе *“Партизанские формирования в годы Великой Отечест-*

*венной войны”* /стар. 79/ напісана, што 14 жніўня 1943 года на тэрыторыі Слонімскага, Казлоўшчынскага, Быценьскага раёнаў прыступіў да работы Слонімскі міжрайцэнтр на чале з Міхаілам Трафімавічам Анішчыкам. У распараджэнне міжрайцэнтра перададзены атрады імя Панамарэнкі і нядаўна арганізавны атрад імя Дзяржынскага.

Вось я і Феакціст прыбылі да дзяржынцаў, дзе мяне назначылі намеснікам камандзіра атрада па разведцы.

У студзені 1944 года на базе атрадаў імя Панамарэнкі, імя Дзяржынскага, імя Сталіна была створана брыгада імя Ракасоўскага. Незадоўга пры дапамозе антыфашысцкай арганізацыі былі створаны атрады імя Ракасоўскага і імя Фрунзе.



Як загінуў кіраўнік Слонімскай
антыфашысцкай арганізацыі
Ф.З. Міско

Слонімская антыфашысцкая арганізацыя стварылася ў першыя месяцы ...ля акупацыі раёна, у ліпені – жніўні 1941 года. За паўгода яна ...піла амаль усе вёскі Слонімшчыны, перакінулася ў Зэльвенскі раён. ...ічвала звыш тысячы падпольшчыкаў.

Задачы арганізацыі ўзнікалі ў сувязі з абставінамі, якія часта ...яліся ў горшы бок. Антыфашысты дапамагалі ўхілкоўвацца акружэнцам ...вонай арміі, папярэджвалі людзей аб арыштах, моладзь – аб вывазе ...катаржныя работы ў Нямеччыну. Засцерагалі сялян ад нямецкага гра...ніцтва. Члены падпольных ячэек дапамагалі партызанам, хадзілі з ...на дыверсійную дзейнасць. Праводзілі агітацыйную работу супраць ...ысцкіх захопнікаў. Займаліся разведкай, якая была вельмі неабход...і для народных мсціўцаў і для мірнага насельніцтва.

Антыфашысцкая арганізацыя сабрала і перадала партызанам звыш 2-х ...яч вінтовак, больш за 200 кулямётаў, пяць гранатаў, вялікую коль...ць патронаў.

Узначаліў антыфашысцкі рух на Слонімшчыне былы падпольшчык КПЗБ ...ураджэнец вёскі Чамяры Феакціст Захаравіч Міско, якога польскія ўла...засудзілі на 12 гадоў турмы і вывезлі на захад Польшчы, у горад ...удзёндз. Нямецкія фашысты ўсіх вязняў, у тым ліку і нашага земляка, ...мусілі на іх працаваць. Ф.З. Міско ўцёк з лагера, начамі прабіраў... на радзіму.

Неўзабаве ён зрабіў першы візіт да мяне, дзе наша сям"я жыла на ...лесным чамяроўскім хутары. У другой палове дваццатых гадоў мы ву...ліся ў Віленскай беларускай гімназіі. Таму лёгка было дамовіцца аб ...падпольнай барацьбе супраць гітлераўскіх акупантаў.

Арганізацыя найбольш небяспечнай для немцаў з маім прыходам у ...онім, дзе я з красавіка 1942 года ўзначаліў гарадскі антыфашысцкі ...мітэт. Там нашы члены ўладкаваліся на працу ў СД і ў некаторыя ін...я карныя ўстановы ворага, выкрывалі ўсе яго мерапрыемствы. Здабы...я звесткі пераправяляліся ў лес, а партызанскія радысткі перадавалі ...туды, куды трэба было...

Па даносу аднаго здрадніка 25 лістапада 1943 года ў горадзе па...ліся арышты падпольшчыкаў. Арыштавалі членаў гаркома антыфашысцкай ...ганізацыі рабочага лесазавода № 16 Мікалая Мінчука, настаўніка Ле...іда Сенчыка з цывільнай жонкай, маю жонку. Бацька схапілі крыху паз...й. Некаторыя антыфашысты, у тым ліку і я, ухіліліся ад арыштаў, на...раваліся ў партызаны. Феакціст Міско, які часта наведваў маю ква...ру, таксама прыбыў у лес, бо ўсе, хто заходзіў да мяне, былі ў...

23 лютага 1944 года партыйны кіраўнік міжрайцэнтра М. Т. Анішчык у брыгаднай зямлянцы праводзіў нараду. Прысутнічалі там я і Ф. Міско, стаялі недалёка ад акенца пры дзвярным вушаку. За дзвярыма пачуўся сухі стрэл. Феакціст пачаў падаць на мяне. Я і яшчэ пару хлопцаў падхапілі яго на рукі. Праз мінут пяць чалавек памёр.

З пісталета страляла Анішчыкава радыстка, якая ішла каля зямлянкі. Куля прайшла праз дзверы каля самага акенца. Партызаны тут жа хацелі расправіцца з радысткай, але Анішчык не дазволіў, загадаў пасадзіць у асобную зямлянку і каля зямлянкі паставіў узброеную варту.

Дакладнага следства не праводзілі. Анішчык пагадзіўся з тым, што гэта быў “выпадковы” стрэл. Партыйны кіраўнік адправіў забойцу з групай партызанаў на захад, дзе яна нібыта загінула.

Наша масавая міжраённая антыфашысцкая арганізацыя і яе кіраўнік Ф. З. Міско карысталіся папулярнасцю ў народзе. Некаторыя,

хто не верыў у “выпадковы” стрэл, пагаварвалі, што пасля вайны антыфашысцкі кіраўнік мог стварыць канкурэнцыю партыйнаму кіраўніку.

Пасля гібелі Ф. З. Міско мяне выбралі кіраўніком міжраённай падпольнай арганізацыі з сумяшчэннем кіраўніцтва гарадскім падполлем.

Як жа абыйшліся са мною пасля вайны, калі не стаў патрэбным начальству? Звальнялі з работы ў рэдакцыі газеты, а потым — з работы ў гарсавеце, на працягу дваццаці гадоў не давалі дакументаў аб падпольнай і партызанскай дзейнасці, абзывалі нямецкім прыслужнікам, нягледзячы на тое, што немцы замучылі ў лагеры смерці Калдычэва бацьку і жонку. “Адно ў канцы 1964 года паклёпы адпалі”, — пісаў Аляксей Карпюк у першым томе выбраных твораў /стар. 387/.

*І. Міско [уласнаручны подпіс]*

**І. Д. Міско,**
Былы кіраўнік Слонімскай міжраённай
Антыфашысцкай арганізацыі

*Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў архіве С. Ярша.*

# ТАЯМНІЧЫ ВІРУС

*Смирнов Н. Секретный узел: Тайная война в Беларуси (1939 — 1944). — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2010, 248 б.*




Падобнай літаратуры, якая распавядае пра посьпехі савецкіх спэцслужбаў у гады Другой сусьветнай вайны, у Беларусі выдаецца няшмат. Звычайна дзясяткі кніг рознай навуковай вартасьці трапляюць у нашу краіну з Расеі. Таму праца супрацоўніка Інстытута нацыянальнай бясьпекі Мікалая Сьмірнова, выдадзеная ў Мінску, вартая ўвагі. Часткова яна ўжо знаёмая чытачу — у апошнія гады публікацыі аўтара зьяўляліся ў дзяржаўнай пэрыёдыцы.

Іншая справа, што “тайная вайна” не зьяўляецца для нас таямніцай, нечым прынцыпова новым. Ад аўтараў, якія маюць доступ да архіўных збораў КДБ, варта чакаць адкрыцьця новых старонак, біяграфій, спэцаперацый. У М. Сьмірнова гэтага малавата. І справа ня ў нашым суб’ектыўным стаўленьні да аўтара і яго працы.

Просты прыклад. У 2004 годзе ў Маскве выйшла кніга журналіста Яўгена Талстых *“Агент “Никто”*.* Невялікая колькасьць асобнікаў патрапіла ў Беларусь (а цяпер кніга даступная і ў Сеціве), таму айчынныя дасьледчыкі маглі ўявіць, якія “скарбы” чакаюць іх у архівах. Талстых атрымаў магчымасьць папрацаваць у Цэнтральным архіве ФСБ Расеі і “адкапаў” там сэнсацыйную гісторыю нямецкага/савецкага выведніка-дывэрсанта Максімава-Краўчанкі-Дароніна. Ён дзейнічаў у Беларусі і ў час вайны, і ў першыя гады пасьля яе.

На жаль, такіх сэнсацыйных гісторый у кнізе Мікалая Сьмірнова няма. А вось старых ідэалягічных штампаў хапае. Ганьбіць бела-чырвона-белы сьцяг, бо яму *“отдавали честь полицаи”* (б. 179), называе *“предателями и палачами белорусского народа… витушек, родько, кушелей, козловских, акинчицев, рогулей, ермаченок, езовитовых, островских, сажичей и прочих”* (б. 141). Калі б Язэп Сажыч быў катам беларускага народу, у 1993-м не паехаў бы ў Мінск, а так не пабаяўся, прыехаў і ніхто ня меў да яго ніякіх пытаньняў. Сумнеўным і дзіўным выглядае сьцьверджаньне аўтара, што пасьля вайны вайсковага

*Толстых Е. Агент “Никто”: из истории “Смерш”. — Москва: “Совершенно секретно”, 2004.


СЕКРЕТНЫЙ УЗЕЛ

138

М. Витушко.

Функционеры БКО.
Справа – *Б. Рогуля,*
слева – *М. Ганько.*

канфлікту ЗША і СССР чакалі толькі “*бойцы польской АК*” (б. 138). А маёр Міхал Вітушка аказаўся ня толькі *“активным белорусским нацистом”*, але і *“бывшим польским офицером”* (б. 136).

Вялікія сумневы што да кампетэнтнасьці аўтара ўзьнікаюць пасьля знаёмства з подпісам пад здымкам на б. 138. На вядомым фота бачым Язэпа Сажыча і Барыса Рагулю. Мікалай Сьмірноў піша: *“Функционеры БКО. Справа — Б. Рогуля, слева — М. Ганько”*. Проста нейкі таямнічы вірус спасьцігае многіх цяперашніх аўтараў, якія друкуюць і падпісваюць гэты здымак! У 1964-м Васіль Раманоўскі яшчэ правільна яго падпісваў.* А вось ужо *“Вестник КГБ Республики Беларусь”* памыліўся, палічыўшы, што Рагуля… зьлева, ды абвёўшы твар Сажыча рамкай…** У тым жа годзе Аляксей Анішчык (Андрэй Чэмер) у сваёй кнізе друкуе фота Рагулі, але свастыку закрывае “Пагоняй”.*** У ліпені 1997-га, узрушаныя гэтай фальсіфікацыяй, былыя рагулёўцы запыталіся ў Барыса Рагулі, які прыехаў у Вільню, ці сапраўды было фота са свастыкай? Ён пацьвердзіў: было.**** Аднак пройдуць гады і часопіс “Архэ”, а пасьля і гісторык з Варшавы Юрый Грыбоўскі прыдумалі, што свастыка на руцэ Б. Рагулі — гэта “фотамантаж”.*****

М. Сьмірноў зьмяшчае ў сваёй кнізе невядомую дагэтуль гісторыю са спробай вярбоўкі намесьніка кіраўніка СБМ Міхася Ганька Дзьмітрыя Стэльмаха. Такую задачу сваім падначаленым паставіў

---

*Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынствах. — Мінск: “Беларусь”, 1964, б. 174.

**Токарев М. Шпионы // Вестник КГБ Республики Беларусь. Спецвыпуск, 1997, б. 51. Гл. таксама: Дудаліч С. Памылка ў рамачцы // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1 (2), б. 140.

***Чэмер А. [Аляксей Анішчык] Наваградзкая беларуская гімназія. — Вільнюс, 1997, б. 67.

****Ёрш С. Гісторыя яшчэ адной фальсіфікацыі // Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 161-162.

*****Архэ, 2010, № 5(92), травень, б. 487; Grzybowski J. Pogoń między Orlem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956. — Warszawa, 2011, б. 872, 903.

камандзір спэцатрада НКГБ СССР *“Местные”* Ваўпшасаў (*“Градов”*). Як вядома, Стэльмах (1919 г. н.) быў былым лейтэнантам Чырвонай Арміі. У 1942 годзе ён трапіў у нямецкі палон, пасьля быў у школе беларускіх прапагандыстаў у Нямеччыне. З ліпеня 1943-га — намесьнік шэфа-правадніка СБМ Міхала Ганька, кіраваў Менскай гарадзкой арганізацыяй. У пачатку 1944 г. ачоліў Краёвую школу СБМ у Альбярціне пад Слонімам.

Агент НКГБ СССР Фёдар Бураў прапанаваў Стэльмаху супрацоўніцтва і найперш — дапамагчы захапіць Ганько, каб адправіць яго на “Большую землю” (г. зн. самалётам за лінію фронту ў Маскву). Каб схіліць яго на свой бок, чэкісты даставілі з савецкага тылу ліст ад жонкі Стэльмаха і сямейны фотаздымак. Дзьмітрый Стэльмах ў Менскім раёне сустракаўся з прадстаўнікамі Ваўпшасава. М. Сьмірноў намякае, што яго завэрбавалі і адзначае: *“Ганько, правда, уже захватывать не пришлось, поскольку оперативная обстановка к тому времени изменилась”* (б. 170).*

У гэтым артыкуле М. Сьмірноў падае сэнсацыйную інфармацыю. Аказваецца, Міхась Ганько пасьля вайны зьмяніў прозьвішча і ўцёк у ЗША! А спадар Туронак усё “хавае” яго ў траўні 1945-га ў Чэхіі...

Нагадаем, летам 1944-га Дз. Стэльмах выехаў зь Беларусі ў Нямеччыну. Вясной 1945 году ён служыў у ранзе старшага лейтэнанта ў брыгадзе “Беларусь”, разам зь ёй здаўся амэрыканцам. Апошнія выдалі яго разам з групай беларускіх вайскоўцаў у СССР. Ягоныя паводзіны перад адпраўкай наводзяць на думку, што сапраўды Стэльмах мог быць завэрбаваны НКГБ. Бо калі яму дзеяч СБМ Г. Барановіч прапанаваў уцёкі з амэрыканскага палону, Дз. Стэльмах адмовіўся. Магчыма, ён проста спадзяваўся пабачыць сваю сям’ю. Далейшы лёс Стэльмаха невядомы, піша Ю. Туронак.*Найхутчэй бальшавіцкіх канцлягераў ён не мінуў.

**Сяргей Дудаліч**

---

*У кастрычніку 2012-га зьявілася публікацыя М. Сьмірнова, у якой ён зноў зьвяртаецца да гісторыі кантактаў савецкіх выведнікаў са Стэльмахам, цытуючы ўспаміны Анатоля Бурава: “...насчет Ганько задача потом изменилась, поскольку более ценным стал для нас Стельмах, который поначалу колебался и все просил время на раздумья. В конце концов он сделал решительный шаг и попросил встречи с Градовым. Туда мы его вместе с С. Романовцом и доставили. Он нам потом помогал”. Гл.: Смирнов Н. Они не боялись гестапо // СБ. Беларусь сегодня, 2012, 13 кастрычніка; http://www.sb.by/post/137811/

**Туронак Ю. Людзі СБМ; Беларусь пад нямецкай акупацыяй. — Смаленск, 2008, б. 83.

# ПРА “ЛЯСНЫХ БРАТОЎ” АЛЯКСАНДРА АНОШКІ

Даволі рэдка даводзіцца сустракаць публікацыі, цалкам прысьвечаныя нейкаму атраду “лясных братоў” і падрыхтаваныя паводле шматтомнай крымінальнай справы. Таму мы не маглі прапусьціць артыкул Ірыны Палавіковай, які зьявіўся напрыканцы 2011-га ў *“Могилёвской правде”*.* Безумоўна, пра Аляксандра Аношку і яго “банду” было вядома і раней, але даволі павярхоўна. “БР” таксама згадваў пра яго.** У кароткай даведцы мы паведамлялі, што атрад Аношкі рэйдаваў, дзейнічаў у цяперашніх Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай абласьцях. Час яго стварэньня нам быў невядомы. Паводле зьвестак МВД БССР, налічваў 16 чалавек. Усе яны былі паліцыянтамі, якія альбо хаваліся пасьля сыходу немцаў, альбо як рэпатрыянты пасьля вайны вярнуліся з Захаду ў Беларусь. На рахунку атрада Аношкі былі тэракты, 90 збройных абрабаваньняў калгасаў, вясковых крамаў, асобных грамадзян. Ліквідаваны быў у чэрвені 1948 году ў Дзісьненскім раёне Полацкай вобласьці, большасьць яго ўдзельнікаў былі арыштаваныя. За гэтую аперацыю загадам міністра ўнутраных спраў БССР былі заахвочаныя больш за 30 міліцыянтаў. Усе гэтыя зьвесткі былі ўзятыя з працы М. Ільінскага.***

Варта адзначыць, што Ільінскі ў адной публікацыі дае розныя характарыстыкі атраду Аношкі: “кулацка-буржуазна-нацыяналістычная банда” і “зладзейска-рабаўніцкая група”. Факты, якія прыводзіць І. Палавікова, сьведчаць, што “лясныя браты” Аляксандра Аношкі былі хутчэй рабаўніцкай групай, якая ня мела ідэалёгіі і палітычных мэтаў барацьбы. Былыя паліцыянты хацелі выжыць і вельмі спадзяваліся на вайну Захаду з СССР.

І. Палавікова называе Аляксандра Аношку былым бурмістрам, але не пазначае, у якім горадзе ён працаваў пры немцах. Той жа М. Ільінскі піша пра “банду” былога бурмістра Клічава, якая дзейнічала ў Клімавіцкім раёне Бабруйскай вобласьці (цяпер — Магілёўшчына). Яна налічвала 12 чалавек (“здраднікаў”, дэзэртыраў, “антысавецкіх элементаў”), толькі зь верасьня 1946-га да лютага 1947 году зьдзейсьніла 13 “цяжкіх крымінальных злачынстваў”, забіла дваіх актывістаў, абрабавала 39 крамаў.**** Магчыма, гаворка ідзе ўсё пра таго ж Аношку.

---

*Половикова И. Без срока давности. Больше трех лет бандиты держали в страхе жителей десятков деревень // Могилёвская правда, 2011, 16 снежня; http://mogpravda.by/ru/issues?art_id=1412

**Камандзіры антысавецкіх лясных атрадаў і групаў у БССР. 1944 — 1948 гг. Кароткі агляд паводле дакумэнтаў Міністэрства ўнутраных спраў БССР // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 1(6), б. 47.

***Ильинский Н. Деятельность органов милиции Белорусской ССР по охране общественного порядка и борьбе с преступностью (1946 — 1959 гг.). Учебное пособие. — Минск: МВШ МВД СССР, 1982, б. 12, 30, 31.

****Тамсама, б. 21.

*“БР” цалкам перадрукоўвае артыкул Ірыны Палавіковай у перакладзе з рускай мовы.*

***



***Цэнтральны архіў КДБ РБ. Фота з дакумэнтальнага фільма “Супрацьстаяньне”***

Восеньню 1944-га на Магілёўшчыну, якая ўздыхнула вольна пасьля вызваленьня ад фашыстоўскіх акупантаў, прыйшла новая бяда. У клічаўскіх лясах атабарылася банда, сабраная Аляксандрам Аношкам, які быў пры немцах бурмістрам. Бандыты больш за тры гады бясчынствавалі ў Клічаўскім, Кіраўскім, Асіповіцкім, Бялыніцкім, Бярэзінскім раёнах. На іх рахунку 91 рабаўніцтва, іх ахвярамі сталі больш за 500 сялянскіх сем’яў, 25 калгасаў і 5 крамаў. Злачынцы паранілі дваіх чалавек, наладзілі дэбош у адным з участкаў па выбарах у Вярхоўны Савет БССР…

Толькі да сакавіка 1947-га чэкістам удалося выйсьці на сьлед злачынцаў, якія пастаянна мянялі месцы дыслакацыі. А да канца траўня 1948-га банду канчаткова ліквідавалі — 10 яе ўдзельнікаў былі забітыя, шасьцёра, у тым ліку і цяжкапаранены Аляксандар Аношка, захопленыя. Падчас сьледзтва ў сьпісах падазраваных зьяўляліся і новыя імёны — памагатых і ўкрывацеляў бандытаў. Праз пяць месяцаў вайсковы трыбунал войскаў МВД Беларускай вайсковай акругі вынес прысуд. Большасьці з 60 чалавек, якія фігуравалі ў абвінаваўчым заключэньні, 25 гадоў меліся правесьці ў лягерах.

Дотык да 18 тамоў той колішняй крымінальнай справы, якія дагэтуль захоўваюцца ў архівах УКГБ па Магілёўскай вобласьці, — як дакрананьне да самой гісторыі. У падпісаных каліграфічным почыркам тэчках — ня толькі боль і страх тых, хто з месяца ў месяц станавіўся ахвярамі злачынцаў, але і галеча пасьляваеннай краіны, адчай паўгалодных людзей, якіх пазбаўлялі акрайца прыхаванага для дзетак хлеба, апошняга кавалку сала ці некалькіх кілаграмаў фасолі, што засталася да новага ўраджаю. Дарэчы, маці і жонкі бандытаў у пасьляваенныя гады жылі не лепш: у акуратна падшытых пратаколах вопісі маёмасьці затрыманых сваякоў-памагатых пазначаныя пераважна дамы пад саламянай страхой і, у найлепшым выпадку, каза ці парсю-

чок, а высновай — колючы вока запіс: “Іншай маёмасьці няма”… Але былыя паліцаі, якія атрымалі “прышчэпку” фашыстоўскай бязлітаснасьці, не адчувалі ня толькі ніякай спагады да абрабаваных людзей (у тым ліку і аднавяскоўцаў!) — лічылі сябе ледзьве не “народнымі мсьціўцамі”! А калі 9 траўня 1945-га краіна радавалася (Перамога!!!), Аношка і яго “лясное войска”, па прызнаньню самога верхавода банды, “чакалі хуткай вайны СССР з Ангельшчынай ці Амэрыкай, у якой краіна пацерпіць паражэньне, і мы станем ужо не здраднікамі Радзімы, а героямі, якіх з ушанаваньнямі сустрэнуць новыя гаспадары”!

Пацьверджаньнем гэтых словаў — “рэчавы доказ”, забраны чэкістамі падчас разгрому стаянкі банды ў лесе каля клічаўскай вёскі Закуцьце — сплецены з галінак літары: *“Да здравствует Российская освободительная армия!”*. А на лыжцы, якая належыла аднаму са злачынцаў, — “гаворачая” гравіроўка: *“Ложка лесного бандеровца, 7.III.48 года, воскресенье”*.

Восеньню 1944-га Аношка і трое “беглых” паліцаяў, якія напрасіліся да яго ў кампанію, мала нагадвалі будучых бандытаў, чые імёны стануць наводзіць жах на жыхароў навакольных вёсак. Закапаўшыся, як краты, у зямлю, варылі скрадзеную з сялянскіх агародаў бульбу, пяклі з мукі, знойдзенай на былой партызанскай стаянцы, падабенства хлеба і думалі толькі аб тым, каб незнарок не трапіцца на вочы староньнім. І толькі ў канцы траўня 1945-га рашыліся на першую вылазку: сакратар Каменна-Борскага сельсавета, пабачыўшы на парозе хаты ўзброеных стрэльбамі людзей, пакорліва аддаў ім і ўласную вопратку, і карову, што стаяла ў хляве…

З таго часу налёты на навакольныя вёскі сталі адбывацца ўсё часьцей, а склад банды пачаў папаўняцца новымі людзьмі. Неаднаразова пасьля чарговага рабунку Аношка вяртаўся ў лес з “нававбранцамі” — такімі ж, як і ён, былымі паліцаямі. У надзеі пазьбегнуць адплаты яны адсіджваліся па гарышчах і ў падпольлі, часам — з прыхаванымі стрэльбамі і аўтаматамі. І новаму “гаспадару” яны служыць кідаліся заўзята, звыкла не заўважаючы ні сьлёзаў жанчын, ні страху дзетак, ні адчаю мужыкоў, на вачах якіх узброеныя бандыты забіралі апошнія харчы, боты ці піджак, што застаўся яшчэ з даваенных часоў.

З паказаньняў аднаго са злачынцаў вядома, што ”вылічыўшы” вёску, дзе даўно не зьяўляліся супрацоўнікі міліцыі і вайскоўцы, бандыты пачыналі “падворны” абход, не прапускаючы ніводнай хаты. Часам, каб пазьбегнуць лішняга шуму, бралі з сабой вясковага хлопчыка, першага, што трапляў ім на вочы, падганяючы прыкладам, прымушалі яго грукацца ў дзьверы, гукаючы гаспадароў па імёнах. Цяжка ўявіць, што адчувалі тыя, пабачыўшы за сьпіной перапалоханага хлапчука ўзброеных людзей… За ноч бандыты пасьпявалі ўсіх ушчэнт абабраць, так і не сустрэўшы супраціву!

З матэрыялаў крымінальнай справы: “Летам 1946-га ў вёсцы Елнік Клічаўскага раёну злачынцы зьдзейсьнілі абрабаваньне грамадзян, гвалтам забраўшы хлеб, соль, фасолю, цыбулю і іншае. Акрамя таго ўзялі 9 шынялёў, 2 пары ботаў і 2 кажушкі. Восеньню 1946-га абрабавалі жыхароў вёскі Мікалаеўка, забралі 15 боханаў хлеба, паўпуды сала, кожны ўзяў па пляшцы малака, а яшчэ 4 кашулі і 4 пары штаноў. У вёсцы Асавок Бялыніцкага раёну хадзілі па хатах і пад пагрозай зброі зьбіралі харчы — хлеб, соль і крупы. У вёсцы Хатуршчына і Рубеж забралі два піджакі ад касьцюма. У вёсцы Дубнікі Кіраўскага раёну… абыйшлі ўсе без вынятку дамы, забралі 15 боханаў хлеба, 4 дзесяткі яек, па 5 кілаграмаў фасолі і сала, 6 кілаграмаў мукі, 2 пары ботаў. Назіраючы за вёскай Шалаеўка Кіраўскага раёну, пабачылі, што малоцяць жыта, уначы пачалі хадзіць па вёсцы ад цэнтру да апошняй хаты ля рэчкі, здабылі 10 боханаў хлеба, 12 кілаграмаў мукі, 10 кілаграмаў фасолі і бабоў, пяць дзесяткаў яек, набралі ў пляшкі малака…”.


СЕКРЕТНО

Министерство Государственной Безопасности СССР
Центральный архив

ОБЩИЙ СЛЕДСТВЕННЫЙ ФОНД

Не грэбавалі злачынцы нават рабункамі блізкіх ім людзей. Як толькі адзін з удзельнікаў банды даведаўся, што ў вёску Доўгае, дзе ён раней жыў, прыяжджаў яго сваяк і пакінуў сваёй маці прывезеныя зь Нямеччыны трафеі, тут жа прапанаваў схадзіць да старой — “патрэсьці” крэўных. У лес бандыты вярнуліся, нагружаныя байкавымі коўдрамі, рулонамі тканіны, вопраткай і абуткам. Такімі ж пасьпяховымі былі і “набегі” на вясковыя крамы — скрадзенымі зь іх адрэзамі чырвонага атласу ці жаночымі хустачкамі парадуюць яны пасьля хто — жонку, якая насіла цішком “перадачкі” да ляснога ўзьлеску, хто — маці, якая так і не зразумела, што гэта яе сын — той самы бандыт, пра якога з жахам гавораць жыхары навакольных вёсак…

Але знаходзіліся і тыя, хто ня толькі пакрываў злачынцаў, але і дапамагаў ім у рабунках.

З паказаньняў затрыманага: “Перад тым, як рабаваць вёску Белы Лог, мы зайшлі ў хату старшыні калгасу, якому адрэкамендаваліся бан-

дытамі, што прыбылі для рабунку. Старшыня сказаў, што ў калгасьнікаў браць няма чаго, і парэкамендаваў лепш узяць у яго на скотаферме бараноў, а ў калгаснай каморы пакінутыя ад пасяўной гарох і жыта. Так мы і зрабілі, толькі збожжа не сталі браць, паколькі не было чым яго апрацоўваць. Карыстаючыся добразычлівым стаўленьнем старшыні, наведалі вёску яшчэ раз усім складам банды, каб зручней было забіраць нарабаванае. Па яго рэкамендацыі ўзялі яшчэ бараноў, 6 пудоў бульбы з бурта, разьмяшчэньне якога старшыня нам паказаў праз вакно (выходзіць сам не стаў, баяўся, што калгасьнікі яго заўважаць), на ферме забралі малако і маслабойку са сьмятанай". У трэці раз нахабныя ад беспакаранасьці злачынцы, з маўклівай згоды "кіраўніка" гаспадаркі, што схаваўся за зачыненымі дзьвярыма, абыйшлі падворкі калгасьнікаў, сабраўшы "падатак" — хлеб, соль, яйкі…

Зьнішчыць банду доўгі час не ўдавалася. Ледзьве пачыналі чэкісты сьціскаць кола, як бандыты, па-зьвярынаму адчуўшы небясьпеку, сыходзілі ў глыб лесу, а то і зусім перабіраліся ў іншы раён. У зямлю ўжо не зарываліся, баючыся, што сталае жыльлё хутчэй выведзе на іх сьлед, кідаліся ад узьлеску да ўзьлеску, на хуткую руку будуючы то там, то тут часовыя збудаваньні з галінаў і саломы, начуючы ў былых салдацкіх бліндажах і партызанскіх зямлянках… Але нават гэта не выратавала — пяцёра бандытаў былі забітыя падчас перастрэлкі з чэкістамі ў сакавіку і красавіку 1947-га, некалькі загінулі 22 траўня 1948-га, у дзень канчатковай ліквідацыі банды Аношка. Аднаго зьбеглага злачынцу чэкісты расшукалі ў канцы чэрвеня — бандыт люта адстрэльваўся і быў забіты пры затрыманьні. Сяляне дзесяткаў вёсак, якіх бандыты некалькі гадоў трымалі ў пастаянным страху, уздыхнулі з аблягчэньнем…

Разгляд крымінальнай справы ў вайсковым трыбунале ішоў 12 дзён. Бандыты, што засталіся жывыя, іх сваякі і знаёмыя, каго сьледзтва назвала "памагатымі" і "укрывацелямі", атрымалі па 25 гадоў лягероў з канфіскацыяй маёмасьці і паражэньнем у правах тэрмінам на 5 гадоў. Тым, чыя віна, па версіі сьледзтва, была мінімальнай, чакала зьняволеньне там жа на тэрмін ад 8 да 10 гадоў.

У Маскву, на адрас Генэральнага пракурора СССР пасыпаліся лісты: асуджаныя скардзіліся на "занадта суворы" прысуд. Але толькі ў 1958 годзе тэрміны пакараньня тым, хто не запэцкаўся службай у паліцыі і не ўдзельнічаў непасрэдна ў рабунках, былі зьніжаныя…

*Половикова И. Без срока давности. Больше трех лет бандиты держали в страхе жителей десятков деревень // Могилёвская правда, 2011, 16 снежня; http://mogpravda.by/ru/issues?art_id=1412*

# ТЭРАКТ У ГОМЕЛІ, 1946 ГОД

Недзе праз год ці два пасьля вайны ўваход у гомельскі Парк культуры і адпачынку вырашылі зрабіць платным. Няйнакш, як у гонар перамогі над фашызмам. Каля цэнтральнага ўваходу паставілі турнікет і білетную касу, парк па перыметры абнесьлі масіўным парканам, большая частка каторага, між іншым, дагэтуль захавалася з боку плошчы Леніна. Навершы парканаў навязалі калючым дротам, а там, дзе гэта было немажліва, густа намазалі салідолам — а каб савецкія людзі не лазілі і не адпачывалі на халяву!

Ясна справа, гамяльчане ад такой навіны проста ахранелі. “Парк” для Гомеля — месца сакральнае, тут традыцыйна спатыкаліся закаханыя, пілі піва пралетарыі, гралі ў шахматы пенсіянеры і нават прызначалі месца для разборак крутыя гомельскія гопы з “Амерыкі” і “Манастырка”.

Нават немцы падчас акупацыі — і тое не даўмеліся браць грошы за ўваход у Парк!

Кіёск з кветкамі ў гомельскі Парк самотна прастаяў гэтак амаль месяц. У Парк не хадзіў амаль ніхто — не таму, што не хацелі, а проста “з прынцыпу”.

І вось аднойчы ўначы з боку “Палесдруку” пралунаў жахлівы выбух. Парканная сэкцыя проста разьляцелся ў друз. Нараніцу тамака былі ці не ўсе гомельскія мянты, эм-гэ-бэшнікі з цэнтральнага офісу на Бялецкага і зьляканыя партыйцы. Відавочна, выбухнула штось вельмі магутнае і сур’ёзнае…

— Ведаеш, сынок, — расказваў мне бацька недзе ў 1990 годзе, — мы, пацаны “з вакзалу”, так былі абураныя, што з нас у наш Парк грошы бяруць, што вырашылі гэтым гадам адпомсьціць. Наплавілі толу са снарадаў, а іх у гомельскіх лясах пасьля вайны як гразі было, зладзілі дэтанатар і вогнеправодны кнот. Ну, і…



— Бацька, дык гэта ж за Сталіным было! — не даў веры я. — І што — ніхто не застучаў? А чаму?

— Таму што збаяліся, — стлумачыў бацька. — Бо тол, капсулі і кнот яшчэ засталіся. А калі такому стукачу пад хату?

Як бы то ні было, але адразу пасьля гэтага ўваход у гомельскі Парк зрабілі бескаштоўным.

P. S. Мой бацька Ахроменка Ігар Яўхімавіч, якому тады было 14 гадоў, удзел у тэ-

ракце ня браў. Але “старэйшых вакзальных пацаноў”, якія спрычыніліся да выбуху, ведаў выдатна.

**Уладзіслаў Ахроменка**

*Перадрукоўваецца паводле наступнай крыніцы: Ахроменка Ул. Гомель-1946, невядомы тэракт. З аповядаў майго бацькі // 2012, 20 чэрвеня; http://ahromenka.livejournal.com/107424.html*

# ПРА КАЛГАСНАГА АРГАНІЗАТАРА НА ВАЛОЖЫНШЧЫНЕ АЛЯКСАНДРА РЫЖЭВІЧА

Зьмяшчаем два артыкулы, у якіх асьвятляецца асоба прыхільніка савецкай улады, забітага ў 1948 годзе. Асьвятляецца па-рознаму: для сваякоў ён, зразумела, герой, для некаторых вяскоўцаў — злачынца. З часам карціну ўдасца дапоўніць архіўнымі дакумэнтамі.

**Ворагі тапталіся пад вокнамі…**

Больш за 60 гадоў Марыя Антонаўна Рыжэвіч свята захоўвае памяць пра свайго мужа, які загінуў ад рук бандытаў.

Людзям старэйшага пакалення прозвішча Рыжэвіч скажа многае. Быў у нялёгкія пасляваенныя гады такі старшыня калгаса імя Леніна ў вёсцы Цябуты, якога забілі бандыты. У 50-ыя гады мінулага стагоддзя гэта даволі гучная гісторыя мела вялікі грамадскі рэзананс. Зноў яго прозвішча ўспомнілі, калі ў былым у калгасе “Чырвоны сцяг” узяліся за аднаўленне старых і будаўніцтва новых помнікаў. Замянілі стары абеліск на могілках у вёсцы Цябуты, пастаўлены ў 1951 годзе старшыні Рыжэвічу. Фота А. Рыжэвіча змешчана ў раённай кнізе-хроніцы “Памяць” (стар. 332). Для мяне асабіста гэты незнаёмы чалавек даўно стаў далёкай гісторыяй. А вось тое, што яшчэ жывая ўдава Рыжэвіча, з’явілася сапраўдным адкрыццём. Марыя Антонаўна даўно жыве разам з дачкой Вандай Аляксандраўнай Барбашынскай, таксама ўдавой, у доме, пабудаваным насупраць старога, дзе некалі і адбылася трагедыя. Падчас адной з камандзіровак мы завіталі да іх.

Просценькі вясковы дом сёння здаецца занадта прасторным для дваіх. Ён сустрэў нас цішынёй і спакоем, здавалася, жыццё тут прыпыніла ход. На сценах — іконы і партрэты дарагіх гаспадыням людзей, зробленыя са старых фотакартак, якім пакланяюцца, бы іконам. Зусім немудрагелістая мэбля, яшчэ з тых часоў, сведчыць, што тут ніколі не жылі шыкоўна. Выключная, амаль стэрыльная, чысціня

таксама многае гаварыла пра гэтых немаладых вясковак. Гасцям, хоць і нязваным, вельмі ўзрадаваліся. У асноўным гаварыла дачка забітага старшыні, іншы раз за ўдакладненнем якога-небудзь факта яна гучна звярталася да матулі. У свае 90 гадоў Марыя Антонаўна ўжо дрэнна чуе, але памяць мае выключную, называе дні і канкрэтныя даты, бы гэтыя падзеі адбываліся на днях. “Перабыта, але не забыта”, — штораз паўтарае яна.

Марыя Антонаўна і Аляксандр Васільевіч Рыжэвічы пажаніліся перад вайной. Першы сынок паспеў нарадзіцца да акупацыі. Гітлераўскае нашэсце перажылі ў роднай вёсцы. Гора зведалі ў поўнай меры, калі хату спалілі немцы і засталіся без даху над галавой. У 1943 годзе нарадзілася Ванда. А 18 жніўня 1944 года Аляксандра Васільевіча забралі на вайну. Дадому салдат вярнуўся толькі ў 1946 годзе з ордэнам Чырвонай Зоркі і пяццю баявымі медалямі.

Да вайны паспеў скончыць чатыры класы польскай школы і лічыўся па тым часе чалавекам адукаваным. У калгас сам Рыжэвіч уступіў свядома, землякі абралі былога франтавіка старшынёй. А вось большасць вяскоўцаў трэба было пераконваць, угаворваць, агітаваць. Менавіта для гэтых мэт і сабраліся ў хаце старшыні на агульны вясковы сход. А яшчэ меркавалі, як лепш правесці веснавую сяўбу.

Жонка за печкай калыхала малога сыночка, якому было ўсяго 9 месяцаў. Людзі гучна гаманілі на другой палове хаты. І ніхто не думаў, што ў гэты час ворагі топчуцца пад вокнамі, каб зрабіць сваю чорную справу. Калі раздаліся стрэлы, адразу і не зразумелі, што гэта замах на жыццё. Старшыня быў цяжка паранены – кулі трапілі ў пазваночнік і мачавы пузыр. Пачалася мітусня. Мужчыны выскоквалі з хаты з паляўнічымі стрэльбамі… Людзі крычалі, жанчыны галасілі. І толькі дзеці, нічога не разумеючы, назаўтра бегалі па двары і збіралі па снезе гільзы. Сярод іх была і дачка Рыжэвіча, якой ішоў сёмы гадок.

Дзіцячая памяць Ванды Аляксандраўны штосьці ўтрымала, напрыклад, як ад страху ў той вечар схавалася пад ложак, што калі хавалі бацьку, то іграў духавы аркестр, які дагэтуль ніхто ў вёсцы не бачыў. Цікаўнасць тады была мацней за боль. Яна не разумела, якое гора прыйшло ў іх сям’ю, як цяжка будзе маці адной ставіць на ногі траіх дзяцей. Страта асэнсавалася значна пазней, калі сама пасталела…

Жыццё працягвалася, былі ў ім радасныя і жалобныя моманты. Марыя Антонаўна хадзіла ў калгас на палявыя работы. Касіла нароўні з мужыкамі. Выхадаў у яе заўсёды было больш, чым у іншых. Дачка Ванда пайшла працаваць, скончыўшы пяць класаў, есці ж хацелася. Працавала да пенсіі даяркай, свінаркай. Неаднаразова пра яе дасягненні пісала наша газета. Пра цяжкую фізічную працу жанчыны яскрава “гавораць” яе пакурчаныя на руках пальцы. Успамінае, як у 1964 годзе гарэў кароўнік, але вывелі ўсіх кароў, захавалі статак.

**Зусім маладым пахавала маці сына, які на трактары ўваліўся ў раку, потым ад цяжкай хваробы памёр малодшы, адслужыўшы ў арміі, патануў адзіны унук, пахавалі і мужа Ванды…** Такі вось сумны пералік, а ім наканавана жыць!

Жанчыны ні на што не скардзяцца. Нягледзячы на зусім сціплыя пенсіі: на дваіх выходзіць каля 700 тысяч рублёў, сцвярджаюць, што ім усяго хапае. У ежы яны аскетычныя, шчыра пасцяцца. Асноўныя выдаткі — на лякарствы. Дапамагае ім сацыяльны работнік, якая своечасова робіць усе праплаты, дастаўляе неабходныя прадукты. Не мінаюць дом сваякі.

Гады і хваробы робяць сваю чорную справу, маці і дачка выглядаюць амаль равесніцамі. І можна ўявіць, як гэтыя нямоглыя жанчыны, падтрымліваючы адна адну, ідуць у бок мясцовых могілак. Робяць гэта нячаста, бо і туды ім дайсці ўжо цяжка. Але памяць вымяраецца не толькі наведваннем могілак…

*Друкуецца паводле наступнай публікацыі: Штэйнер Н. Удава легендарнага мужа // Працоўная слава (Валожын), 2010, 27 кастрычніка; http://psl.by/?p=563#more-563*

**Шарэцкі паставіў помнік дзядзьку Кебіча**

На могілках вёскі Цябуты Валожынскага раёна стаіць помнік роднаму дзядзьку Кебіча — Аляксандру Рыжэвічу — першаму старшыні тутэйшага калгаса. Ушанаваў у граніце калгаснага дзеяча не вядомы пляменнік, а сённяшні спікер парламента С. Шарэцкі, які ў 1984-91 гады кіраваў тут калгасам “Чырвоны сцяг”. Пра гэты ўчынак сп. Шарэцкага рэдакцыя СВАБОДЫ даведалася з чытацкага ліста, бо нашы гісторыкі яшчэ пакуль не адвялі пэўнага месца А. Рыжэвічу ў летапісе калгаснага будаўніцтва Заходняй Беларусі.


3 ПАРАЛЕЛІ

Шарэцкі паставіў помнік дзядзьку Кебіча

“Калі ў 1949 годзе ў вёсцы Цябуты пачыналі ствараць калгас, — піша аўтар пісьма, —людзі яшчэ не ведалі, як там добра жывецца, але ўсё роўна ісці туды не хацелі. У актыў калгаса ўваходзілі людзі, якія за душой нічога не мелі — ні каня, ні каровы, ні ваза. Аднак у іх было вялікае жаданне пажыць надурніцу. Асабліва сярод калгаснага актыву вызначаўся яго старшыня Рыжэвіч — дзядзька Кебіча. Шмат людзей ён “раскулачыў” і ў Сібір выслаў, а маёмасць іх прыбіраў сабе да рук і прапіваў разам з сябрамі-актывістамі. Добра, што знайшоўся адзін прыстойны чалавек, які застрэліў Рыжэвіча (але, на жаль, і сам загінуў у перастрэлцы з НКВД). Больш падрабязна пра Рыжэвіча вам могуць расказаць старыя жыхары гэтай вёскі”.

Вёска Цябуты, якую нядаўна наведаў карэспандэнт СВАБОДЫ, знаходзіцца ў 10-ці кіламетрах ад Валожына. Яна, як і большасць навакольных вёсак, дзесяць гадоў таму увайшла ў склад узбуйненага калгаса, які быў створаны “пад Шарэцкага”. Усе даходы гэтага гіганта савецкай сельгасвытворчасці пайшлі ў асноўным на добраўпарадкаванне цэнтральнай сядзібы, а іншым вёскам давалася тое, што заставалася. Таму галоўнымі славутасцямі Цябутаў з’яўляюцца асфальтаваная вуліца, цагляная крама, невялічкая ферма і могілкі, дзе і стаіць помнік дзядзьку Кебіча.

Жыхар вёскі 94-гадовы **Станіслаў Радына**, узгадваючы пра Аляксандра Рыжэвіча, спачатку махнуў рукою, а потым разгаварыўся: “Рыжэвіч быў зусім неадукаваным чалавекам. Але саветы зрабілі яго начальнікам калгаса. Людзі запісвацца ў той калгас не хацелі, дык ён іх туды сілком гнаў. Хто ўпіраўся, таго садзіў у турму. Ад Рыжэвіча тады пацярпеў Рыгор Шчарбацэвіч, які быў працавітым чалавекам, гаспадаром, а яго зрабілі кулаком і загналі ў Сібір. Вось як. За гэта забілі Рыжэвіча. Нехта праз акно стрэліў, калі ён праводзіў сход”.

Ёсць што ўспомніць і 82-гадоваму **Альфонсу Лужынскаму**, які з “ласкі” Рыжэвіча тры гады валіў лес у тайзе: “Рыжэвіча я ведаў амаль з маленства. Ён прыходзіўся родным братам маці гэтага Кебіча. Я памятаю, як рабілі яго старшынёй калгаса. А было так. Рыжэвіч разам з братам і шваграм абрабавалі на лясной дарозе аднаго селяніна з суседняй вёскі Дубіна. Ён ехаў з Мінску з базара і яны забралі ў яго ўсё, што той купіў. Органы неяк дазналіся пра гэта і выклікалі Рыжэвіча ў Валожын на допыт. Я сам тады вазіў яго на кані ў горад, дзе праждаў цэлы дзень. Пасля даведаўся, што ў НКВД паабяцалі яму закрыць гэтую справу, калі ён падпішацца стварыць у Цябутах калгас. Ён пагадзіўся. Ох, і лютаваў жа Рыжэвіч, зусім не шкадаваў людзей. Памятаю, для маладой дзяўчыны Галі Шчарбацэвіч, якая адмовілася запісвацца ў калгас, даў заданне: вывезці з лесу на кані 150 куб. м. лесу. Яна з планам не справілася і яе судзілі. Чалавек пяць ён так пасадзіў. А дабро іхнае забіраў сабе, быццам для калгаса”.

**Яніна Лужынская**, успамінаючы той час, прыгадала наступнае: “Я была на пахаванні Рыжэвіча. Дык, ведаеце, па двару немагчыма было прайсці — столькі там было рознага дабра. Памятаю ў сенцах мёд стаяў дзежкамі, дошкі ляжалі… Усё гэта было не яго, а людское. У Антона Красоўскага, я памятаю, ён карову сабе забраў”.

Мінула сорак гадоў з дня смерці Рыжэвіча і за гэты час ніхто з былых калгасных кіраўнікоў не ўспомніў пра першага старшыню. А вось Сямён Шарэцкі вырашыў увекавечыць памяць дзядзькі Вячаслава Кебіча.

У лістападзе 1991 года на ўрачыстае адкрыццё помніка Рыжэвічу, які быў зроблены за калгасныя грошы і па эскізах калгаснага архітэктара, старшыня калгаса Сямён Шарэцкі запрасіў, безумоўна, і

прэм’ер-міністра Вячаслава Кебіча. Вячаслаў Францавіч быў вельмі задаволены такой увагай-павагай да свайго продка. Сп. Шарэцкі, як напісала тады валожынская раённая газета “Працоўная слава”, выступіў з прамовай: “Мы цяпер жывем у цяжкі, трывожны і супярэчлівы час. Прыклады такіх людзей, як Аляксандр Рыжэвіч, павінны натхняць нас на пошук шляхоў, каб дастойна выйсці з гэтага складанага часу, не зганьбіць справу, якой служыў і аддаў сваё жыццё Аляксандр Рыжэвіч”.

Праз нейкі час пасля гэтага Сямён Шарэцкі ўжо стаў эканамічным дарадцам Кебіча, а калгас “Чырвоны сцяг” распаўся на чатыры дробныя гаспадаркі.

*Друкуецца паводле наступнай публікацыі: Валадашчук В. Шарэцкі паставіў помнік дзядзьку Кебіча // Свабода, 1996, 1 сакавіка, № 15.*

*Каваленя:*

# ДАГЭТУЛЬ НІХТО НЕ ПАДЛІЧЫЎ, КОЛЬКІ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ БЫЛО Ў АКУПАЦЫЙНЫХ УСТАНОВАХ І ПАЛІЦЫІ

У сакавіку 2012-га ў рэдакцыі газэты “Звязда” прайшоў “круглы стол” пад назвай “Гісторыя Перамогі: недапушчэнне фальсіфікацый Вялікай Айчыннай вайны, ушанаванне подзвігу партызанаў і падпольшчыкаў”. Прапануем некалькі цытатаў з выступаў.




**Аляксандр Каваленя**, акадэмік-сакратар Аддзяленьня гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай Акадэміі навук, доктар гістарычных навук:

“Сярод партызанаў былі розныя людзі, як і ў любым асяродку. Так, былі і мярзотнікі. А калі іх не было? А сёння іх хіба няма?.. Гэта рэальная сітуацыя: **такое жыццё, у ім непазбежна ёсць дабро і зло, белае і чорнае.**

…Сёння мы, прафесійныя гісторыкі-даследчыкі, не зможам пакуль адказаць, колькі было створана спецыяльных школ, колькі было лжэпартызанскіх атрадаў, якія пад выглядам партызанаў рабілі самыя ганебныя справы, рабавалі-гвалтавалі... Гэтая праблема патрабуе вельмі сур’ёзнага навуковага асэнсавання. **Нераспрацаванасць праблемы нараджае самыя розныя спекуляцыі.**

…А хто падлічыў, **якая частка беларускіх патрыётаў працавала ў органах акупацыйных уладаў, якая частка знаходзілася ў паліцыі...** Гэта ўсё неабходна асэнсоўваць і даносіць да шырокай грамадскасці. Таму што любая недасказанасць нараджае самыя розныя чуткі, плёткі...

…Я займаўся **Саюзам беларускай моладзі** і ведаю, што Мінскі падпольны гарком заслаў туды 5 ці 6 чалавек дзеля таго, каб разваліць гэтую арганізацыю. Я іх знайшоў. Ніхто не захацеў са мной размаўляць. Я тлумачыў: маўляў, хачу ваша добрае імя выратаваць. Не, **толькі**

**адзін пагадзіўся размаўляць са мной.** Астатнія: “Мы не хочам гаварыць аб тых трагічных гадах”. Яны ўсе пасля вайны былі арыштаваны за супрацоўніцтва з немцамі... І гэта — таксама праблема”.



zviazda.by

**Сяргей Жумар**, намесьнік дырэктара Беларускага навукова-дасьледчага інстытута дакумэнтазнаўства і архіўнай справы, кандыдат гістарычных навук:

**“Зняць усе вострыя, нават балючыя пытанні партызанскага руху можна толькі тады, калі маем моцную, фундаментальную дакументальную базу.** Адным з перспектыўных праектаў у гэтым плане мне бачыцца стварэнне серыі зборнікаў дакументаў па партызанскім руху ў Беларусі. **Тыя фундаментальныя дакументальныя публікацыі, зборнікі дакументаў, якія выходзілі раней, магчыма, даволі аднабаковыя, тэматычна завужаныя, арыентаваныя на аператыўную сітуацыю, палітычную работу. Яны не даюць аб’ёмнага ўяўлення аб партызанскім руху**, аб пытаннях фарміравання партызанскіх структур, ролі спецгруп НКУС (якая апошнім часам значна перабольшваецца і міфалагізуецца), аб разведцы, баявых аперацыях, забеспячэнні, партызанскай паўсядзённасці і быце, медыцынскім абслугоўванні, сацыяльных аспектах руху, аб ілжэпартызанскіх атрадах і спробах акупантаў дыскрэдытаваць партызанаў у вачах насельніцтва, аб дзейнасці партызанскіх трыбуналаў і г.д. Адпаведна актуалізуецца патрэбнасць не ў адным-двух тэматычных выданнях, а ў серыі зборнікаў дакументаў, якія сталі б моцным факталагічным падмуркам для рэальнага ўсведамлення партызанскага руху і дзейнасці падполля па-за той ці іншай кан’юнктуры, без тэндэнцыйнасці, міфалагізацыі і без агульнага бруднага ахайвання — гэта выключна важна.

Акрамя таго, можа быць, яшчэ больш актуальнай цяпер з’яўляецца падрыхтоўка работы навукова-папулярнага плана пад умоўнай назвай “100 пытанняў і адказаў аб партызанскім руху”, дзе можна было б паставіць шэраг пытанняў і даць на іх кампетэнтныя адказы. Гэтая работа была б карысная, больш чытаемая і запатрабаваная шырокім

колам людзей. І, безумоўна, трэба актыўна выкарыстоўваць магчымасці інтэрнэту”.*

Адзначым, што падчас круглага стала зьявілася прапанова аб усталяваньні ў нашай краіне Дня партызанаў і падпольшчыкаў **20 траўня** (дзень выхаду ў 1942 годзе падпольнай газэты “Звязда”).

## ФАНТАЗІІ ДОКТАРА СМАЛЯНЧУКА

Перадрукоўваем частку інтэрвію, якое доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук даў сайту mediakritika.by.



**Пытаньне:** Скончылася вайна, ці засталіся на Беларусі незалежныя выданні, як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі?

**Алесь Смалянчук:** “На маю думку казаць **пра беларускую партызанку пасля другой Сусветнай і пра непадцэнзурны друк пасля вайны — гэта казаць вельмі перабольшана. Краіна,** ў якой панаваў голад і **ў якой амаль не было мужчынаў**, не магла змагацца з вялікай колькасцю войскаў НКУС, што прыехалі сюды пасля вайны. **Былі некаторыя асобныя спробы**, да прыкладу ў Лідзе ў 1947-1948 годдзе **былыя школьнікі** абклеілі горад улёткамі супраць калектывізацыі. Аднак гэта былі вельмі рэдкія выпадкі. А эміграцыйныя выданні, што ў гэты час выдаваліся за мяжой, да нас не даходзілі, а калі і даходзілі, не атрымлівалі шырокага распаўсюду, бо нават за тое, што ты меў такое выданне — ссылалі ў Сібір”.

Друкуецца паводле наступнай публікацыі: *Кастусь Каліноўскі*

---

*Цытуецца паводле наступнай публікацыі: Векапомныя дні: фронт у тыле ворага. Ці з’явіцца ў Беларусі Дзень партызанаў і падпольшчыкаў Вялікай Айчыннай вайны? // Звязда, 2012, 24 сакавіка, № 57.

*раскідваў “Мужыцкую праўду” па вёсках // http://mediakritika.by/article/kastus-kalinouski-raskidvau-muzhyckuyu-praudu-pa-vyoskah; 31 ліпеня 2012 г.*

**Ад рэдакцыі:** Як бачым, доктар гістарычных навук і “даследчык перыядычнага друку на Беларусі” Алесь Смалянчук папоўніў шэрагі скептыкаў (нам вядомыя і ранейшыя яго заявы, у тым ліку і перад студэнтамі ЭГУ). Аказваецца, у паваеннай Беларусі “амаль не было мужчынаў”! Такога аргумента дагэтуль мы не сустракалі. Гэта можна назваць адным словам: **трызьненьне**. Нягледзячы на страты падчас нямецкай акупацыі, на выезд на Захад дзесяткаў тысяч чалавек летам 1944-га, на мабілізацыю ў Чырвоную Армію, у Беларусі заставалася дастаткова шмат мужчынаў. Паводле зьвестак МВД БССР, больш за 100 тысяч зь іх ліку ў 1944-1945 гг. знаходзіліся на нелегальным становішчы.

“Краіна… не магла змагацца з вялікай колькасцю войскаў НКУС”, — кажа А. Смалянчук. Ён, відаць, не разумее, што войскі гэтыя былі раскіданыя па ўсёй Заходняй Беларусі. І з дробнымі групамі, гарнізонамі войскаў НКВД/МВД змагаліся беларускія, польскія, украінскія партызаны. Яны, вядома, не маглі весьці франтавую барацьбу з дывізіямі і палкамі.

І зноў жа Смалянчук скептычна адгукаецца пра беларускі партызанскі рух пасьля вайны. Згадвае толькі “асобныя спробы” і “рэдкія выпадкі”, ды і то, школьнікаў ці былых школьнікаў. Карацей, толькі юнакі супраціўляліся. Чарговая лухта. Не кранаючы атрады арганізацыі Міхала Вітушкі, якая выклікае столькі сумневаў у некаторых дасьледчыкаў, адзначым, што ў першае паваеннае дзесяцігодзьдзе ў Беларусі сярод стыхійнага партызанскага руху хапала ідэйных беларускіх групаў, што вялі барацьбу супраць бальшавікоў. Згадаем некаторыя зь іх — атрады Івана (Янкі) Раманчука, Аўгена Жыхара, Сьцяпана Лабовіча, братоў Мятліцкіх, былога сябра КПЗБ у Ляхавіцкім раёне (на жаль, пакуль ня ведаем яго прозьвішча), Сымона Міхальчука.

Што да нелегальнага беларускага друку, то пачакаем публікацый на гэты конт дасьледчыкаў, якія папрацуюць з матэрыяламі архіваў КДБ Беларусі і ФСБ Расеі. Тады скептыкі, дактары і кандыдаты ў дактары, сарамліва замаўчаць, робячы выгляд, што нічога не адбылося.

# СНАЙПЕР, НАРОДЖАНЫ Ў ДЗЕНЬ ВОЛІ



Сярод вядомых беларускіх вайскоўцаў, праўдападобна, 25 сакавіка 1918 году нарадзіўся толькі **Леанід Буткевіч**. Афіцэр Чырвонай Арміі, снайпер, Герой Савецкага Саюзу. Ён нарадзіўся ў вёсцы Хотліна Чашніцкага раёну Віцебскай вобласьці.

У 1935 годзе Буткевіч скончыў аршанскі тэхнікум чыгуначнага транспарту, працаваў начальнікам станцыі на Смаленшчыне. У 1937-м яго прызвалі ў Чырвоную Армію. Падчас Другой сусьветнай вайны ваяваў на Паўднёва-Заходнім, Паўднёвым, Закаўказскім франтах. У ранзе лейтэнанта быў камандзірам узвода 1331-га стралковага палка 318-й стралковай дывізіі 18-й арміі. Быў вядомым снайперам. Да ліпеня 1943-га асабіста зьнішчыў са снайперскай стрэльбы 315 нямецкіх салдат і афіцэраў, таксама падрыхтаваў больш за 50 снайпераў. У кастрычніку 1943 г. атрымаў званьне Героя Савецкага Саюзу. У баях у Крыме атрымаў цяжкае раненьне. Са сьнежня 1945-га быў у запасе, але на радзіму не вярнуўся, жыў у Есентуках у Стаўрапольскім краі Расеі. Памёр 12 лістапада 1985 году.

**Васіль Пірог**

# ЗНОЎ ПРА ДЫВЭРСІЙНА-ТЭРАРЫСТЫЧНУЮ ГРУПУ ЮХНЕВІЧА-ЮХНОВА



Некалькі гадоў таму ў “БР” чытаў пра антысавецкую групу Юхневіча, якая ў 1962 годзе высадзіла ў паветра будынак міліцыі ў Жыткавічах.* У тым артыкуле сьцьвярджалася, што да 2007-га пра гэты выпадак ніхто не пісаў. Аднак нядаўна


Гор. ГОМЕЛЬ
УКГБ БССР
ПО ГОМЕЛЬСКОЙ ОБЛАСТИ

УГОЛОВНОЕ ДЕЛО №

по обвинению Юхневич Владимира Федоровича, Снегурова Трофима Евсеевича, Сакуля Виктора Адамовича, Попко Владимира Андреевича, Мороз Михаила Ивановича



ў інтэрнэце натрапіў на старую савецкую кніжку — *“Обвинение предъявлено”*, якая была выдадзеная ў 1972 годзе.** У ёй цэлы разьдзел прысьвечаны справе **Юхневіча** (называецца ён “Камень за пазухой”).*** Аўтары — намесьнік генпракурора СССР Мікалай Жогін і журналіст Аляксандар Суконцаў — падрабязна распавялі пра дывэрсіі, падпалы, забойствы, пра доўгі і складаны пошук іх арганізатараў. У вашым артыкуле было напісана, што будынак жыткавіцкай міліцыі ўзарвалі ўначы 28 красавіка 1962-га. У згаданай кнізе сьцьвярджаецца, што адбылося гэта ў ноч на 1 траўня. Таксама новае — Юхневіч, аказваецца, падчас нямецкай акупацыі быў дзесьці ў Беларусі “оберфюрэрам”, за што саветы яго пасьля прысудзілі да сьмерці, але “перадумалі” і далі 10 гадоў зьняволеньня. Прычым, у яго было іншае прозьвішча — **Юхноў**, якое ён пасьля вызваленьня зьмяніў, прыдумаў новую біяграфію. Што да матываў, дык аўтары ясна гавораць: помста савецкай уладзе, помста за раскулачаную ў 1937-м сям’ю, са савецкія канцлягеры.

**Мікалай Шыбіцкі,** Варшава

*Сушко В. Дывэрсійна-тэрарыстычная група Юхневіча 1958-1962 гг. // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2 (7), б. 129-132.
**Жогин Н., Суконцев А. Обвинение предъявлено. — Москва: “Молодая гвардия”, 1972; http://www.reliefracer.com/obvinenie_predyyavleno/
***http://www.reliefracer.com/obvinenie_predyyavleno/1269_kamen_za_pazuhoy/

# ПРА АРХІЎ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ І СХАВАНЫЯ “АТРЫБУТЫ”

22 красавіка 1993 году менская газэта “Звязда” зьмясьціла невялічкую зацемку “Ці вернецца архіў беларускіх скаўтаў на Радзіму?”. Працытую яе цалкам:

*“Мінск наведаў жыхар Нью-Йорка палкоўнік арміі ЗША, вынаходца апаратаў для касмічных даследаванняў Аляксей Захар’ін.*

*Падчас яго сустрэчы з кіраўніцтвам Саюза скаўтаў Беларусі гаворка ішла пра магчымасці перадачы гэтай скаўцкай арганізацыі вялікага архіва, у якім знаходзяцца дакументы пра дзейнасць беларускіх скаўтаў да 1927 года, а таксама матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі.*

*Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН старшыня Саюза скаўтаў Ігар Касцевіч, дасягнута дамоўленасць аб перадачы Беларусі спачатку копій архіўных дакументаў, у тым ліку тых, якія ўтрымліваюць звесткі пра месца, дзе схаваны тагачасныя атрыбуты беларускіх скаўтаў. І калі пазней А. Захар’ін пераканаецца, што цяперашні Саюз скаўтаў — гэта якраз тая арганізацыя, з якой можна мець справы, то ёй будуць перададзены і арыгіналы дакументаў.*

*Як чакаецца, першая партыя копій і матэрыялаў з архіва будзе перададзена праз амерыканскага скаўта, які прыедзе на Беларусь дзеля ўдзелу ў летнім скаўцкім лагеры”.*

Не прыпомню, каб у наступныя гады зьяўлялася інфармацыя пра перадачу архіву ці яго копій у Менск. Магчыма, яна і адбылася, але ў СМІ інфармацыя не падавалася.

Тут варта нагадаць, што ў 1993-м і ў некалькі наступных гадоў у беларускім скаўтынгу існаваў раскол. **Ігар Касьцевіч** прадстаўляў Саюз скаўтаў Беларусі, які далей неаднаразова зьмяняў назвы і цяпер называецца **“Беларускай рэспубліканскай скаўцкай асацыяцыяй”**. Паралельна існавала **Аб’яднаньне беларускіх скаўтаў**. Апошняе было праўдзівай нацыянальнай арганізацыяй, выхоўвала беларускіх патрыётаў, выводзіла свае традыцыі ад беларускіх скаўтаў, што ў другой паловы 1940-х — пачатку 1950-х існавалі на Захадзе. У арганізацыі ж Ігара Касцевіча “беларускага нацыяналізму” не было, яна “прытрымлівалася традыцый расейскага скаўтынгу”. Адзін з актывістаў Аб’яднаньня беларускіх скаўтаў **Максім Чарняўскі** неяк нават сказаў: *“З арганізацыяй Касцевіча ў нас была розная бацькаўшчына”.** У 2005 годзе Мінюст ліквідаваў АБС і засталася толькі БРСА Касьцевіча.

Аднак на час візыту Захар’іна існавалі яшчэ дзьве арганізацыі. Ён

*Дынько А. Святое месца: беларускія скаўты і гайды // 2010, 24 верасьня; http://nastaunik.info/news/?id=4675



**ЦІ ВЕРНЕЦЦА АРХІЎ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ НА РАДЗІМУ?**

Мінск наведаў жыхар Нью-Йорка палкоўнік арміі ЗША, вынаходца апаратаў для касмічных даследаванняў Аляксей Захар'ін.

podvigsusanina.ru, scout-belarus.org

***Аляксей Захар'ін, Ігар Касьцевіч***

жа выбраў сярод іх ідэалягічна блізкую для сябе. Справа ў тым, што Аляксей Захар'ін ня толькі былы палкоўнік і навуковец, але і старэйшы скаўт-майстра Арганізацыі расейскіх юных разьведчыкаў. Ён нарадзіўся ў 1930-х у Югаславіі ў сям'і ўцекачоў з Расеі, па вайне выехаў у ЗША. У пачатку 1990-х Захар'ін са сваімі паплечнікамі паўдзельнічаў у адраджэньні скаўцкага руху ў Расеі. Што за архіў трапіў у яго рукі і наколькі ён каштоўны для беларусаў, сказаць, на жаль, немагчыма. Як і нічога невядома пра яго лёс. Але можа хтосьці адгукнецца, распавядзе нам пра тую даўнюю гісторыю.

**СВ**

*Алесь Змагар*

# ЛЕСАВІКІ

Прапануем нашым чытачам чарговы твор беларускага эміграцыйнага пісьменьніка, дзеяча антыбальшавіцкага руху Алеся Змагара.* Апавяданьне "Лесавікі" было ім напісанае ў 1950-х гадах. Гэта адзін з нешматлікіх літаратурных твораў, прысьвечаных паваеннаму беларускаму антыбальшавіцкаму партызанскаму руху. Упершыню апавяданьне "Лесавікі" было надрукаванае ў эміграцыйным часопісе "Беларуская думка" ў пачатку 1960-х гадоў.**

I

Вечарэла. Сурова насупіўся сівы магутны бор, маўчыць, не шалохне галінкаю. Пільна ўзіраецца з-пад нахмуранае брывы на разасланы наўкола мяккі мохавы дыван, на пачарнелыя ў балоце нявысокія стажкі сена. Дзесь у гушчары хруснула сухая лапка, і зноў цішыня. Цішыня да болю, нібы ў цудоўным казачным, поўным чароўнай таямнічасьці, царстве.

Зноў хруснула галінка, расхіліліся кусты, і на палянку вынырнула некалькі дзесяткаў цёмназагарэлых ад сонца і ветру, з густа аброслымі ад часу тварамі, моцных лесавых валадароў. Апранутыя ў markdownрознакаляровую, напаўабдзёртую вопратку, яны лёгкімі зданямі хутка пасоўваліся наперад, дапаўняючы жудасна-дзівосную маляўнічасьць і без таго таямніча-жахлівага ляснога царства.

— Хто гэта? Людзі ці лясныя істоты?

Наперадзе ўпэўнена — цьвёрдаю ступою крочыў высокі, касьціста-мускулісты, нібы выкуты з жалеза, асілак. Яго пачарнелы твар густа абляпіла чорная, як смоль, барада. Скрозь навіслыя парыжэлыя ад сонца вейкі гостра калолі бліскучыя праніклівыя шэрыя вочкі. Загадны голас дапаўняў валадарную моц ляснога асілка.

---

*Алесь Змагар (сапр. Аляксандар Яцэвіч, 1903 — 1990-я), удзельнік Слуцкага Збройнага Чыну 1920 году, антыбальшавіцкай партызанскай барацьбы. З 1944 г. жыў на Захадзе (Аўстрыя, Францыя, ЗША), ачольваў вайсковую арганізацыю "Беларускі Вызвольны Рух". "БР" ужо перадрукоўваў ягонае апавяданьне "Алесь у разьведцы (Абразок із Слуцкага паўстаньня)". Гл.: Беларускі Рэзыстанс, 2010, № 1(8), б. 134-136.

**Алесь Змагар. Лесавікі // Беларуская думка (Нью-Ёрк — Саўт-Рывер), 1960, № 1, кастрычнік, б. 23-27; 1961, № 2, чэрвень, б. 21-26, 28. Пазьней яно было зьмешчана ў зборніку прозы Алеся Змагара "Лесавікі" — паводле адных зьвестак, ён выйшаў у 1967 г., паводле іншых — у 1973 г.

— Зброю ў козлы! — адсек барадач. — Варта на месцы!

І ажыла заўсёды ціхая палянка. Хто дровы сячэ, хто гальлё падносіць, хто агонь раскладае. А неўзабаве і смачны пах смажаніны пачаў расплывацца па палянцы, прыемна казычучы ў носе. Адзін за адным падыходзілі лесавікі да вогнішча і, змораныя доўгімі і цяжкімі ў бесперапынных баёх пераходамі, падсілкоўваліся і падалі, нібы забітыя.

Усё больш і больш разгараецца полымяі, ліжучы паветра сваімі агніста-жоўтымі языкамі, пырскае ўгару залацістымі іскрамі. І срабрыстым сьмецьцем рассыпаюцца яны над пачарнелаю канаўкаю ды, быццам у люстра, заглядаюцца ў празрыста-сьветлыя хвалі крынічнай вадзіцы. Часам пранясецца жартаўлівы ветрык, краіне сваім подыхам сонна-зьвіслыя галінкі дрэў ды раптам, нібы ненаўмысна, дзьмухне зьнячэўку на вогнішча. І шугане полымя спачатку ў адзін бок, потым у другі, нарэшце, узьняўшыся ўгару, сьлізганецца сваім ясным позіркам па затоенай у непраходным гушчары палянцы. Весела патрэскваюць перасохлыя сучкі і галінкі. Дрэмлюць змораныя лесавікі, хто наўкола вогнішча, хто прытуліўшыся да купіны ці кусьціка — хто дзе. Чароўна, нібы ў байцы. А над усім гэтым прыгожая стромкая жанчына, красачна выдзяляючыся нават у гэтым маляўніча раскіданым featured рознакаляровым натоўпе, лёгкім поступам хутка наблізілася да вогнішча.

— Ф е я… Л я с н а я фея…

Яе цёмныя няслухмяныя пасмы кучаравых валасоў, пацьвельваючыся з гульліва бессаромным ветрыкам, спаўзалі кароткімі завіткамі, лёгка казычучы смуглазагарэлы тварык. Тонкі, трохі задзёрты носік з часта рухаючыміся ноздрамі, вясёлыя ямкі на прывабных шчочках, пяшчотнасьць погляду ды пун-






***Паштоўка “Уздымем яго высока — або ён пакрые нас!” (з прысягі беларускіх партызанаў)”, выдадзеная ў пачатку 1950-х у Таронта***

совыя, складзеныя, нібы для пацалунку, вусны, выклікалі ў кожным жыватворчую крыніцу бадзёрасьці.

І ветліва ўсьміхаліся аброслыя твары, пазіраючы на лясную фею. І забываўся цяжар доўгіх пераходаў, і зьнікала зморанасьць. А што толькі ні зрабіла-б яе мімалётная ўсьмешка, чароўны погляд?

Ды ці адно закамянелае сэрца пачынала мацней біцца пры яе набліжэньні, але ніхто ня сьмеў нават падняць на яе вачэй, поўных пажаданьня.

Маланкавым позіркам акінула зморaных лесавікоў.

— Браты беларусы!

Яе вочы ліхаманкава блішчэлі, голас ірваў паветра.

— Заўтра 25 САКАВІКА. Гэтай ночы мы мусім ізноў напомніць чырвоным маскалём аб рашучасьці беларускага народу ў яго барацьбе за вызваленьне з-пад чужацкае апекі. Жыве Беларусь!

— Жы-ве-е!.. — гулка пранеслася па лагчыне, адгукнулася грозным рэхам на ўскраі лесу, замёрла ўдалячыні.

II

Ціхая ноч паволі спаўзла на маркотна заклапочаную маці-зямельку. Лёгкаю крысаю свае чорнае вопраткі даткноўшыся да гойных верхавін спахмурнелага ў нетрах гушчарнага бору, пяшчотна агарнула яго сваею цёмна-бархатнаю чароўнаю сукенкаю. Выглянуў на хвілінку задумлівы месячык-поўнік, каўзануўся сваім малочным позіркам на сонных лапках дрымотна зьвіслых галінак, зазірнуў на затоеную палянку ды борздзенька схаваўся за суседнюю вандроўніцу-хмарку, каб праз нейкую хвілінку зноў неспадзеўкі выглянуць із свайго сховішча ды поўнаю жменяю рассыпаць свае сьветла-жоўтыя косы на зморaную ад дзённых клопатаў, сонна-застылую зямельку.

Пранёсься жартаўлівы ветрык, скалыхнуў некалькі млявых галінак, і зноў цішыня. Дзесь узьнялася спалоханая птушка, з шумам праляцела цераз палянку і цяжка апусьцілася на дрымотную хвойку. Хілячыся адна да аднэй, зашапацелі лапчастыя галінкі аб вялікай крыўдзе, прынесенай чужынцамі ў іхны працавіты край. І пад гэтую жаласную сум-песьню неспакойны сон спавівае сыноў лесу. Дзесь далёка прапеў першы певень. Здрыганулася ўсім целам маладая жанчына, закалацілася, нібы ў ліхаманцы. Цяжкаю мараю насунулася на яе даўно пережытая страхатлівая ноч.

…*Яна* — маленькая Настулька, ляжыць сабе на сваёй цёплай пасьцельцы. Раптам у яе дзяціную галоўку наплываюць нейкія жахлівыя думкі, запаўняюць яе, пeратвараюцца ў здані, неадчэпна кружацца перад вачыма, не даюць ёй заснуць. І шчыльна туліцца малая да свае пульхнае падушкі, шукаючы ў яе паратунку.. Ды неспадзеўкі бліснула ў шыбу прарэзьлівае сьвятло, слізганулася па сьцяне і раптам зьнікла.

Толькі каля плоту штосьці злосна загучэла. Усхапіліся бацькі і ўліплі ў ваконца. Стрымгалоў да мамкі кінулася Настулька, ушчаперылася ў спадніцу ды зазірнула ў вакно. Каля іхнага двара спынілася чорнае аўто. Выскачылі зь яго цёмныя цені, хутка замітусіліся каля варотаў ды зьніклі ў суседнім панадворку. А назаўтра Настулька даведалася, што гэта быў драпежны "Чорны Воран", які схапіў іхных суседзяў. Загінула цэлая сям'я і яе найлепшая таварышка Волька. А за што?.. За што-о-о?..

І з таго часу штоночы жудасныя мары неадчэпнымі зданямі кружыліся перад вачыма Настулькі, не давалі ёй спакойна заснуць. Глыбока ўнурыўшыся ў пульхную падушку, моцна заплюшчыць вочкі, баіцца адарвацца. Але час-ад-часу вочкі самі-пасабе расплюшчаюцца. Яна хуценька кіне позірк наўкола і... з усіх куткоў паўстаюць страшныя здані, паўзуць і паўзуць па сьцяне. Працятая бязьлітасным жахам, як асінавы ліст, калоціцца Настулька, зноў заплюшчвае вочкі. Не памагае. Вось каля самых дзьвярэй паўстае і штораз выразьней вырысоўваецца нейкі драпежны цень... Набліжаецца да Настулькі... Яна працягвае наперад дрыжучыя ручкі... адштурхоўвае яго... І ўсё гіне...Ды ня гіне... Зноў на сьцяне мярэшчацца нейкія здані, набіраюць усялякія хвормы, цягнуцца да дзяўчынкі... Злосна выскаляецца ваўкалак...

— А-а-ай! — спалохана вырвалася ў дзяўчынкі.

— Бог з табою! — перахрысьцілася, прахапіўшыся маці. — Чаго ты, дачушка?

— Мо хворая? — азваўся бацька.

І раптам сьцішылася. Прыслухаліся: недалёка зноў злосна гурчэў матор. "Чорны Воран", нібы драпежны вупыр, зноў бязьлітасна хапаў сваю ахвяру.

— О, Божухна! — горка ўздыхнула маці. — І калі ўсё гэта скончыцца?

— Не маракуй, — каўтаючы словы перарваў бацька ды абарваўся.

***

— А-а-ай! — Застагнала жанчына і прахапілася. Палахліва азірнулася наўкола: лес... вогнішча... лесавікі... свае...

А сэрца, як калісьці ў маленькае Настулькі, гэтак грукае ў грудзёх, што здаецца вось-вось выскачыць або разарвецца.

— Згінь!.. Прападзі! — сплюнула жанчына, усхапілася, набрала гальля, падкінула ў вогнішча і заглядзелася на прыгажунькі іскаркі, што залацістым макам ра-по-раз успырхвалі ўгару. Трохі супакоілася, прысела, задумалася.

— Дзяцінства, дзяцінства!.. Не залатое... Горкае... Страхатлівае...

***

А думкі плывуць і плывуць. Яна — камсамолка, студэнтка III-га курсу Пэд. вучылішча. Ён — студэнт Б. Дз. У. Была вясна. Зелянела шоўкавая травіца. Пукаліся галінкі дрэўцаў. Пяшчотна ўсьміхалася ласкавае сонейка. Парк імя Горкага… Першая сустрэча… Потым?.. Кіно "Спартак". Заміж абрыдлай прапаганды соцспаборніцтва і будаўніцтва, убачыла фільм глыбока псыхолёгічнага зьместу. Моцна працятая роспаччу аднае маладое жанчыны ад перажываньняў супярэчлівасьці ў пачуцьцях каханьня, гонару і самаахвяраваньня. І на хвіліну забылася школа, залікі, і ў дзіцячым сэрцы ўспыхнулі зусім новыя, яшчэ незнаёмыя салодкія пачуцьці. Бліскучыя пэрлінкі часта наплываюць у яе ваччу.

Кончылася кіно. Яна нэрвуецца. Час-ад-часу на вейкі наплываюць празрыстыя сьлязінкі. А ён?.. Разгублена пазірае то на яе, то наўкола. Ня ведае з чаго пачаць. Які сьмешны!.. І яна звонка сьмяецца зь яго ніякаватасьці. Зазірае яму ў вочы. Ён ня ведае, дзе падзець свае рукі, робіць некалькі бязглуздых крокаў. І яшчэ званчэй яна сьмяецца. Яна добра разумее, што яе стромкі, прывабна-гнуткі стан, пяшчотная ўсьмешка каралавых губак, задзірлівае зьзяньне бліскучых вочак моцна хвалююць яго.

І яна гуляе зь ім, як кошка з мышшу. Соладка казычучы яго спакусьлівым бліскам сваіх блакітных вочак, яна не заўважыла, як з кожным днём ён станавіўся для яе ўсё бліжэй і бліжэй. Хацела яна таго ці не хацела, яе вочы мімаволі шукалі яго, і пры раптоўнай сустрэчы нейкі салодкі чад агортваў усю. Яна ўпівалася яго позіркам. Сэрца то моцна калацілася, нібы хацела вырвацца з распалымнелых грудзей, то замірала салодкаю млявасцю.

Ноч. Ня сьпіцца Настульцы. Так і стаіць ён, нібы жывы, у вачох. Змружыла вочкі. Умроілася. Салодкі непакой агарнуў яе пругкае цела, сэрца забілася моцна, моцна, грудзі ўздымаліся ўгору, прасілі пяшчотаў. І ёй здавалася, што ён, нібы цудоўны лыцар, ніжэй і ніжэй нахіляецца да яе, ласкава дакранаецца яе атласных грудзей, гарачымі вуснамі ледзь-ледзь датыкаецца да яе палымнеючага твару, соладка шэпча…

Яна кідаецца цэлую ноч. Ня можа заснуць. Перад вачыма толькі ён — цудоўны лыцар. Яго сінія вочы з-пад чорных вейк, здавалася, юрлівай асалодай нізалі яе. Часам ахоплівала дрымота. Але яшчэ бліжэй адчувалася яго постаць, гарачы дотык рукі, спакусьлівыя вусны, салодкі пацалунак. Прахапілася. Запаліла сьвятло, зазірнула ў люстэрка і адхіснулася: вар'ятка!.. уся дрыжыць, палымнее твар, а ў ваччу?..

Хуценька ўскочыла ў пасьцельку, заплюшчыла вочы, умроілася.

Грудзі дрыжэлі, распаленыя няведамым трымценьнем пажадлівага агню. Яна моцна сьціснулася ў клубочак, здрыганулася. Прыемна хвалюючы лоскат салодкай млявасьцю расплыўся па ўсім целе.

І з тых пор ноч ня прыносіла ёй адпачынку. Балючы жар каханьня не даваў ёй супакою, і на раніцу яна адчувала сябе яшчэ больш змучанаю.

— Не, не і не! Гэтак не магчыма…

І яна пачала ўнікаць сустрэч. Але думкі, неадчэпныя думкі толькі несьліся да яго. І яна адчувала, што зараз-жа пры першай сустрэчы зь ім, яна ня вытрымае, пабяжыць за ім. Разгубленая, спалоханая, яна ня ведала, што рабіць.

Аднойчы па абедзе хтось грукнуў у дзьверы. Настулька выскачыла. Лістаноша. Сэрца трывожна забілася. Парыўчаста схапіла ліст, забыла падзякаваць, ліхаманкава разадрала канвэрт, прабегла вачыма. Запрашае ў летні тэатр у парку "Горкага". Ён… І захвалявалася. Бегае, не знаходзіць месца. Як доўга цягнецца дзень.

Вечар. Ішла вельмі хутка, нэрвова. Твар распалымнеўся, у ваччу і баяскасьць, і сорам, і жаданьні.

Сад "Горкага". Хутка, амаль бегма, сьпяшаецца яна да знаёмае лавачкі. Вось і ён. Падала абедзьве рукі і зьняможана спынілася.

— Прышла-а, — вырвалася ў яго, і з запалам схапіў яе, моцна прыціснуў да сваіх грудзей, абсыпаў палкімі пацалункамі.

Заскочаная выбухам чуласьці, разгублена стаяла Настулька, бледная, нярухомая. Яна не знаходзіла ў адказ ні аднаго слова, толькі палымнеючыя грудзі то хутка ўздымаліся ўгору, то раптоўна ападалі ўніз, ды сэрца неяк соладка млела.

— Ня гневаешся? — прашаптаў ён.

— Не, — адказала вачыма, і раптам моцна прытулілася да яго грудзей.

Узрушаны нечпадзеўкай шчасьця, схапіў яе ў моцныя абдымкі.

— Люблю… люблю… — вырвалася ў яго. — А ты?

— Цябе кожная пакахае, а я… — і наблізіла свой палымнеючы твар да яго твару, моцна прыціскаючыся да яго грудзей, упілася доўгім пацалункам.

Яна лашчылася, нібы распешчаная кошачка, пяшчотна прыціскаючыся да яго ўсім сваім пругкім целам, і раптам зьняможана апала.

***

Ішлі дні. Ня йшлі, а беглі. І вось апошняе спатканьне. Ён хутка ідзе. Твар расхвалёваны. Моўчкі спыніўся. Нэрвова пацісную руку. Доўга пазіралі адзін на аднаго. Баялася запытацца. Сэрца трывожна прадчувала нядобрае. Прыхіліў да сябе. Пацалаваў. Цалаваліся, як ніколі, не адрываючыся, узасос, зanыраючы ўва ўсю саладосьць чароўнага

царства каханьня. А потым?..

— Бывай, Настулька!

Засмучана разьвітаўся ён.

— Мне пара. Мабілізаваны. Заўтра адʼяжджаю. Не забывай… Пішы…

Яшчэ раз моцна, моцна прыціснуўся, упіўся доўгім пацалункам і, раптам адарваўшыся, хуценька пайшоў па сьцежачцы.

Настулька стаяла нярухомая. Нібы скамянела. Халодныя дрыжыкі пранізвалі ўсё цела, курч сьціснуў горла, буйныя сьлёзы залілі ўвесь твар.

— Паветра-а!

Яна ірванула за каўнерык блюзкі і глыбока ўздыхнула.

***

Вайна. Немцы. Яна — сяброўка С. Б. М. Вясковыя хлопцы, хто ў беларускай Самаахове, хто ў паліцыі. Зьнік "Чорны Воран", ды заміж яго зьявіліся "сталінскія банды". Поначы гойсаюць па вёсках, паляць школы, вынішчаюць лепшых беларускіх сыноў і дачок, правакуюць немцаў супроць мірнага беларускага насельніцтва, сілаю забіраюць моладзь у свае банды. А ўдзень прыяжджаюць немцы, арыштоўваюць тых, каго не зачапілі бальшавіцкія "мсьціўцы", выводзячы за вёску, растрэльваюць. І страхотлівае жыцьцё пачалося на вёсцы. Няма супакою ні ўдзень, ні ўначы.

Захваляваўся фронт. Адкаціліся немцы на захад, і зноў зьявіліся чырвоныя маскалі, а зь імі і іхны драпежны "Чорны Воран". Дзесяткі тысяч лепшых сыноў і дачок беларускага народу — растрэляны, сотні тысяч, высьцілаючы безьліччу трупаў далёкія шляхі, павандравалі ў Казахстан, у Сібір, у Калыму. Хто змог, із зброяй у руках знайшоў сабе прытулак у лесе. А сярод іх і яна, Настулька. Навука, каханьне абарвалася.

— Маладосьць!.. Маладосьць!.. абрабаваная… загубленая…

III

Раптам паблізу хруснуў валежнік. Жанчына здрыганулася і ператварылася ў слых. Праз некалькі хвілін на палянку вынырнулі дзьве постаці. Трымаючы стрэльбу напагатове, партызан вёў да вогнішча забруджанага гразёю, акрываўленага чырвонага жаўнера. Той пакорліва рухаўся наперад, час-ад-часу абводзячы недаверлівым позіркам раскінутых наўкола вогнішча партызанаў.

— Пане, карнач, — выгукнуў вартавы, — дазвольце далажыць…

— Цішэй ты, чорт, — агрызнуўся карнач, — паказваючы на атамана. — Хвілінкі не дасі адпачыць.

Але атаман аб адпачынку й ня думаў. Заплюшчыўшы вочы, ён

абдумваў плян сьмелага нападу на міліцэйскі дом ды вызваленьня арыштаваных. Прыход варты перарваў яго думкі.

— Што здарылася?

— Папаўся чырвоны лейценант. Прабіраўся ў лес. Увесь у крыві. Кажа: ішоў да нас.

— Давай сюды.

Атаман усхапіўся. Пальцы моцна сьціснулі наган, а вочы так і ўпіліся ў палоннага.

— Што маеш сказаць?

— Прышоў у партызаны.

Словы гэтыя ня выклікалі ў атамана асаблівага подзіву, аднак у ваччу бліснуў недаверлівы агоньчык: ці ня са сьпецзаданьнем?

— Хто ты і чаму сюды прышоў?

— Дазвольце прысесьці, — і цяжка апусьціўся на зямлю.

Жанчына прыслухалася.

Лейтэнант пачаў. Гаварыў ціха і толькі некаторыя словы даляталі да яе. Кончыў.

— А-а-а, так…, — зьдзіўлена працягнуў атаман, нахмурыўшы бровы. — Арыштавалі Настульчыных бацькоў?

Пачуўшы сваё імя, жанчына ўскінула вачыма, і лёгкі крык вырваўся з яе пабялелых вуснаў. Яна пазнала гэтага чалавека. У падзёртай вопратцы, акрываўлены, але гэта ён. Гэ-э-та ё-ён, — ледзь ня крыкнула яна, — ё-ё-ён!..

Настулька ўся ператварылася ў слых. Ні адно слова, ні адзін рух не абмінулі яе:

— …Меў адпачынак. Па дарозе заскочыў у Бярозаўку… Адведаць дзяўчыну… Настульку… А там? Міліцыя… МВД… Зьдзекі… Я ўступіўся за бацькоў яе… Яны да мяне з просьбаю: Ратуйце!.. гінем!.. Я ня вытрываў, пагарачыўся… Эмвэдысты да мяне: і ты за бандытаў?!.. Хацелі арыштаваць… Ня даўся… У…

Астатняга Настулька не дачула. Яна паволі наблізілася. Зноў зірнула на акрываўленага мужчыну, вочы іхныя скрыжаваліся. Яе ахапіў нейкі нявыразны жах. Ёй хацелася, каб ён зараз-жа загаманіў, пачуць яго колішні жыцьцярадасны голас, і разам з гэтым ёй было чагосьці страшна.

— А што калі ён вораг беларускага народу? Можа ён уступіў у партыю? Можа — камуніст?.. Яна-ж, былая камсамолка, у шэрагах лесавікоў.

Хвіліну яны пранікліва ўзіраліся адно на аднаго. Яе сэрца зноў напоўнілася каханьнем і адначасна трывогай няведамасьці ад столькі ўбеглага часу. Нарэшце, яна ня вытрымала. Падаўнейшаму пяшчотна ўсьміхнулася яму.

І вобраз яе любае постаці, ад якое здавалася, гэтак і струмянілася

цяплыня астатняга чароўнага спатканьня, моцна ўзрушыў яго.

— Любая… — варушыліся ягоныя вусны.

У адказ яна абдарыла паўлачыстым позіркам сваіх тклівых вачэй. Твар распалымнеў, яна ўся трымцела…

Атаман зьдзіўлена пазіраў то на лейценанта, то на Настульку: Што зь ёю робіцца?

І, нарэшце, запытаў:

— Знаёмыя?

— Так… — адказала, — яшчэ зь Менску. Каб не вайна… — і голас абарваўся.

— Карнач, — гукнуў атаман.

Нібы зь зямлі перад атаманам вырас нявысокі карчажысты Слуцкі паляшук.

— Карнач Трухан прыбыў на Ваш загад.

— Зараз-жа вышлі разьведку ў Бярозаўку. Пераапрануць "мільтонам".

— Слухаю, пане атаман. Загадана зараз-жа выслаць у Бярозаўку пераапраненую ў міліцэйскую хворму разьведку.

— Выконвай.

Карнач, пэўна, былы кадравік, спрытна казырнуўшы, крутнуўся назад і страявым шагам адыйшоў ад вогнішча. Атаман гукнуў хвейчара і паказаў на лейценанта:

— Падрамантуй і палажы ў палатцы.

Наш лейценант узьняўся, пацісьнуў руку атаману і пашагаў за хвейчарам, зьнікаючы ў цемры. Настулька ўсхапілася, паімкнулася за імі, але атаман рухам спыніў.

— Пасьпееш. Хай трохі апрытомнее. Балазей жывы. А быў у кіпцюрах сьмерці.

Калі праз паўгадзіны Настулька адхіліла палатку, то ў ёй панавала цішыня. Настулька пралезла ў сярэдзіну. Будучы моцна змораны ад усяго перажытага, ён спаў, нібы забіты. Настулька не захацела яго трывожыць. Яна села каля галавы, паправіла падушку.

— Ня дамся… не!.. не!.. — выгукнуў ён і зноў супакоіўся.

— Бог з табою, — прашаптала Настулька.

Сядзела. Не варушылася. Толькі з любасьцю ўзіралася яна на гэтак знаёмыя, мілыя рысы твару.

— А як зьмяніўся. Пасталеў.

І раптам думкі перанесьліся да Бярозаўкі:

— Родная хатка… Садок… Рачулка. Як дарага гэта ўсё! Як міла!.. А мо?.. А мо ўжо й няма нічога?

І Настулька аж жахнулася. І мімавольныя сьлёзкі бліснулі ў ваччу. Зірнула на любага.

— Хай адпачне. А я?.. — і засьпяшалася — хоць адным вокам

зірну на свой палетак.

Ачуўшыся вонкі, Настулька паскоранаю хадою перасекла палянку, прайшла трохі сьцежачкай, збочыла ўправа, пераскачыла канаўку, мінула кусьцік, другі, прадзёрлася цераз зарасьнік, узыйшла на балотца. Нявысокія пачарнелыя стажкі сена моўчкі пазіралі насустрач. Хуценька перабегла цераз паплавок, мінула кусьцік, яшчэ адзін, а вось і стагодні дуб. На ўскраі лесу. Азірнулася. Расьліны стаялі заваражанымі і раптам:

— Што гэта?

Настулька прытаілася за кустом. Ні зварухнецца. Зьбялела. Лёгкія дрыжыкі прабеглі па целу. Заняло дых.

Проста перад ёю, ня болей шагоў пяцьдзесят, выхапіўшыся з зарасьніку, хтось шпарка бег да яе куста. Зараз-жа за ім зь вінтоўкаю наперавес імчаўся здаравенны вайскавік.

— Хто гэта?

Па вопратцы, пярэдні — вясковы хлапец. Куды ён бег? Чаго? Другі ў шынялі. Напэўна, чырвоны. Што ён тут рабіў? Як яны напаткаліся? — Усё гэта загадкаю мільганулася ў думцы, і Настулька ўзяла карабінку напагатоў. Прыглядаецца. Вось-вось дагоніць хлапца.

— Сто-ой, — прахрыпеў маскаль, уздымаючы кольбу.

Хлапец на момант азірнуўся, ды ўбачыўшы перад вачыма сьмерць, дзіка ўскрыкнуў, але зрабіў зьнячэўку скок у бок. Мякка ўелася кольба ў купіну, і стрымгалоў паляцеў чырвоны, разьдзіраючы свой доўгі нос аб калючкі шыпшыны. Усхапіўся. Зьбянтэжаны ад неспадзяванкі, чырвоны хутка апрытомнеў. Твар яго абліўся пурпурнаю злосьцю. З залітымі крывёю вачыма, цяжкаю ступою ён пачаў набліжацца да хлапца. Запанавала сьмяротная цішыня.

Маланкавы кінуўшы позірк на ворага, хлапец убачыў, як заблішчэлі варожыя вочкі драпежнай прагнасьцю крыві. Напрудзіўшы мускулы, чырвоны рыхтаваўся да сьмяротнага скоку. Адчуваўся страшэнны канец.

Але хлапец не здрыгануўся. Стаіць, нібы прыкуты. Толькі вочы пільна сочаць за кожным рухам вялікана, які мядзьвежаю ступою паволі рухаўся да юнака. Цяжкая рука, быццам пудовы молат, уздымаецца над галавою хлапца і з сілаю апускаецца на няшчаснага. Сьмерць няміnуча. Настулька затрымала дыханьне. Напруджанасьць да болю ахапіла яе.

Ды толькі сьмерць, мабыць, яшчэ не надыйшла. Хлапец толькі мільгануў паміж рук напасьніка і апынуўся ззаду. Аж зароў ад злосьці тоўстаморды ды, крутнуўшыся назад, схапіў хлапца за грудзі. Але, відаць, хлапец ня быў лыкам шыты. Не пасьпеў эмвэдысты і азірнуцца, як юнак, падставіўшы нагу, неспадзеўкі гэтак штурхануў напасьніка, што той потырч паляцеў на зямлю.

Толькі ледзь паймкнуўся чырвоны ўзьняцца, як юнак апынуўся ў яго на карку і пачаў перыць па галаве кулакамі. Але сілы былі няроўныя. Схапіўшы хлапца ў свае жалезныя абдымкі, эмвэдысты падмяў пад сябе.

Настулька ня вытрымала. Маланкаю скочыла наперад ды пачала біць кольбаю па галаве тоўстамордага, аж пакуль яна і не апала на пачырванелую ад крыві зямлю.

Жалезныя абдымкі расхіліліся, і юнак усхапіўся. Зьдзіўлена, ня верачы сабе, ён пазіраў то на забітага, то на Настульку.

Настулька таксама ўзіралася на хлапца:

— Ці ня будзе які знаёмы?

Але пазнаць не магла. Гэта быў ня толькі малады каршун, але і досыць прыгожы хлапец: высокі, з запаленым малажавым тварам, вочы меў чорныя і задзірліва-кучаравы чуб. Пэўна, ні ў адной дзяўчыны пачынала мацней біцца саромлівае сэрца пры сустрэчы з ім.

— Ты куды? — запыталася Настулька.

— У лес, — прыглядаючыся на Настульчыну карабінку, нехаця адказаў юнак.

— Хадзем! — ужо загадна выгукнула яна.

— Бач ты, — мармытаў хлапец, мэрам, і свая, а…

— Маўчы, — абарвала Настулька.

— Я толькі вінтоўку, — нагнуўся хлапец па зброю, — ды ладаўніцу адцягну. Спатрэбяцца.

Пашлі. Настулька праставала да вогнішча. Атаман, як і раней, сядзеў на пні. Заплюшчыўшы вочы, ён абдумваў плян вызваленьня арыштаваных. Паступова думкі перанесьліся ў мінулае. Дзясяткі гадоў прабеглі перад ім. Дзясяткі лепшых гадоў ня меў ён супакою. Марна прамінула ўсё яго жыцьцё.

— Пане атаман, — ціха загаманіла Настулька.

Атаман здрыгануўся, нібы прахапіўся з глыбокага сну. Ласкава зірнуў ён на Настульку ды пытальна перакінуў зрок на хлапца.

— Напаткала на ўскраі лесу. Уцякаў ад чырвоных.

— А дзе яны? — занепакоіўся атаман.

— Адзін. Абязшкоджаны на ўкраі лесу.

Атаман зірнуў на хлапца:

— Адкуль ты?

З Бярозаўкі… — хвалюючыся пачаў юнак. — Бацькоў заарыштавалі… Я вырваўся… Уцякаў… Каля лесу натрапіў на чырвонага… Каб ня гэтая цётка, — кінуў у бок Настулькі, — загінуў бы.

Хлапец перавёў дух, працягваў:

— Дапамажэце… Богам малю… Дапамажэце… Выратуйце бацькоў… Ра-туй-це-е, ужо не гаварыў, а выкідаў гукі хлапец.

— Добра. Супакойся, — ласкава суцяшаў атаман. — Аслабонім.

І хлапец адразу павесялеў.

— Аслабонім, — працягваў атаман. — Ты-ж нас і да вёскі завядзеш. Балазей, застаўся жывы. А цяпер скажы, што гэта за войска і колькі яго?

— Атрад МВД чалавек 40 і раённая міліцыя — 10 чалавек. Ужо другі дзень, як рабуюць, арыштоўваюць і катуюць сялян. Такая бяда… Ня дай Бог… Мэрам, ваўкі.

— Аслабонім, — яшчэ раз запэўніў хлапца атаман. — Цяпер-жа ідзі ды пару гадзін адпачні. Выступім ўначы.

Хлапец пайшоў. Ласкава па-бацькоўску пазіраў на юнака атаман, пакуль той і ня прымасьціўся каля вогнішча. Атаман заплюшчыў вочы, нібы задрамаў. Бязконцыя думкі зноў закружыліся перад ім.

Настулька прысела на пень ды таксама задумалася.

Малады хлапец. Аднасяльчанін. Яшчэ нядаўна быў хлапчуком, а цяпер?.. Ваяк… Падрастае зьмена… Сьцяг Пагоні будзе каму трымаць…

Раптам позірк перанёсься на палатку.

— А што зь ім? Як чуецца?

І хуценька ўсхапіўшыся, паскоранаю хадою наблізілася да палаткі. Перад уваходам спынілася, хвілінку прыслухалася ды лёгкім ценем прашмыгнула ў сярэдзіну. Зноў прыслухалася. Цішыня. Настулька нізка нахіляецца над ім.

Заварушыўся. Расплюшчыў вочы.

— Любая... шавеляцца вусны, — не забыла?.. — А рукі самі па сабе моцна схапілі яе ў абдымкі. Настулька прыціснулася да яго грудзей і гэтак прыпала, што ён зусім выразна адчуў біцьцё яе сэрца і яшчэ мацней прыціснуў да сябе.

— Цябе?.. — адказала ціха, — ніколі.

І пажадліва зазіраючы ў самую глыбіню яго сэрца, вільготна заблішчэлі яе цёмныя вочкі, загарэўся гарэзьлівы агеньчык:

— Ці хочаш мяне?

У адказ абсыпаў яе пацалункамі.

Цела яе соладка затрымцела ад успамінаў даўно мінулых хвалюючых пяшчотаў, заласкаталі пасмы кучаравых валасоў, расхіліліся караларвыя губкі. Яна не супраціўлялася.

Вочы яе пацямнелі, блiснуў юрлівы агеньчык, як калісьці, успалыхнуў смагла-загарэлы тварык. Нібы вар’ятка, моцна прыціскаючы да сваіх поўных грудзей, яна душыла яго ў сваіх палкіх абдымках, п’яўкаю ўпівалася пунсовымі губкамі ў яго напаўраскрытыя гарачыя вусны, апальвала агністымі пацалункамі…

***

Мінула гадзіна. Сонна гойдаюцца верхалінкі дрэў, дрэмле зброс-

нелая вадзіца ў канаўцы, але варта ня мае адпачынку. З зарасьніку на ўскрай лесу, пранізваючы ночную цемру, дзьве пары воч пільна ўзіраецца на гасьцінец, прыслухоўваецца да самага нязначнага гуку.

У канаўцы, што цягнулася ўздоўж шляху, штось зашамацела.

— Мэрам, хтось плішчыцца… — штурхануўшы сябру, прашаптаў вартаўнік.

— Цссс, — суняў яго другі.

І раптам перад імі, як зь зямлі, вырас мільтон.

— Стой! Хто йдзе?

— Лесавік.

— Пароль?

— Зялёны.

— Водгук?

— Перамога.

— Праходзь.

Мільтон параўняўся з кустам.

— А-а-а, гэта ты, Міхась? Ну й убраўся. Мэрам, сапраўдны мільтон. Балазей, я цябе не пачаставаў. Смалі да атамана!

***

Атаман уважна выслухаў Міхася. Твар яго і да таго цёмны, аж пачарнеў, вочы запалыхалі нядобрымі агеньчыкамі.

— Шчыра дзякую! — Прагаманіў атаман, моцна сьціскаючы Міхасёвую руку. — А што жупяць паміж сабою бярозаўцы?

— Трывога і роспач агарнула ўсіх. Ня ведаюць, дзе шукаць паратунку. Маракуюць на свой лёс. Даведаўшыся, што мы тут, Богам прасілі выратаваць арыштаваных. Чулі, што арыштаваных пагоняць гасьцінцам а 5-й раніцы.

— Дзякую, — яшчэ раз пацiснуў Міхася за руку атаман. — Ідзі, браток, адпачні трохі. Цераз гадзіну выступаем.

Тымчасам карнач, абыйшоўшы варту, прысьпешанаю хадою рухаўся да вогнішча.

— Карнач! — выгукнуў атаман. — Варту зьмяніць, а цераз гадзіну пад’ём.

— Ёсьць, пане атаман, загадана.

— Выконвай, перарваў яго атаман.

— Піліп, на варту каля дуба, — выгукнуў карнач.

— Ног пад сабою ня чую, ня то, што стаяць, — зморaным голасам пачаў было адмаўляцца выкліканы.

— Не раздабарываць, — агрызнуўся карнач.

— Пане, атаман, — выхапіўся з-пад вогнішча хлапец, — дазвольце мне.

Атаман цёпла зірнуў на хлапца, але рашуча адмовіў.

— Будзе работа й табе. Пачакай трохі.

Твар хлапца зморшчыўся, нібы да плачу, і ён з пакрыўджаным выглядам зноў прылёг да вогнішча. Атаман змоўк, углыбіўся ў свае думкі:

— Цяжка будзе. Людзі змораныя.

Было холадна і вогка. Лесавікі часта варочаліся з боку на бок. Дзе-ні-дзе з купін падымаліся заспаныя галовы ды ціха перакідваліся словамі:

— Чуў?..

— Га-а…

— Цераз гадзіну пад'ём.

***

Хуценька бягуць хвілінка за хвілінкаю, і неўзабаве мінае гадзіна.

— Пад'ём!..

Зашалясьцелі, захісталіся кусты, і гай ажыў. Адусюль: з кустоў, з-за пнёў, з зарасьніку выныралі нейкія дзіўныя постаці, якія пры млявым сьвятле вогнішча нагадвалі старажытных казачных прывідаў. З кожнаю хвілінаю іх колькасьць ліхаманкава ўзрастала. Азброеныя лесавікі хутка зьбіраліся каля вогнішча. Іхныя вочы, у працілегласьць змораным тварам, гарэлі нязвычайнай бадзёрасьцю.

Атаман пазіраў і ласкава ўсьміхаўся.

— Ці гатовыя?

— Гатовыя, — загуло з усіх канцоў.

Настулька, стоячы побач атамана, кіўнула лейценанту:

— Бачыш, колькі рашучасьці і ахвярнасьці.

Атаман узьняў руку і гул абарваўся.

— Цераз гадзіну эмвэдыстыя маюць рухацца па тракту зь Бярозаўкі ў места*. Будуць і хурманкі з нарабаваным дабром і арыштаванымі. Наша задача: зьнішчыць ворага і аслабаніць арыштаваных. Зразумелі?

— Зразумелі, — дружна адазваліся наўкола. Гэта — лесавікі.

— Валодзя, — зьвярнуўся атаман да свайго заступніка. — Залегчы за мостам абапал тракту. Адрэзаць ворагу пераход цераз мост.

— Мікола!

Перад атаманам, выцягнуўшыся ў струну, нібы скамянеў, зусім маладзенькі хлапчук. У руках скарастрэл.

— Слухаю, пане атаман, — і застыў.

Гэта быў калішні эсбээмавец, які ня мог вырвацца з савецкага акружэньня, каб выехаць за мяжу, і разам зь іншымі такімі ж самымі юнакамі знайшоў сабе сховішча ў лесе, а потым далучыўся да атамана.

---

*У горад. — "БР".

— Разьведку наперад і як найхутчэй з юнакамі на грэблю. Перарэзаць тэлефон і далучыцца да Валодзі.

— Ёсьць, пане атаман, перарэзаць тэлефон і далучыцца да Валодзі Баравога.

— Апанас!

Наперад высунуўся па-мядзьвежы складзены прысадзіста-кражысты ўжо сівы, але нябывала моцны дзед. За поясам меў з аднаго боку наган, з другога — гранаты. Спераду — нож. Цераз плячо — ладаўніца, поўная набояў. У руках — верная адразанка.

— Табе залегчы ў карчах абапал шляху. Па ім павінны рухацца абоз з арыштаванымі. Не забудзь выставіць дазоры.

А цераз хвіліну грозна басіў дзедаў голас:

— Хлопцы, увага. У карчох ля Азярышча мусім спаткаць чырвоных рабаўнікоў. Ня выпусьціць ні аднаго. Досыць піць нашую кроў.

— Ня выпусьцім, — рашуча адгукнуліся хлопцы.

— Толькі набояў ня псуць.

— Ды што ты? Ня ўпершыню…

— Ды па сваіх ня ўлупі. Гнацьмуць арыштаваных… Хурманкі з нарабаваным.

— Будзь пэўны. Сваіх аслабонім…

Атаман мусіў зачакаць, пакуль змоўклі дзедавы ваякі.

— Сьціхніце, бо… не марнуйце часу… — выгукнула Настулька.

— Карнач, — сказаў атаман.

— Слухаю, пане… — выцягнуўся ў струну паляшук.

— Адрэзаць адыход чырвоных на вёску Агароднікі.

— Ёсьць, пане атаман, загадана адрэзаць адыход чырвоных на Агароднікі.

— Я іду на Бярозаўку. На выпадак чаго, зьбірацца ў Воўчым Лагу. Зразумелі?

— Зразумелі, — дружна адгукнуліся з усіх бакоў.

— Выконвай!

— А я?.. — азваўся лейценант.

— Са мною. Таксама і бярозаўскі, — кіўнуў на хлапца атаман.

***

Вырушылі. Ішлі моўчкі. На ўскраі лесу разыйшліся, кожны ў сваім кірунку. Малады хлапец паскоранаю хадою праставаў на Бярозаўку. Засталося з кілямэтр. Спыніліся, прыслухаліся. У вёсцы быў вялікі рух. Гойсалі на канях чырвоныя апрычнікі, палохалі і так напалоханых курэй, плачам заліваліся дзецi, галасілі бабы, злосна брахалі, завываючы сабакі.

Атаман вачыма нізаў далеч. Увесь ператварыўся ў слых. Пачуўся конскі тупат. Збочылі і заляглі ў кустах. Хутка вырысаваліся два конь-

нікі. Досыць выразна данёсься скрып колаў — гэта рухаўся абоз з арыштаванымі і канвоем. Галоўныя сілы заставаліся яшчэ ў вёсцы.

— Прапусьціць, — загадаў атаман.

Коньнікі праскакалі, праехалі хурманкі і зьніклі з вачэй.

— Устаць, — усхапіўся атаман, за мною марш!

Далей пасоўваліся з найвялікшымі засьцярогамі. Наперадзе — бярозаўскі хлапец, за ім — атаман, далей — лейценант, Настулька і іншыя, адзін за адным. Пад нагамі хруснула галінка. Спыніліся. Прысухаліся — цішыня. Зноў, нібы, цені, пасунуліся далей.

З кожным рухам навостранасьць усё больш і больш узрастала, сэрца грукала мацней, звонам адбівалася ў скронях. Напруджана ўзіраліся ў кожны кусьцік, у кожны слупок. Здавалася, што вось-вось з нейкае засадкі выблісьне сьмертаносны агеньчык.

Пачалі вырысоўвацца азяроды.* Яшчэ сотня крокаў і крайняя сядзіба. Сьцежка скрывіла ўлева і пацяглася на выган.

Раптам удалячыні выбухнуў стрэл, за ім другі.

— Лажыся! — даў знак атаман.

Зачалася частая траскатня каля Азярышча, выбухнула колькі стрэлаў каля мосту, і запанавала мёртвая цішыня.

— Малайцы, хлопцы, — мільганула ў думках.

Сьцішылася і вёска. Цішыня. Зласьлівая цішыня, што крые ў сабе пагрозьлівую небясьпеку, дэнэрвуе. Але як сунуцца да ворага проста ў пастку?


wikipedia.org

Заміж засадкі ворагу сам трапіш на засадку. А марудзіць нельга. Атаман азірнуўся. Лейценант сарваўся з мейсца і да атамана:

— Пане атаман, дазвольце…

— З Богам, — абарваў на слове атаман, разумеючы лейценанта.

Астатні, нізка сагнуўшыся, амаль што прыпадаючы да самае зямлі, хутка пасоўваўся наперад, маланкава перамахнуў цераз плот ды, трымаючы палец на спуску, нішкам падаўся разораю да загуменьня. Каля гумна штосьць заварушылася.

— Падрыхтавацца!

*Азярод — драўляная канструкцыя на сядзібе селяніна для сушкі сена. — “БР”.

Пачынала днець. Хлопец воч ня спускаў з лейценанта, аж рот разявіў ад зьдзіўленьня, пазіраючы, як той, то занураў у разору, то спрытнымі скачкамі толькі мільгаў перад вачыма, хутка пасоўваючыся наперад. І раптам зьнік. Нібы, скрозь зямлю праваліўся.

Кожны з трывогаю сачыў за адважным учынкам лейценанта. Але найбольш хвалявалася Настулька. Яна нэрвова перажывала кожны яго рух, усім целам ўздрыгвала ад драбнюткага шолаху.

І раптам… Настулька анямела. Яна ў гэтай хвіліне ўбачыла штось жахлівае, што ёй аж дых зацяло, кроў застыла ў жылах. Настулька зьбялела. Рукі трымцяць, у шырока раскрытых вачох — жах.

Перад самым плотам прыгуменьня высока ўзьнялася галава лейценанта, і зараз-жа з-за гумна разлёгся стрэл. Здрыганулася галава і ўпала ўніз.

— А-а-а… — вырвалася ў Настулькі.

Яна ўсхапілася, ірванулася наперад.

— Куды?.. — моцнаю рукою затрымаў  атаман, а ў галаве: “шкада… адважны…”

Настулька зьняможана асунулася. Вочы-ж так і ўліплі да гумна.

І раптам усьміхнулася: — Божа міласьцівы… Жывы… Гэта-ж толькі яго шапка, узьнятая на вінтоўцы.

Ажыў і атаман. Павесялеў.

— Хлопцы! Прыцэл — левы рог гумна. Агонь!

Бухнула агністая лінія з-за мяжы. А ў адказ войканьне раненых, брудная лаянка ды некалькі бяз ладу стрэлаў.

— Добра, хлопцы, — пахваліў атаман.

Узьнялася страляніна зь іншых будынкаў. Лесавікі прыціснуліся да зямлі. Завязалася бойка. Некалькі трапных стрэлаў лейценанта прызямліў чырвоных ля гумна. Лесавікі выхапіліся і заляглі ў прыгуменьні. З-за рогу суседняе хаты высунуліся “мільтоны”.

— На мушку іх, — цэліцца Настулька.

Бухнула некалькі стрэлаў. Пярэднія ўпалі, заднія завярнулі назад. Агонь з абодвух бакоў узмоцніўся. Лесавікі пачалі разорамі пасоўвацца наперад, што давала пэўнае сховішча, але толькі да часу. Засталося крокаў 30. Лейценант узмоцніў агонь.

— Падрыхтавацца да атакі!

Атаман падаўся да сярэдзіны лініі і хутка ўсхапіўся:

— За мною!.. Ура-а!..

— Ура-а-а-а, — аж у вушах зазьвінела.

Здавалася, зямля затрэслася ад тупату сотні ног.

Раптам хруснула збоку галінка. Атаман азірнуўся. То эмвэдысты, падпоўзшы няўзнак да самых лесавікоў, нібы ўпыр, усхапіўся зь зямлі і, стрэліўшы ва ўпор у лесавіка, што бег побач Настулькі, умомант павярнуў назад ды, спрытна перамахнуўшы цераз плот, схаваўся за

рог гумна. Заскочаная ад нечаканасьці Настулька стрэліла ўсьлед, але прамахнула.

— Маеш шчасьце, — злосьцілася яна. — Пачакай… Ня вылузуешся… Крыважэр…

Настулька, а за ёю і хлапец пачалі сьцігаваць і падаліся ўлева. Стараючыся вымкнуцца з кола, эмвэдысты выскачыў з-за гумна ды прыгуменьнем пабег паўз кусты, каб потым ускочыць у садок.

— Не ўцячэш, — падумала Настулька, падаючыся яшчэ лявей, але, спатыкнуўшыся на камень, потырч паляцела ў лужыну.

Хлопец умомант быў каля Настулькі, каб дапамагчы, але яна сама хутка ўскочыла на ногі. Карыстаючыся момантам, эмвэдысты зьнік у садку.

— Дзе ён? — вырвалася ў Настулькі. — Няўжо ўцёк?

Хлопец таксама азірнуўся наўкола, не разумеючы, як гэта так хутка сталася. Ды толькі раздумоўваць ня было часу.

— Наперад! Выгукнула Настулька. А вочы?.. Гараць.

Пабеглі. Хутка яны ўзьбіліся на крывую сьцежачку, што хавалася за кустамі парэчак і агрэсту.

— Там… напэўна там…

Садок яшчэ ні прачнуўся ад начной млявасьці: ні здрыгануцца галінкі дрэў, ні зварухнуцца кусьцікі. Сьцігуючыя спыніліся. Настулька ніжа зрокам імглу, але нічога ня бачыць, водзіць вачыма па кустах — не відаць.

— Ён там мусіў быць. Дзесь прытаіўся і чакае. Можа ўжо бярэ на мушку.

І Настулька зноў узіраецца ў кусты. Заварушыліся галінкі. Настулька насьцярожылася і маланкава рванулася за дрэва. І сама ўпору. Грымнуў стрэл і куля ўпілася ў яблыню.

Карыстаючы момантам, эмвэдысты выхапіўся з-за куста і, прыгінаючыся да зямлі, хуценька падаўся да плоту, каб выскачыць на суседнюю дзялянку. Настулька нацэлілася і раз за разам націснула курок. Бухнулі стрэлы, і разьнёсься па садзе крык болю.

— Уцэліла… — вырвалася ў Настулькі, — хутчэй… хутчэй… у палон… закладнік…

Настулька сьпяшалася, аж задыхалася. Але хлапец яе выперадзіў. Схапіўшы раненага за рукі, налёг на яго ўсім цяжарам цела, моцна прыціскаючы да зямлі. Эмвэдысты бараніўся, як мог, але надарэмна. Штохвіліны ён слабеў і слабеў. Стрэлы Настульчыны былі цэльныя. Правая лыдка і правы локаць крывавіліся. Эмвэдысты пачаў енчыць. Хлапец не марудзіў і, зьвязаўшы папругаю рукі, прывязаў да дрэва.

Агонь трывае надалей. Паспрабавалі было чырвоныя вымкнуцца на Агародніка, але трапіўшы на засадку, атрымалі такі пачастунак, што толькі сям-там удалося некаторым адскочыць назад і засесьці ў

сельсавецкім будынку, адкуль адкрылі страшэнную страляніну.

— Прыдушыць агонь скарастрэла, — гукнуў атаман.

Пачалася неймаверная траскатня. Але гэта было толькі марнапсаваньнем набояў. А час ішоў. Лейценант наблізіўся да атамана, перакінуўся словам.

— Прыцэл вышэй, — выгукнуў астатні.

Лейценант сарваўся з мейсца і, пераскакваючы ад дрэва да дрэва, хутка наблізіўся да сельсавецкага будынку. Прасьлізнуўшы да вакна, моцным рухам кінуў у сярэдзіну дзьве гранаты. Як гром, разьлягліся ўзрывы, і хата напоўнілася енкамі.

Вочы Настульчыны заблішчэлі, ёй прыпомніліся арыштаваныя бацькі, і на яе каралавых вуснах зьявіася зласьлівая ўсьмешка:

— Так іх, бандытаў…

У гэты мамэнт некалькі эмвэдыстаў выскачыла з хаты. Неразглядаючы куды, яны кінуліся ў бок Настулькі. Пярэдні зь іх, здаравенны з вялічэзнаю конскаю мордаю бег проста на яе. Настулька ўзьняла карабінку, прыцэлілася, націснула раз, два і… жах… Набояў няма.

Настулька наўцёкі. Усьлед. Азірнулася — сьцігае. Штохвіліны — бліжэй і бліжэй.

— Не ўцячы, — мільганула думка, — няма сілы.

Яна чуе за сабою цяжкі тупат ботаў, паскораны подых. Азірнулася ды не пасьпела адхіснуцца, як раптам атрымала ўдар па галаве. Чорныя кругі замільгацелі перад вачыма. Але ўдар не зваліў яе з ног. З астатняе сілы яна хапіла напасьніка карабінкаю ў похвіну.

— Гадзіна… — прахрыпеў той і паваліўся.

Падскочыў другі, зноў удар па галаве, і Настулька, трацячы прытомнасьць, унырылася ў няведамую цемру.

Яна ня бачыла, як кінуўся ёй на дапамогу лейценант, як прыкончыў ён абодвых эмвэдыстаў. Яна ня чула, зь якім болем ён выгукнуў “Настулька”, як схапіў яе на рукі, абсыпаў пацалункамі. Яна не сустрэла паверненых назад хурманак, не прывіталася з роднымі бацькамі. Яна не разьвіталася з любаю вёскаю, абсыпанаю целамі зьнішчаных рабаўнікоў і толькі, як скрозь сон, пачула гэтак знаёмыя, гэтак дарагія ёй словы:

НЯХАЙ ЖЫВЕ 25 САКАВІКА!

І загрымела ў адказ:

— Жыве Беларусь!

Настулька расплюшчыла вочы:

— Жыве!

*Ігар Арыніч*

# МІСІЯ ПАЛКОЎНІКА СЛУЦКАГА

*Фантастычнае апавяданьне*

*“...беларуская моладзь у гушчарох беларускага лесу ў Раёўшчыне, Вялейскага павету, на гэтак званай “Воўчай градзе” складала прысягу на вернасьць БНР палкоўніку Слуцкаму… друкавалі праБНРаўскія адозвы. І ўсё гэта дзеілася яшчэ ў 1955-1956 гадох”.*

Прамова прэзыдэнта Рады БНР М. Абрамчыка // Бацькаўшчына, 1960, 24 красавіка, № 17.

Пераход прайшоў удала. Макс апынуўся ў густым лесе, на які ўжо апускалася цемра. Ісьці ў такі час па незнаёмай мясцовасьці было небясьпечна дый трэба пакінуць маяк, каб пасьля вярнуцца назад. Таму ён уладкаваўся пад высокай ялінай на начлег. Аднак спаць ня стаў — забаранялася інструкцыяй. Проста адпачываў і слухаў лес. “Ён тут зусім не такі, як у нас”, — падумалася яму.

“У нас” — гэта ў 2052 годзе. Макс працаваў старшым аператыўнікам у дасьледчым цэнтры, які месьціўся ў адноўленым Навагрaдзкім замку. На яго рахунку быў ужо дзясятак пасьпяховых рэйдаў у мінулае, але тыя заданьні не былі такімі складанымі, як гэта. Кіраўнік ягонага аддзелу па мянушцы Крок загадаў выратаваць камандзіра групы беларускіх “лясных братоў” Янку Філістовіча, якога мусілі арыштаваць савецкія спэцслужбы. Для гэтага давялося перайсьці ў верасень 1952-га.

Макс ня ведаў больш за сваю місію. Таму і ня мог уявіць сабе, навошта ратаваць Філістовіча і як гэта зьменіць (і ці зьменіць?) гістарычны пасьянс. Ён старанна вывучыў дасье, запомніў фотаздымкі, яшчэ раз паўтарыў сваю легенду. Не скажаш жа таму партызану: “Здароў! Я з будучыні”…

***

Макс замаскаваўся ў пяці метрах ад ледзь заўважнай сьцежкі. Адсюль добра праглядаўся партызанскі лягер, у якім наладзілі засаду МГБісты. Яны чакалі Філістовіча з групай партызанаў. Чакаў яго і Макс. Паколькі зьяўленьне ягонае будзе раптоўным, на Філістовіча трэба адразу зрабіць добрае ўражаньне. Каб не атрымаць кулю ў сьпіну…

Макс быў апрануты ў плямісты камуфляж, на шапцы была прымацаваная цэшка з Пагоняй, на рукаве прышыты бел-чырвона-белы шэўрон з чорнымі літарамі “Б.Н.Р.”. У кішэні ляжала пасьведчаньне сябры Рады БНР палкоўніка Слуцкага — зноў жа для Філістовіча. Са зброі ён меў толькі амэрыканскі аўтамат — музэйны экспанат, які, праўда, яго ніколі не падводзіў. Будзе яшчэ адзін доказ Філістовічу,

што “яго перакінулі з Захаду”, падумаў Макс. Ён зноў пракруціў у галаве плян аперацыі да драбнейшых дэталяў. Здаецца, прадумана ўсё — павінен спрацаваць.

Справа мільганулі нейкія цені. Ідуць. Ланцужок людзей асьцярожна рухаўся да лягеру. Ну вось, час дзейнічаць. Макс даў чаргу ў бок МГБістаў, якія сядзелі ў засадзе. Тыя адказалі. Кулі сьвісталі, зьбівалі галінкі з дрэваў, скасілі некалькіх партызанаў на сьцежцы. Гэта пасьпеў заўжыць Макс, кінуўшыся за хлопцам, які ішоў у ланцугу апошнім.

“Янка, я свой, дапамагу! Сарбона!” — крыкнуў на хаду Макс. Ён адмыслова трымаў аўтамат руляй долу, каб лішні раз не напалохаць партызана. Той азірнуўся і даў чаргу са свайго аўтамата. Макс пасьпеў упасьці на зямлю і кулі праляцелі над галавой. “Сарбона!” — зноў крыкнуў ён і кінуўся за Філістовічам. А ззаду беглі МГБісты — былі чутныя іх каманды, хрыплыя галасы, пад іх ботамі гудзеў лес.

***

Філістовіча ён дагнаў каля самай рэчкі, зьбіў з ног, абяззброіў.

— Часу мала, бо трэба ўцякаць. Паглядзі маё пасьведчаньне. Я пасланы выратаваць цябе, а ты мяне паліваеш з аўтамата…

Макс бачыў недавер у вачах Янкі. Каб хутчэй яго разьвеяць, ён аддаў яму зброю:

— Бяжым!

І яны пабеглі. Мінулі нейкую вёску, поле, зноў уварваліся ў выратавальны лес. Здавалася, што пагоня адстала.

— Слухай, — сказаў Макс Філістовічу падчас кароткага прывалу. — Ты мусіш дабрацца да Горадні, там яўка надзейная, цябе пераправяць у Польшчу. Да сяброў, знаёмых, сваякоў не заходзь ні ў якім выпадку. Некаторыя завербаваныя, атрымалі спецыяльныя сродкі для ўсыпленьня, калі раптам зьявішся ты…

— Адкуль гэта ўсё вядома? — Філістовіч па-ранейшаму ня меў даверу да свайго выратавальніка.

— У нас ёсьць свой чалавек у МГБ, нарэшце, ён выйшаў на сувязь і перадаў інфармацыю, што рыхтуецца аперацыя па тваім захопе. Таму мяне і паслалі.

— Але ж ты не сыходзіш са мной?

— У мяне яшчэ ёсьць заданьне…

***

МГБісты зьявіліся нечакана — відавочна, гэта быў кардон, выстаўлены тут загадзя. На карце ў дасье ён пазначаны ня быў. Вось неспадзяванка! Недапрацоўка нашай архіўнай службы. Макс зрабіў некалькі стрэлаў і азірнуўся на Янку:

— Трымай карту і бяжы! Я іх затрымаю. Удачы табе.

Філістовіч нейкае імгненьне яшчэ вагаўся, пасьля паціснуў яму руку і зьнік у цемры. Макс усьміхнуўся і кіўнуў галавой. Ну што ж, цяпер мож-

на падумаць і пра сябе. Ён працягваў страляць, мяняючы пазыцыю. Яшчэ хвіліну, другую і трэба таксама бегчы, толькі ў іншы бок…

І раптам — удар па галаве ззаду. Цемра і цішыня.

***

Макса вялі па доўгіх калідорах. Двое МГБістаў трымалі яго за рукі, скаваныя кайданкамі. Галава балела, было цяжка сабрацца з думкамі. Заданьне… Правал… Філістовіч… Ці ўратаваўся ён?..

У нейкім кабінеце яго пасадзілі на крэсла. Ну што ты ім скажаш, што быў пасланы з 2052 году для выкананьня выратавальнай місіі? У лепшым выпадку скончыцца вар'ятняй, у горшым — будуць катаваць, каб "даведацца праўду". А мне трэба выйграць час у спадзяваньні, што за мной пашлюць кагосьці з нашых хлопцаў, з аддзелу выратавальнікаў Міхася…

— Я хачу ва ўсім прызнацца, — раптам загаварыў Макс.

Сьледчы ажывіўся і ўзяў са стала асадку, гатовы запісваць. Адзін з афіцэраў, які сядзеў за сьпінай, зайшоў справа — у яго руках была кінакамера. "Ну і насьлядзіў жа я тут!" — падумаў Макс, гледзячы ў вочка аб'ектыву, і міжволі ўсьміхнуўся. Але ўжо праз імгненьне схамянуўся, яго твар набыў ранейшы сур'ёзны выгляд.



— Я палкоўнік Слуцкі. Перакінуты сюды амэрыканцамі…

***

Макса везьлі на сьледчы эксперымент. Ён сядзеў у закрытым грузавіку пад аховай чатырох жаўнераў з аўтаматамі ў руках. За грузавіком ехала легкавое аўто з МГБістамі. На адным з апошніх допытаў ён "пагадзіўся" паказаць месца свайго "дэсантаваньня", а таксама "схованку са зброяй і дакумэнтамі". Нібыта, паверылі.

Машына ўжо зьехала з шашы і ківалася па грунтоўцы. Рукі былі скутыя кайданкамі за сьпінай. Макс варухнуўся і адразу ж пабачыў рулю аўтамата перад вачыма. Ну што ж, застаецца толькі чакаць…

Ён паспрабаваў хоць на некалькі хвілінаў вырвацца на волю, хоць у думках. Апынуцца ў вежы наваградзкага замка, разам з каханай дзяўчынай глядзець у адчыненае вакно на зорнае неба… Стрэлы і крыкі перарвалі гэты такі прыемны сон. Машына ўжо спынілася. У кузаве заставаўся толькі адзін ахоўнік, які, прыгнуўшыся, кудысьці пасылаў чэргі з аўтамата. Ён павярнуўся да Макса сьпінай, і гэта быў яго шанец. Макс падхапіўся, спрытна ўдарыў левай нагой па шыі МГБіста, а правай выпіхнуў яго з машыны.

***

“Ну вось, зараз і нашы хлопцы падасьпеюць, хутка дахаты”, — падумаў ён, аглядаючы карціну боя: на дарозе валяліся трупы, супраціву ўжо ніхто не чыніў.

Зь лесу і кустоўя пачалі выходзіць нейкія юнакі — іх Макс бачыў упершыню.

— Зь якога вы аддзела? Чаму не перайшоў Міхась? — спытаўся Макс у хлопца з перавязанай белай, акрываўленай тканінай галавой.

— Мы з атрада Мятліцкага, яго апошняя група, — адказаў юнак.

— Ня ведаю такога… А вас пасылалі ратаваць… мяне?.. — Макса ўжо наведала страшная здагадка, ад якой яму стала горача і пот пабег струменьчыкамі на вочы.

— Мы ў засадзе сядзелі, а тут машыны… Вырашылі абстраляць…

Значыць, я не даехаў, падумаў Макс. Значыць выратавальная брыгада, якая магла дзяжурыць каля месца яго пераходу, яго не дачакаецца. Як аказалася, гэта далёка — кіламетраў 30… Пакуль туды дабярэмся, раён будзе ачэплены ўнутранымі войскамі. Рызыкаваць хлопцамі ён не хацеў, і пакінуць іх ня мог — яны яго адбілі ў МГБістаў.

Група рушыла ўглыб лесу. Усе ішлі марудна, абвешаныя захопленай зброяй і іншымі трафеямі. Сем хлопцаў, Макс быў восьмы. Да вечара, заблытваючы сьляды, яны прыйшлі на лясную базу. Там, стомленыя, паляглі каля распаленага вогнішча. Чакалі аповеду Макса, і ён расказаў ім легенду пра палкоўніка Слуцкага.

— Ну што ж, хлопцы, будзем ваяваць далей. Ваяваць за Беларусь. Яна такі стане незалежнай, верце мне. Не дарма кроў сваю праліваем…

Макс бачыў, што яны глядзелі на яго з даверам і надзеяй. Маладзенькія, нявопытныя хлапчукі, але ўжо абпаленыя вайной. Ён павядзе іх у бой. Заўтра. А сёньня будзе доўгі і глыбокі сон. Максу зноў будзе сьніцца яго пакой у навааградзкім замку, каханая дзяўчына, прыпаркаваны каля Замкавай гары аўтамабіль…

Сон парадуе яго і супакоіць, бо падасца, што ўсе няшчасьці і пакуты ўжо скончаныя. І толькі раніцай вернецца рэчаіснасьць, а разам зь ёй пачнецца яго новае жыцьцё. Жыцьцё партызанскага камандзіра палкоўніка Слуцкага.

2012

# СЯРГЕЙ ВІТУШКА


svaboda.org

Ён памёр 1 ліпеня 2012 году ў віленскай лякарні. Доўгія гады цяжка хварэў, страціў зрок, але быў моцны духова, змагаўся за жыцьцё, сьпяшаўся нешта яшчэ зрабіць для Беларусі...

Сяргей Вітушка нарадзіўся ў 1965-м у Чысьці на Маладэчаншчыне. Быў гісторыкам паводле адукацыі. У сярэдзіне 1980-х стаў адным з лідараў беларускага незалежніцкага маладзёжнага руху, які дзейнічаў паўлегальна. Вітушка ачольваў легендарную “Талаку”. Ад 1991 году жыў у Вільні.

У савецкія часы толькі ня многія разумелі, як мусіла раздражняць пэўныя структуры, што сярод маладых беларускіх нацыяналістаў зьявіўся дзяяч з прозьвішчам Вітушка. Шкада, што яго ўжо няма сярод нас.

Сьветлая памяць!

# ЗГАДАЛІ ПРА НАШАГА СЬВЕТЛАГА ГЕРОЯ

У пачатку верасьня 2012-га ў Беларусі і ў замежжы прайшлі акцыі ўшанаваньня памяці Героя беларускага антысавецкага Супраціву Расьціслава Лапіцкага (1928 — 1950). Найбольш гучная адбылася ў Смаргоні, дзе была затрыманая група мастакоў у складзе Алеся Цыркунова, Алеся Пушкіна, Генадзя Драздова, Валянціна Варанішчы, таксама схапілі мясцовага актывіста Уладзімера Шульжыцкага. Перад гэтым яны замовілі малебен па Лапіцкім у праваслаўнай царкве, асьвяцілі некалькі яго партрэтаў, а пасьля пайшлі з карцінамі па вуліцах гораду. Ноч затрыманыя правялі ў пастарунку, дзе абʼявілі галадоўку. Пушкін адсядзеў 10 сутак, іншых аштрафавалі.






Акцыя скончылася ўсталяваньнем крыжа, які згаданыя патрыёты пранесьлі каля 2 км ад Смаргоні ў бок Вялейкі.

Інфармацыя пра Расьціслава Лапіцкага, мужнага і сьветлага Героя, сёлета шырока разыйшлася ў беларускіх СМІ. Яго кароткае жыцьцё і ахвяра — прыклад для маладых беларусаў, як трэба любіць сваю Радзіму і абараняць яе ад чужынцаў.

*Фота Алеся Дзергачова, nn.by*

# У ГЛЫБОКІМ УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ДЗЕЯЧОЎ БНР






Напрыканцы жніўня прыйшла добрая вестка з Глыбокага. Перад сьвяткаваньнямі Дня беларускага пісьменства там усталявалі помнік аднаму з пачынальнікаў беларускага Адраджэньня і яго ідэолягу, прэм'ер-міністру Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаву Ластоўскаму. Таксама з'явілася і шыльда ў гонар Клаўдзія Дуж-Душэўскага, вядомага архітэктара, дзеяча БНР, стваральніка ў 1917 годзе эскіза бела-чырвона-белага сьцягу.

*Фота — euroradio.fm*

## БЕЛА-ЧЫРВОНА-БЕЛЫЯ СЬЦЯГІ НА МЕСЦЫ ГІБЕЛІ АТАМАНА ЮРКІ МОНІЧА



У траўні невялікая група актывістаў наведала лес каля вёскі Малыя Жаберычы ў Крупскім раёне. Менавіта там у баю з чэкістамі 23 траўня 1924 году загінуў беларускі партызанскі камандзір Юрка Моніч. У памяць пра яго мастаком Алесем Пушкіным некалькі гадоў таму там быў усталяваны крыж з надпісам **“Юрка Моніч... Змагару за Беларусь”.**

## БЕЛАРУСКІЯ ПАМЕЖНІКІ ПЕРАХАПІЛІ АБРЭЗ “ЛЯСНОГА БРАТА”, ЯКІ ВЕЗЬЛІ Ў ЛЕТУВУ



У пачатку траўня 2012-га гарадзенскія міліцыянты сумесна з памежнікамі не дазволілі кантрабандным чынам вывезьці за мяжу абрэз нямецкай стрэльбы “Маўзэр” 1941 году выпуску. На ствольнай каробцы выдатна захаваўся адбітак нацысцкай свастыкі і заводскі нумар. Гісторыкі сьцьвярджаюць, што такія абрэзы нямецкіх стрэльбаў былі ў арсенале “лясных братоў”, якія на Гарадзеншчыне пасьля вайны ваявалі супраць савецкіх уладаў.

*Фота — waffen.jino.ru*

## ПОМНІК ТЫМ, ХТО НЕ ВЯРНУЎСЯ З СЛУЖБОВЫХ ЗАДАНЬНЯЎ

У Беларусі працягваюць ушаноўваць памяць міліцыянтаў, якія загінулі ў баях з “ляснымі братамі” і крымінальнымі бандамі. У са-




кавіку 2012-га ў Берасьці на вуліцы Леніна адчынілі памятны знак *“супрацоўнікам ворганаў унутраных спраў, якія загінулі пры выкананьні службовых абавязкаў”*. Як адзначае БЕЛТА, знак увекавечвае памяць пра 152 загінулых міліцыянтаў, пачынаючы ад 1939 году.

*Фота — virtual.brest.by*

# У МІНСКУ АДКРЫЛІ МЭМАРЫЯЛЬНУЮ ДОШКУ ПАМЯЦІ ГЕНЭРАЛА СЯРГЕЯ БЕЛЬЧАНКІ



У сакавіку 2012 году ў сталіцы ўшанавалі памяць першага паваеннага міністра (наркама) ўнутраных спраў БССР генэрал-палкоўніка **Сяргея Бельчанкі** (1902 — 2002).* Мэмарыяльная дошка зьявілася на будынку МУС. У шматлікіх публікацыях, якія зьявіліся з гэтай нагоды, адзначалася, што Бельчанка *“асабіста кіраваў штабам па ліквідацыі бандфармаваньняў”*, *“забясьпечыў да канца 1947 году ліквідацыю жорсткага бандытызму, які нанёс вялізную маральную і матэрыяльную шкоду дзяржаве”* (ён быў міністрам у 1943-1953 гг.). Высьветлілася, што адзін з праўнукаў міністра цяпер служыць у мінскай міліцыі ў ранзе капітана.

*Фота — belta.by*

*”БР” у мінулых нумарах пісаў пра замах на С. Бельчанку, праўдападобна, арганізаваны беларускімі партызанамі ў кастрычніку 1946 году. Гл.: СЁ. Замах на міністра ўнутраных спраў БССР. 1946 год // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 134, 135; Ёрш С. Збройны антысавецкі супраціў у Беларусі ў 1946 годзе // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 25, 26.

# У СТАЛІЦЫ БУДЗЕ ПОМНІК ЗАГІНУЛЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ ДЗЯРЖБЯСЬПЕКІ



Месцам для яго абраная тэрыторыя Інстытута нацыянальнай бясьпекі каля плошчы Зьмітрака Бядулі. Усталяваньне заплянаванае на сьнежань 2012 году.

Мяркуецца, што помнік мусіць сымбалізаваць “адзіныя духовыя каштоўнасьці, сьветапогляд і даўнія традыцыі ўсіх пакаленьняў органаў дзяржбясьпекі”. На ім будуць тры барэльефы: заснавальніка органаў савецкай дзяржбясьпекі, нашага земляка Фелікса Дзяржынскага, салдата часоў апошняй вайны і сучаснага супрацоўніка КДБ.

# БХД АБВЯСЬЦІЛА ГОД ПАМЯЦІ КСЯНДЗОЎ ВІНЦЭНТА ГАДЛЕЎСКАГА І АДАМА СТАНКЕВІЧА

Нацыянальная Рада БХД вырашыла ўшанаваць памяць заснавальнікаў Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. У студзені 2012-га было абвешчана, што на працягу 2012 году адбудуцца мэмарыяльныя мерапрыемствы (у Беларусі і ў замежжы). Сёлета споўнілася 120 гадоў з дня народзінаў кс. **Адама Станкевіча** (1892 — 1949), а на сьнежань прыпадаюць 70-я ўгодкі з дня пакутніцкай сьмерці кс. **Вінцэнта Гадлеўскага** (1898 — 1942), ідэолага беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціву.

# У СЫБІРЫ ЎСТАЛЯВАЛІ КРЫЖЫ НА МЕСЦЫ ПАХАВАНЬНЯЎ БЕЛАРУСКІХ СЬВЯТАРОЎ

У траўні 2012 г. у Іркуцкай вобласьці Расеі ўсталявалі мэмарыяльныя крыжы ў памяць пра беларускіх ксяндзоў Андрэя Цікоту і Адама Станкевіча, якія загінулі ў ГУЛАГу ў 1949-1952 гадах. На месцах іх пахаваньня былі праведзеныя набажэнствы. У мерапрыемствах узялі ўдзел




ня толькі беларускія актывісты, але і
мясцовыя жыхары, школьнікі, прадстаўнікі ўладаў, сьвятары.

*Фота — catholic.by*

# У МІНСКУ ЎСТАЛЮЮЦЬ ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ



На працягу вясны Мінгарвыканкам праводзіў конкурс на стварэньне скульптурнай кампазіцыі **“Парад беларускіх партызан”**. Маецца на ўвазе партызанскі парад, які быў праведзены савецкімі ўладамі 16 ліпеня 1944 году ў вызваленай ад нямецкіх акупантаў беларускай сталіцы каля Сьвіслачы (у раёне Чырвонаармейскай вуліцы). Як адзначае агенцтва *“Минск-новости”*, помнік мусіць адлюстроўваць “радасьць народных мсьціўцаў падчас параду”.

# ФЕЛІКСА ДЗЯРЖЫНСКАГА ПРАПАНУЮЦЬ У… “ПАНТЭОН БЕЛАРУСКІХ ГЕРОЯЎ”

У студзені 2012-га група беларускіх грамадзкіх і культурніцкіх дзеячоў абвесьціла пра ініцыятыву стварэньня **“Нацыянальнага пантэона”** альбо “Пантэона нацыянальных герояў”. Кожны з гэтых ініцыятараў складае свой сьпіс “найвыбітнейшых асобаў”. Некаторыя друкаваліся ў “Народнай волі”. І што ж мы там бачым? Гісторык Андрэй Кіштымаў прапануе ўключыць у “Нацыянальны пантэон”, побач з Антонам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім… Фелікса Дзяржынскага.* Таго самага заснавальніка савецкіх карных органаў, якога ў вочы называлі катам нават савецкія і партыйныя дзеячы (тым самым падштурхнулі яго да самагубства).

На жаль, мусім канстатаваць, што ў апошнія дзесяцігодзьдзі нямала добрых ідэяў былі змарнаваныя, альбо скампраметаваныя рознымі дзеячамі і “аргкамітэтамі”. Спадзяемся, што ў дадзеным выпадку гэтага ня здарыцца.

*Киштымов А. Имена // Народная воля, 2012, 20 сакавіка, № 45-46.

# БЕЛАРУСКІ ДЫПЛАМАТ НАВЕДАЎ МАГІЛУ КНЯГІНІ МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ У ШВЕЙЦАРЫІ



18 студзеня 2012-га *“СБ. Беларусь сегодня”* паведамляе: *“Найдено надгробие княгини, финансировавшей “Вянок”*. Нібыта, не знаходзілі яго сябры Беларускай Нацыянальнай Памяці ў 2008 годзе. Тады беларускія недзяржаўныя СМІ паведамлялі, што славутая беларуская княгіня-асьветніца **Магдалена Радзівіл** (1861 — 1945) пахаваная ў Бургільёне, прыгарадзе швейцарскага горада Фрыбура на мясцовых каталіцкіх могілках. У першай палове ХХ стагодзьдзя яна падтрымлівала беларускі нацыянальны рух, была прыхільніцай

дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Адно радуе ў зацемцы “СБ”, што, нарэшце, гэтую магілу заўважыў беларускі дыпламат, наведаў яе, паклаў на пліту букет рамонак, зрабіў фотаздымак… Згадала пра княгіню беларуская дзяржава… Цікава, зь якой мэтай *“устанавливается связь с праправнуками меценатки, живущими в Великобритании и Швейцарии”*.

*Фота — b-n-p.org*

# У НАРВЕГІІ ПАМЁР ЛЕГЕНДАРНЫ ЎДЗЕЛЬНІК АНТЫНАЦЫСЦКАГА РУХУ СУПРАЦІВУ ГУНАР СЁНСТЭБЮ



Ён памёр 10 траўня 2012-га. Адзінаму ўладальніку Вайсковага крыжа з трыма мячамі было 94 гады.

Да Супраціву нямецкім акупантам Сёнстэбю далучыўся ў 22 гады, спачатку быў шарагоўцам, а пасьля стаў адным з яго лідараў у Нарвегіі. Ён ня толькі кіраваў сабатажам і правядзеньнем шматлікіх дыверсій, але і браў асабісты ўдзел у акцыях. Гэстапа прызначала за Гунара Сёнстэбю вялізную прэмію, але так і ня здолела схапіць канспіратара. У 2007 годзе ў Осла кароль Нарвегіі Харальд адкрыў помнік у гонар героя.

# АДНАВІЛІ ШЫЛЬДУ Ў ПАМЯЦЬ ПРА ДЭПУТАТКУ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА, ЗАБІТУЮ Ў 1947 ГОДЗЕ




У сярэдзіне жніўня 2012-га ў Слоніме была адноўленая шыльда ў памяць дэпутаткі Вярхоўнага Савета БССР Ганны Кароль (1902 — 1947). Яе сьмяротна паранілі стрэлам праз вакно ў вёсцы Шылавічы Слонімскага раёну, дзе выконвала абавязкі старшыні сельсавета. Ганна Кароль была ідэйнай змагаркай за правы беларускага народу, шмат гадоў правяла ў польскіх турмах. Усталёўвала савецкую ўладу і перад вайной, і ў першыя паваенныя гады. Падрабязнасьці справы аб яе забойстве дагэтуль неапублікаваныя.

Дзесьці ў 1970-х (а можа і крыху раней) у Слоніме на вуліцы, якая носіць імя Ганны Кароль, была ўсталяваная шыльда. На ёй быў наступны тэкст: *“Улица названа именем депутата Верховного Совета БССР КОРОЛЬ Анны Ивановны, погибшей от рук врагов народа в 1947 году”*. Так у дзяцінстве даведаўся пра “ворагаў народу”, якія забівалі дэпутатаў парлямэнту пасьля вайны. Ад таго часу хацелася даведацца больш пра гэтыя трагічныя падзеі.

Увосень 2011-га здарылася аварыя — аўтамабіль выляцеў з Чырвонаармейскай вуліцы, зьбіў шыльду і плот. Даведаўшыся пра гэта, чакаў, калі ж адновяць шыльду. Аднак быў пастаўлены толькі новы плот... Шкадаваў, што раней не зрабіў здымка шыльды, якая магла не захавацца.

У пачатку жніўня зьвярнуўся да намесьніка старшыні Слонімскага райвыканкаму Сяргея Юшкевіча, распавёў пра праблему. Ён паабяцаў разабрацца. Мясцовыя ўлады зрэагавалі надзіва хутка (магчыма, падагнала і тое, што набліжаліся выбары ў Палату прадстаўнікоў). Ужо 16 жніўня шыльда была вернутая на месца. На шчасьце, захавалася якраз тая, што ўжо прастаяла дзесяцігодзьдзі.

**Сяргей Ёрш**

# У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ “БР”

**АРХІЎНАЯ СПРАВА ЯНА ГІНЬКО. ДА 100-Х УГОДКАЎ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ СЯБРА ЦК БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЙ ПАРТЫІ.**

**АРГАНІЗАЦЫЯ, ЯКАЯ БЫЛА ПАПЯРЭДНІЦАЙ БНП.**

**УСПАМІНЫ АПОШНЯГА СЯБРА САЮЗУ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСІ.**

